МІКОЛА АЎРАМЧЫК



# АНКЕТА

Выбраныя
вершы, паэмы, успаміны

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1990

ББК 84Бел7
А 93

Прадмова Рыгора Барадуліна

Мастак Пётр Калінін

В книгу избранных произведений вошли стихи со сборников «Передний край», «Путями дружбы», «Ключи журавлиные», «Встреча былых коногонов», «Университетский городок», «Смотрины», «Залежи», воспоминания.

В сборнике читатель найдет стихи о родном Минске, о Донбассе, о Руре. Автор славит труд рабочих, красоту родной природы и верность юношеской любви.

$А\frac{4702120202-132}{М\ 302(03)-90}$ 109—90

ISBN 5-340-00827-4 

## ЗАМІЛАВАНАСЦЬ

Бясспрэчнае: каб зразумець паэта, трэба пабыць на радзіме паэтавай. Але я хацеў бы, не пярэчачы бясспрэчнаму, падаць і такое: каб зразумець паэта, трэба пачуць, як ён чытае свае вершы. Згадайце хай і недасканалыя тэхнічна запісы галасоў Янкі Купалы, Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Маякоўскага. (Няхай акторы застаюцца пры сваім: чытае як паэт, значыць — кепска.) Праўда, сярэднеарыфметычныя рыфмавальнікі і па галасах падобныя і па вершах таксама. Але калі чытаеш сапраўдную паэзію, у думках чуеш ці, прынамсі, стараешся пачуць голас творцы.

Упершыню на вечары паэзіі, на вечары сустрэчы філфакаўцаў нашага універсітэта з беларускімі паэтамі пачуў я, як чытаў свае вершы Мікола Аўрамчык. Крыху спяваў. Крыху расцягваў кожны склад, нібы каваль выцягнутае з горна гарачае жалеза. Крыху няўпэўнена. Але дужа даверліва. Запрашаў да ўзаемнасці, да суперажывання. Усе госці чыталі вершы ўпэўненыя, з абавязковымі, як ім самім здавалася, нечаканымі канцоўкамі. Быў 1956 год. Вярталіся з нябыту імёны новыя і новыя, вярталіся са сталін-

скіх паўночных «дамоў творчасці» ацалелыя адзінкі беларускіх паэтаў і празаікаў. Але ў паэзіі яшчэ адчувалася інерцыя ўра-чыстых настояў. З аднаго боку «ўра!», а з другога — чыстыя, як дыстыляваная вада, чыстыя ўжо ад культу, але яшчэ і ад думак і душэўнай глыбіні чыстыя. Радкі Аўрамчыка запомніліся:

Толькі у мяне
з табой
ды з песняй
Штосьці ўсё не так, як у людзей.

З гадамі дайшоў сэнс гэтых, на першы позірк, простых радкоў. Паэт не тое каб не верыў сабе, не тое каб не ведаў, як яму пісаць і пра што, а па творчым праве і абавязку сумняваўся, вагаўся, правяраў сябе, раіўся і раіў задумацца над вечнай праблемай творчасці, мастацтва, спасціжэння сэнсу жыцця.

Імя Міколы Аўрамчыка запомнілася мне са школы. Недзе ў сярэдзіне 1953 года на паліцах кнігарні прывабіла маё вока ашчадна выдадзеная кніжка вершаў «Шляхамі дружбы». Трэба зазначыць, што мае ўшацкія землякі, як і цяпер, гэтак і тады, не чыталі паэзіі. Пакупнікамі і спажыўцамі паэтычнага беларускага слова былі мы, удзельнікі літаратурнага гуртка «Узлёт», якім кіраваў наш настаўнік Канстанцін Баразна. Як сёння помню навобмацак цупкую кніжку з чырвоным сцяжком на вокладцы. Яшчэ на кожным кроку вайна напамінала пра сябе. І дужа блізка да сэрца гарнуліся радкі:

Ледзь толькі кулямёт паспеў са стужкі
Астатнія патроны праглынуць,
Як раптам, прыляцеўшы знекуль, птушка
Салдатам абвясціла пра вясну.

Не па кніжках ведаў я, як кулямёт косіць усё жывое, сам страляў і з сапраўднай партызанскай бацькавай вінтоўкі, і з самаробнага пісталета. Але толькі паэт мог убачыць, як кулямёт глытае патроны. Цікава гучала і слова знекуль, перагукваючыся з куляй, не названай у вершы, але пры-

сутнай у радках. Не было традыцыйных гучна-пустых слоў і ў вершы «Салдацкая сляза», няхай сабе і крыху былінна-пафасна абмаляваны «плячысты беларус-асілак»:

...упершыню зусім —
не горкім потам —
Шчака на сонцы бліснула слязой.

Не думаў я тады, калі чытаў вершы Міколы Аўрамчыка, што шмат гадоў давядзецца сустракацца з паэтам, насіць яму свае вершы, чуць ягоныя парады, адчуваць ягоную далікатную падтрымку разам з іншымі пачаткоўцамі. Здаралася быць і першым слухачом вершаў Міколы Аўрамчыка. Ён дзяліўся радасцю задум, ахвотна правяраў на маладым свае вершы.

З дня заснавання часопіса «Маладосць» Мікола Аўрамчык быў загадчыкам аддзела паэзіі. Гэтага і ўявіць немагчыма, колькі рукапісаў (менавіта ад рукі напісаных) прачытаў уважліва, добразычліва, спагадна. Праз ягоныя рукі прайшло тысячы тысяч вершаваных радкоў, праз ягонае сэрца прайшло некалькі пакаленняў беларускіх паэтаў. Пералік імёнаў зойме некалькі старонак. Назаву выбарачна некаторых «хрэснікаў» Міколы Аўрамчыка — Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Кастусь Цвірка, Анатоль Грачанікаў, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Яўгенія Янішчыц, Юрка Голуб, Рыгор Семашкевіч, Алесь Разанаў, Алег Салтук, Уладзімір Някляеў, Пятро Ламан і дужа шмат хто яшчэ. Калі галоўным рэдактарам «Маладосці» быў усімі любімы (акрамя тагачаснага чынавенства ад ідэалогіі) Пімен Панчанка, Генадзь Бураўкін у вясёлым настроі імітаваў Міколу Аўрамчыка: «Я вазьму, а Пімен...» і пры гэтым разводзіў рукамі рыхтык як загадчык аддзела паэзіі часопіса. Мы ўсе любілі хадзіць у «Маладосць» да Колі Якаўлевіча, як называлі мы яго за вочы пракудна-пашанліва. Па часе пачынаю здагадвацца, што з-за клопатаў пра ўсё наступныя і наступныя пакаленні паэтаў беларускіх, хачу падкрэсліць з-за клопатаў, а не службова-рэдакцыйных абавязкаў, Мікола Аўрамчык няйначай багата недапісаў свайго, недаказаў

вынашанага, выбалелага. Пра шчодрасць душы, пра жаданне падзяліцца ўсім самым дарагім сведчаць шматлікія прысвячэнні, па якіх, як і па вершах паэта, можна чытаць геаграфію і біяграфію. А біяграфія Міколы Аўрамчыка трагічная, ахвярная. Вайна перапыніла вучобу. Сам паэт ў аўтабіяграфіі «Пра сябе» піша: «Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу краіну застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс. Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск...» На Паўночна-заходнім фронце ваяваў гвардыі радавы Мікола Аўрамчык у дывізіёне «кацюш». А ўлетку 1942 года пры акружэнні каля Мяснога Бору на Волхаўскім фронце трапіў у палон і быў вывезены на каменнавугальныя шахты Рура.

Цяперашні малады і ўявіць сабе не можа, як было жыць чалавеку, у якога ў анкеце стаяла: быў у палоне. Сталінскі рэжым бязлітасна на кожным кроку напамінаў пра гэтую пляму ў біяграфіі чалавека, якому пашанцавала яшчэ выжыць пасля сваіх лагераў, пасля айчыннай катаргі. І калі чытаць памянёную ўжо аўтабіяграфію паэта, вонкава ўсё бясхмарна: «Толькі ў канцы красавіка 1945 года я быў вызвалены англічанамі і пераселены ў размяшчэнне савецкіх войск. З паўночнай Германіі наш батальён прыйшоў у Беласток. Адтуль мы паехалі на Украіну. Я аднаўляў Данбас, працаваў на ўскраіне Данецка столярам у Рутчанкоўскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У выніку ўсяго гэтага і была напісана нізка вершаў «Легенда аб залатой зямлі». З адных шахтаў на другія. Бо ў Нямеччыне набыў былы студэнт літаратурнага факультэта новую прафесію, яна і спатрэбілася на радзіме, якая не давярала, карала, абражала, бо жыла па сталінскіх канонах, па сталінскай канстытуцыі, услаўленай акынамі, ашугамі і ўсімі, хто ўмеў і не ўмеў рыфмаваць. Заўважце, нізка называецца легенда. Цяпер гэта гучыць як прытоеная іронія, а ў часы, калі пісалася нізка, іначай і нельга было называць. Зямля павінна была быць не проста зямлёй, а залатой абавязкова. Аднак сапраўдны

паэт застаецца паэтам ў любых абставінах жыццёвых і палітычных. У Данбасе быў напісаны адзін з лепшых вершаў Міколы Аўрамчыка, цяпер ужо хрэстаматыйная «Беларуская сасна». Сам Пімен Панчанка пазней так ацаніў верш: «У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта «Гранада», у Я. Смелякова — «Калі я захварэю...», у С. Арлова — «Яго зарылі ў шар зямны» і г. д. У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы «Беларускую сасну»... Тут усё хараша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству, з няўтольнай прагай пабольш паездзіць па свеце...» Адзін верш выклікаў гэтулькі асацыяцый, думак, развагу народнага паэта Беларусі, чыя думка высока цанілася і цэніцца не толькі ў нашай Беларусі.

Шахцёрская, калі яе можна так назваць, тэма праходзіць праз усю творчасць паэта. І зразумела было жаданне Міколы Аўрамчыка не проста пабыць у маладым горадзе на першых беларускіх шахтах Старобіншчыны, якая пасля стала Салігоршчынай, а папрацаваць, каб напісаць вершы ў зусім іншых умовах. І былі першыя нізкі вершаў, і была кніга лірыкі «Сустрэча былых канагонаў». Імя кнізе даў аднайменны верш, прысвечаны Паўлу Беспашчаднаму, шахцёрскаму паэту. Праз колькі год усё прыгадвалася:

> Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,
> І ў ёй не я,
> а сноўдае штодзень
> Шкілет,
> які яшчэ абцягнут скурай,
> Ды на сцяне —
> чужы, сутулы цень.

Перачытайце, які дакладны малюнак, нібы наскальны, скупы і ёмісты. Колькі гаворыць пра пакуты шкілет, «які

яшчэ абцягнут скурай». Слова яшчэ акцэнтуе ўвагу. Чалавек ужо толькі цень. Паднявольнік яшчэ жыве, але ўжо не пазнае ўласнага ценю, чужым здаецца свой цень.

Помню раніцу маладой зімы. Мікола Аўрамчык чытаў мне па памяці, смакуючы кожнае слова, вывяраючы яго:

Закончылася змена.
Як у сне,
Мы ▪ клеццю на паверхню паляцелі...

Мне, яшчэ не канчаткова з'урбанізаванаму ўшацкаму мальцу, на момант здалося, што ў казцы ляцеў паэт у клеці. Бо мне клець — перш за ўсё прыбудова. Клець была і ў песнях і лірычных і фрывольных, як у той вясельнай: «Мамулечка, ў клець вядуць...» Канкрэтнае, вякамі атайбаванае слова набывала новае значэнне, новае адценне. Знікаў сялянскі, спаконны пласт мовы, знікаў генетычна нязводны пласт сялянскага побыту. Паэт з усёй шчырасцю радаваўся новым абрысам беларускага далягляду, які традыцыйна заканчваўся вершалінамі ялін ці сосен. «Засланяючы даль краявіду, Узняліся ўгару тэрыконы, Шмат вышэйшыя за піраміды, Збудаваныя пры фараонах». Паэт не ведаў, якой бядой абернуцца гэтыя тэрыконы на Беларусі, пагражаючы засаліць самыя ўрадлівыя землі. Гэта пазней славутыя слуцкія бэры зрабіліся салёныя на смак. А яшчэ пазней, пасля чарнобыльскай трагедыі на бэры пачалі вымяраць радыяцыю. Зноў слова беларускае змяніла свой сэнс пад націскам непрадуманага прагрэсу. Не ведаў паэт, і яго нельга вінаваціць за гэта, што і ў вершы «Адлёт жураўлёў», які высока ацаніў Якуб Колас, наіўна просіць крылатых вандроўнікаў: «Не сумуйце па родных балотах». Бо «...на месцы балот неўраджайных, Дзе ніхто не мог гнёзды чапаць, Трактары загрукочуць, камбайны, Пахавае дрыгву сенажаць». Верш пісаўся ў 1938 годзе на золку меліярацыі, калі яшчэ ў самую сілу ўваходзіў заклік не чакаць літасці ад прыроды.

Да балючай тэмы палону вяртаўся і вяртаўся паэт і ў прыватнасці ў паэме «Волхаўская споведзь», у якой удаліся і сцэны лірычнага плана і сцэны жаху. У самым пачатку

нечаканая рыфма «у Ноўгарад — зноў гарадь» актывізуе ўвагу чытача, робіць радкі напружанымі. Пра скінуты чужынцамі звон у Волхаў:

Цячэ няспынна плынь па дне,
Язык пагойдвае ў зване.

Багаты гукапіс ствараюць і зычныя і паўгалосныя, а канцавое «е» як быццам балюча енчыць. Ці яшчэ хочацца цытаваць узоры малюнка і гукапісу:

Зноў парушае неспакой
Віскілівым скрыпам гэта птушка:
Пілуе сэрца асакой...

У палоне асабліва выразна паўстае роднае даваеннае хараство. І ў няволі душа сумуе па прыгажосці, і вока знаходзіць незабытую вабнасць:

Былі вяснушкі на шчаках
Смуглявай гэтай гараджанкі,
Нібы радзімкі на баках
Налітай сонцам сапяжанкі.

Дзяўчыну Груню закаханыя хлапцы проста назвалі Грушай. І ў памяці беларуса ўсплывае сапяжанка. Нават плямкі на баках грушы называюцца радзімкамі, каб хоць гэтым словам нагадаць пра радзіму, па якой пакутуе герой паэмы. Потым вяснушкі праступяць у вершы на волі, у вершы 1958 года:

Тое ж крапінне рабое —
На шчаках яе дачушкі...
І смяёмся мы абое:
— Ах, вяснушкі!..
— Ах, вяснушкі!..

Прывёў гэтыя радкі, і зноў загучаў мне голас Міколы Аўрамчыка. Здаецца, у чарговай аўдыторыі выступае ўзнёслы паэт. І павёў мяне гэты шчыры голас, зноў вярнуў мяне гэты па-даваеннаму наіўны голас у падзеі паэмы «Волхаўская споведзь». І яшчэ раз пацвердзіў паэт, што толькі пережытае кранае, толькі перажытае ўражвае. Трэба пахадзіць пад прыцэлам канваіра, каб напісаць:

Але іспанец на яго
Зноў утаропіўся з-за спіны
Глыбокім позіркам
                    свайго
Праніклівага карабіна.

Эпітэт «праніклівы» ў дадзеным кантэксце набывае зусім новае адценне. Гэты жалезны позірк пратне наскрозь, пранікне куляй, закрэсліць маладое жыццё. Ён жахам пранікае, неадступна сочачы за ахвярай. Жахае толькі голая канкрэтнасць смерці, немінучасці, наканаванасці, а не крыклівыя і самыя мудрагелістыя ў сваім жаданні напалохаць дэталі і вобразы.

Дапускаем, што герой паэмы (помнячы пушкінскае: «Спяшаю розніцу заўважыць паміж Анегіным і мной») напярэдадні вайны ў камсамольскім парыве зрываў крыжы з купалаў храмаў, цягаў папоў за бароды, апярэджваючы пазнейшую кітайскую хунвейбінаўшчыну, але абраза памяці, святынь асабліва балюча адчулася ў няволі:

Пад каменедрабілкі пошчак
Брук узрывае кіркай ён,
Дзе Неўскі
          некалі на плошчы
Вёў крыжаносцаў у палон.
Нібыта рве
          не камяні,
Адшліфаваныя вякамі,
А продкаў чарапы
                    ў агні
З зямлі выкопвае рукамі.

Другі слупок пачынаецца з мужчынскай рыфмы. Невыпадкова. Большая нацятасць, цвёрдасць, парыўнасць, рэзкасць. І не рыфма з вякамі пацягнула за сабой слова рукамі. Асабліва жудасна рукамі выкопваць чарапы ды яшчэ родныя, балючыя. І, натуральна, пасля ўсіх жахаў надзвычай хочацца мірнае красы. Таму і парашут адухаўляецца, надзяляецца рысамі хлапечага замілавання:

На воднай гладзі,
                    як лілея,
Раскрыты парашут бялее.

Ды і ў гэты бясхмарны ва ўспаміне абрыс роднай волі ўрываецца вайна з яе рэаліямі:

На ім, чырвоныя тычынкі,
Ірдзеюць кропелькі-крывінкі.

Два колеры жыцця, белы і чырвоны, чырвоны і белы. Палоска світання праразае белае палатно туману. Мірны час. Пісяг крыві праступае праз белізну бінту. Грозны час вайны.

У паэме «Волхаўская споведзь» Мікола Аўрамчык сродкамі ліраэпасу хацеў паказаць вайну, палон, няволю праўдзіва, без акрас. Але пісалася паэма ў гады, калі ўсё настойлівей і пагрозлівей патрабавалі пісаць толькі ў адным тоне — ружовым, а найлепей ружавата-салодкім. Даводзілася шмат што недагаворваць, шмат што ўтойваць. На аўтары, як і на большай частцы грамадства, яшчэ ляжаў страх паўтору сталіншчыны. Калі быць шчырымі, дык і дагэтуль не пазбыліся мы ад гэтага ўжо генетычнага страху.

Больш псіхалагічным паказам палону, працы ў шахтах Рура вызначаецца раман Міколы Аўрамчыка «У падзямеллі». Лёс рамана, як і аўтара, быў нялёгкі. Напісаны пасля хрушчоўскай адлігі, ён не па надвор'і прыпаў на брэжнеўскія замаразкі. Доўга не мог убачыць свет. У рамане паэт застаецца верны сваёй манеры, бо гэта проза паэта.

Вершы Міколы Аўрамчыка беларускія сваёй канкрэтнасцю і акрэсленасцю, сваёй прыхаванай глыбінёй і стрыманасцю, сваёй радасцю і замілаванасцю. Сын свайго часу паказаў час, як ён бачыў яго, як адчуваў яго, не хлусячы, не становячыся на катурны. Радасць жыцця, радаванне жыццю ў Міколы Аўрамчыка можна зразумець. Ён сам гаворыць пра сябе ў вершы, прысвечаным Васілю Быкаву:

Вам чэсць аддае з пашанай
Уваскросшы з мёртвых, жывы.
Без вестак прапаўшы рана
Гвардыі радавы.

Паэт сябе адчувае радавым, але без радавых няма арміі, без радавых няма войска. Якраз радавыя займаюць вышыні, а генералы толькі рапартуюць. Так і ў арміі, так і ў паэзіі.

Душэўная шчырасць спрыяе таму, што Мікола Аўрамчык надзвычай добра піша ўспаміны, эсэ, словы пра сяброў, асабліва пра франтавых, якія самі пра сябе ўжо не скажуць. Гэтак не перапыняецца, не перарываецца бег плыні жыцця, плыні, на якую паэт Мікола Аўрамчык глядзіць замілаванымі вачыма, узнёсла і трапятліва.

*Рыгор Барадулін*



* * *

Мая Бабруйшчына зялёная,
Здаешся іншым ты
малой
З тваёй Бярэзінай хвалёнаю
І з непрыкметнаю Алой.

А мне
заўсёды паўнаводнымі
Здаваліся іх берагі,
Былі твае мясціны
роднымі,
Куток з маленства дарагі.

Твае лясы прапахлі порахам.
Як чэрці ў пекле,
у смале,
Кіпелі цэлы тыдзень ворагі
У Бабруйскім вогненным катле,
Каб зноў Вішнёўка і Малінаўка —

Завуцца вёскі так даўно —
Ды Вінаградаўка з Калінаўкай
П'янілі цветам,
як віном.

Не дзіўна,
што тут людзі лечацца...
Куды ні траплю —
у Туркі,
Панкратавічы або Лейчыцы,—
Мяне сустрэнуць сваякі.

Панюшкавічы дзесь пад бокам тут...
Змаглі адгэтуль у жыцці
З якойсьці Глушы
ці з Пабокавіч
На свет пісьменнікі прыйсці.

Накшталт мядзведзя касалапага,
Я ў дол закручваў
бур пусты
І мераў
ад Хімоў да Ламбава
Твае тарфяныя пласты.

І кожнага сцябла і каліва
Знаў ураджайнасць
колькі год:
Ад Міхалёва
і да Малева
Калгасны важыў умалот.

Ля Ступянёў
і за Цялушаю
Майго кахання
з той пары

Сляды нічым не зацярушаны —
Цвітуць пралескамі ў бары.
Калі даяркі варатынскія
Свае спрабуюць галасы,
Дык чуюць
слухачы ўсе мінскія
Іх песні
дзіўнае красы.

Якія стравы беларускія
Падносіла ты да стала!..
І нават прозвішча бабруйскае
У спадчыну
ты мне
дала.

*1970*

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

За калгасам, над трактам вялікім,
Дзе асеннія хмары ўсплылі,
Пралятаюць, раняючы крыкі,
Караванам даўгім жураўлі.

Адлятаюць бяспечнай дарогай.
Крыл тугіх не даносіцца шум...
А ў іх крыках — спалох і трывога,
Невыказная крыўда і сум.

Не ўстрывожылі стрэламі людзі
На такой вышыні жураўлёў.
Не арол жа іх раптам успудзіў
Над прасторам палескіх палёў.

Не, не гэта трывогу іх будзіць...
Мо ўстрывожаны тым іх палёт,
Што вясной,
                    прылятаючы,
                                        зблудзяць
І не знойдуць знаёмых балот;

Што на месцы балот неўраджайных,
Дзе ніхто не мог гнёздаў чапаць,
Трактары загрукочуць, камбайны,
Пахавае дрыгву сенажаць.

Не сумуйце па родных балотах,
Прылятайце з далёкіх краін.
На лугах заліўных між чароту
Многа знойдзеце ўтульных мясцін.

*1938*

## У ШПІТАЛІ

Толькі зрэдку
Адчыняцца дзверы палаты,
Прамільгне санітарка
Бясшумна, як цень...
Доктар
Суткі з плячэй не здымае халата,
А паранены
Трызніць ізноў цэлы дзень.

То з маўклівай сцяной
Размаўляе ўвесь ранак,
Просіць сына
Дайсці да шпіталя пяшком...
То расказвае ўсім
Пра далёкі паўстанак,
Дзе
Бярозавік некалі піў хлапчуком.

Грукаталі гарматы
Так моцна сягоння,
Што ад жаху
За ноч пасівелі кусты...
Як учадзелы,
Боль адчуваючы ў скронях,
Не дыхнеш,
Захлынешся ў прасторы пустым.

Перамерзлі на ўзгорку
Гранітныя глыбы,
Да касцей
Чалавека праймае мароз...
Нават цягнуцца ў гэтакі холад
Да шыбаў
Адубелыя голлі карэльскіх бяроз.

«Што вы хлусіце, доктар...
Ну, дзе ў мяне раны?..
Гляньце вы,
Як чаромха цвіце каля хат...
Дайце соку з бярозы...
Я вып'ю — і ўстану...
Ну, навошта вам белы
Халодны халат?»

Санітарка маўчыць,
Заціхаюць нясмелыя крокі...
Нават чутна дыханне
З суседніх палат...
Па шчацэ пакацілася
Цяжкая кропля,
Упадзе —
І, здаецца, прапаліць халат.

*1940*

## ГАЛУБЫ

У сяле, сярод садоў і красак,
Дзе цвілі зялёныя гады,
Мы наслухаліся даўніх казак,
Што калісь расказвалі дзяды.

Галубоў бяспечных буркаванне
Ды галубянят нясмелы ўзлёт...
Мы не знелі галубіным раннем
Ні трывог, ні гора, ні клапот.

Турманы кружыліся над хатай,
І дзяцінства чарадой гадоў
Праляцела воблакам стракатым
Маладых пярэстых галубоў.

З-за клапот цяпер забыты казкі,
Зараз нам зусім
                    не да прыгод...
На галовах — баявыя каскі,
Кліча ўдаль
                    няведамы паход.

З горкім палыном шляхі-дарогі
Ды калючы стэпавы кавыль...
Горка ў горле,
                    абшарпаны ногі,
Гэта ўжо не казка,
                    гэта — быль.

А задрэмлеш раптам на хвіліну —
Галубы залопаюць у сне...
Можа, дзе знаёмая дзяўчына
Пра цябе таксама ўспамяне.

Бач, лятун узняў трывожна голаў,
Не буркуе —
стогне на страсе...
Як шкада мне, што паштовы голуб
Ад цябе ліста не прынясе.

Хай сабе загіну я ў змаганні,
Толькі дзеці слухалі б штогод
Галубоў бяспечных буркаванне
І раслі без гора, без клапот.

*1942*

## У ДОМЕ ЛЕРМАНТАВА

Асцярожна праходзячы з ганка,
Я паціху ступіў на дыван,
Быццам тут гаспадар гэтым ранкам
Піша верш або новы раман.

Нават чутна,
як восень лістамі
Асцярожна ступае на дол,
Падкрадаючыся садамі,
Каб заглянуць праз вокны на стол.

У пакоі, дзе веліч і вечнасць,—
Невыказнай таемнасці след,
Размаўляюць і вершы, і рэчы,
Да якіх дакранаўся паэт.

Мне,
узрушанаму без меры,
У вочы кінулася даўно
Перапісанае на паперы
Неўміручае «Барадзіно».

Шчэ радкі не прасохлі у вершы,
Быццам Лермантаў гэты пакой
Толькі зараз пакінуў,
каб першым
Абарону заняць пад Масквой.

*1941*

## КУРСКІ САЛАВЕЙ

Эвакуіраваны з Курска,
Сівы дзядуля
гандаль вёў
На бедным рынку арэнбургскім:
Збываў гліняных салаўёў.

Каб ажывіць самотны вырай
І мець сякі-такі навар,
Стары
з наіўнай верай шчырай
Як мог
рэкламаваў тавар.

Але каму з нас,
хто пакінуў
Бацькоўскія свае краі,
Былі тады патрэбны
з гліны
Яго пустыя салаўі?

На санцапёку,
ад сухмені
Без засені асалавеў
І ў роспачы
на ўсе калені
Высвістваў курскі салавей.

*1974*

## УНАЧЫ ПЕРАД НАСТУПЛЕННЕМ

Не кіпяць больш вішні ў белай пене,
На лістах ачахнула раса...
Не інакш як перад наступленнем
Змоўкла франтавая паласа.

Хоць бы прастрачыў хто з аўтамата
Здрадлівую ціш такой начы...
Хоць бы дзе адзіная гармата
Зноў ускалыхнула далячынь.

Адчуваеш, як пад плашч-палаткай
Прабіваецца з зямлі мурог...
У тылу цяпер не спяць салдаткі,
Нас чакаюць з баявых дарог.

Зараз у далёкіх родных Плёсах
Маці будзе да зары тужыць...
Аб маім неразгаданым лёсе
Паспрабуе, ўрэшце, варажыць.

Варажыла мне цыганка дома,
Што бяды не абыду нідзе...
Быццам без пары мне, маладому,
Суджана загінуць у вадзе.

Вораг паліваў свінцом дарогі,
На вадзе успыхвалі плыты...
Дзе пераплываў я, дзе пад ногі
Рэкі мне выкідвалі масты.

Хутка сівізна падзе на скроні,
Ад снарадаў забурліць вада,
А мяне ўсё так і не дагоніць
І не ўтопіць у вадзе бяда.

*1942*

* * *

*М. П. А.*

Расхрыстаныя насцеж вокны, брамы,
Пакрыўджаныя хаты і двары
З паўзмроку паўставалі перад намі,
Калі мы вёску бралі на зары.

Ляжала ў снезе мёртвая дзяўчына,
Сівыя косы зблыталіся ў жмут...
Не разглядзеў я —
пабяліў іх іней
Ці пасівелі гэтак ад пакут.

Дзе-небудзь, можа, зараз тваё цела
Таксама выкінута на мароз...
Бялявы твар пачырванеў ад слёз,
На холадзе зрабіўся здзервянелым.

Пайсці б найкарацейшаю дарогай,
Каб да цябе хутчэй дайсці наўпрост...
Адным ад куль падкошваліся ногі,
Другія побач беглі на ўвесь рост.

Засеў чужынец у апошняй хаце.
Я не заўважыў, не адчуў тады,
Што ў гэты час якраз у аўтамаце
Апаражніўся ад патронаў дыск.

Здалося мне, што гэта ваша хата,
Якой не бачыў я ўжо так даўно...
Каб маё сэрца стаць магло гранатай,
Шпурнуў бы яго зараз у акно!

*1942*

## БАЛАДА АБ МАТРОСАХ

Стоптанае жыта на палёх
Адзвінела песняй недапетай...
За аселіцай палёг быльнёг,
Бабіна заблыталася лета.

Раніца на ніці павуцін
З кропляў-рос нанізвала каралі...
Маракоў, выводзячы за тын,
Не ўпрыгожвалі,
не прыбіралі.

Паспяшылі каты паздзіраць
З іх плячэй матроскія бушлаты...
Страх дарэмна ў твары зазіраў —
Ён не мог са смерцю іх пасватаць.

І калі іх стража павяла,
Аднаму здалося, што ў завуллі
Спаленага ворагам сяла
Пракувала коратка зязюля.

Зычыла надзею маракам
На ратунак ад ліхой напасці...
Ён крануў суседа за рукаў:
— Чуеш, брат, яшчэ прарочыць шчасце!..

Задуменны, той прайшоў далей
І сказаў упэўнена і смела:
— Каты ж гаспадараць у сяле,
Значыць, і зязюля звар'яцела.

Сэрца ў грудзях стукала: жыві,
Хоць і шлях здаваўся гэткім цяжкім...

На галовах — валасы ў крыві,
І прыліплі да плячэй цяльняшкі.

Пад нагамі ж грунт, а не вада...
Толькі вартавыя крочаць збоку...
І чарнявы ціха загадаў:
— Ну, братва, да шчасця недалёка!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Обер-лейтэнант, фашыст сівы,
Дзень прахваляваўся ад трывогі,
Покуль пасінелых вартавых
Адшукалі ў жыце ля дарогі.

А матросы зноў сваёй гурбой
Прабіраліся лясною сцежкай...
Прыгадаўшы рукапашны бой,
Камандзір іх гаварыў з усмешкай:

— Я ж забыў, што позняя пара.
Кажуць жа, прымета ёсць такая,
Быццам бы штогод пасля Пятра
Да вясны зязюля не кувае.

*1942*

## У ТОЙ ДЗЕНЬ

Мне сняцца сны аб Беларусі.
*Янка Купала*

Яшчэ і попел не зачах
На мінскіх тлеючых руінах,
І водбліск зарыва ў вачах
Яшчэ свяціўся пры ўспамінах.

Пра смерць Купалы ў тыя дні
Пачулі мы пад Старой Русай.
Знялі пілоткі ў цішыні
І масквічы, і беларусы.

Не знаў сяржант,
што знішчан двор,
Што з папялішча роднай хаты
Дачка Алеся ў цёмны бор
Пайшла з трафейным аўтаматам.

Газеты нумар ён бярог
З абвесткаю пра смерць Купалы.
Як зводка ад Інфармбюро,
Яна за сэрца нас кранала.

Мой родны край,
твае сыны
Не ўсе маглі ў той час суровы
Каля паэтавай труны
Стаяць у варце ганаровай.

Дарогі такляглі ў жыцці,
Што пад разрывамі снарадаў
Усе не здолелі прыйсці
З-пад Севастопаля і Ленінграда.

Яшчэ гушчар стагнаў ад мін,
Свінцом зямлянкі абдавала,
А ўжо нам сніўся новы Мінск
І з бронзы выліты Купала.

*1947*

## ПРЫДАРОЖНЫ ГУШЧАР

Тут паліналі без пары бярозы
І пасівелі на зямлі лаўжы...
Як вартавы на франтавой дарозе,
Лясны гушчар нямала пераўжыў.

Не раз яго снарады карчавалі,
Падстрыг свінец чубы кашлатых хвой...
Карэнне ў глебе бомбы пакрамсалі.
Усюды — буралом ды сухастой.

Расы прасіла незнаёмай мовай
Знявечаная мінаю сасна,
Каля якой і верас, і ядловец
Сваім дыханнем апякла вайна.

Ледзь толькі кулямёт паспеў з істужкі
Астатнія патроны праглынуць,
Як раптам,
прыляцеўшы знекуль,
птушка
Салдатам абвясціла пра вясну.

Не ўсплёскваюць успышкі агнявыя,
Заблыталася цішыня ў галлі...
Чуваць,
як знізу парасткі тугія
Свідруюць пласт абвугленай зямлі.

*1945*

* * *

*Сяргею Круціліну*

Я ўпершыню сустрэў франтавіка —
Аднапалчаніна з трагічных месцаў...
Тады прапала і твая рука
Там,
дзе прапаў я не адзін без вестак.

Я
сёння ў сне,
нібыта наяву,
Убачыў,
як яна,
адна,
без цела,
У сутаргах абмацвала траву,
Як быццам пісталет знайсці хацела.

Над Волхавам шуміць пахмурна лес...
Я да цябе ўваходжу ціха ў дзверы.
Бездапаможна звіснуў твой пратэз —
Трымаць не можа на стале паперу.

Нальём законных франтавых сто грам,
Зірнём на іх журботнымі вачамі
І ў думках скажам баявым сябрам:
«Мы п'ём за вас,
сябры-аднапалчане!»

*1973*

## БАЛАДА АБ ВЫЗВАЛЕНЫМ ПАЭЦЕ

На Беларусі ёсць лясны паўстанак,
Дзе некалі ў адзін з вясновых дзён
Адбілі раніцою партызаны
Нагружаны варожы эшалон.

У партызанскім лагеры зялёным
Юнак-разведчык расказаў пазней,
Як ён знайшоў за кратамі ў вагоне
Абрабаваны Пушкінскі музей.

Між даўніх кніг у вокладках са скуры,
Сярод пажоўклых выразак з газет,
З-пад рукапісаў,
з бронзавай скульптуры
Паэт прыветліва зірнуў на свет.

— Нягоднікі! — прамовіў злосна з болем
Хлапец,
падняўшы рукапісны ліст.—
З багаццем нашым
Пушкіна ў няволю,
На катаргу ў Нямеччыну вязлі!

Спяшаючыся,
Пушкіна адгэтуль
Аднеслі партызаны у лясы...
Нібыта слёзы,
на шчацэ паэта
Заззялі кроплі ранішняй расы.

Ухутаны,
пад плашч-палаткай новай,
На падасланым верасе сухім,

У засені густых галін яловых
Адпачываў ён у кутку лясным.

Між партызан аб ім хадзіла слава.
Чыталі мсціўцы
Пушкіна радкі
Аб тым, як нашы продкі пад Палтавай
Грамілі чужаземныя палкі.

А ў поўнач на чыгунцы, каля рэчкі,
Ляцеў з маста варожы эшалон,
І ўдарам партызанскім
у мястэчку
Разгромлен быў фашысцкі гарнізон.

Пазней, калі дачуўся лес зялёны,
Што перамогі светлы дзень настаў,
Паэт з'явіўся ў гарадок раённы
І горда узышоў на п'едэстал.

Цяпер дубы расказваюць быліны
І шэпчуць баравыя верасы
Аб тым,
як Пушкіну цяжкой часінай
Далі прытулак нашыя лясы.

*1949*

* * *

Калі для кулі стану я мішэнню
І затрымаецца на месцы бою ўзвод,
Сябры, напэўна, забяруць з кішэні
Скамечаны
мой франтавы блакнот.

Пасля вайны,
вярнуўшыся дахаты,
Хто-небудзь, можа, знойдзецца такі,
Хто роднай Беларусі ў часе свята
Аддасць мае няспелыя радкі.

А што,
калі на гэтым полі голым,
Дзе плешча старадаўняя рака,
Мой франтавы блакнот
падыме з долу
Фашысцкая паганая рука?

Калі б я толькі знаў у часе бою,
Што не пачуюць слоў маіх браты,—
Юнацкаю гарачаю крывёю
Лепш спапяліў бы гэтыя лісты.

*1942*

* * *

Бывала, ў халепу і сцюжу
Я,
  недавучаны студэнт,
Туліўся да цябе,
                «кацюша»,
Пад набрынялы твой брызент.

Пад ім
        з канцэртных выступленняў
Да ўкрыцця
              ад перадавой
Насцілам з дрогкага бярвення
Мы разам трэсліся з табой.

Я асцярожна перавязваў
Ля выбуховае тарпы
Абмоткамі,
              як перавяслам,
Адплаты грозныя снапы.

Як рэчавы мяшок,
                за спіну
Я іх узвальваў па адным
І да цябе
          праз твань і ціну
Насіў балотам дрыгвяным.

Як у маленстве Кацярынка
Калёсным колам на ільду
Круціла санкі
              безупынку,
Што ў нас ажно займала дух,—
Так мы рабіліся нямымі

Ад [illegible]
жаху пад тваю кляцьбу,
Калі цапамі агнявымі
Ты пачынала малацьбу.

І ў некалькі цапоў, бывала,—
Ажно разлік увесь пацеў,—
Духі з чужынцаў выбівала,
Іх душы веяла ад цел.

*1968*

## САЛДАЦКАЯ СЛЯЗА

Нямала смерць яго сяброў скасіла
Па родных папялішчах,
між руін,
А ён,
плячысты беларус-асілак,
Упарта прабіваўся на Берлін.

Нямала вёрст ператапталі боты,
Пакуль дайшоў ён да мяжы чужой,
Дзе ўпершыню зусім —
не горкім потам —
Шчака на сонцы бліснула слязой.

Ён ірвануўся ў бой,
без адпачынку
Папоўз па забалочанай лазе...
І дрэвы, і цагляныя будынкі
Аж задрыжалі у яго слязе.

*1945*

## НАД ЭЛЬБАЙ

Ледзь толькі праслізнецца па штыках
На досвітку
　　　　　　　　халодны водбліск хваль,
Узварухнецца сонная рака,
Ў сваім бяздонні патапіўшы даль.

Зыбучыя пантонныя масты
Хістаюцца ў туманнай сіняве,
Калі над імі прагучыць матыў
Знаёмай рускай песні аб Маскве.

І прыгадаюць даўнія сябры:
Хто — хараство сваіх стэпоў і ніў,
Хто — паплавы, рыбачыя кастры,
Шырокай Волгі веснавы разліў.

Аб родных можа ўспомніць не адзін
У гэты час над Эльбаю-ракой...
Здаецца кожнаму,
　　　　　　　　　　　што да сваіх мясцін
Адгэтуль блізка,
　　　　　　　　　як падаць рукой.

*1945*

* * *

Каб гэтакага лёсу вы не мелі,
Наканаваны мне ў жыцці які:
Бо вязні —
лічаць вязнем падзямелля,
Франтавіком —
завуць франтавікі.

Пад Чудавам я цудам не забіты.
Прапаў без вестак я ў Мясным Бары
І ў Руры,
богам і людзьмі забыты,
Ледзь выбраўся з падземнае нары.

А нашага былога генерала,
Які пайшоў насуперак жыццю,
Гісторыя няўмольна пакарала,
Яго імя аддаўшы забыццю.

Вярнуўшы добрае імя старое,
Закона справядлівая рука
Уваскрасіла з мёртвых, як героя,
Былога нашага палітрука.

Чужою славай радавым не ласавацца...
Але мне крыўдна ўсё ж, што пакрысе
У мове прыжылося слова ўласаўцы,—
Джалільцы ж слова
ведаюць не ўсе.

*1968*

## ДУМЫ Ў КАПАЛЬНІ

Не прыбралі хлопца маладога
З пераломанымі ўшчэнт рукамі,
Як паблізу тут жа на другога
З вышыні зваліўся цяжкі камень.

Мне пакутваць засталося мала,
Не мінуць і мне гэтай дарогі...
Ад сцяны адваліцца кавалак
І раструшчыць рукі або ногі.

На паверхню ўзнімуць, і аднекуль
Вынырнуць адразу ж вартавыя
Сцерагчы бязногага калеку,
Каб не ўцёк яшчэ, пакуль жывы я.

Вырвацца б з глыбокае капальні
Хоць бязногаму, але жывому
І па сцежках, па дарогах дальніх
На радзіму дапаўзці дадому.

Расказаць бы там, як тут марнелі
Абяскроўленыя і калекі
У вільготных лёхах падзямелля,
Дзе жыўцом пахованы навекі.

Толькі, мабыць, з гэтых сутарэнняў
Пуцявіна выведзе другая:
Рухне зверху важкае каменне,
Пад сабой навекі пахавае.

І тады ўжо не бываць на волі,
Не пабачыць роднае матулі.
І тады ўжо не насіць ніколі
Васількамі вышытай кашулі.

*1944*

* * *

Сёння  
Побач на нарах  
Памёр мой сусед.  
Больш не будзе ён трызніць у сне.  
Зараз я на чарзе...  
Можа, заўтра чуць свет  
Звалакуць з гэтых нар і мяне.

Ні здароўя, ні сіл.  
Не ўстаяць на нагах.  
Не ўтрымаць на плячах галавы.  
Набліжаецца з поўдня  
Вясна па лугах,  
А тут мёртвым зайздросціць жывы.

Родны край  
Захлынуўся ў крыві і ў агні,  
А я  
Гіну бязмэтна ў чужой старане...  
Маці,  
Покуль не позна,  
Хоць ты загляні,—  
Хоць у сне ты наведай мяне.

Памажы,  
Каб не гэтак пакутаваў сын,  
Маладзейшы тут самы з ахвяр.  
Назбірай з родных кветак  
Хоць жменю расы,—  
Асвяжы мае вусны і твар.

*1944*

## ТРОЕ

Іх прывялі за дрот зімой сцюдзёнай.
Яшчэ тады пакляўся кожны з іх,
Што вырвецца з варожага палону,
Каб праз лясы прабрацца да сваіх.

Завея на ўвесь лагер галасіла.
Нябожчыкі ляжалі ўдоўж сцяны...
Штодзённа цела пакідалі сілы.
Не змог старэйшы перажыць вясны.

І боль, і помсту затаіўшы ў сэрцы,
Сябры ўсё ж не маглі, каб не тужыць...
Як і яны,
змагаўся друг са смерцю,
Каб потым ворагаў са свету зжыць.

У тую ж ноч з барака збеглі двое,
Прарвалі агароджу ля варот
І асцярожна вынеслі з сабою
Франтавіка-таварыша за дрот.

У цемрадзі свістаў вясновы вецер...
Калі сябры прыселі на траве,
Дваім здавалася,
што зараз трэці,
Адчуўшы волю,
раптам ажыве.

*1942*

## Я ЗНАЮ РАЙ ВАШ ЗАЛАТЫ

Цяпер вы здзіўлены нібыта:
Не верыце,
багі вайны,
Што я ўваскрэснуць мог з нябыту,
Што гэта ява,
а не сны?..

Я той,
хто жыў між мёртвых,
двойчы
Памінкі справілі па кім:
Без вестак я прапаў аднойчы
І пахаваны быў
жывым.

Адчулі вы,
што я жывучы,
І з гэтай грэшнае зямлі,
Дзе смерць не здолела замучыць,
Мяне вы ў рай свой узялі.

Каб золата нажыць мільёны,
Вы ў гэты рай
за радам рад
Вялі пакутнікаў калоны
Ў гірляндах лямпаў, як лампад.

Анёлы вашы,
што хадзілі
З арліным крыллем на грудзях,
Мяне дубінкамі хрысцілі
Крыж-накрыж
і з пляча наўзмах.

Я зведаў сам,
амаль нябожчык,
Як вы з пакутнікаў сваіх
Высушвалі жывыя мошчы,
Шпігуючы шпінатам іх.

І мошчы гэтыя святыя
Вам секлі золата пласты,
Ад поту самі залатыя...
Я знаю рай ваш залаты!

Мяне самога ў ім па росту
Азалацілі вы дабром:
Яшчэ з юнацкага узросту
Пакрылі скроні серабром.

Мяне ўзнялі напаўжывога,
А каб ніхто не дапамог,
З такога раю залатога
Я сам не вынес бы ўжо ног.

*1960*

## КЛЮЧЫ ЖУРАЎЛІНЫЯ

Жан,
у нас загаіліся раны на целе.
Зноў вясна...
Зноў расталі даўно ледзяшы...
А пад сэрцам маім
іх асколкі заселі,
І ад іх прабягае мароз па душы.

Ледзяшы-сталактыты ружовае солі
Ў падзямеллі
чамусьці нагадвалі мне
Позні сок на бярозах,
якія ў няволі
Цяжка ранены ў замаразкі па вясне.

Мо таму, што маё апякалася цела
Капяжамі салёнай падземнай вады,
Адчуваў я, здаецца,
душой набалелай,
Як балюча смылелі іх раны тады.

Той парой
нават птушкі з лясоў і з сядзібаў
Уцякалі за свет ад грымот і агню,
А ў вадзе
касякі насцярожанай рыбы
З перапуду хаваліся
у глыбіню.

Толькі людзі — магутныя духам і сілай.
Нам ратунак паслалі браты і сябры...
Касякі грозных птахаў сярэбранакрылых
З буркаваннем трывожным плылі угары.

Мне здавалася:
іmі расколваюць хмары,
Забіваючы ў іх клін за клінам здаля,
І заранкі выкрэсваюць кожным ударам,
Ад якога уздрыгвалі неба й зямля.

Вартавыя ад жаху зусім анямелі.
А вясна, жураўліныя ўзяўшы ключы,
Адамкнула нам дзверы на свет з падзямелля,
Абдала нас святлом пасля змрочнай начы.

Жураўлі пралятaлі з выгнання дадому,
Абуджалі ў душы аб радзіме ўспамін...
Мы па іхніх ключах, як па стрэлках рухомых,
Вызначалі напрамак да родных краін.

Прыгадаў гэта я,
калі ўбачыў, як гусі
Пацягнуліся з выраю зноў ланцугом
Да лугоў заліўных і азёр Беларусі
І дачка з гладыша п'е кляновік нагбом.

Думаў ты, што да вас заляцела гагара,
Ажно гэта гаргара, якая з-за хмар
Ураніла пяро агнявое ў Сахару
І па свеце атрутны рассеяла гар.

Зноў вясна...
Жураўліныя ўспомніш ключы...
Жан,
а ты спіш спакойна ўначы?

*1960*

## СУСТРЭЧА БЫЛЫХ КАНАГОНАЎ

*Паўлу Беспашчаднаму*

Ты ж канагон,
як кажуць,
па прызванню,
А я, брат,
паняволі канагон...
Заплюшчу вочы —
ўсё як ёсць дазвання
Прыгадваю,
нібы жахлівы сон.

Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,
І ў ёй не я,
а сноўдае штодзень
Шкілет,
які яшчэ абцягнут скурай,
Ды на сцяне —
чужы сутулы цень.

Ты на радзіме
працаваў з сябрамі,
Тут зваўся Стрэпетам
твой верны конь,
Што ўстрэсваў грывай,
цішу стрыг вушамі
І капытамі высякаў агонь.

Больш не расказвай
мне у гэты вечар,
Як разумеў цябе ён
пад зямлёй,
Бо сэрца птушкай раненай трапеча,
Гарачай абліваецца крывёй.

Са мной быў конь
з чужой мянушкай Тойфель [1],
Не раз яго зваў небаракам я —
Па-свойму зваў,
хоць сам не знаў пра тое,
Што вымаўляў ягонае імя [2].

Быў побач ён адзін у шахце рурскай,
Каму сказаць
мог слова хоць адно...
Але ўсё роўна
ён па-беларуску
Не разумеў жа ані «тпру»,
ні «но».

Разумнымі слязлівымі вачыма
Глядзеў мне ў твар ён з нейкаю журбой,
Як быццам шкадаваў,
што немагчыма
Пагаварыць нам шчыра між сабой.

Яны ў яго жывога ашклянелі,
Ён паўаслеп ад цемры і ад слёз
І мне напамінаў,
што ў падзямеллі
Мяне чакае гэткі ж самы лёс.

Туман клубіцца,
цёплы надвячорак
Дыхнуў з прысадаў свежасцю начной.
Здаецца,
там прыціхла дзесьці мора
За тапалінай роснаю сцяной.

---

[1] Teufel *(ням.)* — чорт.
[2] Armer Teufel *(ням.)* — небарака.

А там жа стэп,
                    капры і тэрыконы...
Адзін другога ўзяўшы пад руку,
Ідуць удвух былыя канагоны
Па вуліцы ў данбаскім гарадку.

*1957*

## ГЛЮКАЎФ!

> На закрытых шахтах у Руры ўзняты чорныя сцягі... Шахцёраў звальняюць сотнямі, не пытаючыся, колькі гарняк гнуў спіну пад зямлёй.
>
> *З газет*

Вуглякопы далёкага Рура,
Не адзін з вас казаў мне:
— Глюкаўф! [1]
Кожны дзень,
калі з тварам панурым
Пад зямлёю мяне сустракаў.

Незнаёмае гэтае слова
Разумеў я па-свойму тады,
Бо з ягонаю першай паловай
Сустракаўся ў былыя гады [2].
Як вялізнаю косткай,
няйначай,
Удавіўшыся гэтым «глюкаўф»,
Толькі штайгер адзін па-сабачы:
«Аў!» —
штодзень пры сустрэчы брахаў.

Ды па тым,
як сваім бутэрбродам
Не адзін з вас дзяліўся са мной
І ў паўзмроку
руку мімаходам
Паціскаў мне шурпатай рукой,—

---

[1] Glück auf! *(ням.)* — У добры час! — прывітанне гарнякоў Германіі.
[2] Glück *(ням.)* — шчасце.

Адчуваў я паблізу ад смерці,
Пад зямлёй
і пад небам чужым,
Што гарачыя вашыя сэрцы
Б'юцца побач суладна з маім.

І таму я ўстрывожаны весткай,
Што над Рурам —
лес чорных сцягоў...
Барабаны шахцёрскіх аркестраў
Б'юць трывогу за лёс гарнякоў.

Праз дзяржавы і цераз граніцы
Вашых рук не паціснеш рукой
І не зможаш здалёк падзяліцца
Тым, што ёсць на стале прада мной.

Але як бы хацеў я, паверце,
Каб таксама, як я з той пары,
Адчувалі вы,
што маё сэрца
Разам з вамі заўсёды, сябры.

Хай цяпер яго стук неспакойны
Вам знаёмы нагадвае стук
Малаткоў неразлучных адбойных,
Адабралі якія ў вас з рук.

Калі вы,
патрабуючы працы,
Рур штурмуеце ў розных кутках
Бурнай хваляй сваіх дэманстрацый,
Я кажу вам здалёку:
— Глюкаўф!

*1957*

## АНКЕТА

*Янку Брылю*

Адразу ж стала зразумела мне,
З якой прычыны ты раптоўна гэтак
Задумаўся і нават пахмурнеў,
Спакойна запаўняючы анкету.

Бо ўсё-такі не змог,
каб не ўздыхнуць
Над незвычайным некалькі пытаннем...
Заўжды ў анкету лёгка заглянуць,
Але ў душу так проста не заглянеш.

Пяро паўзе павольна па радках,
Паўзе са скрыпам
пад рукой тваёю...
На гэтае пытанне
свой адказ
Ты пішаш не чарнілам,
а крывёю.

Бо аніякім лекарам сівым
Ніколі не залечваюцца раны
На сэрцы у таго,
хто быў жывым
З крывёю ад радзімы адарваны.

А той,
хто двойчы зведаў гэткі лёс
І вырваўся ад згубы немінучай,
Цяпер да роднай глебы
так прырос,
Што нават смерць
яго з ёй не разлучыць.

Больш не нявольнік
з нумарам сто пяць,
А чалавек ты —
з прозвішчам і з імем...
Не тры аршыны,
а любая пядзь
Зямлі
табе належыць на радзіме.

Перашкаджаю, мабыць?..
Выбачай!
Друг па няшчасці замінаць не стане...
Далей сваю анкету запаўняй,
Адказвай на наступнае пытанне.

*1959*

## ХЛЕБ ТВОЙ

Ласункам смачным
                    ў руцэ
Хлеб жытні трымаў я калісьці —
Спадыспаду не ў муцэ,
А на кляновым лісці.

Я помню,
            як да стала
Малому,
            што ўсеўся на ўслоне,
Ты на лістах падала
Буханку,
            нібы на далонях.

На скурцы шурпатай іх
Маршчынкі жыццё пралажыла,
Праглядвала з-пад якіх
Спляценне тонкіх жылак.

Калі расу на вайне
Смактаў я з ліста пасля бою,
Здавалася,
            што мяне
З далоні ты поіш вадою.

Вялі мяне чужакі —
Згарнулася лісце ад жалю...
Нібы твае кулакі
Чужынцам з бакоў пагражалі.

На вугалі,
            як далонь,
Адбітак ліста пад пародай

Не раз асвяжаў мне скронь,
Як лесу твайго прахалода.

Каб знала ты,
                    моцна як
Адчуў пад чужым я небам
І пах духмяны,
                    і смак
Твайго наздраватага хлеба.

Хто ў падзямеллі не слеп,
Відаць,
          зразумеюць і тыя,
Чаму я слаўлю твой хлеб
І рукі твае залатыя.

*1958*

* * *

Не ведаць бы,
як юнаком
Глядзець на Еўропу балюча
Праз краты вагонных акон,
Праз дрот заржавелы калючы.

Нібы на паверхню зямлі,
Як лагерных блокаў квадраты,
Не мерыдыяны ляглі
І не паралелі,
а краты.

Здавалася мне,
што пад плач,
Пад віскат і енкі народу
Планету
забілі, як мяч,
У сетку з калючага дроту.

Нібы пахіснуўся сусвет
І ўсе на зямлі анямелі
Ад гэтага ўдару,
а свет
У змрочнае ўпаў падзямелле.

Я ведаю,
як без надзей,
Апошнюю страціўшы веру,
Дзічэў чалавек між людзей,
Завыўшы ад жудасці зверам.

*1975*

## АКРАЕЦ

Буфетчыцаў тады я не віню,
Калі чакаю з ежаю акраец,
А тыя ўбачаць скроняў сівізну —
І лусту,
як бяззубаму, параяць.

Адкуль ім ведаць,
што акраец —
мне
Штодня пра падзямелле напамінак,
Калі ў чужой далёкай старане
На маладыя скроні лёг зазімак?..

Я помню,
як сярод гурбы малой
Людзей няголеных,
зарослых мохам,
Хто-небудзь
ніткай,
як тупой пілой,
На пайкі
роўна распілоўваў бохан.

А потым,
адвярнуўшыся,
яму
Належала адказваць,
як нязнайку,
На запытанне іншага,
каму
Аддаць,
якую выпадае,
пайку.

Галодным —
маладзейшым і старым —
Акрайцы мроіліся
ў кожнай пайцы...
Але з буханкі
толькі чацвярым
Шчаслiўцам даставаліся акрайцы.

Зайздросцілі астатнія ўсе ім,
Услед за мякішам
глынуўшы крошкі:
Свяшчэннадзействам жа яны сваім
Маглі прадоўжыць асалоду трошкі.

Буфетчыцы,
параіць вам хачу:
Давайце мне
не лусту,
а акраец,
Каб асалоду большую адчуў
Ад матчынага хлеба
ў родным краі.

І гэтым самым,
ворагам на злосць,
Хай сабе ў думках,
як наканавана,
Кароткую прадоўжыў маладосць,
Што імі ў падзямеллі пахавана.

*1975*

* * *

*В. П. Крайко*

Калі нас па чужыне гнаў канвой,
А вы з бакоў глядзелі,
паланянкі,
Калону абступаючы гурбой,
Ўспамін пра марш «Прощание славянки»
Слых гукам апякаў,
а зрок — слязой.

Баяўся ў тую змрочную пару
У вашым гурце
ўласнымі вачыма
Убачыць раптам
родную сястру
Або сваю каханую дзяўчыну;

Хоць вы з высока ўзнятай галавой,
Далёка ад сваёй краіны роднай
Праносілі дзявочы гонар свой
І мацярынскую святую годнасць.

*1978*

## ЛЕГЕНДА АБ ЗАЛАТОЙ ЗЯМЛІ

Некалі расказваў мне сусед
Аб далёкай залатой зямлі.
Каб знайсці яе,
у белы свет
З нашай вёскі многія брылі.

Быццам бы,
вярнуўшыся назад,
З прыіска зямляк прывёз з сабой
Каля жмені залатых зярнят,
Клапатліва вымытых вадой.

Мне ў гародзе паміж град сваіх
Сніліся сланечнікі наўкол,
Раставала золата на іх,
Капала пялёсткамі на дол.

Ды ніводнай кроплі залатой
Не даводзілася ўзяць рукой...

А цяпер бліскучыя пласты
Наяву ляжаць перад табой.
Быццам золаташукальнік, ты
Аглядаеш вугальны забой.
Тут кавалкі золата здалёк
Яркім бляскам асвятляюць змрок.

Не па жмені зерняў залатых
У Данбас прыехаў кожны з нас...
Я хачу узняць адсюль пласты,
Асвятляць каб родны свой калгас,
Зыркае святло каб біла ў твар
З новых плошчаў, вуліц і двароў...

Мы набудзем тут шахцёрскі гарт
Вопытных, настойлівых майстроў.

З гэткаю настойлівасцю ў нас
Будуць землякі ўздымаць штогод
Золата мясцовае са дна
Беларускіх багнішч і балот.

*1947*

Маці Міколы Аўрамчыка — Наталля Васільеўна. 1959 г.



МО ТАМУ І У СТРАШНЫМ ПЕКЛЕ ВЫЖЫУ Я,
ЯК З МЯНЕ НІ ЗДЗЕКВАЛІСЯ ЧЭРЦІ,
БО Я ВЕДАУ, РОДНАЯ МАЯ:
НЕ ПЕРАЖЫВЕШ МАЕЙ ТЫ СМЕРЦІ.

## ДАНБАС

Недарэмна
Празвалі яго качагаркай —
Дым і копаць
Фарбуюць нябесны блакіт...
Шэры пыл завіхрыцца слупом
Над вугляркай,
Калі з лязгам
Крыж-накрыж імчаць цягнікі.

Прапаўзе эшалон,
Перагружаны грузам,
Загрукоча на насыпе
Мост над ракой,
Потым суткамі
Стэп шамаціць кукурузай,
Быццам мора салёнае
Рыбнай луской.

На паверхню
Падняўшыся ў блузе рабочай,
Паглядзіць
І прыжмурыць павекі шахцёр,—
З-пад Славянска здалёк
Асляпляюць аж вочы
Высачэзныя айсбергі
Крэйдавых гор.

А ўначы плешча заравам
Кожная вышка,
Кожны корпус не спіць,
Мерна дыша трубой...
Кожнай доменнай печы
Маленькая ўспышка

Для цябе асвятляе
Паўзмрочны забой.

Ледзь паспее вясной
Чарназём адагрэцца —
Вільгаць парай клубіцца
Над цёплай зямлёй...
Маладых краснадонцаў
Гарачыя сэрцы
Саграваюць данецкую глебу
Крывёй.

*1947*

* * *

Як вулкан непатухлы, высокі,
Над пасёлкам дыміцца парода,
Падпіраючы пікай аблокі
Усё вышэй
і вышэй з кожным годам.

Паглядзіш —
і ўявіць нават цяжка:
Каб за век свой
звычайны рабочы,
Што насупраць вулкана —
мурашка,
Горы вугалю пераварочаў.

Засланяючы даль краявіду,
Узняліся ўгару тэрыконы,
Шмат вышэйшыя
за піраміды,
Збудаваныя пры фараонах.

*1947*

## НАД МАГІЛАЙ КРАСНАДОНЦАЎ

Прайшла жанчына з дзецьмі асцярожна
Ля агароджы,
кветкамі абвітай,
Як быццам баючыся патрывожыць
Тых,
хто заснуў пад мармуровай плітай.

Пасля заракатаў матор над паркам.
Галовы ўзняўшы,
хлапчукі маўчалі,
Сачылі,
як у паднябессі хмарку
Пятлёю мёртвай
абвіваў знішчальнік.

Здалося раптам,
быццам краснадонцы
Прачнуліся і бачаць, як таварыш
Зігзагам асляпляючым
пад сонцам
Імёны іх выпісвае ў надхмар'і.

А маці ўголас
іх чытае дзецям,
Ім жыць і ў казках,
і ў дзіцячых марах.
Начамі навальнічнымі бяссмерце
Маланкай высякае іх на хмарах.

*1947*

* * *

Уручыў мне не абы там хто —
Казарэнка,
сам Герой Сацпрацы,
Ручку,
як адбойны малаток,
З імяннною лямпаю гарняцкай.

Я паставіў на пісьмовы стол
Гэты падарунак сімвалічны:
Лямпа і адбойны малаток —
Атрыбуты працы гераічнай.

Каб святло яе вяло руку
З гэтай самапіскай па паперы,
Як вядзе святло на маяку
Караблі ў густым тумане шэрым;
Каб, як той адбойны малаток,
Што ўзрушае іскры ў змрочных сховах,
Ручка гэта за радком радок
Выкрасала на паперы словы;

Трэба,
каб я змрочны іх забой
За сталом пісьмовым бачыў вечна,
Помніў,
як вядуць яны ў ім бой,
Гераічны,
але небяспечны.

*1974*

## РАДАСЦЬ

Як толькі ў шахту апусцілі нас,
Наш машыніст не траціў ні хвіліны —
Уздоўж падэшвы спрасаваны пласт
Падгрыз зубамі ўрубавай машыны.

Не спіцца хлопцам,
калі час такі...
А ледзь заснеш —
цябе разбудзіць выбух,
Чуваць, як пад зямлёй падрыўнікі
Ўзрываюць ноччу вугальныя глыбы.

На досвітку апусцішся ў забой...
Разведаўшы таемнасці шахцёра,
Адбойным малатком перад сабой,
Як чараўнік, са сцен збіваеш зоры.

Яшчэ ўсёй глыбы адваліць не змог
Ад маслянiстай каменнай пароды,
А ўжо кавалак вугалю —
ля ног,
Як золата бліскучы самародак.

Якая радасць для цябе тады!
Ты ж у жыцці знайшоў такі занятак,
Што радасцю сваёй
у халады
Сагрэеш і другіх людзей у хатах.

*1947*

## БЕЛАРУСКАЯ САСНА

З кожнай штольні пахне беларускай,
Баравой,
смалістаю сасной...
Пад зямлёй праход нязручны, вузкі
Выглядае просекай лясной.

Столь над нізкім вугальным забоем
Падпірае стойка не адна.
Некаторая з іх над табою
Зарыпіць, як голлямі сасна.

Цісне яе зверху цяжкі камень,
Грунт падрэзаны асеў на ёй
Тысячагадовымі пластамі
На паўкіламетра таўшчынёй.

Не такі цяжар яна ўтрымае,
Выступіць, як пот, з яе смала,
А сасна,
упартая,
прамая,
Хоча зноў прабіцца да святла.

Ты з настойлівасцю вугаль колеш,
Іскры пырскаюць з-пад малатка...
Родная сасна пад цяжкай столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

*1947*

## ШАХЦЁРКА

Апускаешся ў шахту знадворку
Са сваёй неразлучнай шахцёркай —
Цеплынёю абдасць, быццам з лазні,
Дзьмухне вільгаць, як з даўняй алеі,—
І ўгары светлы дзень раптам згасне,
А ў цябе на душы пасвятлее,
І ніколі не сумна, не горка,
Калі побач з табою шахцёрка.

— Нават сіла нячыстая чуе,
Што ў каханні хлапцу не шанцуе,—
Так жартуюць шахцёры з табою,
Калі здрадзіць шахцёрка ў забоі.

А пасля
без усякай прычыны
Пасмяюцца з каханай дзяўчыны,
Што ў капальню цябе надвячоркам
Праважае
другая —
шахцёрка.

Будзе крыўдзіцца дзеўчына тыдзень.
Ёй і ў галаву нават не прыйдзе,
Што хлапцу без шахцёркі штодзённа
Не здабыць антрацыту ні тоны.
Неразлучная лямпа-шахцёрка
Пад зямлёй —
пуцяводная зорка.

*1947*

## СУСТРЭЧА З МАТКАМІ КРАСНАДОНЦАЎ

Франтавікі былыя,
мы маўчалі,
Слязіна бліснула не ў аднаго...
А вы,
іх выплакаўшы ўсе начамі,
На нас глядзелі яснымі вачамі,
Прамытымі слязьмі за трыццаць год.

На здымках не перадалі фатографы,
Як вы
для нас,
пісьменнікаў-гасцей,
Хвалюючыся,
ставілі аўтографы
На вашай кнізе пра сваіх дзяцей.

Алена Мікалаеўна,
не ў сіле
Забыць я,
як мяне самога там
Вы,
маці Кашавога,
папрасілі:
«По-білоруськи вірш чытайтэ нам...»

*1975*

N

* * *

Вось яны, прывольныя прасторы
Роднае зямлі спакон вякоў!..
Паабапал збожжавае мора
Ледзь не хлыне на бальшак з бакоў.

Па-над абеліскамі-слупамі
Дуб-асілак з гордай галавой,
Тройчы расстраляны перунамі,
Выглядае вежай вартавой.

А як пеўні абвясцяць світанне,
Разам з дбайным сонцам аглядаць
Гэтыя бяскрайнія ўладанні
Бусел падымаецца з гнязда.

Апячэ дзяўчына ранкам буднім
Ногі аб расу на мураве,
Ледзяной вады глыне са студні
І курлыкне хрыпла журавель.

Калі бачыў ты, як тут шугае
Бэз ліловы полымем ля хат,
Ад якога сполахі мільгаюць
Ў шыбах вокан і ў вачах дзяўчат;

Як кіпіць перад пачаткам лета
Квецень перагрэтая садоў
І ружовай пенай белацвету
Пырскае на разамлелы дол;

Калі чуў,
як салаўі тут хорам,
Захлынаючыся ад красы,

Прапалосквають,
бы лудзяць, горлы
Срэбнымі крупінкамі расы;

Калі звечара пасля змяркання
Адчуваў,
душою малады,
Як у сэрцах спее тут каханне,
А ў садах —
духмяныя плады;

Калі бачыў,
як святлом барвовым,
Азарыўшы да вяршынь лясы,
Незгасальным полымем ліловым
Тут гараць увосень верасы;

І калі не днямі,
а гадамі
Адчуваў ты зблізку і здаля,
Як тут хлебам, мёдам і грыбамі
Пахне навакол сама зямля,—
Зразумееш ты тады, магчыма,
Не пражыць чаму мне без яе
І чаму ўсё тут перад вачыма
У ружовых фарбах паўстае.

*1958*

* * *

— Дзень добры, Мінск! —
Прамовіць гучна хочаш
І ўсёй душою
Адчуваеш радасць,
Як толькі водбліск сонца
Пырсне ў вочы
З шырокіх шыб
У вокнах Дома ўрада.

Сябрам не ўседзець
На студэнцкім скверы.
Балюча ім глядзець,
Што столькі летаў
Адны вятры
Наведвалі
Праз дзверы
Пусты будынак універсітэта.

Дзяўчаты з раніцы
Ля біяфака
Пясок і цэглу
Носяць на падворак...
Супроць руін
Пайшлі хлапцы ў атаку,
З плячэй
Яшчэ не зняўшы гімнасцёрак.

Цяпер яны
Вярнуліся ў будынак,
Дзе ў аўдыторыях
Калісь вайна застала...
Пад Сталінградам
І каля Берліна

Хлапцы здалі
Экзамены на сталасць.

Адсюль відаць,
Як дужы экскаватар
Настойліва ўгрызаецца ў руіны...
А дзівакі
Спрачаюцца заўзята,
Які там да вайны
Стаяў будынак.

Пасля вясновай сесіі
Начамі
Ён толькі ў сне,
Магчыма, нам прысніцца...
Мы знаем,
Што там будуць камяніцы,
Якіх яшчэ не бачылі мінчане.

Нядарма навакол
Дамоў кварталы
Ўздымаюць
Рыштаванняў мачты ўгору...
Адсюль выразна бачна,
Як з прычала
У будучыню адплывае горад.

*1947*

* * *

Не трывожся гэтак,
маці,
аба мне:
З таго свету
мне няма павесткі...
Ты і ў снах
наведвала мяне,
На вайне
прапаўшага без весткі.

Мо таму
і ў страшным пекле выжыў я,
Як з мяне
ні здзекваліся чэрці,
Бо я ведаў,
родная мая:
Не перажывеш
маёй ты смерці.

І таму я прагавіты да жыцця...
Ты дарма ўстрывожылася, маці:
Ахмялеў я
ад прыліву пачуцця
І ад радасці
прытомнасць страціў.

*1964*

* * *

Адкуль бы ні вярнуўся ў горад родны —
З вагона выйду пад абцасаў стук
І мімаволі позіркам самотным
Заўважу прывакзальны віядук.

Калісьці з шумнай вуліцы Студэнцкай
Цераз чыгунак лініі наўпрост
Штодзень да гарадка Універсітэцкага
Хадзілі мы з табой праз гэты мост,
Дзе на васьмі вятрах каля вакзала —
Само сабой вядомая ўжо рэч —
І горкіх расставанняў шмат бывала,
І незабыўных
радасных
сустрэч.

Пад заравам нябёсаў кумачовых,
Ў палаючага Мінска на віду,
Разгневаныя,
з Колем Сурначовым
Мы рушылі праз гэты віядук
Над воблiскамі паравозных топак
І скрозь трывожнае выццё гудкоў
У гарады сталічныя Еўропы
Без універсітэцкіх гарадкоў.

Майго там сябра вернага не стала...
А гэты віядук перакідны
Астаўся мостам
з маладосці ў сталасць,
Апаленую полымем вайны.

*1966*

## ДОМІК І З'ЕЗДА РСДРП

Цяпер над ім лунае алы сцяг,
А некалі без пазнавальных знакаў,
У новы свет пракладваючы шлях,
Як карабель,
ён выкінуў тут якар.

У ім збіраліся для светлых мэт
Барацьбіты супроць людскога гора...
Вядомым ён зрабіў на цэлы свет
Калісьці непрыкметны гэты горад.

Але ў няроўнай, цяжкай барацьбе
Са штормам і няведамым буранам
Тады б загінуў гэты карабель,
Калі б не трапіў ён да капітанаў,
Якія потым адшукаць змаглі
Шлях карацейшы між падводных скалаў
І карабель наперад павялі,
Змагаючыся з грознаю навалай.

Хоць тут не суднаходная рака,
Ягоны вобраз
з месцаў навакольных
Прычальваў да партоў мацерыка,
То ў Лондане з'яўляўся,
то ў Стакгольме.

У ноч трывожную
яшчэ не раз
Здавацца будзе ворагам за морам,
Што падплывае ён да іхніх баз,
Як грозны крэйсер
з назваю «Аўрора».

Любуюся я ў горадзе сваім,
Як з новых вуліц
і завулкаў многіх
Па Ленінскім праспекце
ўслед за ім
Плывуць дамы да плошчы Перамогі.

*1948—1956*

## УНІВЕРСІТЭЦКІ ГАРАДОК

Ведае
мой не адзін равеснік,
Што Універсітэцкі гарадок
У маім жыцці —
нібыта ў песні
Новы загаловачны радок.

Тут пачаў я штурмаваць навуку,
Калі ўжо фашысты не крадком
Авалодалі ў Мадрыдзе брукам
І Ўніверсітэцкім гарадком.

Думаў я,
што ачумелы вораг
Быў тады на свеце не хадок
У далёкі гэтакі мой горад
І Ўніверсітэцкі гарадок.

Ажно і сюды дабраўся з часам
Ён праз папялішчы ды палын...
І ў падвале корпуса наргаса
Нашым аднакурсніцам былым
Заганяў гарачыя іголкі
Пад пазногці тонкіх пальцаў іх,
Што, бывала, адвячоркам золкім
Саграва лі мы ў руках сваіх.

Давялося кроў праліць да кроплі
Дружбаку майму не аднаму,
З універсітэтаў у Еўропе
Выпякаючы агнём чуму.
За паўсвету,
з актавага зала,

Як і ў даваенныя часы,
Незабыўных
Коласа й Купалы
Чуліся жывыя галасы.

Ад маёй душы вайна трагічна
Аддзяліла мой юнацкі свет
І мой інстытут педагагічны
Ад цябе,
мой універсітэт.

Хоць наш корпус
зараз не галоўны,—
Кожны твой закутак і грудок
Неаддзельны ад мяне ўсё роўна,
Універсітэцкі гарадок.

У твае разбураныя сцены
Цэглу клаў я з дружбаком сваім
І ў даведніках пасляваенных
Значыўся па адрасе тваім.

Лёс мой склаўся так,
што з маладосцю
Ўсё жыццё ішоў я пад руку...
Быў прапісаны
і жыў не госцем
Ва Ўніверсітэцкім гарадку.

*1966*

## МАЙСТАР

З якою радасцю мы першы раз
Пачулі некалі вясновым ранкам,
Як час маскоўскі
абвясцілі ў нас
Вялізныя мясцовыя куранты.

Не раз мы
хлапчукамі ў тыя дні
Палюбавацца плошчаю хадзілі.
Над ёй
майстры
на вежы ў вышыні
Устанавілі гарадскі гадзіннік.

Іх працай кіраваў спецыяліст,
Які спраўляўся
з гэтым абавязкам...
Казалі,
што нібыта ён калісь
Рамантаваў куранты вежы Спаскай.

Калі аб тым рамонце я спытаў,
Дык ён мне адказаў у захапленні:
— Іх капітальна адрамантаваў
Не я,
а самы лепшы майстар —
Ленін.

Што гэта ён змяніў і ход, і звон
Курантаў Спаскіх —
знаюць у народзе.
Зусім на новы час навёў іх ён,
Наперад падагнаўшы на стагоддзі.

Так і ўяўлялася нам,
хлапчукам,
Як некалі да вечара ад ранку
Ільіч
З адвёрткай і ключамі сам
Рамантаваў Крамлёўскія куранты.

Цяпер,
пачуўшы іх пявучы гук,
Я ўспомніў, майстар,
твой адказ цвярозы...
Ты меў не толькі пару ўмелых рук,
Ты сціпласць меў яшчэ
і светлы розум.

*1954*

## ОДА КАРАЛІШЧАВІЧАМ

Каралішчавічы — Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў. Тут доўгі час працавалі Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (Якуб Колас), Кандрат Кандратавіч Крапіва, Міхась Ціханавіч Лынькоў, Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко), Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў, Пятрусь Усцінавіч Броўка, Пімен Емяльянавіч Панчанка.

За баравінамі і такавішчамі,
Куды ў любога —
свой пароль,
Ёсць каралеўства —
Каралішчавічы,
Дзе кожны —
сам сабе кароль.

З вавёрчынымі ціхімі ўладаннямі
Забыты гэты наш Парнас,
Легендамі сваімі і паданнямі
Авеяны цяпер у нас.

Яліна прыдарожная з наростамі
Хавае тую лаўку ў цень,
Дзе Канстанцін Міхайлавіч
у роздуме
Любіў адпачываць удзень.

На мураве пляцоўка ёсць квадратная,
Што помніць таварыскі матч,
Дзе спакваля
вёў рэй Кандрат Кандратавіч,
Узяўшы валейбольны мяч.

Пад соснамі,
нібы пад палісандрамі,
Тут, адчаканіўшы радкі,
Яўген Іванавіч
з Аркадзем Аляксандравічам
Нас выстаўлялі ў гарадкі.

А ў фінскім доме,
за сцяной драўлянаю,
Пергаментны папірус свой,
Як летапісец,
Пімен Емяльянавіч
Нашчадкам скручваў у сувой.

Як толькі распінала поўнач ціхая
Над лесам зорны свой шацёр,
Тут
на чале з Міхалам Ціханавічам
Хлапцы запальвалі касцёр.

На досвітку
ўставаў Пятрусь Усцінавіч,
Што жыў наводшыбе заўжды,
Ішоў да азярца ляснога з цінаю,
Знікаў
няведама куды.

А рана хто ўстае,
жыццём разбуджаны,
Таму,
як кажуць,
бог дае...
І мы ўставалі,
цішынёю спуджаныя,
Тады,
як сонейка ўстае.

Каб не праспаць,

як зацурчыць струменнямі

У жбан салодкі сок з бяроз,

Як салаўі

пад першымі праменнямі

Здзяўбуць з лістоў

зярняты рос.

А хто адгэтуль не вяртаўся з вершамі,

Той бачыў,

дзе

і ў час які

Тут зацвітаюць такавішчы верасам,

Чуў,

як растуць баравікі.

*1971*

* * *

Як вясны чаканай эстафету,
Дрэвы атрымоўваюць лісты...
Толькі мне няма ліста дагэтуль,
Нават весткі не прыслала ты.

Не стрывала сэрца у алоўку —
Вытрымаць папера ўсё магла —
Верш не атрымоўваецца зноўку:
Засланіла ты пейзаж сяла.

Паштальён праходзіць міма брамы,
Атрымоўваюць лісты сябры...
На зязюлін выклік
тэлеграму
Дзяцел адбівае на кары.

Ад пачуццяў нават сэрцу цесна,
Сэрца ледзь не вырвецца з грудзей...
Толькі у мяне
з табой
ды з песняй
Штосьці ўсё не так, як у людзей.

*1956*

## У ДОМЕ ЯКУБА КОЛАСА

Здаецца нават,
што дзвярны праём тут павузеў,
Калі цяпер
сюды ўваходзіш са двара...
Я не прывыкну ўсё ніяк,
што тут цяпер музей
І што самога тут няма гаспадара.

А помніце, сябры,
як некалі ў спякотны дзень
Сюды мы ў госці ім запрошаны былі,
Як бедаваў тады паэт,
што зноў стаіць сухмень,
Што нівы нават ні расінкі не пілі?

Прайшлі дажджы...
З двара чуваць людскія галасы...
Як быццам выйшаў ён падыхаць водарам
сасны,
Палюбавацца,
як закрасавалі каласы
Ім вырашчанага гатунку збажыны.

Барометр на стале
прарочыць ясны дзень з начы...
Ліст недапісан ім...
Я ў сэрцы ўсё збярог,
Як той юнак,
якому жураўліныя ключы
Ён уручыў
і жураўлінае пяро.

*1962*

* * *

Відаць,
прарэктар быў паэтам,
Калі на нарачанскі плёс
З двара свайго ўніверсітэта
Стары барак наш равёз.

Там,
дзе ад вокан выдавецкіх
Сквер загароджваў ён сцяной,
У гарадку Універсітэцкім
Астаўся толькі
строй кляноў.

Клён з галіной адпілаванай,
Што засціла ў акне святло,
Нагадвае, дзе захавана
Было калісь маё жытло.

Не дзеля выпівак і складчын
Не раз заглядвалі сюды
Ваеннай справы наш выкладчык,
Палітработнік малады,
Што меў кар'еру і цвярозасць,
Мог мець чыны
не без падстаў,
А ўзяў ды генералам прозы
Ў літаратуры нашай стаў;

І аспірант худы,
танклявы,
Які стаў доктарам навук...
Ён ад навукі і ад славы
Пасля ажно сагнуўся ў крук.

Тут, адасобіўшыся ў келлі,
І раніцою, і ўначы
Студэнт ціхмяны, як пустэльнік,
Карпеў бог ведае над чым.

А потым неўзабаве мігам
Нашчадак сельскіх урачоў
Заваяваў сваёю кнігай
Па ўсёй краіне чытачоў.

Узяўшы кацялкі ці чайнікі,
Чаргу займалі ў кубавой
І радавыя,
і начальнікі:
Дацэнт-гісторык, сябра мой;
Студэнт, эстэтыкі аматар;
Сусед, хімкорпуса вахцёр;
Сам аўтар роднае граматыкі;
Машыны рэктарскай шафёр.

А кубаўшчыца, печцы чаднай
Шкадуючы казённых дроў,
Дзяліла кіпецень ашчадна
На ўсіх барачных жыхароў.

І саграваў нас, небаракаў,
Крыху прапахлы дымам вар...
Хвала студэнцкаму бараку —
Прытулку нашых дум і мар!

Студэнтаў іншых ён на Нарач
Цяпер прывабліва заве,
Як параход з катлом пад парай,
Што ў край рамантыкі плыве.

*1966*

## СТУДЭНЦКАЯ БЫЛЬ

У бараку пасляваенным
Быў прасторны адзін пакой,
Што ў мяне забіраў нязменна
Сон юнацкі і мой спакой.

Меў ён дваццаць студэнтак статных —
Прыгажуняў,
відаць,
дзяўчат,—
Не разгледзеў я ўсіх астатніх:
На адну заглядаўся шмат.

Вырашыў нейкі злодзей сквапны
Пажывіцца ў сям'і такой...
Каб набытак студэнцкі хапнуць,
Ён залез уначы ў пакой.

Але хтосьці прачнуўся, з енкам
Закрычаў, нібы ад пакут...
Прахапіліся ўсе студэнткі,
Гвалт і лямант узняўся тут.

Злодзей рэчаў не ўкраў,
вядома...
З перапуду,
усё адно
Як з таго вар'яцкага дома,
Ён ледзь выскачыў праз акно.

Як прыбег я на крык з-за сценкі,
Дык з адной з іх не зводзіў воч...
Сталі ўпрошваць мяне студэнткі,
Каб застаўся ў іх на ўсю ноч.

Я застацца рад і без просьбы...
Ім было і няўцям тады,
Што я нават сам не супроць бы
Заставацца
хоць назаўжды.

Вызвалілі яны мне ложак,
І павінен быў я ўначы
Гэтых дваццаць дзяўчат прыгожых
Аж да раніцы сцерагчы.

Тыя трызнілі ноч
пакутна,
Прачынаючыся ад сноў...
Ды,
пачуўшы мой храп магутны,
Засыналі спакойна зноў.

Праўда,
гэткага вартавога —
Толькі ў дзверы,
а не ў акно —
Можна ўкрасці было самога,
З ложкам вынесшы заадно.

І таму
заўжды на выгодзе
Сцерагчы адну быў я рад,
Бо хлапцы
па ўзаемнай згодзе
З часам выкралі ўсіх дзяўчат.

*1968*

## МСЦІСЛАЎ

*Аркадзю Куляшову*

Ля самай мяжы
беларускай зямлі,
На ўскраі
маёй Магілёўшчыны,
Мсціслаўцы
калісь
мяне з долу ўзнялі
Над травамі,
ў смазе палёгшымі.

Хай слава ніколі
Мсціслаў не міне!
Я ўдзячны мсціслаўцу нястомнаму,
Што здолеў
паставіць на ногі мяне
І даў мне прытулак,
бяздомнаму.

Пасля,
праз крывавыя хвалі Віхры,
З сынамі сваімі і ўнукамі
У час небяспекі
Расіі-сястры
Мяне перадаў
з рук у рукі ён.

Не ўсе засталіся жывымі сыны,
Якія,
жыццё сваё славячы,
Якраз на дваццатыя суткі вайны
З Мсціслава
пайшлі на Хіславічы.

Бацькі,
не пытайце ў мяне,
як яны
Адных вас
на свеце пакінулі...
Я ведаю толькі,
што вашы сыны
Сумленна,
па-людску загінулі.

Не кожны ў баі з іх
на роднай зямлі
Браў гмахі
пяціпавярховыя:
Адны —
утрымаць назаўсёды змаглі,
Другія —
адбіўшы,
навек занялі
На ёй рубяжы двухметровыя.

Я сніў,
як ты плачаш у кожным яры
Слязамі
крыніцаў знявечаных,
Калі
са свяшчэннай Дзявочай гары
Нявольніц
пагналі ў Нямеччыну.

Але ўжо,
пранікшы ў збуцвелы вятрак,
Сваёй беларускаю моваю
Друкуе нашчадак Мсціслаўца Пятра
Лістоўку,
што выбухне змоваю.

**Мікола Аўрамчык і Рыгор Барадулін. 1963 г.**



НАМ КРУТЫЯ ПІКІ ПАКАРАЦЬ
ПА-НАД ВОВЛАКАМІ, У ВЫШЫНЯХ...
ШЛЯХ ЦЯЖКІ, АЛЕ ІСЦІ ПАРА:
ПЕРАД НАМІ Ж ГЭТУЛЬКІ ВЯРШЫНЯЎ!

Мсціслаў!
Гэтай назве з далёкіх вякоў
Гучаць як загаду
даручана:
«Захопніку помсці
за смерць землякоў
І справы іх
слаў
неўміручыя!»

І мсцівец рабіў на арыйцаў замах,
І сам я
быў мсцівы з «кацюшаю»...
І помсціла катам прырода сама
Марозам
і лютаю сцюжаю.

Я слаўлю ўсе справы твае,
як магу,—
Працоўныя і гераічныя...
Мсціслаў!
Прад табой я застаўся ў даўгу
За хлеб твой з вадою крынічнаю.

*1964*

## СВЯТЛАНЕ

Дык ты кажаш:
у школе
За гэта імя
Ад свавольнікаў
болей
Праходу няма?..

Бо чарнявая надта
Твая галава,
А цябе нехта жартам
Святланай назваў.

Ты даруй мне за тое,
Што некалі я
Даў табе не такое,
Як хочаш,
імя.

Не заўважыў я нават,
Шчаслівы, тады,
Што ты трошкі чарнявай
Была сапраўды.

Светлы дзень,
што быў святам
За нашым сталом,
Што ўвесь свет,
а не хату
Запоўніў святлом;

Колер поля,
што ланам
Зваў друг франтавы,

Без пары пахаваны
Ля самай Масквы;

І пачуцце адданай
Бацькоўскай любві
Падказалі:
Святланай
Яе назаві.

Быццам позірк твой ветлы
Казаў мне ў цішы:
— За мяне
будзе светла
Ў цябе на душы.

Зразумець жа яшчэ ты
Павінна сама,
Што імя табе гэта
Далі недарма.

*1954*

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ СУРНАЧОВА

Я помню, калі мы,
Студэнты-недавукі,
Дзялілі на дваіх
Салдацкі хлеб...
Тэадаліт і стужку ўзяўшы ў рукі,
Мы вымяралі казахстанскі стэп.

У ранцы за спіной
Быў вопыт небагаты,
І маладых тапографаў узвод
Спяшаўся вывучыць
Ландшафт Карпатаў
Або Мазурскіх выклятых балот.

Калі ж на захад
Нас паклікалі дарогі,
Нам стужку
Не спатрэбілася браць...
Адлегласць доўгую да перамогі
Гадамі давялося вымяраць.

Не раз, бывала, мы
І ў радасці, і ў горы
Жылі надзеяй,
Выхадзіўшы свет,
Яшчэ вярнуцца ў наш далёкі горад
Пад зарывам расквечаных ракет.

І кожны раз,
Калі я толькі бачу блізка
Ракет святочных
Каляровы рой,

Як загрыміць салют
Над стольным Мінскам,
Здаецца мне,
Што не закончан бой.

Як быццам і цяпер
Перад варожым дотам
Знаёмы лейтэнант
З забінтаванай галавой
Наперад кліча ў наступленне
Роту,
Іграючы на сурме баравой.

*1947*

## ВЯНКІ ЯНКУ КУПАЛУ

Вайна.
        Суровае цяжкое лета.
Па вуліцах Масквы плывуць вянкі.
Праводзячы ў апошні шлях паэта,
Вянок яму прынеслі землякі.

І мо таму,
        што ў час той на палетках
Над Нёманам
        і над Беразіной
Прагорклі дымам
        і пажоўклі кветкі,
Палітыя слязамі
        і крывёй;

Ці мо таму,
        што марш гучаў жалобны,
Кранаў да слёз
        і затуманьваў зрок,—
Пабляклым і да іншых непадобным
Здаваўся нам прынесены вянок.

Здавалася тады, чаго ён варт быў,
Хіба ж ён мог раптоўна зацвісці
Вясёлкавымі колерамі фарбаў,
Што ўмеў для песень ты знайсці ў
        жыцці?

«Не,
        толькі не жалобнымі вянкамі
На вызваленай
        дарагой зямлі
Свайго паэта мы ўшануем памяць»,—
Маўкліва клятву землякі далі.

А час настаў —
і клятву кожны здзейсніў:
Мы слову нашаму гаспадары...
Кладуць вянкі духмяных зрубаў цеслі,
Вянкі падмуркаў новых —
муляры.

Навокала пасёлкаў прамысловых,
Адбудаваных сёл і гарадоў
Паклалі мы вянкі палёў жытнёвых,
Вянкі калгасных маладых садоў.

*1952*

## ПЛЁСЫ

*Пімену Панчанку*

Тут раса зіхціць,
нібы патрушчана
І рассыпана нябёсаў шкло...
Юнака прыслалі
на Бабруйшчыну
Працаваць у гэтае сяло.

Плёсы!..
І адразу ўявіш завадзі...
Праўда,
каб не кінуў ты дакор,
Мушу я агаварыцца загадзя:
Тут няма ні рэчак,
ні азёр.

Мо таму
нявопытнаму воку
І не спадабаўся гэты кут...
А якія месцы тут навокал
І жывуць якія людзі тут —
Самі за сябе
гавораць зноўку
Назвы вёсак гэтае зямлі:
Красная Дуброва
і Дубоўка,
Бортнікаў аж двое,
Кавалі.

Людзі тут сустрэнуць і прывецяць,
Бо не горш, як іншыя, жывуць:
Самі ў Кавалёўскім сельсавеце
Шчасце для сябе яны куюць.

І паблізу
                колаў стук чыгунны
Музыку нагадвае ў цішы,
Нават рэйкі граюць, быццам струны,
І грыміць, як бубен, брук шашы.

Можа, зараз ты ўхмыльнешся горка...
А як нудна ад размоў было
Дзесь на Асамблеі, у Нью-Йорку,
Ты прыгадваў гэтае сяло.

*1959*

## ДАРОГІ МАЙГО КРАЮ

Дарогі,
родныя дарогі!..
Як быццам пратапталі вас:
Прамыя —
у часы трывогі,
Лучыстыя —
ў спакойны час.

Жыццё праклала вас на ўлонні
Лугоў,
узгоркаў і палёў,
Нібы маршчыны на далоні
Сярод крывавых мазалёў.

Перакрыжоўваліся грозна
Тут нашы ўласныя шляхі
З шляхамі
крыжаносцаў розных,
Як пікі,
шаблі і штыхі.

Абапал —
у дубровах светлых
Народ мой катаў падсцярог
І пазаблытваў
іх у петлях
Лясных прасёлачных дарог.

Тут,
на зямлі многапакутнай,
Каля дарогі кожны схіл
Асветлен зоркай пяцікутнай,
Узнятай на гарбах магіл.

Калі праходзіць будзеш блізка,
Стань з непакрытай галавой
Ля гэтых сціплых абеліскаў
Салдацкай славы баявой.

Дзе сябры леглі, як снапы,
Там —
        абеліскі край дарогі,
Як на шляху да перамогі
Кіламетровыя слупы.

*1956*

* * *

> На поўначы кедр адзінокі
> Стаіць на пустэльнай гары,
> І снег яго покрывам белым —
> Дрымотай ільдзянай накрыў.
>
> Ён марыць пра пальму, што ў краі
> У далёкай паўдзённай імгле
> Гаротна і моўчкі сумуе
> Адна на спякотнай скале.
>
> *Генрых Гейнэ*

Ля шляху,
                    што вядзе іх
Адзін да аднаго:
Нясвіж —
                    да Гарадзеі
І тую —
               да яго,—
Цар-дуб каржакаваты
З сасной
               свае камлі
У некалькі абхватаў
Ўзаемна абвілі.

Абняўшыся,
                    спіць пара
Амаль сто зім
                         і лет...
У сне і дрэвы марадь,
Як заўважаў паэт.

Дарма тамы паэта
Палілі на кастрах,
Хацелі пару гэту
Звясці ў нявольны край.

Паэт
        у паядынку
Змог выжыць на зямлі...
І дрэвы два ў абдымку
Растуць,
                як і раслі.

Людзей шчаслівых пары
Тут не адной сям'ёй
Клянуцца ім у марах
Аб вернасці сваёй.

*1975*

## АГЛЕДЗІНЫ

Накрыўся дахам-картузом
І стаў у строй будынкаў шэрых
Трохпавярховы новы дом,
Дзе абяцаюць мне кватэру.

Ён на працягу дня ўсяго
Падморгвае
                вачыма вокан,
І мне карціць зайсці ў яго
Ці зазірнуць
                адным хоць вокам.

І вось я з жонкаю прыйшоў
Агледзець гэты дом вясёлы.
Пытаюся ў будаўнікоў:
— Мо прымеце ўжо навасёлаў?

— Рыхтуем пірагі для вас,
А вы не падаеце вестак,—
Дзяўчына кажа мне ў адказ
І тынк замешвае, як цеста.

Зарагатала
                і рукой
Паправіла ў пятліцы астру,
Прыпудраная не мукой,
А вапнаю і алебастрам.

Яны з напарнікам сваім
Запляскалі па сталі тынкам,
Нібы з памоста
                нам двоім
Рукапляскалі безупынку.

Іх кельні варты пахвалы.
— Прыгледзься,— жонка мне смяецца,—
Яго — як вастрыё стралы,
Яе — падобная на сэрца.

З усмешкай скажа мне чытач:
— Раскрыта ўжо кахання тайна...
Чытач, жанчыне ўсё ж прабач
За гэтую сентыментальнасць.

Напэўна, той, хто лынды б'е,
Пра іх сказаў бы так табе:
— Трымаюць тынк, як картаў стус,
Бы на стале, на столі новай
Азартна рэжуць туз на туз,
Чырвоны туз на туз віновы.

А закаханы хто ў каго —
Мы не паспелі разабрацца:
Можа,—
адзін у аднаго,
А мо абое —
ў гэту працу.

*1956*

* * *

*Васілю Быкаву*

Таварыш маёр запасу,
Дазвольце звярнуцца да вас...
Вы лічыце за абразу
Сябе выстаўляць напаказ.

Землятрасенне нібыта —
Гарматаў пагрозлівы рык...
Як рэквіем
па забітых —
Журботны
жураўліны крык...

І вылазка на край свету,
Да ворагаў па языка,
Дзе ўспышка трэцяй ракеты,
Як здрадлівы ўсплеск цесака.

Калі дажыць да світання,
Калі пратрымацца да дня,
Дык могілкамі
не стане
Праклятая вышыня.

Такое трэба сумленне
І сціпласць суровую мець,
Як тое паведамленне
Пра вашу заўчасную смерць.

Даўно пад Кіраваградам
Пастаўлены вам абеліск...
Што вы — жывы — мы ўсе рады!..

Пакольki мёртвым не баліць,—
Ад іх імя
парой мірнай,
Прыклаўшы да брыля руку,
Навыцяжку стаўшы смірна,
Як належыць франтавіку,
Вам чэсць аддае з пашанай
Ўваскросшы з мёртвых,
жывы,
Без вестак прапаўшы рана
Гвардыі радавы.

*1973*

## ПЕСНЯ ПРА МІКАЛАЯ ГАСТЭЛУ

Калі захопнікі прыйшлі ў маю краіну,
Жадаючы з зямлі народ наш сцерці,
Ты з вышыні
У твар чужынцам кінуў
Нянавісцю палаючае сэрца.

Як метэор, што азарае свет,
Ты праляцеў над Беларуссю роднай,
Навек пакінуўшы глыбокі след
У неўміручай памяці народнай.

Мы не развітваемся, капітан, з табою,
Бо днём і ноччу,
вечарам і раннем
Над роднаю савецкаю зямлёю
Выконваеш ты
важнае заданне.

Нядарма землякі пасля змяркання,
Заўважыўшы, як зорка праляцела,
Гавораць, што вяртаецца з задання
Бясстрашны лётчык капітан Гастэла.

Як метэор, што азарае свет,
Ты праляцеў над Беларуссю роднай,
Навек пакінуўшы глыбокі след
У неўміручай памяці народнай.

*1948*

## ВЯСНА

Не вытрымаўшы больш на санцапёку,
Бярозы белыя,
                што зранку млелі,
Набухлыя саладкаватым сокам,
Раптоўна неяк
                выпырснулі зелень.

І ў бочцы, і ў вядры
                пазелянела газа,
Якой гарачы трактар запраўлялі...
Нядарма трактарыст
                падбавіў газу
Так,
    што машына ірванула ўдалеч.

Акінуў позіркам
                абшар бязмежны,
Што і за тыдзень не ўзарэш на конях...
Цяпер пад трактар
                плуг бы столямешны,
Каб гнаць барозны шырынёю ў гоні.

З сусекаў просіцца ў зямлю насенне.
Спяшае заклапочаны араты...
Такой парой гарачай
                за паўзмены
І ў свірне могуць прарасці зярняты.

*1948*

* * *

*Максіму Танку*

Калі запеў ты некалі ў гаі,
Не сталі гнуць у ім
мядзведзі дугі
І сціхлі
ад здзіўлення салаўі,
Што толькі
надрываліся з натугі.

Прыйшоўся даспадобы нам усім
Твой спеў пра край азёрны,
маляўнічы,
Хоць твой непаэтычны псеўданім
Тады
нам не здаваўся ваяўнічым.

Быў танк ІС
з таўшчэзнаю бранёй,
У якім былі
мы ўпэўнены без меры...
Жыццём сяброў
і ранняй сівізной
Мы паплаціліся за гэту веру.

Знят з узбраення,
бо ўстарэў зусім
Славуты «максім»,
кулямёт станковы...
А ты ўсё не старэеш,
Танк Максім,—
Гады ідуць,
а ты штодзённа
новы...

Бо ў паэтычным кідаеш баі
Ты
    словы,
            як снарады баявыя,
І следам
        наступаюць у страі
Паэзіі
      гвардзейцы радавыя.

*1964*

## ПЕРШАЕ ВОРЫВА

Даўно ўжо растал снягі.
Аратыя выйшлі на спробу...
Ад сонца блішчаць плугі
І твары у хлебаробаў.

Хлапцы акуратна,
з густам
Ўздымаюць скібамі дол,
Нібы для гасцей на стол
Адрэзваюць хлеба лусты.

Зярняты —
хоць зараз сей.
Зверху прыпарвае ў плечы,
Насустрач у твар нясе
Водарам кменным, як з печы.

Не адысці аніяк
Ад цёплай вясновай глебы...
І ўжо адчуваеш смак
Новага свежага хлеба.

*1948*

## ПАЎНОЧНЫ ЗАВУЛАК

Паўночны завулак,
Твой цёплы пакой
Даваў нам прытулак,
Спачын і спакой.

Высока на ганку
У доме старым
Збіраліся зранку
Па святах сябры.

Не ўсе ў гімнасцёрках,
Не ўсе ў медалях,
З пагонамі ў зорках
На іх шынялях.

Ступалі з палёгкай
Праз нізкі парог,
Прыйшоўшы з далёкіх
І цяжкіх дарог.

Прымалі ў абдымкі,
Садзілі да чар
Сястра —
гаспадынька
І брат —
гаспадар.

Згадай, як у першы
Адзін з вечароў
Чыталі мы вершы
Сяброў,
што не вернеш,—
Палеглых сяброў,

Як мы ў тваёй келлі,
Паэзіі клуб,
Спраўлялі вяселлі,
Змацоўвалі шлюб.

Сябры-раманісты,
Сяброўкі-ўрачы,
Сябры-намміністры,—
Каб вас не ўрачы!

Другі ў вас прытулак...
А помніце той
Паўночны завулак
І ўтульны пакой?..

*1971*

## ДЗЯДЗЬКА МАКСІМ

Са скрыгатам крышацца крыгі,
Аж іскры ляцяць ад ільда...
Пры гэткай паводцы вада
Падымецца з рэчкі на выган.

Пацягнецца выган да сонца
Зялёнай травой маладой.
Да самых краёў сырадой
Запеніцца ў звонкай даёнцы.

А з фермы даяркі тым часам
Раскажуць суседкам сваім,
Што з вопытам дзядзька Максім,
Пастух, якіх мала ў калгасах.

Няма на імшарах палескіх
Скалістых аснежаных стром...
За вёскай — лугі, пералескі,
Бяскрайняе поле кругом.

Выглядваюць хмаркі над борам
Яшчэ не расцвіўшую сінь...
Любімыя змалку прасторы
Рукамі абняў бы Максім.

Жаданне такое не ўтоіш...
Але ўстрапянецца рука
І спрытна падцісне за пояс
Пусты непатрэбны рукаў.

А ў слоту, кароў пасучы,
І пад брызентовай накідкай
Максім прамакае да ніткі,
Балюча шчыміць у плячы.

Другія
Максімаў занятак,
Відаць, праклінаілі б даўно,
А дзядзька,
прыгнаўшы свой статак,
З усмешкай сцвярджае адно:

— У вёсцы ў любога мужчыны
Больш цяжкі рабочы сезон...
Пастух жа бярэ адпачынак
На сотню якіх-небудзь дзён.

Таму пастуху і не шкодна,
Не крыўдна пры ўмовах такіх
Пад золкай імжой перадрогнуць
І вымакнуць больш за другіх.

*1948*

* * *

*Івану Мележу*

А помніш ты,
                як на Палессі,
Каля дарог і бальшакоў,
Я ў вёсках прагна слухаў песні
І гутарку палешукоў?

Як мы сядзелі на бярвеннях
І аж прыжмурыліся ўдвух
Ад зыркай белізны каленяў
У загарэлых маладух,
Што ўброд ішлі праз Лань, як серны?..

Зноў адчуваю,
                як даўней,
Дыханне Прыпяці
                і сена
Пах
      на пароме ў будане.

То цень ад чаплі
                навакола
Машыны сноўдае ў глушы,
То бусел узляціць з-пад колаў
І сядзе ззаду на шашы.

На вуліцы спакойна ў вёсцы,
Калі дрымучы бор дрыжыць
Ад рокату ракетаносцаў,
Што гойдаюць ялін крыжы.

Напоіць Брагін брагай хмельнай —
І ўявіш Хойнікі ўжо ты

Ля хвойніку,
                          ля Ельска — ельнік,
А каля Жыткавіч — жыты.

І ўсюды тут не гэтак многа
Выбоінаў і каранёў,
Як сустракалася дарогай
Ад Глінішчаў да Куранёў.

*1968*

## ПАМЯЦІ АЛЯКСЕЯ КОРШАКА

У дзень твайго пяцідзесяцігоддзя
Мы без цябе ў славутым Капылі
На ўзгоркі звечарэлыя ўзыходзім,
Дзе пры жыцці тваім не пабылі.

З вяршыняў іх твайго жыцця пачатак
Выразней і яскравей нам відзён,
Юнак з той вёскі,
у якой дзяўчаты
Красою славяцца на ўвесь раён.

Мяне па нашым даўнім фотаздымку
Твая старая маці пазнае
І кідаецца са слязьмі ў абдымкі...
А чым жа ўцешыць я магу яе?..

Як быццам ты крыху не задаволен
У залацістай раме на сцяне,
Што без твайго дазволу
ў роднай школе
Твае чытаюць вершы вучні мне.

Прабач і не крыўдуй,
што не гатоў я,
Каб размаўляць уголас,
як з жывым,
З табою,
мёртвым,
дваццаціпяцігадовым,
Які
навек застаўся маладым.

*1970*

## РОДНАЕ

Дарагі Іван Дамінікавіч,
Змалку
я лічу вас родным,
сваім.
Вы пакінулі скарб вялікі мне,
Дзецям спадчыну
і ўнукам маім.
Мне яна каштавала дорага.
Я цяжкой парой,
праз родны парог,
Стрымліваючы націск ворага,
Нават развітацца з вамі
не змог.

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч,
Абавязаны вам я
на вякі.
Выйсці ў людзі
мне памагалі вы,
Бласлаўляючы з лёгкае рукі.
Але перад вамі нявінны я,
Што з гарачага жніўня на палях
Не дайшоў з раёна глыбіннага,
Не праводзіў вас
у апошні шлях.

Дарагая Уладзіслава Францаўна,
Вас матуляю
я назваць бы мог.
У паэзіі
нававбранцаў, нас,
Прывучалі вы
да шляхоў-дарог.

Палюбіў я іх
з дзіўнай сілаю
І дамоў
як ні спяшаўся з адной,
А сустрэўся толькі з магілаю,
Не пабачыўшыся
з вашай труной.

Дарагія цёткі
Маня з Лёдзяю,
Перад вамі я
нізка б'ю чалом.
Як да родных,
да вас заходзіў я,
Частаваўся
за гасцінным сталом.
А ў пару пахавання кожнае
Не стаяў у жалобе над труной:
Праз мае паездкі дарожныя
З вамі не развітаўся
ні з адной.

Як з жывымі,
гутару сардэчна я,
Бо не бачыў вас, мёртвых, у труне.
І таму вы ўсе
на векі вечныя
Засталіся жывымі для мяне.

*1974*

* * *

*Уладзіміру Караткевічу*

Ты ж знаеш,
як паэзію — у прозе
І прозу — у паэзіі знайсці...
Трагічнае з камічным,
смех і слёзы

Суседнічаюць побач у жыцці.
Калі прыгадваю,
як нас стварэнні
З аўчаркамі,
пад гергетанне: Los! [1]
Ганяюць
з аўтаматамі на Рэйне,
Дык мне цяпер не моташна да слёз;
Але,
калі ўяўлю,
як цэлы статак
Такіх ваякаў,
нібыта авец,
У гэты ж самы час,
без аўтамата,
Адзін цыбаты малады хлапец,
Узброены вучэбнаю вінтоўкай,
Вядзе па стромкім беразе Дняпра,
Дык мімаволі рассмяюся зноўку...
Няма на свеце ліха без дабра!

*1978*

---

[1] Ios! *(ням.)* — Давай! Пайшоў!

# ІРЫНЕ

Грэцыя, пакутная краіна,
Мне даўно спакою не дае...
Паўналецце ж у цябе, Ірына,
І таму я ўспомніў пра яе.

Калі ты бацькам зірнула ў твары,
Пачала жыццё ў людской гурме,—
У прысуджанай да смерці пары
Там радзіўся сын тады ў турме.

Бацька сына, з сэрцам палымяным,
У руцэ з гваздзікай [illegible] родных гор,
Па-зладзейску быў там расстраляны,
Фарамі аслеплены ва ўпор.

Не адчуўшы матчынай пяшчоты
З першых месяцаў свайго жыцця,
Заставалася ў астрозе потым
Сіратой гаротнае дзіця.

Дзе ён зараз мучыцца ад смагі,
Не пытайся ты ў мяне дарма:
Там уся краіна, як канцлагер,
Як адна суцэльная турма.

У той час, як гэтую краіну
Закруціў пасляваенны вір,
Мы далі табе імя Ірына,
Што па-грэчаску абазначае мір.

Каб ты пражыла пад зоркай міру,
З мірнаю душою на віду,
Каб ты сэрцам адчувала, Іра,
Боль і чалавечую бяду.

*1968*

## «ПОЛЫМЮ»

Перад табой я кланяюся нізка
За тое, што ў бацькоўскай старане
Адну сваю малюсенькую іскру
Закінула калісь
ты ў сэрца мне.

Калі я быў далёка ад Айчыны,
Дзе не магло сагрэць тваё цяпло,
І ў сне,
і ў час трызнення прад вачыма
Мільгала кожны раз тваё святло.

Там, пад зямлёй,
сярод шматмоўных плыняў,
Што ў цемры шлях шукалі да святла,
Быў кропляй я
ў халоднай ручаіне,
Якая да агню твайго цякла.

Пасля я да цябе туліўся блізка,
Не рукі грэў табою —
не хлушу,—
Я кожнаю тваёй маленькай іскрай
Адграваў настылую душу.

Ад іскры Ільічовае
навечна
Запаленае думкай землякоў,
Ты
не датлееш памінальнай свечкай
Па мове нашых матак і бацькоў.

*1963*

* * *

*Сяргею Грахоўскаму*

Ад Глуска да Краснага Берага
Дарога па ўскрайку сяла
Праз Плёсы мае перабегла
І ў сэрцы тваім пралягла.

Таму недарэмна ў ваколіцах
Нам дарагі змалку былі
Не толькі Залессі з Заполлямі,
Але і лясы, і палі.

Ў якім-небудзь Парадысдорфе [1],
Дзе, быццам у пекле, я слеп,
Цаглінаю нашага торфу
Здаваўся сухі эрзац-хлеб;

Або ў якім-небудзь Таежным,
Дзе праз крыгаход
па вясне
Няўлежна было і няўежна,
Начамі ты бачыў у сне,

Як дома
між лозамі ніцымі
Буяюць ажно буякі...
Ўсміхаўся ты ў сне,
што дурніцамі
Завуць іх у нас землякі.

*1966*

---

[1] Райскае *(ням.).*

## МАСКВА

Сягоння зноў мне памяць падказала
І дні, і лічбы
                    векапомных дат,
Калі
       я з Беларускага вакзала
Ступіў на твае плошчы,
                                    як салдат.

Пражэктары,
                    як біўні агнявыя,
Штоночы ззялі бліжай і святлей...
Было нам крыўдна,
                              што ў часы такія
Не можам мы наведаць Маўзалей.

Здавалася,
               што неўміручы Ленін
У поўнач паўстае перад табой
І па-бацькоўску
                         шчыра і з натхненнем
Нас благаслаўляе
                         на рашучы бой.

Таму і слеплі «юнкерсы»,
                                       як совы,
І вобземлю ляцелі ў час вайны,
Не закрануўшы
                         зорак рубіновых
Над вежамі Крамлёўскае сцяны.

Хто бачыў,
               як з ускраін, міма дзотаў,
У суровай і ўрачыстай цішыні

Ішлі за горад маршавыя роты
У памятныя снежаньскія дні,—
Той зразумеў,
чаму ніякі вораг
Не патушыў
крамлёўскіх зор святло,
Чаму цяпер на ўсёй зямлі гавораць:
— Для нас з усходу
сонца узышло.

*1947*

## МЫ НАРАДЗІЛІСЯ ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА

Бывала,
хто-небудзь старэйшы з блізкіх
Нам, акцябратам,
памяне з задорам,
Што нібыта калісь
яго калыску
Ускалыхнула выстралам «Аўрора»,—
І мы ад захаплення аж нямелі...
Было нам неяк зайздрасна і шкода,
Чаму такога шчасця мы не мелі,
Чаму Кастрычнік нам не аднагодак.

Але і нас, малодшых,
назаўсёды
Сагрэў ён піянерскімі кастрамі...
Яшчэ падросткамі
мы ў непагоду
Ганяліся на лыжах за вятрамі.

Чапаеў,
каб наведаць нас,
з экрана
Імчаўся праз свінцовыя віхуры...
Мы ў сне ўздымаліся
пад'ёмным кранам
Над плошчай Камсамольска-на-Амуры.
І ўжо тады маглі абгрунтавана
Расказваць нават і без класнай карты,
Ў якіх мясцох бацькамі пахаваны
Сябры-гвардзейцы
ленінскага гарту.

А юнакамі
у самы найцяжэйшы
З тых дзён суровых у жыцці Айчыны
Пад Сталінград
на выручку старэйшым
Мы не спазніліся ні на хвіліну.

І наша пакаленне маладое,
Якое выстаяла пад цяжарам,
Ажыццявіць з настойлівасцю тое,
Што выспявала ў бацькоўскіх марах.

Для нас таксама хопіць спраў выдатных...
Яшчэ нашчадкі пазайздросцяць хлопцам,
Якія сцяг пранеслі, як салдаты
Вялікіх з найвялікшых палкаводцаў;
Якія ўмелі,
скінуўшы шынелі,
Валодаць і варштатам, і сякерай
І адчыніць у камунізм паспелі
Для чалавецтва сонечныя дзверы.

*1947*

## СЛОВЫ ПАЭТА

Калі з калонаю паходнай
Праходзіш мінскія кварталы,
Заўсёды чуеш голас родны
І словы нашага Купалы.

З усходу,
ад шашы Маскоўскай
Ідуць святочныя калоны...
Узняты сотні рук сяброўскіх
Да полымя сцягоў чырвоных.

Жывая плынь раскалыхала
І транспаранты, і плакаты...
Са сквера, на рагу, Купала
Любуецца народным святам.

Аркестр паходны марш іграе,
У барабан б'юць,
быццам басам
Здалёку хтосьці час ад часу
Сябе самога ўсё пытае:
«А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?»

Адказвае калона песняй:
«Мы, беларусы, з братняй Руссю».
Сцягі шумяць на ветры веснім:
«Беларусы. Беларусы».

Лягчэй ісці паходным крокам.
Шлях прад табой раскрыты насцеж,
І ты ўздымаеш сцяг высока,
Як гонар наш і наша шчасце.

Ты чуеш зноў знаёмы голас
Свайго любімага паэта,
Які з усмешкаю вясёлай
Упэўнена гаворыць свету:

«З Масквы, з Крамля хадой удумнай,
Усенароднай, чалавечай,
Праз поле, поплавы, буруны
Ідзе, таварышы, камуна
На свеце шчасце ўвекавечыць!»

*1951*

## НАТАШЫ

> Ах, Наташа, Наташа,
> Еще не вчера ли
> Подходящее имя
> Тебе выбирали...
>
> *Сяргей Смірноў*

Толькі першынцам сваім
Выбіраючы імёны,
Суджана бацькам усім
Мудрагеліць задумёна.

А вялікая сям'я —
Як дае імя дзіцяці,
Бацька ўспомніць пра імя
Роднае ягонай маці.

Прыгадаў яго і я...
Мне, збянтэжанаму бацьку,
Гэтае табе імя
Давялося даць знянацку.

Бо, паверыўшы ўсур'ёз,
Мы чакалі з маці сына,
Як прадказваў ёй прагноз
Верных служак медыцыны.

Ды не час, відаць, дачка,
Нарадзіцца хлопцу ў свята
Восьмага сакавіка,—
Кпілі б з беднага дзяўчаты.

І таму ў Жаночы дзень
У мяне была прычына
Прыгадаць з усіх людзей
Гэту перш за ўсё жанчыну.

Каб расла ты,
думаў я,
Вартая яе,
насіла
З гонарам яе імя
І ўдвайне ім даражыла.

*1968*

* * *

*Леаніду Дайнеку*

З варагаў водны шлях вялікі ў грэкі
Згубіўся ў забалочанай траве...
Перасыхаюць і мялеюць рэкі,
А Свіслач па-ранейшаму плыве.

Адкуль калісьці ў берагах Нямігі
З крывёю хвалі мутныя цяклі,
Цякуць людскія веды з Дома кнігі,
Разносяць нашы думы па зямлі.

А там,
дзе асушала хмельны келіх
Дружына каля княжацкіх палат,
Вясёлыя студэнцкія вяселлі
Спраўляе калектыўна інтэрнат.

Цяпер адсюль,
куды з далёкіх земляў
Захопнікі прыносілі вайну,
Спакойна едуць маладыя сем'і
Асвойваць глухамань і цаліну.

Перасыхаюць і мялеюць рэкі,
Ды толькі не пусцее ў галаве
З вякамі,
з цягам часу
ў чалавека —
І слова першароднае
жыве.

*1978*

## НА ЦЕПЛАХОДЗЕ «ЯНКА КУПАЛА»

Праз палескія абшары
Праплываў наш цеплаход,
Дзе вазіў мяне таварыш
Неаднойчы з году ў год.

Помніш, як нас кацер гушкаў,
Дзе раскінулі мы стан,
Як цябе рыбацкай юшкай
Частаваў я,
капітан.

Як ты заспакойваў словам:
«Больш дымку б!.. Нішто на смак!..»
Кок з мяне не адмысловы,
Гэткі ж самы, як рыбак.

Непрадбачлівы мой розум:
Лез да горла я з нажом —
Расхваліў сваю Бярозу,
Краявіды над Сажом.

Вы з механікам не згодны,
Ўпартыя палешукі:
«Наша Прыпяць паўнаводней!..
Прыгажэй няма ракі!»

Даспадобы мне вы,
хлопцы,
Я за тое вас люблю,
Што ўлюбёныя бясконца
Вы
ў палескую зямлю.

Цеплаход падаў свой голас,
Скалануўшы берагі.
Адгукнуўся «Якуб Колас»,
Стрэчны цеплаход другі.

І здалося,
«Іван Мележ»
Цеплаход
аклікнуў даль...
Для яго ўжо
Прыпяць сцеле
Пенную дарожку хваль.

*1977*

* * *

У калгасе «Шчара»
на канцэрце-лекцыі
Шчырымі гасцямі
ў школе
мы былі.
Шчыравалі шчыра,
што ажно з калекцыі
Ажылі,
ўзляцелі
да столі
матылі.

*1975*

## ДАРОЖНЫ НАДПІС
## КАЛЯ РАДАШКОВІЧ

Хто б ты ні быў,—
наведаеш калі
Прыгожы і свяшчэнны гэты кут
Свабоднай беларускае зямлі,—
З пашанай пакланіся ёй,
бо тут
Купала нарадзіўся на свет белы
І ў бітве з ворагам
згарэў Гастэла.

*1965*

* * *

*Анатолю Грачанікаву*

Раскінуліся дзве палескіх вёскі
На супрацьлеглых берагах Сажа.
Тут розных песень чутны адгалоскі:
Рака — паміж народамі мяжа.

У гэтай, што над стромаю, бывала,
Хавалася ў сасновыя бары,
Вяселлі ў хатах гралі на цымбалах,
На вуліцы спявалі гусляры.

У той, што ў лузе між вярбін імглістых,
З далёкай незапамятнай пары
У мазанках спявалі бандурысты
І на майдане гралі кабзары.

Цяпер з маторкі ўжо на вечарынцы,
Як з душагубкі ў даўнюю пару,
У гэтай паяўляюцца ўкраінцы,
А ў той — за беларусам беларус.

І некаторыя сабе у жонкі
Павыкрадалі маладых дзяўчат
З прывабнае суседняе старонкі —
Не толькі з-за Сажа, а з-за Карпат.

*1975*

* * *

Недалёка ад горада Ліды,
Дзе шумеў, пэўна,
лес вякі,
Ёсць адна з беларускіх Лідзіц —
Вёска
з назваю
Леснікі.

Колькі ў ёй спявалася песняў,
Колькі выйшла з яе двароў
Бондараў,
смалакураў,
цесляў,
Плытагонаў і сталяроў!

Дзе дамоў
збудавалі многа
Землякам яны
на ўспамін,
Не знайшлося
ў вёсцы нікога
Нарабіць для іх дамавін.

Наляцелі карнікі-каты
Раніцой маладой сюды,
Парасстрэльвалі ўсіх у хатах —
І агнём замялі сляды.

З попелам астанкі ахвяраў
Навакольны люд
на свой страх
Пахаваў на месцах пажараў
У гародах і на дварах.

Над іх прахам
маці застыла,
Скамянела ў журбе навек...
Хаты выраслі...
А магілаў
Са двара не знёс чалавек.

Побач буслаў чуецца лёскат
У гняздзе
ў гумне на страсе...
Як на вышцы,
пільна
над вёскай
Ён жыцця ахову нясе.

*1972*

## ВЯРТАННЕ

На платформе
Беларускага вакзала,
Цягнікоў усіх
парушыўшы расклад,
Ушаноўваць будзе нашага Купалу,
У дарогу выпраўляючы,
Масква.

Не цягнік,
што урну павязе дамоў,
Коламі застукае,
як марш зайграе,
А паэтава
заб'ецца сэрца зноў,
Прадчуваючы
сустрэчу з родным краем.

Час ад часу будзе выдыхаці пару
Ды адсопвацца раз-пораз
паравоз:
Не вазіў яшчэ ён
гэткага цяжару,
Хоць за век свой
шмат чаго ён перавёз.

Умясціла
гэтая малая урна
Ўсе абпаленыя пушчы і гаі,
Што калісь
забраў з сабой
Купала хмурны,
Выгнаны вайной
у братнія краі.

Праязджаючы
паўстанкі і вакзалы,
Паравоз гудком абвесціць
праз палі
Беларусам,
што вяртаецца Купала,
Набліжаецца
да роднае зямлі.

І з усіх куткоў,
узяўшы кветкі ў рукі,
Выйдуць землякі
насустрач песняру...
Аж праз доўгіх дваццаць год
пасля разлукі
У абдымкі яго прыме
Беларусь.

*1962*

## ЛІСТ ДА МАЦІ

Хто б ні насіў табе дахаты
Мае паштоўкі і лісты,—
Не знае ён, што мой занятак
Не прызнаеш за працу ты.

Як толькі ўгледзіш торбу гэту
У каго-небудзь на баку,
Якую ты у тое лета
Перадала мне,
                юнаку,—
Агорне скруха мімаволі
І крыўдна зробіцца да слёз,
Што я ўтрымаць яе не здолеў
І праз жыццё ўсё не пранёс.

А колькі ж радасці і шчасця —
Лістоў, паштовак, тэлеграм —
У ей,
        заўжды раскрытай насцеж,
Перанасіла ты людзям!

І як бы я быў задаволен,
Што выпаў мне шчаслівы лёс,
Каб гэтай радасці хоць долю
Табе і іншым я прынёс.

Табе без працы цяжка, знаю,
Ды толькі як дапамагчы,
Калі ўжо торба скураная
Не на тваім вісіць плячы?

А мне ў жыцці яшчэ патрэбна
Табе аддзякаваць як след,

Што ты мяне
                не з кайстрай зрэбнай,
А з ёю выправіла ў свет.

Як з торбай той,
                раскрытай насцеж,
Ішла да вёскі ты шашой,
Я да людзей хацеў бы,
                маці,
Ісці з адкрытаю душой.

*1959*

## ПАЭТАМ «МАЛАДОСЦІ»

Не ўявіць абсягі вашых мар,
Дзёрзкасць вашых думак,
наша змена.
Вас усіх
я добра помню ў твар,
Ведаю любога з вас пайменна.

Два з паловаю дзесяткі год
Дзень пры дні
мы з вамі побач ходзім...
Можа,
і душою ад таго
Я памаладзеў
на чвэрць стагоддзя.

Так як піяніст са спеваком,
Толькі не па клавішах і нотах,
А ў агульных сшытках і ў блакнотах
Колькі з кожным я сыграў радкоў!

Хоць я не кадзіў вам фіміям
У пакоях рэдакцыйных дымных,
Хто мне з вас
не спавядаўся там
У памылках
і ў грахах інтымных.

Цяжка вам караскацца было
На Пегаса дзікага
няспынна,
Ды не спрабавалі вы
сядло
Пад сябе ўскладаць яму на спіну.

Бо калі ўжо выб'е хто з сядла,—
Ногі павыкручваюцца ў стрэмях...
Доля,
        што на скачках падвяла,
На кані і пад канём сустрэне.

Зычу,
        каб не толькі вы грудзьмі,—
Розумам і сэрцам бралі слова
І каб заставаліся людзьмі
Пры любых абставінах і ўмовах.

Рыфму дзеяслоўную знайсці
Навучыць няцяжка і няўмеку.
Шмат цяжэй,
                        па-мойму,
                                    у жыцці
З невука выхоўваць чалавека.

*1977*

## ЗНАЁМСТВА

*Герою Сацыялістычнай Працы*
*В. М. Хурсану*

У кавальскім цэху «Гомсельмаша»
Пачуў я прозвішча: Хурсан...
Не знаў я пры знаёмстве нашым,
Які твой чын,
які твой сан.

З рабочых ты
ці з культработнікаў?..
Я толькі знаў,
што Хурсаны
З Малых
або з Вялікіх Бортнікаў —
Маёй Бабруйшчыны сыны.

Відаць,
таму і назва Бортнікі,
Што ў гэтых вёсках жыхары
Былі спрадвеку
толькі бортнікі,
Што азначае пчаляры.

Але не ўтойвалі сакрэтаў
Кавальскай справы
ў Кавалях:
Мяжуюць нашы сельсаветы,
Злучыў іх сёння новы шлях.
Цяпер у Бортніках
з'яўляюцца
На свет
героі-кавалі,

А ў Кавалях цяпер
раджаюцца
Майстры калгаснае зямлі.

Прыемна мне
сваёй рукою
Пацiснуць дужую руку
Не толькi
кавалю-герою,
Але яшчэ
i земляку.

*1974*

* * *

> Я жыву на вуліцы Купалы,
> І яго таполя мне відна.
>
> *Пімен Панчанка*

Там,
дзе ў Ленінскі праспект
плыве
Паабапал
вуліца Купалы,
Даўні
шчыры сябра мой жыве
У кватэры
на рагу квартала.

Як
паэты слова тут бяруць
У купалаўскім
зялёным скверы
Перад манументам песняру,
Сябру бачна
і чутно з кватэры.

Я не знаю, іншым як каму,—
Але мне заўжды ніякавата
Тут,
дзе добра бачна ўсё яму,
Выступаць на паэтычных святах.

Бо пясняр не вынесе прысуд
У паставе
велічна-лірычнай...
Сябра ж мой —
бескампрамісны тут,
У ацэнках ён катэгарычны.

І здаецца мне,
што ўсё адно

Нават
калі зменіць ён кватэру,—
Будзе і адтуль яму відно,
Што
і
як
мы пішам на паперы.

*1976*

## ВЯСНУШКІ

Хлапчуком з густой чупрынай
І з вяснушкамі на твары
Я залазіў на адрыны,
Ветракі і ясакары.

Жартавалі ўсе, бывала,
Як збяруцца ў нашу хату:
«Бач, прырода пакарала,—
Гнёзды ластавак не кратай,—
Як яйцо, размалявала
Рабаціннем
нос кірпаты».

Толькі ў класе ў нас
дзяўчынка,
На якую ўвагі зроду
Не звяртаў на перапынках,
Спачувала мне заўсёды.

Я злаваўся...
За вяснушкі
Крыўдна мне было да болю:
Я ж гнязда ніводнай птушкі
Не крануў рукой ніколі.

І хіба ж былі не мною
Змайстраваны ўсе шпакоўні,
Што развешваў я вясною
На бярозах і на клёне?

З году ў год
са свістам стружкі
Са снягоў вятры стругалі...

Адляталі ў вырай птушкі,
Прыляталі. Адляталі.

Вечары. Сяло. Гулянкі.
Пах садоў мяне дурманіў.
І дзявочыя вяснянкі
Непакоілі ў тумане.

Я вяснушкі ўжо прыкмеціў
Ў аднакласніцы на твары...
На адну яе на свеце
Я звяртаў увагу зараз.

Чым бы скончылася гэта
У далейшым —
невядома,
Калі б мы вучыцца летам
Не раз'ехаліся з дому.

Праляцела год нямала...
І цяпер
у адпачынку
Усё такую ж, як бывала,
Я сустрэў яе з дзяўчынкай.

Тое ж крапінне рабое —
На шчаках яе дачушкі...
І смяёмся мы абое:
— Ах вяснушкі!..
— Ах, вяснушкі!..

*1958*

* * *

Не паспеў я прыехаць
у родную вёску,
Як са мной ні спяшаў
пасажырскі састаў...
Можа, ўрэшце
мы пагаварылі б па-свойску,
Ды жывую цябе
я, на жаль, не застаў.

Часу вольнага
ўсё для цябе было мала,
Працай вечна
бывала занятая ты...
Я заўсёды
чамусьці бянтэжыўся, мама,
Ад сумлення твайго
і тваёй дабраты.

Прад табою
вяскоўцы з галоў знялі шапкі,
А жанчыны,
з якімі ты жала ў палях,
Прад табой
раскладаюць яловыя лапкі,
Усцілаючы імі
апошні твой шлях.

Можа,
гэта ўжо выраслі тыя яліны,
Што ты нам
шкадавала на ёлкі ссячы,
І цяпер прад табою схіляюць галіны
І з пашанай праводзяць цябе на спачын.

Мікола Аўрамчык, Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч.
1978 г.



ЗДАЕЦЦА, ПЕРШЫ РАЗ ЗА УСЁ ЖЫЦЦЁ
ЦЯПЕР У ІХ ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ,
НІБЫТА ДА НЯЗВЕДАНЫХ ПЛАНЕТ
ЯНЫ ІМЧАЦЦА НА АДНОЙ З РАКЕТ.

Ты дзяцей гадавала,
паняньчыла ўнукаў,
Прала,
ткала,
палола то лён,
то гарод...
І, стаміўшыся,
склала шурпатыя рукі...
Адпачні ад штодзённых жыццёвых клапот...

*1975*

## КРАПІЎНІЦА

Мянташаць безупынку
Зласліўцаў языкі:
Крапіўніцай дзяўчынку
Празвалі хлапчукі.

Смяяліся з дзіцяці,
Нібыта ля сяла
Мяне прыдбала маці,—
У крапіве ўзяла.

Як быццам за калючы
І ўпарты нораў свой
Мяне хвастаў балюча
Мой бацька крапівой.

Пасля сюрпрыз мне робяць:
А ёсць, маўляў, яшчэ
Крапіўніца — хвароба,
Што як агонь пячэ.

Цяпер не кпяць у твар мне,
Бо я ўжо не дзіця,—
Ды злая клічка зараз
Зноў не дае жыцця.

Маглі зласліўцы, значыць,
Сурочыць без віны...
Крапіўніцу няйначай
Наклікалі яны.

Пацалаваў хлапчына —
І дзеўчына гарыць...
Дай рады, медыцына!..
Ратуйце, дактары!

*1986*

## ЗНОЎ У ДАРОГУ

Лівень толькі што прайшоў шляхамі
І пакінуў лужыны-сляды...
Міма вокан
рэйкі ручаямі
Паплылі няведама куды.

Расчасаўшы пругкім ветрам косы,
Спаласнуўшы ногі у расе,
Золатагаловыя бярозы
Паўстаюць ва ўсёй сваёй красе.

То яны з бакоў да цягніка
Падбягаюць гуртам ушчыльную,
То ад паравознага свістка
Разбягаюцца урассыпную.

Покуль рэха коціцца да лесу,
Абганяе эшалон вятры...
І, здаецца, з хуткасцю экспрэса
Ён ужо імчыцца праз бары.

Не інакш як з засені іх роснай
Выбрацца хутчэй жадае ён...
А з бакоў пагойдваюцца сосны,
Злёгку раскалыхваюць вагон.

Цяжка дыша паравоз гарачы
І як быццам прыцішае ход,
Калі ўрэшце зноў раўніну бачыць,
Дзе няма ніякіх перашкод.

Уздыхнуў з палёгкай паравоз,
А мне крышку сумнавата зараз

Ад'язджаць ад сосен і бяроз —
Тых,
     што ўскалыхалі мае мары;

Расставацца з борам кучаравым,
У якім ад памятных падзей
Чутна рэха неўміручай славы
Майго краю і яго людзей.

Ды цягнік не думае пазніцца...
Рукзакі ўляглісся ля вакон...
Шмат каму ўжо сон, напэўна, сніцца:
Хутка закалыхвае вагон.

На трох ярусах тут бачаць сны:
Ўнізе — за плацкарт,
                    а ўверсе — дарма...
Як дзятва ў калысках,
                    спяць адны,
А другія —
          як байцы ў казармах.

Адпачнуць няхай, бо шлях іх дальні...
Хоць наўкол — спакой і цішыня,
Я драмлю,
          як заўтрашні днявальны:
Не праспаць бы нараджэнне дня.

Золак выстаўляе напаказ
Зорныя каралі з бляскам сінім,
Што нястомны працаўнік Данбас
Падарыў маёй сястры Ўкраіне.

Я за тое зоры іх люблю,
Што яны сагрэлі, асвяцілі
І мяне, і гэтую зямлю
Лепш за ўсе нябесныя свяцілы.

Помніш, як у стэпе мы ўдваіх,
Заблудзіўшы некалі на золку,
Верны шлях адшуквалі па іх
Да свайго шахцёрскага пасёлка?

Быццам чую я не кліч гудкоў
І не ляскат колаў аднастайны —
Чую стук адбойных малаткоў,
Гул і грукат вугальных камбайнаў.

Між ствалоў сасновых ноч і дзень
Тут, па ўсіх забоях кожнай лавы,
Рэха навальнічнае гудзе
Незгасаючай шахцёрскай славы.

Ноч яно гуло ў мяне ўвушшу...
Хлопцы ўжо прасналіся, смяюцца:
— Гэта вось Бештау, вунь Машук,
А далей вунь бачны Джуца з Юцай.

Вочы я працёр каля вакон
І расчараваўся канчаткова:
Гэта ж не Машук, а тэрыкон
На 17-біс у Рутчанкова.

Не паверыць я не мог вачам,
Пацiскаў плячмі зусім законна,
Бо не горы бачыў — бачыў там
Конусы данецкіх тэрыконаў.

На Данбас падобен гэты кут,
Людзі рацыю, напэўна, мелі,
Калі станцыю — і тую тут
Белым Вугалем калісь назвалі.

Хай сабе ён белы, а не чорны...
Я ў акно прасунуў галаву,

А ўжо там ланцуг высакагорны
Засланіў сцяною сіняву.

І чыгунка, як зірнуць з акна,
Выглядала нібыта драбіны,
Што на небасхіл ляглі са дна
Шырачэзнай горнае цясніны.

А цягнік, што ўпарта поўз па іх,
На вужаку быў падобен зблізку.
Выгінаўся ён між гор крутых,
Як лускою, шыбамі пабліскваў.

На паўстанку свой багаж знялі
Мы, геолагі і альпіністы...
Нам разведваць нетры у зямлі,
Скарб шукаць у скалах камяністых.

Нам крутыя пікі пакараць
Па-над воблакамі, у вышынях...
Шлях цяжкі,
                    але ісці пара:
Перад намі ж гэтулькі вяршыняў!

*1962*

## КІСЛАВОДСКУ

Горад на пагорках сярод гор,
Горад-парк
з таполяў і акацый,
Знаю я,
што ты не аднаго

Вылечыў і зноў вярнуў да працы.
Перад Красным Сонейкам тваім
Загартоўваў сэрца я таксама...
Храм Паветра не мінаў,
у ім
Прычашчаўся й я тваім нарзанам.

Дзякуй за ўсё гэта, дарагі,
Не крыўдуй і не глядзі з дакорам,
Што я ўспомніў раптам пра другі,
Невядомы многім,
новы горад.

Бо
як пад табою у зямлі —
Мінеральных кіслых водаў моры,
Так пад ім глыбока залляглі
Без канца без краю солі горы.

І як воды кіслыя твае
Лечаць нас пад гэтым сінім небам,
Соль яго — зямлі жыццё дае,
Бо спустошаную лечыць глебу.

Нездарма ж,
хоць шмат між вамі вёрст,
Вашы назвы — як блізняты ў мове:

Словы Кіславодск і Салігорск
Блізкія па смаку і будове.

Толькі прыгадаў яго капры —
І ўжо сэрца біцца стала часта...
Зноў заб'юць трывогу дактары,
Нада мной яшчэ яны начальства.

А душа мая і думкі — там,
Дзе шахцёры-салякопы
мудра
Пад зямлёй узводзяць працы храм,
Ўвесь з мазаікі і з перламутру.

Соль зямлі ў ім
і жыцця ў ім соль...
Перад тым,
як зноў за справу
брацца,
Сэрца неспакойнае,
дазволь
Прычасціцца ў гэтым храме працы.

*1961*

* * *

Шмат хто рот на мой край разяўляў,
Нас выпальваў гарачым жалезам...
А казалі, што наша зямля
Толькі бульбай багата ды лесам.

Ажно ў нетрах яе заляглі
Скарбы вугалю, нафты і солі...
Як мы толькі паверыць маглі,
Не задумваючыся ніколі,
Каб у гэтай зямлі,
                    на якой
З веку ў век
              у пажарах ваенных
Торф і лес камянелі наўкол,
Не захоўваўся вугаль каменны?

Каб глыбока у гэтай зямлі,
На якой людзі многа занадта
Палымянай крыві пралілі,
Не было узгаральнае нафты?

Каб на гэтай зямлі,
                    дзе жыве
Працавіты народ хлебасольны,
Што гасціннасцю ўсюды слыве,
Не было хлеба з соллю уволю?

*1962*

## САЛІГОРСК

На роўнядзі ў краі лясным
Узнік з-пад зямлі гэты горад.
Жывуць і працуюць у ім
Маёй Беларусі шахцёры.

Ягоных агнёў не злічыць,
Мільгае іх цэлае мора...
Размову вядуць уначы
З зямнымі нябесныя зоры.

На золку, знясілены сном,
Ён трохі задрэмле, а рана
Яго паварочваюць зноў
Да сонца пад'ёмныя краны.

Шахцёрскія лямпы ў забой
Уранні мае пабрацімы
З зямлі забіраюць з сабой,
Як частачку сонца радзімы.

А вуха к зямлі прыхіні
Ля кожнай шахцёрскай сядзібы —
Пачуеш,
                як у глыбіні
Іх рукі варочаюць глыбы.

Гатовы яны пад зямлёй
Не глыбы,
                а горы адолець,
Каб толькі хапала на ёй
Паболей і хлеба і солі.

*1961*

* * *

Як толькі пасядуць пад вамі ў зямлі
На полудзень свой салякопы-шахцёры,
Цішэй куйце ў цэхах метал,
кавалі,
Цішэй самазвалы згружайце,
шафёры.

Майстры па ўзвядзенню плацін і мастоў,
Цішэй забівайце даўжэзныя палі,
Каб там ад дрыжання зляжалых пластоў
На полудзень іх парушынкі не ўпалі.

Багамі падземнымі селі яны,
Пры кожным —
яго пуцяводная зорка...
Бяруць ружаватую соль са сцяны,
Падсольваюць сала,
спыняюць гаворку...

Прыемнага ім апетыту ў пару,
Сябры,
пажадаць не забудзьце ніколі...
Яны ж нам падносяць на тысячах рук
Зямлю,
як буханку вялізную з соллю.

*1962*

## РОДНЫЯ СОСНЫ

Любы мне іх убор дзівосны,
Бо не ў стэпе раздольным я рос,
А сярод бронзаствольх соснаў
І сярэбранаствольх бяроз.

У бярозавых тут начоўках
Выплыў я,
                    і адгэтуль мне
Лёсам суджана
                              не на чоўне,
А ў сасновай адплыць труне.

Сосны гэтыя і бярозы
Не пыталі,
                    хто я, адкуль,
А мяне серабром і бронзай
Засланялі ў вайну ад куль.

А ці ж мала іх, непакорных,
Люты вораг на пні зглуміў,
Вывез
          звязаных
                              на платформах,
Штабялямі спаліў з людзьмі?

Абаронцаў жа безыменных
Нашай роднае стараны
У зямлю палягло не меней,
І хавалі іх без труны.

Кожны раз,
                      калі тоўшчай хмарнай
Нада мной навісаў забой,

Сосны нашы самаахвярна
Падпіралі яе сабой.

А вось тут не смалой, а морам
Моцна пахнуць пласты імглы...
Пад зямлёй я не стрэўся з борам,
Соснаў тут не скрыпяць ствалы.

Страшнавата — хоць і бяспечна —
Без падтрымкі красунь лясных:
Гарняка спадарожніц вечных
У забоях няма саляных.

Лесаводаў — не лесагонаў
Мне паказвае брыгадзір.
Імі сквер пасаджан зялёны...
Дзень я ўзрушаны прахадзіў.

Тут шахцёры пасадзяць хвоі
Замест тых, што лясной сям'ёй
Столь падтрымлівалі ў забоі,
Пахаваныя пад зямлёй.

Па баках тэрыконаў новых,
Як па схілах гары, яны
Загамоняць пявучай мовай
Нашай роднае стараны.

Так, як тым яе абаронцам,
Мне не трэба з сабой труна:
Уцалелая хай сасна
Пад смыкамі праменняў сонца
Нада мной пяе,
як струна.

*1962*

* * *

Многа снегу — многа хлеба.
*Народная прыказка*

Закончылася змена.
Як у сне,
Мы з клеццю на паверхню паляцелі...
Якаясь стома млявая
ў мяне
Павольна разлівалася па целе.

Аж асляпіла вочы бель,
калі
Я выйшаў на святло...
Прырода спехам —
Як толькі добры ураджай знялі —
Ахутала зямлю пушыстым снегам.

Нібы з таго ўраджаю ўвесь ячмень
На ячныя перадзірала крупы.
Пшаніцу
пытлявала цэлы дзень,
Мукі праз сіта насявала гурбы.

Як быццам турбавалася зіма,
Каб адпачылі
і зямля
і людзі,
Якім папрацаваць шчэ трэба шмат,
Бо ўраджай
налета большы будзе.

Таму што прыказка спакон вякоў
Гаворыць:
«Многа снегу — многа хлеба...»

Здавалася мне, быццам навакол
Соль,
    што дасталі мы,
                пакрыла глебу.

Яна хрумсцела пад нагой, як снег...
Я ведаў:
        многа солі — многа хлеба...
І гэтак лёгка дыхалася мне,
Што ў адпачынку не было патрэбы.

*1961*

* * *

Як здаваў першы дзень спяцоўку
Дзеўчыне ў раздзявальні я,
Дык за новенькага з пуцёўкай
Прыняло мяне дзеўчаня.

Падала мне адзенне, шапку...
«Прыбаўляецца ў нас сям'я!..
Напішыце на дзверцах шафкі
Ваша прозвішча і імя».

Разгубіўся я...
                    Разабрацца
З вопраткаю не мог ніяк...
Як сказаць, што ты не на працу,
Што ніякі ты не гарняк,
Калі гэтакімі вачыма
Паглядзелі ў вочы твае?..

Каб не расчараваць дзяўчыны,
Я уважыў просьбу яе.

Знаю:
          месца маё на шахце
Атрымаў сапраўдны шахцёр...
І хоць прозвішча, што на шафцы
Напісаў я, даўно ён сцёр,—
Мне прыемна, што ў Салігорску
За шахцёра прымаўся я,
Што ў раздзявальні шахцёрскай
Не пустуе шафка мая.

*1962*

* * *

Мне гасцінна уступае кут
Гэта незвычайная сталоўка,
Дзе працуе ўжо рабочы люд
У камбінезонах і спяцоўках.

Стравы не каштуючы як след,
Не смакуючы,
ён адмыслова
Прыпраўляе перцам свой абед,
А дасціпны жарт —
салёным словам.

Повар тут, які ні зварыць боршч,
Дагадзіць ніяк не можа хлопцам:
Гэты — беларускі любіць больш,
А другі — ўкраінскі,
трэці — флоцкі.

І за гэта я іх не віню:
Зборны люд на шахтах салігорскіх...
Хлопцы песні склалі, а меню
Не складуць для іх
з баршчом шахцёрскім.

Трэба ж выдумаць было так лоўка
Вынаходлівым гаспадарам:
Зранку — тут рабочая сталоўка,
Вечарам — шахцёрскі рэстаран,
Дзе халасцякі святой вадой
Адзначаюць першую зарплату,
А маладажоны з інтэрната —
Танцамі —
мядовы месяц свой.

Быццам феі, ў фартухах сваіх
Паслухмяныя афіцыянткі
Рассцілаюць перад імі ўміг
Не настольніцы,
 а самабранкі.

З кухні,
 на паверсе на другім,
Горад гэты ўвесь перад вачыма,
А з прасторнай залы
 перад ім
Бачны ў перспектыве
 далячыні.

*1961*

* * *

Ад нараднай да лямпавой
Крокаў сто пяцьдзесят,
                    не болей...
А прайшоў іх я сам не свой,
Як праз вогнішча, па вуголлях.

Далі мне вы лямпу ў руку,
Да канца не закруціў шрубкі —
Не заўважыў па аганьку:
Хваляванне выдалі рукі.

Кожны ранак мяне калісь
На чужыне
          з праклятым ладам
Лямпу гэтую браць з зямлі
Прымушалі ўдарам прыклада.

Мне далі
        кашулю, штаны
І брызентавую спяцоўку...
Я ж,
    апрануты ў лахманы,
Змушан быў прайсці загартоўку.

У боты гумавыя
              мяне
Вы абулі —
          не псуй паходкі...
Там закоўвалі ногі мне
У драўляныя дзве калодкі.

Каб не раніў я галавы,
Вы далі шахцёрскую каску...

Не забуду,
покуль жывы,
Вашы клопаты, вашу ласку!

Перад вамі,
крочачы ў штрэк,
Шапку зняць,
пакланіцца трэба...
Радасна, што ты чалавек,
Што жывеш ты пад родным небам!

*1961*

* * *

*Аляксею Кулакоўскаму*

Блізкія мне над капрамі зоры,
А табе — бліжэй яны ўдвая:
Туліцца да горада шахцёраў
Вёска непрыкметная твая.

І капры, і гмахі камбіната
З-за яе сядзібаў бачны мне
Са двара тваёй бацькоўскай хаты
У шахцёрскай нашай старане.

Сэрца ў захапленні замірае,
Калі я ва ўсім тут пазнаю
Вернутую мне данецкім краем
Згубленую маладосць маю.

Толькі тэрыконы па-над клеццю
Тут не падпіраюць неба дах...
Але грае, як па нотах, вецер
У высакавольтных правадах.

Блізкі мне пейзаж зямлі шахцёрскай,
А табе — бліжэй ён удвая,
Бо ускраінаю Салігорска
Стала вёска родная твая.

*1961*

* * *

Новых сябраў маіх сям'я,
Не прыгадвайце вы з дакорам,
Што пры першай сустрэчы
я
Вам назваўся тады
шахцёрам.

Знаў,
што прымеце за свайго
У шахцёрскай мяне спяцоўцы,
Дый бянтэжыўся
ад таго,
Што я ў творчай камандзіроўцы.

Шчыра кажучы,—
хай сабе
Я у гэтым невінаваты,—
Перад вамі цяпер
сябе
Адчуваю ніякавата.

З самае глыбіні зямлі
Запаветныя скарбы людзям
Вы рукамі дастаць змаглі
І падносіце як на блюдзе.

А вось я, што там ні кажы,
Не здабыў жа багаццяў моўных:
Аніяк з глыбіні душы
Не дастаць запаветных слоў мне.

З дна зачэрпваеш пакрысе,—
А з паверхні трапляюць жартам

Легкаважныя словы ўсе,
Як пустая парода ў шахтах.

Дык з яе ж хоць
пад хмарны дах
Можна ўзняць тэрыкон шахцёру,—
З лёгкіх слоў
аніякі гмах
Нават майстар
не ўздыме ўгору.

Можа, лепей табе назад
У шахцёры падацца трэба?..
Ад зямлі адарваўся,
брат,
І не дастаў да неба...

*1961*

## БАЛАДА ПРА ЮНГУ

Мораў шмат збаразніла «Гвіяна»,
Не ў адзін уваходзіла порт.
Хвалі ўсіх чатырох акіянаў
Дзень і ноч соллю драілі борт.

Сіла іх падабалася Тому.
Рукі юнгі таксама маглі,
Быццам дужыя хвалі, без стомы
Драіць палубу на караблі.

Толькі не выпадала ніколі
Плыць да казачных гэтых зямель,
Бачыць на незвычайным прыколе
Легендарны марскі карабель.

Том сягоння ад шчасця быў п'яны,
Хоць не знае ніхто, як ён рад,
Што нарэшце старая «Гвіяна»
Раніцой прыплыла ў Ленінград.

І калі гаманлівым натоўпам
Набярэжнай ішлі маракі,
Перад юнгай узнікнуў раптоўна
Карабель з паўнаводнай ракі.

Моцна-моцна застукала сэрца,
Білі ў скроні струмені крыві...
«Можа, гэта прыглушана б'ецца
Унутры карабля рухавік?..»

Не абдумаўся юнга з «Гвіяны»,
Як ватага матросаў пасля
Павярнула за дом нечакана...
Апынуўся ён ля карабля.

«Значыць, тут мараходная школа,
Бо хлапцоў з безказыркамі шмат...»
Том зайздросціў падлеткам вясёлым
І не зводзіў пагляду з гармат.

Ці ж на морах або акіянах
Юнга гэтакі мог быць калі,
Што не марыў бы стаць капітанам,
Не жадаў бы вадзіць караблі?..

Маракі схамянуліся скора,
Што згубілі дзесь юнгу свайго,
Зноў прайшлі тым жа шляхам праз горад —
І знайшлі ля «Аўроры» яго.

Люты боцман накінуўся зверам,
Скавытаў, як скавычуць харты...
Не пускае з «Гвіяны» на бераг,
Загадаў афарбоўваць барты.

Том фарбуе і кажа сярдзіта:
«Як цябе ні фарбуй, карабель,
Ты ж як тое старое карыта!..
Як яшчэ ты не сядзеш на мель?»

Ды развеяў настрой чалавеку
Качагар, чарнамазы, як чорт...
Ён, як прывід, з'явіўся аднекуль,
Нахіліўшыся злёгку за борт.

Па баках ён агледзеўся скоса
І сказаў, нагінаючы стан:
«Стаў ты, юнга, сапраўдным матросам!..
Добры выйдзе з цябе капітан!»

*1958*

## ЛЕНІНГРАДУ

Усё не мог я
Пабачыць цябе наяву,
Хоць навек мне ў душу
Ты ўвайшоў уладарна,
Як «Аўрора» калісь
Увайшла у Няву
Ці на плошчу тваю —
Бранявік легендарны.

Як мне выказаць шчыра
Падзяку табе,
Як аддзячыць за тое,
Што ў момант суровы
Для Купалы
Прытулак
Знайшоў ты ў сябе
І што ты ўвекавечыў
Купалава слова?..

Твой заранак
Шляхі
Асвятляе даўно.
Ён людзей азарае
Надзеяй і верай...
Горад Леніна,
Ты —
Не ў Еўропу акно,
А з яе ў новы свет
Шырачэзныя дзверы.

Іх крыжак
Спрабаваў зачыніць назаўжды.
Помніш ты,

Як ад Волхава ў сцюжу і слоту
Да цябе на падмогу
Юнак малады
Прабіваўся з «кацюшай»
Праз лес і балота?

Ты даруй, што не ўдаўся
Нам дзёрзкі прарыў:
Я к табе не прарваўся
З Другою Ударнай,
А без вестак прапаў
У Мясным у Бары,
Каб ты жыў у вяках,
Як герой легендарны.

З таго свету ўваскрэшаны,
Сёння я рад,
Што мяне
Ты прымаеш, нарэшце, як госця...
Добры дзень,
Добры дзень, Ленінград!
Горад мужнасці і маладосці!

*1957*

## РАНІЦА

### 1

На Эльбрусе
з белых дзвюх вяршыняў
Раніца
зняла смугі пялёнку,
Быццам са сваіх грудзей
дзяўчына
Адхінула прасціну спрасонку.

Ды,
прачнуўшыся ад промняў яркіх,
Схамянулася
і палахліва
Захінулася
пуховай хмаркай
І пачырванела сарамліва.

### 2

На высокім
перавале горным,
Усё роўна
як з варот шырокіх,
Перад ветрам-чабаном
пакорна
Чарадой даўгой ідуць аблокі.

А на гэты схіл зялёны
ветру
З-за хрыбта высокага не выйсці...
Тут настоена само паветра
На лаўровым
і на чайным лісці.

### 3

Цішу ўскалыхнуўшы песняй звонкай,
Выйшлі на плантацыю грузінкі.
У іх руках
на вінаградных гронках
Гаснуць і успыхваюць расінкі.

Смуглы твар і гнуткі стан дзявочы
У красуні,
што на першым радзе,
Нават трошачкі падобны вочы
Да вільготных чорных вінаградзін.

Сонца паліць з рэўнасцю шалёнай,
Калі ў полудзень
над чарнабровай
Лаўр схіляецца вечназялёны
Увянчаць яе вянком лаўровым.

*1956*

## ПАСЛАНЦЫ ІНДЫІ

Апранутыя цёпла ўпершыню,
Яны накіраваліся ў палёт...
На досвітку падняўся ў вышыню
Прасторны рэактыўны самалёт.

Здаецца, першы раз за ўсё жыццё
Цяпер у іх такое пачуццё,
Нібыта да нязведаных планет
Яны імчацца на адной з ракет.

І бледны маладзік, і стужка хмар
За вокнамі мільгнулі нездарма,
Як напалоханы збялелы твар
І бураю сарваная чалма.

Наўкол у адцвітаючай красе
На шызым небе зорак аганькі
Паблісквалі і гаслі пакрысе,
Нібы на папялішчы вугалькі.

І раптам вочы асляпіла бель...
Зніжаючыся, удалечыню
Імчаўся рэактыўны карабель
Насустрач надыходзячаму дню.

Упершыню ў жыцці, нібыта ў сне,
Убачылі яны іскрысты снег...
На нейкі міг здалося ім тады,
Што трапілі яны у іншы свет —
Як быццам лёс закінуў сапраўды
Іх на адну з нязведаных планет.

*1957*

* * *

Абавязкова ўбачыць неабходна
Яго асветлена-ўрачысты твар,
Дзе ўласная адлюстравана годнасць,
Калі глядзіць з-пад каскі сталявар,
Як сталь цэчэ па гарнавой дарожцы,
Плыве ў індустрыяльны краявід,
І як сняжынкамі раіцца ў лётцы
І зырка ўспыхвае над ёй графіт;
Або —
як заклінальнік ці танцоўшчык —
За голавы хапаючы рукой,
Са стана
змеяў вогненных
вальцоўшчык
Адну выхоплівае за другой,—
Каб зразумець душою,
разабрацца
І ўсёй істотаю адчуць,
што ёсць
У самай цяжкай чалавечай працы
Свая паэзія
і прыгажосць.

*1975*

## НОЧ У ТАШКЕНЦЕ

*Аляксею Пысіну*

У нумары ташкенцкага атэля
Нязведаная сіла уначы
Падкінула на ложках,
як гантэлі,
Двух
спячых непрабудным сном
мужчын.

Яны спрасонку селі на матрацах.
Адзін сабе пад нос замармытаў,
Другі,
калоцячыся,
як ад трасцы,
Дрыжачым,
ціхім голасам спытаў:

— Што гэта здарылася?!.
— Навальніца,—
З балкона штору адхінуў сусед.
Хоць гром не грукатаў,
ды бліскавіцаў
Скрозь дзённае святло
відаць быў след.

А ў калідоры — тупат,
шум, гамонка...
Хто валачыў панічна чамадан,
Хто ўлегцы бег,
а хто ўцякаў,
спрасонку
Паспешна захінуўшы коўдрай
стан.

Мікола Аўрамчык, Аркадзь Куляшоў і Пімен Панчанка.
Верасень, 1965 г.



ЯШЧЭ ГУШЧАР СТАГНАЎ АД МІН,
СВІНЦОМ ЗЯМЛЯНКІ АБДАВАЛА,
А ЎЖО НАМ СНІЎСЯ НОВЫ МІНСК
І З БРОНЗЫ ВЫЛІТЫ КУПАЛА.

Іншакраінка нейкая
з істэрыкай,
Каб як адвесці ад сябе бяду,
Тлумачыла нябёсам:
— Я — Амэрыка! —
Зашпільваючы ліфчык на хаду.

Прачнууся ў ноч стыхійнага няшчасця
І кожны з гэтых двух былых салдат:
Адзін —
нібыта пад бамбёжкай часць іх,
Другі —
нібыта ад пальбы гармат.

*1968*

## ГАЛАСАВАННЕ НА КАРАБЛІ

Спрачаўся акіян
з матроскай песняй
І, стомлены,
сціхаў у глыбіні...
Луналі чайкі
ў сінім паднябессі
І крыкам
нас віталі з вышыні.

А іх, крылатых,
быццам хвалі пену,
Адносілі сустрэчныя вятры...
Здавалася,
што гэта бюлетэні
Над палубаю кружацца ўгары.

Падводнай лодкі
перыскоп
на ўсходзе
З-пад хваляў вынырнуў
і знік назад,
Хаця і не было на цеплаходзе
Тарпедных апаратаў
і гармат.

І мы на палубе ў хвіліны тыя
Хацелі чайкам выказаць любоў,
Смяяліся,
як хлапчукі,
якія
Пусцілі ў неба
белых галубоў.

Напэўна,
і на лодцы
камандзіру
Здалося перад перыскопным шклом:
Не чайкі —
галубы,
пасланцы міру,
Ляцяць над нашым мірным караблём.

*1951*

* * *

Даўно ўжо астраномы
                    дасканала
Разгледзелі паверхню ясных зор...
Відаць на Марсе ў тэлескоп каналы,
На Месяцы —
            хрыбты высокіх гор.

Пакуль разгадвае вучоны свет,
Ці ёсць жыццё на большасці планет;
Пакуль рыхтуюць бомбы на зямлі
І выпрабоўваюць у акіяне —
За гэты час
            сканструяваць маглі
Свой тэлескоп магутны марсіяне.

За нашай назіраючы Зямлёй,
Калі яна выходзіць з белай пены,
Яны ж маглі заўважыць,
                    што на ёй
У пэўных месцах адбыліся змены.

Маглі прыкмеціць —
            ёсць жа дні без хмар,—
Што ўжо нябеснае старое цела
Разгладзіла маршчыністы свой твар,
Паздаравела і памаладзела.

Магчыма,
            што не бачылі яны,
Не могуць уявіць сабе ніколі
Былых пустынь і ўзнятай цаліны,
Таму не ведаюць,
            які ў іх колер.

Калі далёкі Марс заселен людам,
Дык там даўно прыйшлі да адкрыцця,
Што на Зямлі цяпер
яшчэ не ўсюды
Спрыяльныя умовы для жыцця.

*1957*

## КРАЯВІДЫ ЗАПАЛЯР'Я

У гэты край,
нібыта ў сне,
Спусціўся я
з надхмар'я:
Нязвычнымі
здаліся мне
Пейзажы Запаляр'я.

Улетку
сонца ноч відно.
На схілах — снегу трошкі...
І,
як сняжынкі ўсё адно,
Бялюткі цвет марошкі.

Цяпер
ні волкіх тумано́ў,
Ні траскуноў-марозаў...
Гурты замшэлых валуно́ў
З чародамі бярозак —
Як выбеленыя сады
Ружова-белай вапнай,
У якіх
апалыя плады
Дзікі
збіраюць сквапна.

Між сухастою —
валуны
Мяняюць выгляд трохі:
Ляжаць
аленяў табуны,
Высока ўзняўшы рогі.

Пры сонечным святле
ўначы
Я
рогі іх
на фуры
Прыняў за смольныя карчы,
Што возяць смалакуры.

З імхом
і ягелем сівым,
З лішайнікамі
тундра
Падобна выглядам сваім
На плямістае футра.

Над ёю
верталёт,
як птах,
Апоры мачт валочыць,
Каб ззялі зоры на дратах
Палярнай зімняй ноччу.

*1970*

## ПРАЙГРАНЫ БОЙ

> У горадзе Рэджо-нель-Эмілія (Італія) «Нацыянальная ліга кааператываў» атрымала ў падарунак ад СССР трактары.
>
> *З газет*

Пераапрануты ў штацкі фрэнч,
Містэр Грот,
маёр з мясістым тварам,
Выгнаў пасыльных з каюты прэч
І ад злосці
грыз цяпер сігару.

У яго заплямлена сумленне:
Містэр Грот не выканаў загад,
Бой прайграў
і сам пры наступленні
Апынуўся ў штабе без салдат.

Італьянцы-докеры не сталі
Разгружаць
гандлёвых караблёў,
Што прывезлі зброю для Італіі
Ад амерыканскіх берагоў.

Праваліўся план яго раптоўна,
На курорце тут не адпачыць...
Абсвістаны з берага натоўпам,
Будзеш адплываць удалячынь,
Як калісьці
камандзірам роты
Уначы,
пад свіст чужых вятроў,
З недабітаю марской пяхотай
Адплываў з Архангельска дамоў.

Побач,
        на чыгуначным пероне,
Тысячы мясцовых жыхароў
Сустракаюць з песнямі сягоння
Эшалон савецкіх трактароў.

Трактары павольна і ўрачыста
Рушылі на плошчу за вакзал...
На машыне кожнай
                трактарыстам
Едзе італьянскі партызан.

Містэра трывога ахапіла,
Зазлаваў «гандлёвы камерсант»,
Нібыта
        ягоны вораг
                з тылу
Нечакана высадзіў дэсант.

Да Нью-Йорка будзе хвалявацца
У сваёй каюце містэр Грот.
Ён не выйграў гэтай аперацыі
І не атрымае ўзнагарод.

А на плошчы —
                шум, нібы на моры,
Грукацяць, як танкі, трактары...
Пераможцам шлях у родны горад
Кветкамі ўсцілаюць жыхары.

*1950*

* * *

На ўдарнай будоўлі вірыць танцпляцоўка,
Як вулей пчаліны, гудзе.
Дзяўчаты і хлопцы ў святочных абноўках
Снуюць у людской грамадзе.

За парамі пары
выходзяць на кола,
Нібы на ўрачысты парад...
З каляскамі першынцаў
маці наўкола
Пляцоўкі
паставілі ў рад.

О, як непадобны зусім па паглядах
Жанчыны адна да другой:
Адзін выдае табе гордасць і радасць,
Другі —
сарамлівасць з тугой.

Ды ў тым,
як пагушкваюць злёгку
каляскі,
Прытупваюць музыцы ў такт,
Відаць,
што яшчэ між турботай і ласкай
Існуе душэўны кантакт.

*1974*

## РАБІНАВАЯ НОЧ

Павольна спее навальніца
Сярод засмяглай цішыні...
Буйнымі гронкамі зарніцаў
Змрок набухае ў вышыні.

А постаць белая ў трывозе,
Як здань, мільгае пры акне —
Каханы позніцца ў дарозе:
Хай непагадзь яго міне.

Захвалявалася каханка:
За тупатам дажджын услед
Мільгнуў, асветлены маланкай,
Яго знаёмы сілуэт.

Дыханне сушыць вільгаць твару,
Ад цеплыні ўзаемнай іх
На вопратцы знікае парай
Вільготнасць кропляў дажджавых.

Пад бляск маланкі ў гэткім стане
У ноч рабінавую ім
Аголены ўвесь свет паўстане,
Абмыты ліўнем агнявым.

*1975*

* * *

Палі, гароды і сады даюць дарункі.
Як бэз,
цвітуць чабор і верасы.
З туману
восень вяжа белыя карункі,
Мярэжыць барвай залатой
лясы.

Яшчэ як след не ўправілася з працай вёска,
А ўжо наперадзе турботаў шмат:
Асілкаў-хлопцаў
аддаваць на службу ў войска
І замуж выдаваць красунь-дзяўчат.

Па вас, дзяўчаты,
не адзін салдат затужыць:
Адны — што не жаніліся чаго...
Другія — што чаму жаніліся да службы,
Пакінулі красуняў на каго...

А покуль восень
людзям аддае дарункі,
Дажджамі
строчыць прошвы па лясах,
Вы самі вяжаце крухмальныя карункі,
Мярэжыце абрусы на пасаг.

*1974*

## ДРЭВА ДРУЖБЫ

У старадаўнім Львове,
ля Карпат,
Дзе чуюцца гісторыі ўсе крокі,
Сябры мне паказалі Стрыйскі парк,
Адзін з найпрыгажэйшых
у Еўропе.

Суіснаванне розных дрэваў тут:
Ля піхтаў
і ялін вечназялёных
Катальпы і магноліі растуць,
Дубы і туі,
явары і клёны.

Пакінуўшы сівых Карпат гарбы,
Пяю хвалу пасаджанай галінцы,
Што ў Стрыйскі парк
з Тарасавай вярбы
Прывезлі з Казахстана украінцы.

Вярбіна тая
ад гарачыні
Хавала ў цень
выгнанніка-паэта...
У Сярэдняй Азіі
і ў нашы дні
Яна гамоніць з Каспіем пра гэта.

А мне Дняпро нагадвае яна —
Магутным дрэвам дружбы
на прасторы
Раскінуўся ў Еўропе ён здаўна
І пераплёў карэнні ў Чорным моры.

Ягоныя прытокі —
Прыпяць, Сож,
Бярэзіна, Дзясна,—
нібы галіны,
Шумяць
і пояць,
як вясновы дождж,
Расію, Беларусь і Украіну.

Вярбовая галінка,
весялей
Расці пад сонцам!..
Ты мне нагадала
Вярбіны
у Шаўчэнкавым сяле
І ў Вязынцы,
за хатаю Купалы.

*1965*

* * *

*Паліне*

Ты, калі ласка, зноўку апрані
Зялёную ці сінюю сукенку,
Як некалі ў свайго юнацтва дні
Любіла апранаць напераменку.

Ты думаеш, што надакучыў мне
Іх колер,
назаляць якім не трэба?..
А ён нагадвае мне аб вясне,
Напамінае пра зямлю і неба.

Бо як бы ні змяніліся ўжо мы,
А па-ранейшаму заўсёды
зноўку
Прываблівае зрок пасля зімы
Зямля
сваёй зялёнаю абноўкай.

Людзей кранае кожны раз да слёз
І радуе іх позірк чалавечы
Бязвоблачная чысціня нябёс
Сваёй
ад сонца выцвілай
сінечай.

*1968*

## НАВАГОДНЯЯ НОЧ
## У БАЛЬНІЦЫ

Я дома Новы год сустрэць не мог,
Хваробай прыкаваны да бальніцы.
Так сустракаць яго
не дай вам бог,
Няхай і ў сне
вам гэта не прысніцца.

Бо той,
хто навагодняй ноччу тут,
Няпэўнай доляй у жыцці надзелены:
Ён ці прымае лекі ад пакут,
Ці ўжо жыхар на свеце ненадзейны.

І адпаведна стану
быў настрой
Самотнай установы кватарантаў...
А доктар
з санітаркай і сястрой
Паслухаць выйшлі срэбны звон курантаў.

І покуль Новы год страчалі там
Яны,
падняўшы келіхі са звонам,
Па калідоры ўсім
на іх пастах
Званілі безупынку тэлефоны.

Я клікаў тых,
хто можа сам хадзіць,
І нёс ляжачым віншаванняў словы...
Як хлапчанё трымае змея ніць,
Трымаў я провад сувязі жыццёвай.

Каб на той свет
мы не зрабілі крос,
А ў новы год жыцця
пайшлі з палатаў,
Дзяжурны ўрач
прыйшоў,
як дзед-мароз,
З медсёстрамі —
снягуркамі ў халатах.

*1977*

* * *

Як у надвор'е —
                    неба яснасць,
Якому краю не відно,—
Паняцце простае —
                    сучаснасць,
Хоць і шырокае яно.

Што для мяне сучаснасць значыць?
Усё,
    што паўстае ўваччу,
Што давялося мне пабачыць,
Што перажыў
                і што адчуў.

У ёй — нязвычнасць і прывабнасць,
У ёй — мінулага сляды...
І грандыёзнасць,
                    і маштабнасць,
І дзёрзкі выклік малады.

Пустынь скароныя прасторы,
Скарыны
            помнік на зямлі,
І вышкі нафтавыя ў моры,
І ў зорным небе караблі.

Магнітагорскі цэх пракатны
Паўкіламетра даўжынёй,
Пласты руды ў паўночных шахтах
Паўсотні метраў таўшчынёй.

У скалах мармур над тайгою,
У тундры — факел агнявы,

Вялізны лозунг над ракою:
«Мы,
Енісей,
ідзём на вы!»

І Быкаў для мяне —
сучаснасць.
І мне сучаснасць —
Цендракоў,
Бо родам я з сям'і калгаснай,
Бо я з былых франтавікоў.

*1973*

## НА МАГІЛЕ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Ты ратунку сабе
Не знайшоў і ў гарах
Ля зямнога прыморскага раю...
А змарнеў у журбе
Па сасновых барах,
Па гаротнаму роднаму краю.

І, знямогшы ў жыцці,
Тут навекі заснуў
Сярод зелені цёплага мая,
Калі кветкам — цвісці
Ды ўпрыгожваць вясну,
Калі ўсё пасля сну ажывае.

Сны прыемныя сні
Аб радзіме, пясняр,
Спі спакойна на гэтым пагосце,
Дзе, куды ні зірні,—
Кіпарысы да хмар —
Абеліскі зямной прыгажосці.

Узняло касачы
Над табою жыццё,
Над тваім незгасаючым сэрцам,
Узняло, як мячы,
Каб праціць небыццё
І ахоўваць паэта бяссмерце.

*1957*

# НОВАЯ
# ЗОРКА

Дачка чырвонай зоркі,
                                        што гарыць
Над вежай старадаўняй у Крамлі,—
Заззяла зорка новая ўгары
І стала спадарожнікам Зямлі.

Дала ёй маці столькі цеплыні
І столькі прамяністага святла,
Што гэтая заранка
                                    з вышыні
Людскую думку азарыць змагла.

Так,
        як ад сонца ў небе,
                                            дзе імгла,
Мільёны зорак свецяцца ярчэй,
Так
        на зямлі ўсёй
                                    ад яе святла
Блішчаць мільёны ўважлівых вачэй.

Вось колькі спадарожнікаў зямных
У гэтай зоркі,
                                азарыўшай свет,—
Іх болей, чым у сонца ёсць сваіх
Нябесных спадарожнікаў —
                                                планет.

*1956*

## У СУДЗЕЙСКІМ ЗАВУЛКУ

*Уладзіміру Цендракову*

Адзін —
глыбакадумны і сур'ёзны,
Другі —
наіўнаваты,
як дзіця,
Мы раптам сутыкнуліся з кур'ёзам,
Гаворку ведучы наконт жыцця.

Мы жартавалі:
«Мабыць, гэтак дзіўна
Завулак называецца таму,
Што так пісьменнікі ў ім рассудзілі
І назву гэтую далі яму».

З-за кіпарысаў выбегла жанчына:
«Яны сабе, рагочучы, ідуць...
Праз іх тут выбраць месца немагчыма...
Павесіцца спакойна не дадуць!..»

Мы адгаворвалі,
ды толку мала:
Быў кожны сказ наш стрэлам халастым...
Яна ж цытатамі ва ўпор страляла:
Спачатку —
Пушкіным,
пасля —
Талстым.

Але,
стаміўшыся ад угавораў,
Здалася ўрэшце:
«Вас я не віню...

Пайду —
і выкупаюся у моры,
Нырнуўшы з мола
ў бездань-глыбіню».

Ты перапытваў:
«Что с ее рассудком?..
Судейский переулок,
рассуди...»
А дзесьці побач ля завулка —
суд там,
Прыёму час прызначаны ў суддзі.

І той суддзя —
сардэчная кабета,—
Здзіўляе ўмельства шчырых спраў яе:
Яна не толькі судзіць прайдзісветаў,
Але для хворых
лекі выдае.

Адзін —
глыбакадумны і сур'ёзны,
Другі —
наіўнаваты,
як дзіця,
Вярталіся мы ўдвух пасля кур'ёзаў
І кпілі з філасофіі жыцця.

*1973*

* * *

Ліхтар.
          Узмор'е.
                    Кіпарысы.
Над «бессаромніцай» — платан...
Дваяцца пад вадой абрысы,
І ў чорным
              непакорны стан
Гарэзлівай
              прывабнай німфы,
Што проста да цябе плыве,
З чырвонай шапачкай,
                         як з німбам,
На вынырнуўшай галаве.

І ўжо глядзіш з акна без страху,
Як мора плешчацца аб мол...
А ў сэрцы — шторм...
                         Але,
                              як плаха,
Палохае пісьмовы стол.

Валы са дна ўздымаеш,
                         мора,
Вады варочаеш пласты...
Ды хоць і пагражаеш горам,
А ў вір кіпучы вабіш ты.

*1972*

* * *

Так,
як праз нябачны перавал
Я ў Карпатах праімчаў галопам,
Як па мосце на рацэ Урал
Пераходзіў з Азіі ў Еўропу;

Так,
як цераз пагранічны Буг
Вандраваў без пропуска
па карце
І
як тундрай праз Палярны круг
Пераходзіў пешкі ў Салехардзе,
Перайшоў я
у сваім жыцці
У другую палавіну веку...
Гэты перавал
так перайсці
Кожнаму жадаў бы чалавеку.

*1973*

* * *

З'явілася ў аэрапорце
Жанчына боскае красы,
Відаць, завіўшы на курорце
Каштанавыя валасы.

Прыгожа
лёгкаю рукой
Яна разгортвала паперкі
І смакавала за шчакой
Аэрафлоцкія цукеркі.

Сама ў сукенцы паркалёвай
З букетам выглядала так,—
Хоць ты партрэт з яе змалёўвай,
Нібы з натуршчыцы —
мастак.

Пяюць набожныя старыя
Хвалу за бога дзеве той,
Што хтось назваў святой Марыяй,
А я малюся не святой.

Хваліць і славіць я павінен
Аэрафлот,
які прынёс
На крылах гэткую багіню
Нам,
грэшным,
на зямлю з нябёс.

*1976*

* * *

На вуліцах новага Мінска
Прыгадваю вас усё больш,
Старыя двары Мінусінска,
Цюмень, Краснаярск ды Табольск.

Вы не ўмацаваннем бярвенным,
Не тоўшчай драўляных калон,
Не строем дамоў пяцісценных
Мяне захапілі ў палон.

Не золатам па-над званіцай
Мяне падкупляеце вы,
А ўзорамі на аканіцах
Разной разнастайнай ліштвы.

Яе непаўторны малюнкі...
Успомніш то вэлюм, то бязь,
То шыбы ў мароз, то карункі,
То літар славянскую вязь.

Жывуць
мендзялееўскі розум
І сурыкаўскія краі,
Яршоўскае казкі цвярозасць,
Аляб'еўскія салаўі.

А дошкі славутасцям розным
І выгляд вядомых магіл
Міжволі наводзяць на роздум
Пра справы і розум свяціл.

*1973*

* * *

Ты помніш?..
Не, цяпер ты ўжо не ўспомніш
Той сквер,
дзе мы сядзелі ў летні дзень...
Нам некалі было хавацца ў цень
Ад позіркаў чужых і ад пякучых промняў.

Нічога мы не заўважалі ў свеце.
Быў будны дзень святочным выхадным...
Нібы занятыя гульнёю дзеці,
Былі заняты мы адно адным.

Жанчына,
што гваздзікі палівала,
Зірнула ў бок наш некалькі разоў,
Але,
каб не трывожыць нас,
памалу
Мінула перад лаўкаю газон.

Ты шкадавала,
што газон з гваздзікамі
Завяне і не будзе больш цвісці...
А я смяяўся:
— Толькі ты вялікая
Расці!..
Вялікая расці ў жыцці!

Няўжо,
калі б газон і нас абоіх
Яна вады струменем абдала,
Не здарылася б гэта ўсё з табою?..
А можа б, ты і сапраўды жыла?

Ля сквера ўлетку я праходжу пешкі.
Гваздзікі зноў цвітуць...
А я ў жыцці
Табе ўжо не змагу сказаць з усмешкай,
Як некалі:
— Вялікая расці!

*1967*

* * *

Перада мной,
Зямля народа комі,
Паўстала ты такой,
Якая ёсць...
Я не ў адным
Тваім гасцінным доме
Быў у застоллі
Як жаданы госць.

Піў чай з марошкай,
Каштаваў малодзіва,
Запечаную рыбу ў малацэ...
Адкрыў
Сезон купання ў новым годзе,
Не ў Свіслачы,
А ў Сысале-рацэ.

Зрабіліся
Знаёмымі навекі,
Бо сталі
Зразумелы галасы,
Якімі
Размаўляюць твае рэкі
І гутарку вядуць
Твае лясы.

Там
Крутабокім
Спуджаным аленем
Наш дужы катэр,
Як праз крыгалом,
Па Вычагдзе
Праз касякі бярвення

Упарта прабіваўся напралом,
Дзе, стоячы шарэнгай на памосце,
Сартыравалі лес сплаўны
Жанкі,
Трымаючы ў руках багры,
Як восці,
І дзе плыты сплытоўвалі дзядзькі.

Што не паспела
Паказаць мне ўчора,
Яшчэ пакажаш многім
Заўтра ты —
Ад рэчкі Вашкі
Да ракі Пячоры,
Ад Сыктыўкара
І да Варкуты.

Я рад,
Што пад тваёй паўночнай зоркай,
Хоць і спяшаючыся,
На хаду,
Каля сяла Куратава [1],
За ўзгоркам
З крыніцы піў
Сцюдзёную ваду.

*1974*

---

[1] Сяло Куратава — радзіма заснавальніка комі літаратуры Івана Куратава.

## ШВАЧКАМ СЫКТЫЎКАРА

Я не забыў знаёмства час,
Краўчыхі Сыктыўкара:
Сустрэчы радасць у вачах,
Расстання цень на тварах.

Як ад усмешак Эвелін
З Луізамі і смеху
Эмілій, Агній і Альбін
Святлела ў кожным цэху.

Якія ўсё імёны ў вас!..
Я разумею зараз,
Чаму Парыжам хтось назваў
Прадмесце Сыктыўкара.

Без вас, заканадаўцы мод,
Не толькі ў вашым доме,
А не абыдзецца народ
Ва ўсёй вялікай Комі.

Перадаецца ваш настрой
Умельствам рук заўсёды
У вашу строчку і раскрой,
У ваш фасон і моды.

Каб для людзей
было вам грэх
Шыць кепскія абновы,
Вы пропуск выдалі мне ў цэх
Да вас
бестэрміновы.

*1974*

* * *

Дзякуй,
Пяцігорск, табе
за тое,
Што,
нібыта ў нейкім дзіўным сне
Месца запаветнае
святое
Ты адкрыў у першародстве мне.

Даў магчымасць перамераць пешкі
Шлях,
што змераў мой кумір наўкруг...
Тут цяпер
над кожнай горнай сцежкай
Генія
лунае горды
дух.

Ты мне даў адчуць,
як зорка з зоркай
Сапраўды гавораць уначы.
Даў пабачыць,
як на панадворках
З чалавекам чалавек маўчыць.

Ты мяне Падкумкам,
як на ўзмор'і,
Плаўна закалыхваў у цішы.
І даваў у пышным пяцігор'і
Адпачыць і целу, і душы.

Прывarожваў хараством Эльбруса,
Белізной яго вяршыняў дзвюх,

Ад красы якіх
у беларуса
Аж займала ў захапленні дух.

Дзякуй,
Пяцігорск, табе
за тое,
Што,
нібыта ў нейкім дзіўным сне,
Месца запаветнае
святое
Ты адкрыў у першародстве мне.

*1974*

* * *

*Гарыфу Ахунаву,*
*Ісхаку Машбашу*

Як напалілі комі лазню,
Дык, зняўшы стомленасці груз,
З палка ўсё не хацелі злазіць
Адыг, татарын, беларус.

Распарыўшы старыя косці
Тут цела тленнага свайго,
На змену венікамі госці
Адзін хвасталі аднаго.

Там, дзе пісьменнікаў нашэсце,
Цяпер адыг і беларус
На скуры ўласнае нарэшце
Адчулі моц татарскіх рук.

Але завойкаў і татарын,
Якому аж займала дых,
Як беларус падбавіў пары,
А венікам хвастаў адыг.

Як ні хвастаў з іх кожны хвацка,
Ды ведаў меры пачуццё...
Яны працягвалі па-брацку
Сваё ўзаемнае мыццё.

*1974*

* * *

Транзітны зал.
Адгэтуль мы,
Як пасажыры без білетаў,
У думках з сібернай зімы
Імчалі ў сонечнае лета.

І праз Маскву,
і праз Каўказ
Адгэтуль кожны,
хто захоча,
Дабрацца здолее ў Данбас,
Так,
як праз Сімферопаль —
ў Сочы.

Спазняецца электравоз
З начной
апошняй электрычкай...
Відаць,
такі ўжо выпаў лёс
Нам у жыцці з табой,
масквічка.

Па ўсім чыгуначным пуці
Вузлы чыгуначныя
ў зале
Чыесьці лёсы
так звязалі,
Што не разлучацца ў жыцці.

*1973*

## ПАМЯЦІ ЯРАСЛАВА СМЕЛЯКОВА

Колькі гэты шахцёр і рабочы,
Што каханне і працу ўслаўляў,
Шуфлем вугалю пераварочаў
І пароды перашуфляваў!

Прабіваў, як праходчык,
ён штрэкі,
Як забойшчык, ён,
майстра пяра,
Не абы-які вугаль, а рэдкі
Антрацыт выдаваў на-гара.

Высечаны з пароды панурай,
Змрочна ён паглядаў з-пад павек,
З грубаватай і дзёрзкай натурай
І з пяшчотнай душой чалавек.

Побач з гэткім без лямпы спакойна
У забой апускаўся і ты...
Малаток браў у рукі адбойны,
Высякаць навучаўся пласты.

Ён прывеціць умеў навічка.
Падбадзёрваў яго, чуў, здаецца,
Грук не толькі яго малатка,—
Чуў ён стук яго ўласнага сэрца.

І мне лесціць заўсёды, што я,
Як падручны яго не адзіны,
Хоць паўзмены на вахце стаяў
У тваёй качагарцы, Радзіма.

*1978*

## КІРГІЗСКІМ СЯБРАМ

Я не знаў,
що да шчырых такіх дружбакоў
Ехаць трэба ў абутку,
які без шнуркоў...
Перад гэткай гасціннасцю юртаў
не мог
Я спраўляцца
здымаць чаравікі з дзвюх ног...
Дзякуй вам,
што перш-наперш звазілі вы нас
На зямлю,
на якой жыў асілак Манас,
Дзе схаваўся ад людных мясцін падалей
Легендарны і просты яго маўзалей.
Чарадзеі,
за суткі ў вас бачылі мы
Спёку лета
і вецер сіберны зімы,
Завіруху па-над перавалам Чынгіс,
Сусамырскай даліны славуты кумыс.
І ў дадатак яшчэ паглядзець вы далі
Сотні дзве кіламетраў казахскай зямлі.
Аддзяляюць яе не слупы і драты,
Бо жывуць з вамі ў дружбе суседзі-браты.

*1975*

## СУСТРЭЧА З ДАЎЖЭНКАМ

*Міколу Вінграноўскаму*

Ані Млечнага Шляху,
ні чумацкага тракта.
На хаду ногі спутвае ў стэпе кавыль.
Змрок, як дзёгаць.
Агеньчык мігціць.
Мусіць, трактар.
Гэта — сон або ява?..
Гэта — казка ці быль?

Сумны скіфскі курган.
А ў ім збоку — пячора:
Гэткі стан палявы інтрыгуе хлапца.
Трактарысты паселі,
як чэрці чорныя,
У пячоры вячэраюць пры святле каганца.

Ад прыроды цікаўны не стане няўмекам,
А тым болей выпадак яшчэ дапамог
Напаткацца ў дарозе з такім чалавекам —
Добрым,
белым як лунь
і прыгожым, як бог.

Ён заўважыў,
што хлопец той
шыты не лыкам,
Хоць абутак змацоўваў закручаны дрот...
Спачуваў ён хлапцу
і яго чаравіку,
Што прасіў ужо есці, разявіўшы рот.

*1978*

* * *

У пералеску восеньскім
за вёскай,
Дзе злазіць з хвоек бронзавы загар,
Сабой залатакудрую бярозку
Ад ветру засланяе ясакар.

Стаіць яна з расхлістаным уборам
І гнуткім станам снежнай белізны
І чырванее перад ім:
ёй сорам
Сваёй безабароннай галізны.

І ясакар трапеча ўсёй істотай:
Гарэзнік-вецер голлі развінуў,
Наўмысна перагортвае лістоту,
Каб расхінуць у чубе сівізну.

О маладосці ясная цвярозасць,
І сталасць, і запальчывы агонь!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але карэнні ясакар з бярозкай
Працягваюць адзін да аднаго.

Ігліцы зжоўклай выцвілыя бровы
Казычуць лоб,
а гаркаваты пах
Смалы на лапках зломаных яловых —
Як хмельны пацалунак на губах.

*1963*

* * *

Пад Новы год
з людзьмі ў экспрэсе
(Пад свята спакусіў жа чорт!)
Імчаў я
не ў Маскву па песні
І не па сонца
на курорт.

Цягнік
праз год стары праходзіў,
Знікаючы з тваіх вачэй:
Спяшаўся,
каб у новым годзе
Нам зноў сустрэцца найхутчэй.

Калі
скрозь снегавыя хмары
Праз Варажбу
мяне ён вёз,
Я ўспомніў,
што дзяўчаты зараз
Варожаць дзесьці пра свой лёс.

Праехалі праз Багадухаў.
А я падумаў:
далібог,
Майго ўжо не падымуць духу
У гэту ноч
ні чорт, ні бог.

Нібы дарогу мне
знахарка
Зачаравала назнарок:

Апаражніў вагоны
Харкаў
І скіраваў у іншы бок.

Калі са мной,
начным выгнаннікам,
Пусты вагон паскорыў ход,
З Чукоткі
з ёлкамі са сланіка
Ўрачыста рушыў Новы год.

Не запрашаў вакзал ніводзін,
Вярсту адмерваў за вярстой...
І назвы
Сватава,
Любоцін
Не здолелі змяніць настрой.

*1973*

* * *

Мужчыны не клянуцца ў дружбе,
Салдат салдату —
у любві...
Ты гэта зразумееў па службе
І ведаеш
як франтавік.

Не вер таму,
хто дружбы хоча,
А ёй не ведае цаны:
З аднымі — днём,
другімі — ноччу,—
Аб чым не ведаюць яны.

Лепш перад ім быць недаступным,
Каленяў не згінаць сваіх,
Бо ён ураз,
як па прыступках,
Вышэй падымецца па іх.

Дай абаперціся такому
Хоць на адно плячо,
дык з двух
Тваіх плячэй
табе самому
Ён сядзе ўжо на галаву.

*1974*

* * *

У курортным горадзе паўднёвым,
Дзе бывае слынных шмат гасцей,
Сярод цытрусавых дрэў пладовых
Дрэва незвычайнае расце.

Да яго
          людзьмі з усіх краінаў
На працягу сарака гадоў
Аж пяцьсот
                    прышчэплена галінак —
Памяць чалавецтву пра сыноў.

Шміт,
        Ясенін,
                  Камароў,
                              Гагарын,
Робсан,
          Нэру,
                  Кенэдзі,
                              Джаліль...
І ў легендах ажываюць мары,
Як у казцы ажывае быль.

Прозвішчы людскія і імёны
На жэтонах белых ажылі...
Апельсіны,
                  персікі,
                              лімоны
Побач выспяваюць на галлі.

А курортнікі,
                  ў душы без жалю,
Седзячы на лаўцы ля куста,

Павырэзвалі,
як на кінжале,
Надпісы на юкавых лістах.

«Міша з Мурманска».
«Валодзя і Кліна».
«Пеця з Брэста».
«Жан з Алма-Аты».
Не расце —
пакутуе расліна,
Сохнуць пажаўцелыя лісты.

Не расліна — гэта ўжо калека,
Гэта ўсе ў атручанай іржы,
Ўсаджаныя ў спіну чалавеку
Доўгія
шчарбатыя нажы.

Згрызлі ўсё
бязмозглыя авечкі —
Дрэўца
лаўку ценем не зацьміць...
Эх вы,
недарэкі чалавечкі!..
Ну калі ж вы
станеце людзьмі?..

*1974*

## МАЛЕННЕ

Ледзьве сонечны шар нагрэты
З хваль пырхне на небакрай —
Як на ўзмор'е
з цэлага свету
Паломнцітва, нібы ў рай.

І ў бязбожнікаў, і ў набожных —
Адзін ва ўсіх ідэал:
Без прынук выконвае кожны
Свяшчэнны свой рытуал.

Хто ляжыць і моліцца сонцу,
Як ідэалу свайму,
Хто, купаючыся бясконца,
Мору моліцца аднаму.

Сёй-той перайсці пакорна
У іншую веру змог —
Хто зрабіўся з белага чорным,
Хто пабранзавеў, як бог.

Касавурацца з-пад павекаў,
А ў думках моляцца ўсе
Боскай пекнаце чалавека,
Зямной адвечнай красе.

Толькі я ў гэты час павінен,
Як грэшны пустэльнік той,
Адзінокі, перад багіняй
Сядзець у келлі святой.

І зусім нябачнай істоце,
Душы натхнёнай яе,

У якой ні стану, ні плоці,
Складаць малітвы свае.

Не раўнуй мяне да яе ты,
Вазьмі яе пакарай...
Не пакінь мяне ў пекле гэтым —
Звядзі у прыморскі рай.

*1975*

## ЛІСТ ЯЛЦІНСКАМУ ГАРВЫКАНКОМУ

> ...дом, дзе жыў і памёр беларускі паэт М. А. Багдановіч... падляжыць зносу. Пасля завяршэння будаўніцтва новага дома на ім будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.
>
> *З ліста Ялцінскага гарвыканкома Саюзу пісьменнікаў Беларусі*

Таварышы,
ганаруся я
Тым,
што ля Чорнага мора
Ёсць здраўніца «Белоруссия»
І помнік яму ў Місхоры.

На вашай ёсць тэрыторыі
Дом гэты паблізу плота
Суседняга санаторыя
Чырванасцяжнага флота.

Гэта ўсё,
з вашага ведама,
Даўно аб'яднаць належыць...
Лічыў Багдановіч бедамі
Парканы,
платы
і межы.

Ды з аднымі харчаблокамі,
Аздараўляльнымі паясамі,—
Каб не выглядаць
галоднымі
Духоўнымі жабракамі.

Бо дошкі мемарыяльныя
Вы не заменіце часамі
Любымі аздараўляльнымі
Сучаснымі паясамі.

Лепш чорны хлеб
ды са здобаю,—
Калі пайшло ўжо на тое...
Дык упрыгожце ж аздобаю
Ваш аздараўляльны пояс.

Пакіньце ў свеце прыгожага
Свяшчэнны духоўны храмчык
Для чалавека прахожага...
З павагаю
М. Аўрамчык.

*1974*

* * *

Сказаць бы модніцы-дзяўчыне
У пацерках і бранзалетах,
У размалёванай хусціне
З геаграфічнай картай свету:
Шкада,
          што ты з каханым хлопцам
Не ведаеш,
          не адчувала,
Як пахне на лаўцы з ядлоўцу
Агнём падсмажанае сала;
Якая смачная на полі —
За працаю,
          а не на гульбах —
Прыпаленая
          і без солі,
У прысаку сярод вуголля
Увосень печаная бульба.

*1973*

## ЗОНЫ АДЧУЖЭННЯ

Сваёй карыслівай, уласнай мэце
Пакорлівы і верны з веку ў век,
Чаго толькі не выдумаў на свеце
Сам для сябе практычны чалавек.

То лепразорыі для пракажоных,
То рэзервацыі для чужаніц...
Дзе выгарадзіў гета,
а дзе зоны
Нейтральныя
зрабіў каля граніц.

Ён, быццам пуцявы абходчык нейкі,
Шлагбаум падыме і апусціць вам,
Цягнік сустрэне і агледзіць рэйкі,
Хоць і жыве у зоне адчужэння сам.

*1975*

* * *

У соснах —
санітарны дзень.
Хмяліць і ап'яняе колас.
Вянкі купалля —
на вадзе.
За вогнішчам —
русалчын голас.

Русалка гэта ці паненка? —
Успамінаеш,
калі зноў
Асляпіць белаю сукенкай
Або ружовай галізной.

Вавёркі скачуць з краю ў край.
Здаецца,
што шчаслівай хвіляй
У казачны трапляеш рай,
Шлях да якога блізкі,
міля.

Але знайсці яго не могуць
На зачарованай вярсце...
Дзе дываны сівога моху,
Там кветка шчасця не расце.

*1978*

* * *

Прабач,
што я не маю сілы
Расказ твой выслухаць,
Кайсыне,—
Байца ўспаміны,
ад якіх
Павольна стыне
кроў у жылах,
Мурашкі поўзаюць па спіне
І слёзы льюць франтавікі.

Падказвае салдату розум:
Мне сорамна перад Давідам,—
Перад былым палітруком,
Што твар мой залівають слёзы,
Ды не паказваеш ты віду —
Іх выціраеш у дарозе
Сваёй шурпатаю рукой.

*1974*

* * *

Вякі пустуе ў Крыме горным —
Гняздом арлiным на скале —
Пакінутая крэпасць-горад
Чуфут-Кале...

Ад заваёўніцкай краіны —
Неваяўнічыя сляды:
Дзве малітоўні караімаў
Ды ў скалах студня без вады.

Па-над бязлюднай гэтай цішай
Самотна ўзвысіўся далей
З дачкою хана Тахтамыша
Каменны шэры маўзалей.

Ад калясніцаў каляіны
Павыбіваны па скале,
Дзе з пылу выраслі расліны...
Чуфут-Кале... Чуфут-Кале...

*1976*

* * *

Не трацячы лішняе хвілі,
З вакзала, калі папрасі,
На вуліцу Палеашвілі
Падкіне любое таксі.

Да гэтай сталовай, таксісты,
Душой прымацованы вы —
З крылатай эмблемай срабрыстай
Зямныя пілоты Масквы.

І Грузіі братняй паспрэдства,
І вуліцы назва сама,
І кухні грузінскай суседства
Музычны настрой непасрэдны
Ствараюць ва ўсіх нездарма.

А Скацертны побач завулак,
І Хлебны завулак за ім —
Сцвярджаюць, што гэты прытулак
Прыдасць апетыту усім.

Не дзіўна, што нашча талерку
Пякучага супу-харчо
І порцыю ўсю чабурэкаў
Закідваеш тут за плячо.

*1975*

* * *

*Канстанціну Ваншэнкіну*

Салаўі піянерскага лагера,
Пасля чучалаў птушак і рыб
Вы,
      нібы спевакі пасля шлягераў,
Да вар'яцтва давесці маглі б.

Прыгадаўся быломy дэсантніку
Выгляд старадарожскіх гаёў,
«Салаўі манастырскага саду»,
А я ўспомніў яго салаўёў.

І абодва,
            нібы закаханыя,
Мы не думаем больш ні аб чым...
Спеў ваш слухаем
                  як апантаныя,
Ачмурэлі зусім
               і маўчым.

*1977*

* * *

Дружба
    несла на крыллі
Нас
    у край снежных гор.
Тут кіно мы адкрылі
І назвалі «дзідор» [1].

Кугульцінаў, Кулієў,
Міршакар і Ганчар
Пасадзілі малыя
Дрэўцы стройных чынар,
Каб ля Вахшскай даліны
На таджыкскай зямлі
Іх тугія галіны
Вышай неба ўзнялі.

*1975*

---

[1] Дзідор *(тадж.)* — сустрэча.

* * *

З акон самалёта
надхмарныя высі —
Як позірк ахопліваў іх па баках —
Тваім краявідам пярэстым здаліся
Маім спадарожнікам і дружбакам.

Ды кожны не мог зразумець усё роўна,
Да шкла прыхінаючы здзіўлены твар:
Ці белыя воблакі гэта бавоўны,
Ці чорныя хмары авечых атар.

Каналы ды сеткі арыкаў гаючых,
Прагаламі ў стэпе
сівы саланчак...
То кропкі чарнеюць
вярблюджых калючак,
То травы жаўцеюць,
то ўспыхвае мак.

Мне з гэтай пары ў беларускае хаце
Прыгадвацца будзе
твой,
Узбекістан,
У ярка-квяцістым бухарскім халаце,
Ракой Сырдар'ёй падпяразаны стан.

*1975*

* * *

Неяк раз у застоллі вясёлым
На кіргізскай зямлі
Для прываблівання перапёлак
Мне свісцёлку далі.

Покуль хлопцы
                кумыс
                        дружным гуртам
Смакавалі ў гасцях,
Як гарніст, я за ўтульнаю юртай
Засвістаў у прасцяг.

Коні ўзнялі трывожна галовы,
Гледзячы у смугу...
А мне песні пачуліся словы:
«Я табун сцерагу».

Ледзьве гук самаробнай свісцёлкі
У прасторы замоўк,
Я пачуў, як мяне перапёлкі
З краю роднага
                клічуць дамоў.

*1975*

* * *

Пара дзіўных падарожных,
Што ступалі след у след,
У пасёлак асцярожна
Нацянькі прайшла ледзь свет.

Лютаму
завея
зранку
Сцеле мяккую пасцель,
Быццам
любаму
каханка,
Каб не муліў ён касцей.

І на снезе ўжо не бачны
Таямнічыя сляды
У лясны пасёлак дачны
Каля вёскі Слабады.

*1977*

* * *

Авец мінуўшы гурт за гуртам,
За пераваламі — перавал,
Гасціннасцю ў кіргізскіх юртах
Падкошаныя напавал;
Не адпачыўшы дня за тыдзень
І не даспаўшы сем начэй,
Мы на тваю кватэру прыйдзем...

Зноў не заплюшчыш ты вачэй.
Твой брат паранены ў аварыі,
І невядомы яго лёс...

Але ў аэрапорт таварыша
Ты на машыне сам павёз.

Пакуль на трап ля самалёта
Не узышла мая нага,
Я адчуваў плячо і локаць
Твой,
Кюрчайлы Аліага.

Не дзіўна, што палёў разанскіх
Паэта з рускаю душой
Прымусіў па-азербайджанску
Ты мовай гаварыць чужой.

*1976*

* * *

Калі мы выступалі на Таймыры
Сярод дзяўчат і маладых кабет,
Пажартаваў ім прыгажун з Паміра,
Таджыкскі тэмпераментны паэт:

— Якія тут красуні!.. Як на поўдні!..
А там іх выкрадаюць уначы...
Калі б на поўначы знайшліся коні,—
Мы ўкралі б вас і здолелі ўцячы.

Пачуўся рогат,
                                        крыкі захаплення:
— Крадзіце!..
— Вас не будуць даганяць!
— Смялей крадзіце!.. Мы дадзім аленяў!..
— А наш алень быстрэйшы за каня!

*1975*

* * *

*Яўгену Храмаву*

Люблю з табой размову весці.
Як знаўца,
               ты агляд дасі
Юрыспрудэнцыі на свеце
І графскіх родаў на Русі.

Прычым заўсёды ў ім пануе
Дух даўні роднае зямлі...
Мне гэтаксама імпануе
Твая няўрымслівасць,
                              калі,
Раднёй тамбоўскай казначэйшы
Так запалонены зяло,
У нумары маім
                     хутчэй ты
Вымаеш вечнае сціло.

*1976*

* * *

Над плошчай Скарына прадрог,
Залеве скарыўся і ён...
То блюзніцца скрутак дарог,
То мроі адольваюць сон.

У Полацку тыдзень — дажджы,
На вуліцах — золь і слата...
А ты не нудзіся, ты жджы,
Пакуль пазаве Палата
Да завадзяў тых,
дзе даўней
Далей ад брадоў і віроў
Па плыткім і багністым дне
З таптухай хадзіў твой герой;
Пакуль праясняцца ў глушы
Закуткі,
якія змаглі
Раздзьмуць у ягонай душы
Любоў да бацькоўскай зямлі.

*1985*

Мікола Аўрамчык і Андрэй Макаёнак. Жнівень, 1970 г.



АД ПАЧУЦЦЯЎ НАВАТ СЭРЦУ ЦЕСНА,
СЭРЦА ЛЕДЗЬ НЕ ВЫРВЕЦЦА З ГРУДЗЕЙ...

## РАДОВІШЧА

Пакла́ды.
Як корань ад гэтага слова
Даў многія парасткі ў мовах славян,
Радовішчаў многіх
падземныя сховы
Ушыр разрасліся
аж пад акіян.

Якія ж багацці душы
захаваны
У сэрцы тваім,
чалавек,
калі ты
Знаходзіш паклады ў гарах,
акіянах,
У нетрах пустынь
і ў пластах мерзлаты?

Шукаю я іх у цябе безупынку,
Шукаю старанна і доўга падчас...
Душэўных пакладаў
знаходжу крупінку,
А ўтойваеш ты іх —
бязмежны запас.

*1974*

* * *

Калі памру,
не плачце,
Не пралівайце слёз,
Памінкамі адзначце,
Мой не кляніце лёс.

Я мог даўно памерці,
Яшчэ хлапцом згібець...
Ды ўцёк з абдымкаў смерці
Ў абдымкі да цябе.
Было наканавана
Мне
рана
небыццё...
Чым быць мне
пахаваным,
Перш вам я даў жыццё.

Шкадуйце ў маёй долі
Адну з найбольшых бед:
Пра сябраў, што ў няволі
На той траплялі свет,
Я расказаць мог болей
І расказаць як след.

*1975*



## ЗЕМЛЯКІ

*Паэма*

Я з пасцелі ўстаў на золку:
Сёння мне
не спіцца тут...
Навасёлкі!
Навасёлкі!..
Дарагі
мой родны кут!

На вайне,
за крок ад смерці,
Па жарстве чужых дарог
Я пранёс цябе пад сэрцам,
Вечна ў памяці бярог.

Мо таму балюча надта,
Крыўдна мне было да слёз,
Як мяне ў вайну,
салдатам,
Звёў з табой на суткі лёс.

Ад здзіўлення я прыцішыў
Свой шырокі хуткі крок:
Дзе сяло было на ўзвышшы,
Бачны могілкі здалёк.

З абеліскамі-слупамі
Ды з пагоркамі магіл
Могілкі перад вачамі
Засланілі небасхіл.

Заслязіліся на ветры
Вейкі стомленых вачэй
(Шмат прайшоў я кіламетраў
Ды і ноч не спаў яшчэ).

Прылілася кроў да скроняў...
Бы праз акуляраў шкло,
За якія-небудзь гоні
Я пазнаў сваё сяло.

Разглядзеў не абеліскі,
А на печах каміны,
Не магілы ўбачыў зблізку,
А зямлянак курганы.

Нездарма ж я ўстаў на золку:
Сёння мне
не спіцца тут...
З добрым ранкам, Навасёлкі,
Дарагі мой родны кут!

*

Дым пускаем сіняваты,
Закурыўшы тытуню...

Швагер запрашае ў хату
І мяне,
          і старшыню.

Жонка прынясла для брата
Першака,
          як для радні!..
Гаспадыня вінавата
Зазначае старшыні:
— Раніцою мой мужчына
Навасёлкі ўсе аббег...
Магазін яшчэ зачынен,
Крамнік недзе на касьбе.

Швагер голасна дадаў,
Покуль чаркі наліваў:
— Зараз грэшна засядзецца:
Ападзе з травы раса,
Заржавее ў цёмных сенцах
Адкляпаная каса.

*

Зусім раптоўна на зямлі
Вайны пярун ударыў,
Маланкай крылы абпаліў
Юнацкай светлай мары.

Аж тры гады ніхто не знаў
Аб Васілёвым лёсе...
За гэты час ён пабываў
Салдатам і матросам.

Які прайшоў ён з боем шлях,
Суседзі не пыталі:

Аб гэтым шляху на грудзях
Расказвалі медалі.

Ніколі гэтулькі дзяўчат
Не абнялі нікога,
Як абнялі цябе,
салдат,
На франтавых дарогах,
Дзе вызваляў
ты іх з-за крат,
З канцлагераў,
з астрогаў.

Васіль пабачыў шмат краін
Пасля цяжкога бою...
Ніякіх скарбаў на ўспамін
Адтуль не ўзяў з сабою,
Хоць,
як вядомы між салдат,
Аматар фотасправы,
Трафейны фотаапарат
Ён мог бы ўзяць па праву.

*

Як тачанкі,
Са строкатам аднагалосым,
Па шляху
праімчалі касілкі з гары,
І касцы,
Быццам сцягі,
пранеслі на косах
Каснікі
залацістай вячэрняй зары.

Вось ізноў прада мной
тая ж самая школа,
Той жа клас,
дзе вучыліся мы,
малышы...
Зноў Алены Лаўрэнаўны з ласкаю голас
Урачыста гучыць у святочнай цішы.

Гэты голас,
Які мне з маленства знаёмы,
Што гучаў у вайну з партызанскіх лясоў,
Я пазнаў бы здалёк,
За паўсвету ад дому,
І адрозніць бы змог ад другіх галасоў.

Дзе б ні ўспомніў яго —
Да мяне ён даносіць
Плёскат нашай рачулкі,
Напевы сяброў,
Шум працяжны
даспелага ў полі калосся,
Гоман родных і блізкіх сасновых бароў.

Нада мной гэткім голасам
Маці спявала
Калыханку,
Каб я падужэў і падрос...
Гэты голас
Пявучае слова Купалы
Не да слыху майго,
А да сэрца данёс.

Мо таму палымянае гэтае слова
Я глыбока ў душы
з той пары берагу...
Мо таму і ваш голас,

Як матчыну мову,
Я запомніў навек
І забыць не магу.

Можа, тут не адзін малады выхаванец
Першы раз перад вамі няёмкасць зазнаў...
Нездарма на шчаках загарэўся румянец
І ў юнацкіх вачах сарамлівасць відна.

За сталом перад вамі ў такую часіну
Для паказу прыгубіць не сорамна нам,
Як было нам не сорамна перад Айчынай
Выпіваць па-салдацку законных сто грам.

Толькі ўсё ж,
як зірну на ўпрыгожанне класа
Ці вучнёўскую дошку
заўважу ў кутку,—
У прысутнасці вас
Так і хочацца часам
Захаваць пад сталом
З папяросай руку.

Не раскажаце вы
Нам,
былым выхаванцам,
Як хадзілі з атрада ў сяло сувязной,
Колькі вам давялося ў балоце хавацца
У дні прарыву
варожай блакады лясной.

Нездарма галава сівізной серабрыцца,
Выглядаеце вы
за святочным сталом
Быццам з даўнішніх казак
Лясная царыца

Са срабрыстай каронай
Над светлым чалом.

*

Бывае мала памятных сустрэчаў
І незабыўных вечароў у вас,
Калі даўгім здаецца кожны вечар,
Калі надакучае вольны час.

Канікул час кароткі, як світанне,
Але затое гэтаю парой
Бывае колькі памятных спатканняў
І колькі незабыўных вечароў!

*

Дзяўчына не вярнулася з чужыны
Да навасёлкаўцаў
У родныя мясціны.
Але жыве яна
У памяці тваёй,
І ўсё наўкол
Нагадвае аб ёй.

Ты ўспомніў,
Як пад вечар ля дарогі
Раса халодная
Вам апякала ногі,
Калі, бывала, вы
З ватагаю сяброў
Ішлі са статка вылучаць кароў.

А луг,
Азяблы пад расой лядзянай,

Выцягваў з рэчкі
Коўдру ватнюю туману,
Ахутваў кветкі і сцяблінкі кволых траў
І, абагрэўшыся пад ёй,
Драмаў.

Малой дзяўчынкаю яна была,
Калі вось тут
Стары вятрак няспынна
Адлічваў крыламі
Апошнія гадзіны
Аднаасобнага сяла.

Вас заманіла ў жыта перапёлка,
І заблудзілі вы
Ля родных Навасёлкаў...
Калі б не вузкія палоскі на палях,
Не хутка выйшлі б
На знаёмы шлях.

Цяпер
Перад табой усхваляваным —
Прастор бяскрайні
Збожжавага акіяна:
«Калі б сюды
Нас перапёлка завяла,
Мы праблукалі б ноч вакол сяла».

*

У твар нясло гарачынёй,
Было відаць за сотні метраў,
Як па-над самаю зямлёй
Пераліваецца паветра.

Калі прагрукатаў цягнік,
На ўсход трымаючы кірунак,
Звінелі рэйкі ў цішыні,—
Нібы нацягнутыя струны.

Дуб страсянуў чуб сівы свой,
Пыл заклубіўся на дарозе,
І ў вышыні над галавой
Загойдала галлём бяроза.

Дзе воблачка ўгары плыве,
Хісталася яе вяршыня,
Выпросталася ў сіняве
Пад купал звонкі, светла-сіні.

Нібыта ў купале тугім
Нацягнутага небасхілу
Разбоўтвала хмурынак дым,
Як клочча ўспененага мыла.

Ды вецер, выбіўшыся з сіл,
Сціхаў тым часам у абшарах...
І з захаду на небасхіл
Марудна выпаўзала хмара.

*

І атрады дзвюх сіл
Наступалі няспынна:
Хмары — на небасхіл,
Людзі — на лугавіну.

Хмары ў небе паўзлі
З захаду ў наступленне,

Людзі ўчастак зямлі
Узялі ў акружэнне.

Сена пах плыў услед
Скрозь паветра густое,
Быццам бы цэлы свет
Быў на сене настоен.

За завалам завал
Заграбаем з пракосаў...
У прасторы чуваць
Тонкі звон шматгалосы.

Невыразны, слабы,
Быццам звоняць з трымценнем
Конных грабляў зубы
Ці званочкі,
                    што ў сене.

Мой таварыш загнуў
Брыль фуражкі ваеннай,
І ўвесь час, як з агню,
Ён выхопліваў сена.

Покуль я падграбаў
На апошнім пракосе,
Ён пярэбіркі браў
І на копы адносіў.

Падыходзіць назад,
Кропелька дажджавая,
Быццам шчасця сляза,
З акуляраў спаўзае.

Усміхнуўся мне ён.
Бачна, як бліскавіца,

Асвятліўшы загон,
Ў акулярах дваіцца.

Убаку, над сялом,
Гром з маланкай ударыў,
Выбухам раскалоў
Навальнічныя хмары.

І дыхнула з вышынь
Свежым, чыстым паветрам...
Подых лёгкага ветру
Потны твар асушыў.

*

Пустуе трэці дзень райком.
Дзяўчыне сумнавата...
Яна машынкай за сталом
Трашчыць, як з аўтамата.

Звініць працяжна тэлефон,
Трывожыць час ад часу:
Напэўна, рапарты ў раён
Перадаюць калгасы
Аб заканчэнні ў іх касьбы...

Прымае машыністка
І зноў выстуквае,
нібы
Яна тэлеграфістка.

*

Прыйшла у канцылярыю
У часе перапынку

Дзяўчына круглатварая
З чырвонаю касынкай.

З усмешкай хітрай глянула,
Унёсшы,
як знаходкі,
Сноп і казу драўляную,
Што адмяраюць соткі.

Як русы чуб,
расправіла
Калоссе ля ўвахода
І сноп на кут паставіла
За стол рахункавода.

— Падымецца ён з пожні ў нас
На сцэну ў новым клубе...
Да вас прыйшоў апошні раз,
Відаць, кантор не любіць.

Іскрыначкамі колкімі
Насмешлівыя вочы
Кальнулі,
як іголкамі...

Рахункавод не змоўчаў:
— Пра клуб
вам думаць нечага
Ад раніцы да вечара...

— Вы думайце,
занятыя
Падлікамі ў канторы...
Вам
гэты сноп з зярнятамі
Нічога не гаворыць?..

— А вы іх падлічылі там?
— Падлічваць будзе цяжка,
Бо нават на лічыльніках
Не хопіць вам касцяшак...
Даць шкло павелічальнае?..
— Сябе высока ставіце!..

— «Я» — літара звычайная,
Апошняя ў алфавіце.
А кожная на пожні
Не хоча быць апошняй...

Вялікім «А»нібыта
Дзяўчына памахала
«Казой»,
якая збіта
З трох выструганых палак.
І пад вясёлы рогат
Зазначыла з парога:
— Вам толькі рыпаць пер'ямі
Ды шалясцець паперамі!

*

Не спалася ўсю ноч яму.
Васіль не мог заснуць...
Не разумее сам, чаму
Ён выбіўся са сну.

З пасцелі ўстаў сярод начы
І расчыніў акно...
Хоць і апала гарачынь,
Не спіцца ўсё адно.

Нарэшце, выбіўшыся з сіл
(Не толькі што са сну),
Ужо на досвітку Васіль
Усё-такі заснуў.

Здаецца ў сне,
Што ад вачэй
Святло не змрок закрыў,
А непраяўлены яшчэ
Вялізны негатыў.

Вось праяўляецца ўжо ён,
Святлее
Ад таго,
Што хлопец дыхае праз сон
Раз-пораз на яго.

Нарэшце, негатыў зусім
Праяўлены як след...
І пазнае на ім Васіль
Дзяўчыны сілуэт.

Халодны позірк перад ім
Прыжмураных вачэй...
Дыханнем хоча ён сваім
Іх абагрэць хутчэй.

Але дзяўчына, як на здзек,
Казыча спакваля
Даўгімі вейкамі павек
Па твары Васіля.

Прачнуўся ў ложку ён сваім,—
Нікога не відно...
І толькі насцеж перад ім
Расчынена акно.

У хату заглядае дзень.
Ледзь дыша вецярок.
Калючы сонечны прамень
Аж асляпляе зрок.

*

Мінулі Навасёлкі,
Заспаны гай і лог...
Свістала перапёлка:
«Шчаслівых вам дарог!»

Матора гул няспынны
Даносіцца здалёк...
Навокала бензінам
Густы прапахнуў змрок.

Парывам дзьмухнуў вецер,
Пасля прыціх наўкруг...
Здалося, быццам дзесьці
Адзін матор заглух.

І трактар парай фар
Аглядвае абшар.
Свідруе цемрадзь ночы,
Як быццам сапраўды
Знайсці другога хоча,
Каб выручыць з бяды.

Ды дзесьці ля пасёлка
Зноў свішча перапёлка:
«Шчаслівых вам дарог!»

Мінулі гай і лог.
Васіль жа добра ведаў:

Інакш бы ўсё ішло,
Калі б веласіпеда
Між імі не было.

І дзеўчына маўчыць.
Напэўна, адчувае,
Што ён ім, ідучы,
Абодвум замінае.

— Лепш на веласіпедзе
Давайце мы паедзем...

Ён на веласіпедзе
Цяпер яе вязе,
Бы на руках абедзвюх
Перад сабой нясе.

Вось так бы нёс бясконца
Яе ўдалечыню,
Насустрач золку, сонцу
І заўтрашняму дню.

Світае.
У прасторы
Дваіцца гул матора.
Дваяцца фары справа,
Нібы на самай справе
Там пара трактароў.

А перапёлка зноў
То голас падае,
То раптам заціхае...
Але на кліч яе
Адказвае другая.

Як моцна сэрца б'ецца
Ад гэтага ўсяго!..

Не,
Не адно, здаецца,
А сэрцы два ў яго!

*

Засмяяліся ўсе —
І раптам
Ажыўленне ля сцірт настала...
Чмыхнуў,
быццам са смеху,
трактар,
Малатарня зарагатала.

І ля самага агранома,
На зямлю,
пад ногі дзяўчат,
Залатой лавінай салома
Хлынула,
нібы вадаспад.

З абмалочанага ячменю
Колас лёгкі ўзяў старшыня,
Паглядзеў, ці няма зярнят,
Распрастаў саломіну ў жмені,
Потым палец ёю абвіў,
Сам таго не заўважыў проста,
Што пярсцёнак з яе зрабіў,
Як умеў ён рабіць падросткам.

— Можна вас залічыць па праву
У майстры ювелірнай справы.

Старшыня сумеўся — і ўраз
Аграному знайшоў адказ:

— Вы не смейцеся,
                    я вось вам
Заручальны пярсцёнак дам,
Каб былі ў вас з гэтага часу
Мір і дружба
                з нашым калгасам...

— Многа ў вас малаціць ячменю?..

— Не змалоцім яшчэ за дзень.
Зачарпнула зярнят у жменю:
— Слаўны,
                чысты які ячмень!

Ён расказваў у захапленні,
Як сяголета ў дні вясны
Гэтага ячменю насенне
Высявалі ў палях яны.

— Узарана зямля як трэба.
Чыстае насенне ляжыць...
Для сяўбы
                гатовая глеба
Падышла,
                як цеста ў дзяжы.

У брыгадзе сеяць хацелі...
Пачакайце, кажу, калі
Будуць парасткі пустазелля
Праразацца наверх з зямлі.

Помню,
            выйшаў я ў поле раннем,
А яшчэ схавана яно
У густым бялявым тумане
І нічога мне не відно.

Нахіліўся,
прайшоўшы гоні,—
Не магу разабрацца я:
Моцна стукае кроў у скроні
Ці чуваць,
як дыша зямля.

Хоць ты скідвай гэты дыван —
Я, здаецца, рукою кратаў
Не вільготны белы туман,
А сухую цёплую вату.

Ды гляджу —
З-пад яе зямля
Вызваляецца спакваля.

Кінуў позірк я з краю ў край —
Дробненькія зіхцяць расінкі...
Ну, а гэта ўжо так і знай:
Пустазелля
ўзышлі сцяблінкі.

Падрасці ім дай,
брыгадзір,
Потым,
перш чым сеяць насенне,
Забарануй поле ўдоўж і ўшыр:
Пустазелле вырвеш з карэннем!

— Хто вам выкарыстаць дазволіў
Недарэчны гэты прыём?!.
Вы ж сяўбу зацягнулі ў полі! —
Перабіў яго аграном.

— Вы далі б людзей Навасёлкам,
Каб у час правесці праполку?..

У адказ ускінула бровы,
Позірк стрэў ва ўпор старшыню...

Бляск вачэй з адценнем сталёвым
Ён заўважыў упершыню.

«Мо таму яна кожны раз
Апускае з хітрасцю вейкі,
Каб глыбей захаваць ад нас
Гэты позірк, халодны нейкі.
Як схаваны ён ад усіх
За даўгія вейкі густыя!..
Мабыць, промні сонца —
і тыя
Не сагрэюць вачэй праз іх».

*

Нясцерпная гарачыня.
Асмяглую кветку лілея
Раскрыла, як рот качаня,
І,
ледзьве трываючы,
млее.

Не спёка,
а проста сухмень.
Ад сонца не знойдзеш прытулку.
Якраз толькі ў гэтакі дзень
Рыбачыць пайсці на рачулку.

Я змалку здружыўся з ёй блізка.
Ў адзін з незапамятных дзён,
Ступіўшы на лёд яе слізкі,
Адразу ж адбіў ёй паклон.

Не раз,
Аднагодкі мае,
З нас кожны падпісваўся потым
У шчырай любві да яе
Канькамі уласнай работы.

Цяпер у абдымкі яе
Кідаюся я з асалодай...
Рачулка мяне абдае
І свежасцю, і прахалодай.

Уброд пераходжу праз плёс.
Мне дзіўна і незразумела:
Ці сам я настолькі падрос,
Ці гэтак яна памялела.

Калісьці ж вось тут у лазе
Таптухі мы ставілі самі,
Ішлі асцярожна ў вадзе,
Нясмела таптали нагамі.

Старэйшыя кпілі тады:
«Яшчэ рыбакі, а баяцца,
Што вытапчуць многа вады,
Не будзе ім дзе пакупацца».

Гляджу, а ў таптусе маёй
Лілея — сарваная кветка.
Нібыта празрыстай слюдой
Зашклілася мокрая сетка.

І гэта паверхня рачная,
І сосны,
што бачны далей —
Усё праз яе выглядае
У нейкім ружовым святле.

А рыбка са срэбнай луской,
Звычайная чырванапёрка
Здаецца цяпер залатой,
Блішчыць у таптусе, як зорка.

Адкідваюць кайстру ў бакі
Налоўленыя шчупакі.

Ляжу я пад гонкай сасной,
Таптуха мая прасыхае,
Як ветразь, плыве нада мной
У небе хмурынка малая.

Не воблачка гэта малое,
Здаецца, плыве сапраўды,
А сам я ў маленства былое
Пад мачтай плыву праз гады.

*

На схіле Падлеснай гары
З далёкіх часоў даваенных
Капалі вапняк жыхары,
Бялілі ім печы і сцены.

І вось для калгаса цяпер
Спатрэбіцца гэты кар'ер,
Схаваны ў густой лебядзе,
З адхонам,
як горная строма...
Пад'езд да яго аглядзець
Прыйшлі старшыня з аграномам.

У іх пад рукамі выгода,
Якую стварыла прырода.

Свой торф,
колькі хочаш бяры,
Калі ў гаспадарцы ён трэба.
Свае вапнякі на гары,
Вапнуй імі кіслую глебу.

На лубін глядзіць аграном.
Здаецца ёй выспай узгорак,
Які абмывае кругом
Бяскрайняе сіняе мора.

Відаць, як каля Навасёлак
Вяртаецца з працы народ...
Спусцілася сонца дадолу,
Пад арку калгасных варот.

Нібы чалавек,
каб бясконца
Праменнем яно не пякло,
Заціснуў гарачае сонца
У раму,
за тоўстае шкло.

— Люба!..— а голас, як звон.
— Ага!..— яму дзеўчына кажа.
Падумала, мабыць, што ён
Уражаны гэтым пейзажам.

Але пасля гэтага зноў
Прамовіў ён: — Люба!
Любоў!..

Здалося,
што лубін
яшчэ
Ярчэй засінеў ад праменняў,

А шэрань дзявочых вачэй
Адсвечвала сінім адценнем.

І ён,
усміхнуўшыся,
ўспомніў:
«Дарэмна я думаў раней,
Што нават гарачыя промні
Яе не сагрэюць вачэй».

*

Васілю прыгадаўся зноў
Той малюнак,
што бачыў тут,
Як вярнуўся з вайны дамоў
Ён у гэты бацькоўскі кут.

Навасёлкі ў сэрцы панёс,
А вярнуўшыся ў іх пасля,
Адчуваў сябе, як матрос
Ля разбітага карабля.

Затапілі ўсё палыны,
Пад сівой паверхняй якіх
Адзінокія каміны
Выглядалі як маякі.

Ды ўздымаліся дзе-нідзе
Над зямлянкамі курганы,
Усё роўна як на вадзе
Перавернутыя чаўны.

На пажарышчы-астраўкі,
Дзе расла адна лебяда,

Іх закінуў не шторм марскі,
А людское гора,
бяда.

Аднаўленне як пачалі,
Дык нібы на верфі малой,
Дзе будуюцца караблі,
У сяле запахла смалой.

Акіян жытоў пад арцель
Хвалі гнаў і шумеў,
як бор...
Быццам флагманскі карабель,
Школа выплыла на прастор.

І адзін за адным,
у рад,
Быццам бы караблі,
за ёй
Пачалі выроўніваць строй
Зрубы новых
калгасных хат.

А цяпер як глянеш —
відны
Навасёлкі з лаўскіх палёў...
Не сялом здаюцца яны,
А эскадраю караблёў.

Вось яны,
гатовыя ў бой,
Перад ім стаяць караблі,
Што, як мачты, па-над сабой
Радыёантэны ўзнялі.

*1951—1954*

## ВОЛХАЎСКАЯ СПОВЕДЗЬ

*Паэма*

> Падводны горад раптам ударыў ва ўсе свае пахаваныя званы, каб сказаць чалавеку...
>
> *Пабла Нэруда*

Я правёз цябе ад Чудава
Па такіх кутках радзімы,
Дзе ў вайну
                    тварылі цуды вы,
Дарагія пабрацімы.

На магілах Спаскай Полесці,
Перад воінам з граніту,
Ты
     салдацкія аповесці
Перачытвала на плітах.

Бач,
      як мы плацілі дорага
За жыццё Мяснога Бору,
Назва ўжо адна
                         каторага
За сябе
            сама гаворыць.

Я прывёз цябе
                    у Ноўгарад —
І адчуў, усхваляваны,
Што пад сэрцам зноў гарадь
Незагоеныя раны.

Тут калісьці ўдоўж і ўпоперак
Смерць па горадзе кружыла

І яго гарачым попелам
Скроні мне зацерушыла.

Бы засыпан горад даўнасці
Лавай з вулканічных сопак...
Разглядаеш ты з цікаўнасцю
Кожны пласт яго раскопак.

Попельнай абсыпан замеццю,
Я хаджу тут, як па мінах,
І раскопваю у памяці
Наслаенні успамінаў.

А вярнуўшыся у Чудава,
Раскажу табе,
як споведзь,
Мной у лагеры тут чутую
Драматычную аповесць.

1

Калі на ўсходзе летнім ранкам
Барвовы золак датляваў,
З даёнкай у руцэ ад ганка
Прайшла Марыя да хлява.

Ля незашчэпленых варот
Аслупянела аж дзяўчына,
Бо насцеж веснічкі ў гарод:

«Няўжо карова ў канюшыне?»
Але Рагулі галава
Відаць была ў канцы хлява.

І вось над бляшаной даёнкай
У спрытных маладых руках

Зайгралі,
быццам струны,
звонка
Цуркі-струмені малака.
Ды гэтай музыцы не ў тон
Пачуўся раптам нечы стогн.

Дзяўчына расчыніла хлеў —
Паўзмрок адразу ж пасвятлеў.
За адгародкай у хляве,
Дзе назапашана салома,
Ляжаў амаль што нерухома
У лётным шлеме чалавек.

Такі-сякі яго рыштунак
Знаходзіўся таксама тут...
Ляжаў пад галавою клунак,
Тырчаў з якога парашут.

— Наш лётчык трапіў у бяду,
Хутчэй дапамажы мне, тата,—
Сказала бацьку на хаду
Марыя,
уляцеўшы ў хату.

Пілот з крывёю страціў сілу.
Ён штосьці трызніў, як праз сон...
Насілу зняў з яго Даніла
Шлем, боты і камбінезон.
Марыя ўбінтавала спрытна
Зрашэчаную ўшчэнт руку
І за саломай у кутку
Прытулак вымасціла скрытны.

Прайшла па хатах пагалоска,
Сёй-той балакаў між сабой

Мікола Аўрамчык, Ніл Гілевіч, Максім Танк. 1968 г.



КАСАВУРАЦЦА З-ПАД ПАВЕКАЎ,
А Ў ДУМКАХ МОЛЯЦЦА ЎСЕ
ВОСКАЙ ПЕКНАЦЕ ЧАЛАВЕКА,
ЗЯМНОЙ АДВЕЧНАЙ КРАСЕ.

Аб тым,
што понаЧЫ над вёскай
Паветраны адбыўся бой,
Што самалёт адзін пры гэтым
Сярод трывожнай цішыні
Пранёсся
вогненнай каметай
І ў Ільмень
плюхнуў з вышыні.

Марыі ноччу сніўся сон:
У падводным царстве чуцен звон.
Ён коціцца да берагоў...
Чужынцы
звон не пахавалі,

Хаця і скінулі яго
З барліны ў волхаўскія хвалі.
Цячэ няспынна плынь на дне,
Язык пагойдвае ў зване.

На валуне ў азёрным краі
Сядзіць Садко,
на гуслях грае.
Удалеч музыка плыве...
У скокі
пад яе часамі
Пускаюцца русалкі дзве
З распушчанымі валасамі.

Нібыта ў тваністым карыце,
Прад імі,
засмактаны дном,
Як вадалаз,
спіць моцным сном
Вышынь нябесных пакарыцель.

На воднай гладзі, як лілея,
Раскрыты парашут бялее.
На ім,
        чырвоныя тычынкі,
Ірдзеюць кропелькі-крывінкі.

А самалёт ляжыць на спіне.
Мільгаюць рыбінкі ў кабіне.
З азёрных водарасцей бінт
Абвіў
        яго зламаны вінт.

2

Міналі дні,
                міналі ночы.
Ажыў у ільменьскіх краях
Сяргей
        (так зваўся збіты лётчык),
Душой і целам акрыяў.
Як толькі ў небе золак тлеў,
Марыя
        вечар кожны й ранак
Прыносіла ў даёнцы ў хлеў
Абед,
        вячэру і сняданак.
Не наклікала падазрэння:
Нікому і не ў галаве,
Што больш, чым трэба,
                                за даеннем
Дзяўчына бавіцца ў хляве.

Цяпер Марыя ўсхвалявана:
Пайшла да студні па ваду
І там зусім неспадзявана
Сустрэла Груню на хаду.

У сцены горада старога
З выгнання
бежанка ішла,
І прывяла яе
дарога
Да прыазёрнага сяла.
Так сакратарку з дэканата,
Якую знаў іх інстытут,
Марыя запрасіла ў хату,
Як госцю
пасадзіла ў кут.
Хлеб падала на стол засланы
І сырадой у гладышы...

— Дык Ноўгарад жа зруйнаваны,
Няма ў ім, кажуць, ні душы.
Не заціхае гул звана
Ў маіх вушах ні на хвіліну...
Наш наўгародскі звон
вайна
У Волхаў скінула з барліны.
— Разбіта ўсё пад нашым небам...
Вайна нікога не міне...
А родны горад мой
дзе-небудзь
Прытулак знойдзе для мяне.
Бо мне,
жыхарцы гарадской,
З маёй натураю вясёлай,
Абрыдзеў вечны неспакой,
Бадзянне гэтае па сёлах.
Гарэзай Груню жартаўліва
Празвалі хлопцы за гуллівасць.
А закаханыя па вушы
Яе папросту звалі
Грушай.

Былі вяснушкі на шчаках
Смуглявай гэтай гараджанкі,
Нібы радзімкі
на баках
Налітай сонцам сапяжанкі.

У жудасным віры падзей
Жыццё
парой трывожна-грознай
Збліжае між сабой людзей,
Зусім характарамі розных.

Марыя з Груняй
пры сустрэчы
Праседзелі да ночы тут.
Нібы сяброўкі,
цэлы вечар
Прыгадвалі свой інстытут
І парк цяністы ля крамля,
Дзе песень
гэтулькі прапета,
І волхаўскі пясчаны пляж,
Дзе сустракалі
вольна лета.

Перdesigned казаўшы ля стала
Запас навінаў разнастайных,
Марыя
з Груняй не магла
Сваёй не падзяліцца тайнай.

3

Цяпер,
як толькі дзень надыдзе,
Марыі з Груняй весялей...

Згадзілася дзяўчына:

— Тыдзень

З дарогі адпачну ў сяле...
Ты не ўпраўляешся адна
Рабіць да ночы ад відна.
Без сонца лётчык твой змарнеў.
Ён абяссілеў ад знямогі...
Ўся справа пойдзе ў нас спарней...
Яго пастаўлю я на ногі.
Каб ён належны догляд меў,
Каб менейназаляць вам з татам,
Я ўжо наважылася ў хлеў
Таксама перабрацца з хаты.

Але Сяргей на свой манер
Дзявочы зразумеў намер.
— Я даражу жыццём тваім!..
Нашто ж рызыкаваць двaім?..
Я ачуняў...

І галава

Цяпер ужо не ходзіць кругам...

Ды Груня не ішла з хлява,
Над раненым сядзела крукам.
Яна ўздыхаць са шкадаваннем
Па русым чубе пачала,
Які Марыя з хваляваннем
Сяргею стрыгла дагала.
— Зглумілі гэткую прычоску!..
Няма каму даць вам прачоску...

— Не плачуць жа па валасах,
Калі сякуць з плячэй галовы,—
Сяргей смяяўся.

Паласа

Чуб раздзяліла напалову.

Такія меры засцярогі
Былі на выпадак трывогі.
Агледзяць немцы з галавы —
Мяняй
ці не мяняй мундзір —
Той,
хто пастрыжан,—
радавы,
А хто з прычоскай —
камандзір.

Калі праз некалькі гадзін
Сяргей астаўся зноў адзін,
Планшэт рука яго ўзяла...
Між дошак
сонца,
як ліхтарык,
Праменні кідала святла
На карту,
над якой ён марыў.

У час няўдачы ў барацьбе
Зусім інакшымі вачыма
Гляджу я пільна на цябе,
Свяшчэнны кут
маёй Айчыны.
І гэты Ноўгарад сівы,
І гэтая Старая Руса
Дух падымаюць баявы
Параненага
беларуса.
Тут нават самі назвы рэк
Гучаць, як у ваенных зводках,
Напамінаюць з веку ў век
Аб ратных справах
слаўных продкаў.

Шалонь
заве шалом надзець,
Волхаў-вяшчун —
смялей біць катаў,
Ловаць — лавіць іх ноч і дзень,
Мста —
мсціўцаў кліча на адплату.
Ад ворагаў,
нібы шчытом,
Блакітным Ільменем спрадвеку
Тут засланялі кожны дом
Рачулкі гэтыя і рэкі.

На карце гэтай, як заўжды,
Між Ноўгарадам
і Старою Русай
Нагадваеш мне,
Ільмень, ты
Па форме плошчу Беларусі.
І Беларусь мая ў гады
Іншакраіннае навалы
Сабою,
як шчытом,
заўжды
Расіі сэрца прыкрывала.

Не спіць яна дрымотным сном,
Не пакаралася таксама
І ашчацінілася зноў
Сваімі грознымі лясамі.
І тым,
хто задушыць яе
Гатоў пад ботам панавання,
Яна з дня ў дзень адчуць дае
Сваё жывое існаванне.
Кішаць людзьмі яе лясы...

О маці,
як я ганаруся
Тым, што і я —
твой родны сын,
Сын партызанкі Беларусі!

4

Сяргей ужо не спаў уранні,
Калі пачуў дзяўчат зварот:
Убачыў іх,
як на экране,
Сярод расчыненых варот.
Салодка пазяхнула Груня
І выпрастала зграбны стан...
Абцягваў ёй тугія грудзі
Квяцісты лёгкі сарафан.
Марыя
з хусткай над вачыма,
У кофце зношанай сваёй
Больш на вясковую жанчыну
Была падобна побач з ёй.
Нібыта ў чым яго віна —
Сяргей адчуў сябе няёмка...
Пасля сказаў,
калі яна
Дастала полудзень з даёнкі:
— Вазьмі, Марыя, парашут,—
Пашыйце з Груняю сукенкі...
— У шоўк прыбрацца ў час пакут
І паказаць, што мы паненкі?..

Сяргей адчуў,
што за спагаду,
Нібы стальным лязом
насторч,

Марыя рэзнула паглядам
Сваіх вялізных шэрых воч.
Забрынкала даёнкай спехам
І запытала ўжо са смехам:
— Хіба на смерць сукенкі шыць?..
Але ж яшчэ нам доўга жыць...

Груня

Калі ўжо думаць
пра жыццё,
Чаму б не ўзяцца
за шыццё?..
Не шкодзіла б
па модзе новай
Пашыць сукенку адмыслова!..

Марыя

Пакрасавацца на выгодзе?..
Цяпер жа новае ўсё ў модзе:
На карце —
новая Еўропа,
Фашысцкім змераная крокам,
Законы новыя
улад,
Парадак новы,
новы лад.

І ўжо над бляшаной даёнкай
У спрытных маладых руках
Зайгралі, быццам струны,
звонка
Цуркі-струмені малака.
Без пастуха былі двары іх,
І па чарговасці двароў
Сягоння выпала Марыі
На пашу выганяць кароў.

Яна спыталася спачатку:
— Са мною,
Груня, пойдзеш ты?..

Г р у н я

А што рабіць мне каля статка?..
Маладняку круціць хвасты?..

М а р ы я

Дык пакідаю на цябе
Сяргея...
Будзеш гаспадыняй...
Ды не забудзь,
згатуй абед,
Бо хворага так не падымем...
Хлапцу,
занятаму ядою,
Счарсцвелы аржаны праснак,
Што праганяў ён сырадоем,
Напамінаў знаёмы смак
Святога матчынага хлеба
З салодкім смачным малаком...
Благаславенныя пад небам
І матчын хлеб,
і родны дом!
Быў пульхны матчын хлеб,
як вата,
Заўсёды меў салодкі смак...
Саланавата-гаркаватым
Ад слёз і гора стаў праснак.
А Груня ныць як пачала,
Дык аднатонна ўсё над вухам
Гула настырна, як пчала
Або назойлівая муха:
— Так можна ачмурэць ад гора...

Сланяйся,
выгнаны вайной...
Вяртацца трэба
ў родны горад.
Там свой куток...
Хадзем са мной...

Сяргей

Ужо няма
ў бацькоўскім краі
Твайго кутка...

Груня

Ён быў даўней...

Сяргей

Цяпер і там
не знойдзеш раю.

Груня

З каханым
рай і ў будане.
Не бойся,
не саб'ешся з тропу...
Нам не спатрэбіцца планшэт...
Хадзем са мной...
Я ж маю пропуск...

Сяргей

У рай арыйскі?..
На той свет?..
О не!
Я жыць хачу на волі!..
А ў лес не трэба пропуск мне,
Народжанаму на прыволлі
Ў лясной зялёнай старане.

Груня

Ну што ж, бывай!..
Са слоў тваіх
Мне зразумела ўсё дазвання...
З Марыяй пойдзеце ўдваіх...
А я тут лішняя між вамі.

5

Калі спытаў Марыін бацька
У Груні ўзрушанай, чаго
Ісці ёй трэба так знянацку,
Яна збянтэжыла яго:
— А я тут лішняя між імі...
Яны збіраюцца ўдваіх
Начнымі сцежкамі глухімі
У лес прабрацца да сваіх.

Даніла аж аслупянеў,
Так аглушыла навіна.
Нібы ён раптам ап'янеў
Ад чаркі хмельнага віна.

Пайшла дзяўчына у сяло,
А ён знямеў
на нейкі момант:
Так за жывое узяло,
Што нават адабрала мову.
«А я аслеп...
Не бачыў здуру,
Што справы гэткі паварот...
За ўласную баяўся шкуру,
Як у нары прыціхлы крот.
Не бачыў тайны па вачах
Дачкі,
якую павучаў:

— Хадзі ды бойся як агню
Чужога позірку...
Не жарты!..
Вядзеш смяртэльную гульню,
Жыццё паставіла на карту...

Яна тады сказала жартам:
— Ўсе гульні з рызыкай,
з азартам...
Калі ўжо на сваім двары
Мы самі не гаспадары,
Дык у жыцці чаго мы варты?!.»

А ён жа ведае, якая
Упартая дачка яго...
Ён ад яе ўсяго чакае...
Яна даможацца свайго.

Хацеў цяпер ён,
каб у школе
Была настаўніцай дачка...
Яна сказала,
што ніколі
Яму таго не дачакаць
І што яе не ачмурыць
Ані зарплатай,
ні падачкай,
Бо да праклятай немчуры
Яна не пойдзе паслугачкай.
Вайна, здаецца, абышла,—
Рыбач сабе з уласнай соймай
Ды на сядзібе край сяла
Жыві наводшыбе спакойна.
Дык дзе там!..
Бач, яго Марыя
Гуляе, як дзіця, з нажом...

Не ўціхамірыцца ў двары іх,
А лезе проста на ражон.

«Няўжо дачка мяне пакіне?..
Не спраўдзіць бацькавых надзей?..
Што я цяпер рабіць павінен?..»

Яго цягнула да людзей.
Ён не заўважыў,
апантаны,
Шаленства здольны вытвараць,
Як апынуўся нечакана
За агароджаю двара,
Дзе раптам грузавік стары
Быў з ходу спынены шафёрам...
«Зноў ва ўладанне немчуры —
Набег іспанскіх марадзёраў».

І раптам ён адчуў цяпер,
Што трапіў,
як шчупак у нерат
Ці як у пастку дзікі звер:
Не мог ісці ні ўзад,
ні ўперад.
Загергетаў штосьці афіцэр —
Мо загадаў
збіраць даніну...
Салдат са шрамам на шчацэ
Павёў назад у двор Данілу.

Па-свойму звягае салдат,
Ды, быццам папугай-нязнайка,
Каб не забыць,
на розны лад
Ён паўтарае:
«рiба», «яйка»,

«Ён хлеў увесьператрасе»,—
Даніла думае трывожна...
Ды страх праходзіць пакрысе...
«Іспанца апярэдзіць можна...»

6

Праз вартавых сцяну трайную
Сяргей глядзеў на крэмль,
на сквер...
Што гэта?
Дзе ён брук руйнуе?
На плошчы Краснай у Маскве?..
Ці ж не яго
ёй пакланіцца
Сумленне
некалі вяло,
Калі заданне
за граніцай
Яму даручана было?
І ці ж не ён
у форме лётнай
Чэсць аддаваў ёй як салдат,
Як толькі з барацьбы нялёгкай
Вярнуўся з-за мяжы назад?
Не для таго ён ад фашыстаў
Абараняў Мадрыд тады,
Каб тыя з боем,
урачыста
Маскву ўзялі праз тры гады.
Ён схамянуўся:
не Масква,
А Ноўгарад
перад вачыма...
Заняў чужынец Крэмль пад склад...
Глядзець на гэта немагчыма.

Звадзілі ў Крэмль іх,
                              як на плаху,
Каб,
       кінутыя у палон,
Здзіралі залатую бляху
З крутых сафійскіх купалоў.
Карціць жа асу-генералу,
Каб Ноўгарад,
                        як дар, паднёс
Яму чырвоныя бакалы
І з гравіроўкаю паднос.
Не знае ас,
                    што тут палонны,
Які ў іспанскую вайну
Пад сінім небам Барселоны
Спаліў «савойю» не адну.
Калі палоннага ўкраінца
Ўзагналі немцы на сабор,
Ён пад вінтоўкамі чужынцаў
Ускрыкнуў гучна на ўвесь двор:
— Золотовэрхая Софія,
Даруй мэні,— цэж наш Подол,
Могучый Дніпр та рідный Кыів,—
І з даху кінуўся на дол.
Сафія
          і пад кручай Волхаў —
Яны былі таму віной,
Што прыгадаў Сяргей свой Полацк
І стромкі бераг над Дзвіной.
«Як гэта ўсё цяпер далёка!..
Гаротны мой бацькоўскі край,
Што сыну выпаў лёс нялёгкі —
За гэта ты не дакарай».

Нявольнікам схіліўся ў горы
Пад чужаземнаю пятой

Славуты
старажытны горад —
Калыска вольнасці святой.
Праехала па плошчы брычка
Сярод бязлюднае глушы...
З агідай плюнуў ён,
бо брыдка
Адразу ж стала на душы.

Як быццам ён у тым правінен,
Што ў брычцы
з кветкамі ў руцэ
Сядзела Груня,
як графіня,
І з ёй — нямецкі афіцэр.
Хтось вылаяўся адмыслова...
Вартаўнікі б'юць у каўнер...
Іспанская ў іх вуснах мова
І лаянка
на свой манер.
А больш
іспанскага нізвання
Ні ў іх адзенні, ні ў душы...
У нямецкай форме
знак «Эспанья»
На рукаве,
як шчыт,
нашыт.
Глыбока ў сэрцы маладым
Далёкай бітвы ветэрана
Іспанія ўжо тры гады
Шчыміць,
нібы скразная рана.

Відаць, не ўсё рабілі чыста
Мы ўсе на грэшнае зямлі,

Калі з Іспаніі фашысты
Дапяць у Ноўгарад змаглі.

Заўважыў ён між варты грознай,
Як з карабінам начыку
Стаіць яго іспанец «хросны»
Са шрамам праз усю шчаку.

Спакойна пазіраць
не ў стане
На брук,
што кіркамі ўзаран,
Як здзеклівае прывітанне,
Ён выгукнуў:
«Но пасаран!..»

За гэты дзёрзкі кліч яго
З усёю паўнатой улады
Іспанец «хрэсніка» свайго
Перахрысціў
цяжкім прыкладам
З размаху па ўвагнутай спіне.
— Авэйс льевадо і матадо,—
Крычаў ён,—
а нуэстрос ніньос! [1] —
Злараднічаў:
— Эмос пасадо!..[2]
Але яму,
зірнуўшы ў твар
І выпраставўшы стан атланта,
Нанёс палонны новы ўдар:
— Но пасараіс адэлантэ!..[3]

---

[1] Вы вывезлі і забілі нашых дзяцей!
[2] Мы прайшлі!..
[3] Далей не пройдзеце!..

Іспанец ■ выгляду абмяк,
Хоць унутры кіпеў ад злосці...
Палонны гэты
як-ніяк
Яму ўжо моцна ўеўся ў косці.

Прыгналі немцы іх на бераг
Дзівоснай рускае ракі,
Але не рушылі наперад
Адтуль
іспанскія палкі.
З ваяк «дывізіі Блакітнай»
Наклалі мёртвых цел
лаўжы...
А Грандэсу [1] павесіў Гітлер
Жалезны й рыцарскі крыжы.
І выхваляецца ваяка,
Што на захопленай зямлі
Захоўваць будуць век з падзякай
Магілы іхніх грэнадзёраў,
Якія на той свет пайшлі —
«На вахту рушылі да зорак» [2].
Сам выглядаеш бітым тузам,
Паяцам смешным з аперэты...
Блакітнаю стракацеў блузай
І яркай чырванню берэта.
Калі б не знялі немцы з іх
Такую форму,
партызаны

---

[1] Грандэс — іспанскі генерал, які камандаваў «Блакітнай дывізіяй», а пасля вайны быў у Франка ваенным міністрам і начальнікам генштаба.
[2] Так паэтычна паведамлялі іспанскія кіраўнікі сваякам пра гібель легіянераў у Расіі.

І воіны даўно б усіх
Перастралялі,
як фазанаў.

Сяргей адчуў у целе млявасць.
І галава гудзе,
як звон...
Не зразумееш,
гэта ява
Ці гэта ўсё жахлівы сон.

Пад каменедрабілкі пошчак
Брук узрывае кіркай ён,
Дзе Неўскі
некалі па плошчы
Вёў крыжаносцаў у палон.

Нібыта рве
не камяні,
Адшліфаваныя вякамі,
А продкаў чарапы
ў агні
З зямлі выкопвае рукамі.

«Я ж перад продкамі грашу...
А крыжакі драбяць іх косці
І друз адвозяць на шашу:
Выбоіны касцямі мосцяць».

## 7

Данілу непакоіць толькі
Яго Марыя:
з той пары
Дачка ніяк не ўцяміць толкам,
Што адбылося ў іх двары.

Спачатку думала дзяўчына,
Што самі Груня і Сяргей
Дамовіліся
і, магчыма,
Пайшлі ўдваіх адсюль далей.

А як пачула,
што знянацку
Сяргея узялі з хлява,
Паверыць не хацела бацьку...
Яе
ён больш усхваляваў.
«І не знайшлі ў саломе рэчы?
Пайшлі спакойна са двара?..
Пашкадавалі ўзрост старэчы
Ці сівізну гаспадара?»

Дачцэ апраўдваўся Даніла:
— Бог знае,
як бы ўсё было,
Калі б іспанцаў
немцы сілай
Не пратурылі за сяло...

Марыя ўжо каторы дзень
Без асцярогі,
без агляддкі,
Маўкліва сноўдала, як цень,
І не знаходзіла занятку.
Таму ў Данілы на душы
Аж палягчэла той мінутай,
Калі дачка ўзялася шыць
Рыбацкі ветразь
з парашута.
Бог дасць,
яшчэ на ўласнай сойме,

Як некалі,
Марыя з ім
З упэўненасцю месца займе
Пад гэтым ветразем тугім.

Каб хлопца выручыць з бяды,
Пайшла б Марыя на край свету...
Знайшла б Сяргеевы сляды,
Калі б ёй Ноўгарад наведаць.

З яго да роднага сяла
Па Ільмені ў мінулым годзе
Яна апошні раз плыла
На белагрудым параходзе.

Ды горад вольнасці,
дзе звон
Склікаў калісьці люд на веча,
Цяпер захоплены ў палон
І кінуты ў сярэднявечча.

Глядзяць на Ільмень з бальшакоў
І з цэркваў —
гнёздаў акупанцкіх —
Штыкі нямецкіх крыжакоў
І інквізітараў іспанскіх.

Жывую кожную душу
Тут улічылі іх законы...
Штодзень рамантаваць шашу
Сялян ганяюць,
як прыгонных.
Марыя рушыла з сяла
З людзьмі,
пагнанымі на працу...
З сабою клунак узяла:

Рашыла ў Ноўгарад прабрацца,
Змяняць што-небудзь...

А плячэй
Ёй не намуляць лёгкім клункам...
Дый немцаў ашукаць лягчэй:
Задобрыць можна пачастункам.
На плечы лёг не гэткі груз
Абразлівых зняваг і кпінаў...

Шафёр,

які прывозіў друз,
У Ноўгарад яе падкінуў.
Шалёны звер зрабіў тут вэрхал.
Абгрыз дамоў шкілеты вораг.
Раструшчаны галовы цэркваў.
Цяпер ледзь-ледзь пазнаеш горад.
Яго акінула яна
Журботным позіркам панурым...
Цяпер крамлёўская сцяна
Здалася ёй астрожным мурам,
Караюць за якім сыноў
Вялікай матухны-Расіі...
Званіца без усіх званоў —
Як шыбеніца для Сафіі
І віцязяў,

якіх дзве пары
Яе, знявечаную катам,
Падтрымліваюць перад карай
У шаломах скрэмзаных і латах.
За Волхавам

праз пустыры
Убачыла свой родны кут:
За сценамі ў манастыры —
Трохпавярховы інстытут.
У горадзе хлапцы тады
Манашкамі іх жартам звалі...

Там змылі ўжо яе сляды
На пляжы
волхаўскія хвалі.
Застаўся
толькі успамін...
Яна ажно ўздыхнула цяжка,
Праходзячы сярод руін,
Нібы самотная манашка.

Задобраны такім падаркам
(Не абы-што,
а яйкі з рыбай),
Фрыц,
што стаяў тут важным грыбам,
Яе ўпусціў у крэмль,
пад арку.
Схлусіла боская раба,
Што трэба выменяць ёй солі...
Вялікі Ноўгарад,
хіба
Ты думаць мог аб гэткай долі?
Што захавае соль сюды
Чужынец,
баючыся бунту,
І будзе ў час людской бяды
Адважваць нам яе па фунту?..
Каванай здратаван пятою,
Непазнавальны крэмль які! —
Усё апаганена святое,
Чым ганарыўся ён вякі.
Тэатр,
дзе людзі перад ёй
Свяшчэннадзейнічалі тайна,
Звяры ў нянавісці сваёй,
Як назнарок,
зрабілі стайняй.

А Гранавітую палату
Ператварылі ў кабарэ,
Дзе Груня
за малую плату
Ўсё ад жыцця
цяпер бярэ.
Каб ведалі пра гэта вы,
Бярозанькі,
што пасталелі
Ля ганка,
дзе ўляглiся львы,
Дык вы ад сораму б згарэлі.

Не чутна ў купалах стрыжоў...
Ля плошчы высяцца
на скверы
Рады бярозавых крыжоў —
Магілы прускіх
афіцэраў.
Пажарскі з мечам
у руцэ
І ля яго Данскі
ў кальчузе
Ляжаць пад помнікам...
Пачуўся
Звон хваль за брамай на рацэ.
Ён коціцца да берагоў.
Чужынцы звон не пахавалі,
Хаця і скінулі яго
З барліны ў волахаўскія хвалі.

Ці плынь пагойдвае на дне
Язык звана —
і хвалі звоняць,
Ці сэрца стукае мацней —
І кроў ажно звініць у скронях?..

## 8

Залатваючы
ямкі жвірам,
Сяргей уранку
на шашы
Адчуў,
што горка на душы
Ва ўсіх іспанскіх канваіраў.

Але адно здзіўляе штось:
Яны ўжо гэтак, як штодзённа,
Не спаганяюць сёння злосць
На спінах ваеннапалонных.
Цяпер яго іспанец «хросны»,
З вялікім шрамам на шчацэ,
Трымае ўжо не вельмі грозна
Свой карабін стары ў руцэ.
Няйначай, «хрэсніка» свайго
Цяпер сустрэць іспанец рады,
Калі,
заўважыўшы яго,
Сказаў «салуд» і «камарада» [1].
Сяргей быў здзіўлены без меры,
Ён моўчкі глянуў з недаверам.

Удакладняць яму іспанец
Пачаў:
Устэдэс сон нуэстрос
Амігос і лос алеманэс
Сон білес і матар маэстрос [2].
Што азначае гэта ўсё,

---

[1] Добры дзень, таварыш.
[2] Вы нашы сябры, а немцы падлюгі і забіваць майстры.

Сяргей не ўцяміць...
— Кэ пасо? [1]
Відаць, перад палонным вінен,
Апраўдваўся ў адказ іспанец:
— Устэдэс ан сальвадо
А нуэстрос ніньос
І лос алеманэс
Лос ан фусіладо [2].
Жахлівы факт
стаў тут вядомы:
Паблізу ў табары цыганскім
Арыйцы знішчылі
з дзетдома
Захопленых дзяцей іспанскіх.

Як
з цыганамі заадно,
Каля шатроў
і ля фурманак,
У пералеску на паляне,
Знішчалі немцы ў тую ноч
Малых іспанцаў і іспанак —
Цяпер расказвалі сяляне,
Якіх прыгналі на шашу...
Расказ раз'ятрываў душу...
Падзея гэта падліла
У тлеючы агеньчык
масла —
Праз момант
з крыўды,
што не гасла,
Нянавісць полымем гула.

---

[1] Што здарылася?
[2] Вы выратавалі нашых дзяцей, а немцы іх расстралялі.

Сяргееў жа іспанец «хросны» —
Антоніо імя яго —
І без таго на немцаў злосны
Ды ўбачыў «хрэсніка» свайго,
Які прыгадваць любіць зрэдку,
Як доля-мачыха ўзяла
Яго,

няшчаснага,

за сведку

Выгнання іх ■ таго сяла...

Антоніо губляўся ў паніцы,
Калі палонны кпіў пасля,
Што немцы прагныя

іспанцаў

Не падпускаюць да крамля,
Бо самі ў ім рабуюць скарбы...
А па манастырах пустых
Іспанцаў размясцілі вартай,
Як інквізітараў святых.

Іх,

як на злосць або ў насмешку,
Нібы наёмны легіён,
На фронт усходні гналі пешкі
Каля пяцідзесяці дзён.

Іспанцу ўжо ніякавата —
Адчуў сваю віну цяпер:
Палонныя ж невінаваты,
А ён штурхаў іх у каўнер.

Калі яны

узбоч шашы

У абед, не еўшы,

спачывалі,

У поцемках яго душы
Затлела іскра спачування,
Якая ўспыхнула на міг
І розум азарыла думкай...

Узяў Антоніо ў дваіх
Палонных
дзве пустыя сумкі,
На плечы «хрэсніку» накінуў
І, заспакоіўшы канвой,
Напагатове з карабінам
Павёў хлапца перад сабой.

Сяргей ішоў, але не ведаў,
Салдат вядзе яго куды —
Ці ён надумаў
для абеду
Палонным раздабыць яды;
Ці мо ў чарговы свой набег,
Дзе трэба зведаць беганіну,
Для канваіраў і сябе
Ідзе з рабом збіраць даніну.

Ішлі маўклівыя...
Нялёгкім
Нязвычны шлях здаваўся ім...
З іх кожны думаў аб далёкім
І гэткім блізкім і сваім.
Антоніо
ўспамінаў вір
Захлістваў хвалямі з разгону...
Прыгадваў ён Гвадалквівір,
Бляды ад квецені лімонаў;
Кастылію з яе дарамі,
Кардоўскія гаі аліў,
Снягоў гірлянду Гвадарамы

І сіні Кадыскі заліў.
Блакітныя загоны льноў
І васількі на ўскраі жыта
Сяргею нагадалі зноў
Аб днях, у радасці пражытых.
Аер пад ніцаю лазой
Напомніў родныя мясціны...
Паскрыпваў драч...
Нібы лязом
Хтось падпілоўваў чараціны.

Нечпадзявана ў галаве
Узніклі раптам словы тыя,
Якія чуў ён у хляве...
Спявала за сцяной Марыя:
«Ляжаць касцы, вісяць іх косы,
Стаіць някошанай трава...»

А словы джгаюць, быццам восы.
Сяргей не можа ўжо трываць.
Зноў парушае супакой
Вісклівым скрыпам гэта птушка:
Пілуе сэрца асакой,
Здзірае жывасілам стружку.

Сяргей чакае аднаго:
Жаданне выспела таемна,
Каб зараз «хроснага» свайго
Перахрысціць яму ўзаемна
Ды вырвацца на волю зноў...
У час цяжкі ў лясныя нетры
Радзіма склікала сыноў,
А там —
шукай у полі ветру!
Але іспанец на яго
Зноў утаропіўся з-за спіны

Глыбокім позіркам
                    свайго
Праніклівага карабіна.

Каб не ўляцець у пастку здуру,
Пакуль не ўзнікла барацьба,
Вачмі пярэдні касавурыў,
А задні зіркаў спадылба.

Здаліся вечнасцю хвіліны,
Пакуль наперадзе ўсплыло
З азёрнай люстраной раўніны
Пад ветразямі дрэў сяло.

Зноў Полаччыну,
                    як на грэх,
Напомніў гэты край азёрны
І сонцам саламяных стрэх,
І водарам смалістых бёрнаў.

Свет з першароднай навізною,
Што вабіў далеччу марской
І ззяў не хваляў рабізною,
А зыркай рыбнаю луской!
Як гэта ўсё цяпер далёка!..
Гаротны мой бацькоўскі край,
Што сыну выпаў лёс нялёгкі,
За гэта ты не дакарай.

Тут на яго глядзяць і так
Са шкадаваннем і дакорам:
Крыж-накрыж з торбамі бядак
Прыйшоў збіраць людское гора.

Няёмка браць яму ў жанок
Акрайцы чэрствыя і лусты...

Адводзіць позірк ён убок,
А шчокі чырванеюць густа.

Смяецца ззаду, як на злосць,
Салдат варожы з карабінам...
Кроч перад ім ды моўчкі знось
Абразу гэткую і кпіны...

Яго ён мог бы прыдушыць,
Раззброіўшы ў паўзмроку сенцаў,
Але паблізу — бліндажы,
Дзе агнявыя кропкі немцаў.

І тут
палоннага з іспанцам
Дарога
з немцамі звяла...
Фельдфебель даў ім прачуханца
І загадаў ісці з сяла.

Саюзнікам не згаварыцца...
Сяргей пакпіў зларадна зноў,
Што чыстакроўныя арыйцы
Не церпяць племя цыганоў —
Нахабна выганяюць іх,
Нібы з уласных уладанняў...
Антоніо адразу сціх
І плёўся ўслед маўклівай зданню.
Але, як толькі знік фельдфебель,
Забыў ён пра яго загад,
Успомніў аб надзённым хлебе
І не мінаў з Сяргеем хат.
Услед ішоў
ад дома к дому,
Стаў задуменным і маўчаў...
Пра што ён думаў у той час,

Было Сяргею невядома.
Яго самога мучыў сорам.
Закрадваўся ў душу адчай:
Абедзве торбы на плячах
Людскім напоўніліся горам.

Свая бяда яго не скорыць.
Яе пазбавіцца лягчэй...
А гэтае людское гора
Не скінеш хуценька з плячэй.
Лепш смерць на волі,
чым жывіцца
У няволі гэтаю ядой...
Галоднаму
каб не ўдавіцца
Людскою горкаю бядой.

Прапахлай вуліца была
Азёрнай свежай прахалодай...
Гайдалі хвалі край сяла
Флатылію рыбацкіх лодак.

Сяргей глядзеў зайздросна ўдаль,
Шкадуючы, што са сваімі
Яго
бясконцай плошчай хваль
Зноў разлучае толькі Ільмень.

Нырнуў бы зараз,
каб яго
Глыбіні водныя схавалі...
А ўжо да берага таго
І мёртвага прынеслі б хвалі.

Калі ўвайшлі ў апошні двор,
Які наводшыбе быў трохі,

Салдат крануў рукой затвор
І загадаў паскорыць крокі.

Не бачыў спераду Сяргей,
Што раптам, як у ліхаманцы,
За некалькі хвілін раней
Перасмыкнуўся твар іспанца.

Зайшоўшы ў хату са двара,
Сяргей спыніўся нецярпліва.
Не глянуў на гаспадара:
Адводзіў позірк сарамліва.

«Не страціўшы радзімы,
дома
Хадзіць па хатах жабраком...
Здароваму і маладому
Браць міласціну ў бедакоў».

Абцасамі іспанец грукнуў,
Атросшы з ботаў пыл дарог...
Даў карабін Сяргею ў рукі
І побач стаў з гаспадаром:
— Фуэ эль к'ен тэ дэлато! [1]
Сяргей убачыў, гэта хто.

Марыя выйшла
навіну
Пачуць ад гэтага салдата...
Адчуўшы бацькаву віну,
Стаяла неяк вінавата.

Сяргей збянтэжыўся на міг:
І не ў пару, і недарэчы,

[1] Вось хто выдаў цябе!

І не да месца
сёння ў іх
Неспадзяваная сустрэча.
У гэткай ролі перад ёй
Ён адчуваў сябе няёмка.
Цяпер
з маўклівасцю сваёй
Яна здалася незнаёмкай.

Данілаў пабляднелы твар
Яму здаваўся маскай белай...
Застыў маўклівы гаспадар,
Як статуя,
акамянелы.
Каб не ўвайшлі ніякім чынам
Сюды чужыя і свае,
Засцерагаючы дзяўчыну,
Палонны папрасіў яе
Фіранкамі завесіць шыбы,
Павесіць на дзвярах замок,
На ўсякі выпадак
з сядзібы
Да вечара сысці самой...

Гадзіннік на сцяне памалу
Адлічваў час даўгога дня...
А ў хаце так і панавала
Дакучлівая цішыня.

Сядзелі доўга моўчкі трое,
Уласных сэрцаў чулі стук...
За гэты час
адзін з іх зброі
Не выпусціў ні разу
з рук.
Марыя ўвечары прыйшла.

Дастала ветразь асцярожна.
Ноч гэта цёмная была.
Якраз дзьмуў вецер спадарожны.

Настала ўрэшце празарэнне
І віднага...
Палепшаў зрок,
Бо ветразь белы
на імгненне
Аж асвяціў у хаце змрок.

Дзве торбы,
поўныя да краю
Людской бяды і горкіх слёз,
З арыйскага зямнога «раю»
Іспанец на сабе панёс.

Наканаваў,
напэўна, лёс,
Што парашут,
які з нябёс
Знёс аднаго ў палон пракляты,
Зрабіўся ветразем крылатым —
І ўжо траіх на волю нёс.

Рыбацкай соймаю тады
Пераплылі праз Ільмень ноччу
Салдат іспанскі малады,
Дзяўчына і савецкі лётчык.

А гаспадар
прыняў пакуты.
Яго,
павіслага ў пятлі
З шаўковых строп ад парашута,
Іспанцы раніцай знайшлі.

Яны не ведалі,
                    што тут
Траіх уратаваў ад смерці
Таемны гэты парашут,
Перш чым памог яму памерці.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Льны адбіраюць неба фарбы.
Руплівыя гаспадары
З дна Ільменя
                    дасталі скарбы —
Садко багатыя дары.

Магілы ўсе,
                дзе пахаваны
Іспанцы ў волхаўскай зямлі,
Даждж ом
                і ветрам зраўнаваны,
Травою дзікай зараслі.
Ды ёсць злачынца,
                        кат іспанскі.
Яго,
        якога сніць турма,
Сам прэзідэнт амерыканскі
Узнагароджваў і прымаў.

Віноўнаму ў грэхападзенні,
Яму не спіцца па начах.
Снуюць
            загадкавыя цені,
І здані
            блюзняцца ў вачах.

За кроў нявінных мараканцаў
І астурыйскіх гарнякоў

Адпомсціць Грандэсу
                    паўстанцы
З магілаў просяць землякоў.

Яго легіянераў душы,
Што неслі вахту каля зор,
Спускаюцца
          з нябёс на сушу
Яму выносіць прыгавор.
Як з-пад зямлі,
               сцвярджаюць звесткі,
Тут паяўляцца стаў раней
Салдат,
       які прапаў без весткі
На фронце
         ў рускай старане.
Няўлоўны гэтакі таварыш,
Як рыба шустрая ў рацэ,
Хоць і з прыкметаю на твары —
З таемным шрамам на шчацэ.
Выходзіць ён
            з лясоў Таледа,
Сыходзіць з астурыйскіх гор...
З-пад спуду вырваўшыся,
                      следам
Выходзіць праўда на прастор.

*1964—1966*



## СТАРОНКІ ПАМЯЦІ

Да вайны пры Доме пісьменніка існаваў кабінет маладога аўтара.

Аднойчы я, вучань-дзевяцікласнік, паслаў туды сваё апавяданне. Я не ведаў тады, хто працуе ў гэтым кабінеце. І не меў ніякага ўяўлення пра дапамогу, якую там аказваюць.

І раптам сам дырэктар школы прынёс у клас пакет і, аддаючы яго мне, з гонарам прамовіў:

— Ад Кузьмы Чорнага!..

Прыкладна за год перад гэтым выйшаў асобнай кнігай раман «Трэцяе пакаленне». Можаце сабе ўявіць, што адбывалася ў маёй душы, калі я прачытаў зваротны адрас і, хвалюючыся, дрыготкімі рукамі пачаў расклейваць вялікі канверт, надпісаны рукой пісьменніка, творы якога мы вывучалі ў школе, а п'есу «Бацькаўшчына» нашы настаўнікі ставілі на сцэне калгаснага клуба.

Маё апавяданне было напісана ў звычайным вучнёўскім сшытку і займала дзесяць — дванаццаць лістоў.

Кузьма Чорны вярнуў яго мне, пакрэсленае, з надпісамі і заўвагамі над асобнымі сказамі і на палях сшытка. Яны былі напісаны простым алоўкам. Некаторыя з іх назаўсёды запалі ў маю памяць: «Цікавая пабудова сказа», «Схематычна», «Суха».

Разам з апавяданнем у канверце ляжаў доўгі ліст, напісаны чарнілам. Займаў ён некалькі старонак, вырваных з нейкага блакнота. Старонкі былі спісаны ўборыстым, характэрным почыркам.

Цяпер я не помню зместу ліста. Мне нават цяжка ўявіць, што можна было напісаць на гэтульскіх старонках пра наіўнае вучнёўскае апавяданне.

Але затое я ўяўляю, якой душы быў гэты чалавек, якое ён меў вялікае сэрца!

* * *

У старэйшых класах сярэдняй школы я любіў чытаць апавяданні Змітрака Бядулі. Захапляўся яго вершамі і імпрэсіямі, асабліва такімі, як: «На горне душы першы верш я каваў», «Начлежнікі пяюць», «Дазволь», «Свеціць месяц», «Я пайшоў у сыр-бор»...

Якраз тады выйшаў з друку вялікі першы том Збору твораў пісьменніка, куды ўвайшлі яго паэмы, вершы і імпрэсіі.

Упершыню я ўбачыў Змітрака Бядулю ў Доме пісьменнікаў. Да вайны там, на першым паверсе, у невялікім фае, перад уваходам у бібліятэку, праходзілі абмеркаванні новых твораў вядомых і маладых аўтараў. На абмеркаванні збіралася пятнаццаць — дваццаць пісьменнікаў. Зрэдку прыходзіў Янка Купала.

Добра памятаю, як Аркадзь Куляшоў на абмеркаванні ўголас чытаў паэму «У зялёнай дуб-

рове»... Прыгадваю, як абмяркоўваўся зборнік «Слава жыццю» Анатоля Астрэйкі... Нас з Аляксеем Коршакам асабліва ўразіў глыбокі крытычны аналіз вершаў, зроблены Аркадзем Куляшовым.

Я быў здзіўлены, што Змітрок Бядуля на гэтых абмеркаваннях звычайна маўкліва адседжваўся дзе-небудзь у кутку. Штосьці дэманічнае было ў яго абліччы з курчавымі валасамі, вялікімі вачыма і губамі. Магчыма, такое ўражанне склалася ў мяне ад яго рамантычных і разам з тым нейкіх таямнічых імпрэсій. А тут яно яшчэ больш усталявалася пад уплывам знешняга выгляду пісьменніка.

Неўзабаве гэта ўражанне ўзмацнілася.

Разам са мной у «Піянеры Беларусі» — я тады сумяшчаў працу з вучобаю — працаваў малады празаік Павел Лявановіч. Ён выдаў для юнацтва зборнік апавяданняў. А пазней падрыхтаваў да друку другую кніжку і здаў яе ў выдавецтва. Апошняе чамусьці перадало рукапіс для абмеркавання ў Саюз пісьменнікаў. Я прысутнічаў на абмеркаванні.

Да гэтага часу помню выступленне Змітрака Бядулі. Ён папрасіў слова, устаў і пачаў падрабязна разглядаць і крытыкаваць апавяданні, адзначыўшы, што Лявановічу дапамаглі зрабіць першую кнігу, а ён цяпер паспяшаўся здаць у выдавецтва сырыя творы, над якімі трэба яшчэ шмат працаваць.

Змітрок Бядуля гаварыў усё гэта з нейкім болем і шкадаваннем, з пранікнёнай сумленнасцю...

Пасля гэтага выступлення ён здаўся мне яшчэ больш дэманічным.

Аднойчы вясной у нашым інстытуце, які знаходзіўся тады ў глыбіні двара па вуліцы Карла

Маркса, у будынку, дзе цяпер размяшчаецца рэспубліканская камсамольская школа, нечакана адбылася сустрэча студэнтаў са Змітраком Бядулем. Не было ніякіх афіш. Надвячоркам сакратар камітэта камсамола факультэта аб'явіў у чытальні, што праз некалькі хвілін у актавай зале будзе выступаць Змітрок Бядуля. І пачаў угаворваць мяне, каб я таксама выступіў. Я страшэнна спалохаўся, бо пасля абмеркавання кнігі Паўла Левановіча ў мяне склалася ўражанне, што Змітрок Бядуля чалавек вельмі суровы, патрабавальны і строгі... Дый што чытаць студэнту перад вядомым пісьменнікам?..

Але здарылася так, што ў той адвячорак у чытальні не было нікога іншага з нашых пачаткоўцаў і сакратар не адышоў, пакуль не атрымаў маю згоду. Ён пераканаў мяне тым, што сам Змітрок Бядуля просіць, каб хто-небудзь з нашых пачаткоўцаў абавязкова выступіў разам з ім...

Калі мы ўтрох, пад воплескі студэнтаў выйшлі ў прэзідыум, на душы маёй было такое адчуванне, быццам мяне пад канвоем прывялі на суд.

Змітрок Бядуля таксама трымаўся неяк разгублена і нясмела.

Я ўвесь час, пакуль ён выступаў, сядзеў, як на гарачым вуголлі. Пятае цераз дзесятае чуў з таго, пра што ён гаварыў... Ён расказваў пра сваю працу над аповесцю «Сярэбраная табакерка». Чытаў з яе ўрыўкі. Адказваў на пытанні студэнтаў...

Калі далі слова мне, я па памяці прачытаў верш «Вяснушкі», які значна перапрацаваны мною пасля вайны, і верш пра тое, як хлапчукі ловяць таптухай у рачулцы рыбу, а дарослыя кпяць з іх, што яны вытапчуць усю ваду і не будзе дзе пакупацца...

Змітрок Бядуля не адпусціў мяне ад сябе. Распытваў, адкуль я родам, дзе вучыўся да інстытута... Потым запрасіў прайсціся з ім. Я саромеўся, але мне было прыемна ісці з ім па горадзе.

Якраз напярэдадні, прыкладна за месяц да гэтага, у «ЛіМе» было змешчана апавяданне Змітрака Бядулі пра Максіма Багдановіча. Пад апавяданнем стаяла зноска, што пісьменнік збіраецца надрукаваць нізку апавяданняў пра паэта. Пра Багдановіча тады не паяўляліся ў друку матэрыялы, напісаныя людзьмі, якія яго асабіста ведалі. Таму апавяданне надзвычай уразіла студэнтаў.

Я сказаў пра гэта Змітраку Бядулю і пацікавіўся, ці хутка будуць надрукаваны астатнія творы з гэтай нізкі.

І раптам Змітрок Бядуля збянтэжыў і зусім абяззброіў мяне. Разгублены, ён сказаў, што наогул не ведае, аб чым будзе пісаць далей дый ці будзе наогул пісаць больш пра Максіма Багдановіча.

Я спахапіўся і адразу ж перавёў гаворку на «Сярэбраную табакерку». Я ведаў, што гэта аповесць даўно ляжыць на стале ў рэдактара нашай газеты. У той час з друкаваннем яе была нейкая затрымка...

Я праводзіў Змітрака Бядулю да самай кватэры. Жыў ён на рагу Даўгабродскай і Савецкай вуліц, непадалёку ад вялікага новага інтэрната інстытута народнай гаспадаркі.

Пасля гэтага вечара Змітрок Бядуля здаваўся мне ўжо зусім іншым. Не тое што нясмелым... Ён быў нейкім безабаронным... У яго характары было гэтулькі жаноцкасці і сціпласці...

* * *

Цяпер, відаць, ніхто з маладых пісьменнікаў не ведае, якую ролю ў лёсе паэтаў майго пакалення адыграў Аркадзь Куляшоў, як старэйшы таварыш, клапатлівы настаўнік і добры дарадца.

У даваенныя гады ён працаваў кансультантам па паэзіі ў кабінеце маладога аўтара.

Аркадзь Аляксандравіч адказваў пачынаючым шчырымі лістамі, у якіх разглядаў кожны верш, выказваў заўвагі наконт паасобных строф і радкоў. Яго своеасаблівыя і цікавыя парады былі адкрыццём і незвычайнасцю для нас на перыферыі.

З лёгкай рукі Аркадзя Куляшова я пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх выданнях.

Аднойчы са школы я даслаў у кабінет маладога аўтара некалькі вершаў. Аркадзь Аляксандравіч у лісце адказаў, што яны яшчэ не ўяўляюць цікавасці і толькі верш «Парашутыстка», на яго думку, варты ўвагі... Яго ён пастараецца перадаць для друкавання ў рэдакцыю юнацкай газеты.

Як кожны пачатковец, які з нецярплівасцю жадае ўбачыць у друку свой твор, я чакаў-чакаў і, не дачакаўшыся, напісаў ліст у «Чырвоную змену», у якім пытаўся, ці ёсць у рэдакцыі мой верш «Парашутыстка». Адкуль адказалі, што такога верша ў іх ніколі не было і яны нічога не ведаюць пра яго.

Якое ж было маё здзіўленне, калі праз пару месяцаў я атрымаў часопіс «Полымя рэвалюцыі», дзе быў змешчаны гэты верш. Аказваецца, туды перадаў яго Аркадзь Куляшоў.

Помню, як я ўпершыню зайшоў у кабінет маладога аўтара. Ён знаходзіўся на другім паверсе

Дома пісьменнікаў. Я паказаў Аркадзю Аляксандравічу вершы. Пад імі не было напісана прозвішча. Ён глянуў на почырк і весела сказаў:

— А, Аўрамчык!.. Будзем знаёмы!

Відаць мы, пачаткоўцы, так надакучвалі яму сваімі вершамі, што ён ведаў нас па почырках!

Калі вучыўся ў Мінску, я часта прыходзіў на кансультацыю да Аркадзя Куляшова. Прыходзілі да яго і мае сябры і таварышы — Аляксей Коршак, Уладзімір Рагуцкі, Аркадзь Гейнэ.

Няцяжка ўявіць, чаму мы прыходзілі менавіта да яго. У той час гэта быў вядомы паэт, які выдаў зборнікі «Росквіт зямлі», «Па песню, па сонца», «Медзі дождж», «Аманал», «Гарбун». Мы іх чыталі і добра ведалі. У яго было чаму павучыцца...

На першым курсе ў інстытуце я напісаў верш «Адлёт жураўлёў» і прынёс яго Аркадзю Куляшову. Ён уважліва прачытаў верш, зрабіў некалькі заўваг па радках і словах. Я потым выправіў іх і зноў прыйшоў у кабінет маладога аўтара. Аркадзь Аляксандравіч зноў прагледзеў верш і накіраваў мяне з ім у рэдакцыю «Полымя рэвалюцыі», якая размяшчалася на першым паверсе Дома пісьменнікаў. Верш быў надрукаваны позняй восенню 1938 года.

Аркадзь Куляшоў не толькі дапамагаў нам парадамі, ён умеў яшчэ і заахвочваць нас аднаго перад адным.

Аднойчы я прыйшоў да яго з вершамі. Ён прачытаў іх, выказаў заўвагі... Відаць, сярод вершаў не было нічога цікавага. Бо Аркадзь Аляксандравіч сказаў:

— Нядаўна быў у мяне Аркадзь Гейнэ... Напісаў добры верш — «Шчаслівая зорка»...

У душы я пазайздросціў свайму таварышу... Пасля, сустрэўшыся з Аркадзем Гейнэ, расказаў яму пра гэта. А ён здзівіўся дый кажа:

— Аркадзь Куляшоў не хваліў мне верш... Ён толькі сказаў, што гэта прыстойная рэч, якую варта друкаваць...

Потым гэты верш быў надрукаваны, і Аркадзь Гейнэ выдаў першы зборнік, які так і называўся — «Шчаслівая зорка».

Некаторы час Аркадзь Куляшоў вучыўся ў нашым педінстытуце. Асабіста для мяне гэта былі самыя цікавыя дні майго юнацтва. Часта на перапынках мы сустракаліся, хадзілі па калідоры, шмат гаварылі пра паэзію.

Тады друкаваліся ў часопісах вершы Аляксандра Твардоўскага з яго будучай кнігі «Сельская хроніка».

Узрушаны і зачараваны паэмай «Краіна Муравія», я да гэтых вершаў ставіўся з нейкім непаразуменнем. Помню, з якім гарачым запалам іх прапагандаваў і расхвальваў Аркадзь Куляшоў.

Цяпер, калі перачытваю тыя вершы — «Пра Данілу», «Вярбінка», «Дзед Даніла ў лазні», «Як Даніла паміраў» — я прыгадваю даўнія размовы і пераконваюся ў тым, наколькі меў рацыю Ардзь Аляксандравіч.

Хадзіў я на кансультацыю да Аркадзя Куляшова таму, што ён адзін з маіх любімых паэтаў. Дарэчы, паяўленне яго нізкі «Юнацкі свет» было надзвычайнай падзеяй у нашай паэзіі для майго пакалення. Я быў так уражаны гэтымі вершамі, што яшчэ і цяпер помню, як яны паявіліся: спачатку ў «ЛіМе», а пасля дзвюма публікацыямі на працягу нейкага года — у «Полымі рэвалюцыі».

Разам з іншымі пісьменнікамі Куляшоў прыходзіў да нас у педінстытут на літаратурныя ве-

чары. Студэнты любілі яго вершы з нізкі «Юнацкі свет». Аднойчы па іх просьбе паэт чытаў на памяць вершы «Млын» і «Ранак» і забыўся нейкія радкі. Студэнты з залы падказвалі гэтыя мясціны.

Вершы Аркадзя Куляшова вельмі любіў і часам чытаў на памяць Мікола Сурначоў. Мне тады здавалася, што пад уражаннем нізкі «Юнацкі свет» ён напісаў сваю нізку «Барвовая зара».

Рэдакцыя «Чырвонай змены», у якой я працаваў пасля вайны, зацікавілася, якія творчыя планы ў Аркадзя Куляшова на новы, 1947 год. Я наведаў паэта, і ён размашыстым почыркам напісаў коратка пра гэта.

Між іншым, там былі і такія радкі: «...калі дазволіць час, думаю пачаць працаваць над паэмай «Зорка Канікула».

Гэта была задума паэмы, якую ён напісаў неўзабаве, але назваў яе чамусьці «Толькі ўперад»...

У той час я працаваў над нізкай «Легенда пра залатую зямлю». Памятаю, як я прыйшоў да Аркадзя Куляшова з некалькімі данбаскімі вершамі. Жыў ён па Ульянаўскай вуліцы, у чырвоным цагляным доме, насупраць цяперашняга стадыёна.

Аркадзь Аляксандравіч уважліва прачытаў вершы. Яны яму спадабаліся. Ён выказаў паасобныя заўвагі па радках... Мы доўга сядзелі ў яго кабінеце. У час размовы ён прызнаўся, што некалі сам хацеў напісаць пра тое, як мацуецца столь у шахце, дзе выбіраюць вугаль. І параіў мне паспрабаваць напісаць штосьці пра гэта для данбаскай нізкі...

Я прадаўжаў працу над нізкай. Закончыў яшчэ некалькі рэчаў і напісаў верш «Беларуская сасна». Верш быў прыкладна ў такой жа рэдакцыі, якая вядома чытачу.

Прыйшоў да Аркадзя Куляшова. У кватэры было халаднавата. Мы абодва, каб сагрэцца, хадзілі па пакоі, спыняліся, прыхіналіся спінамі да грубкі, каля якой на ложку, скідваючы з сябе коўдру, сукаў нагамі маленькі Саша...

Аркадзь Аляксандравіч, стоячы побач са мной каля грубкі, прачытаў некалькі разоў «Беларускую сасну».

— Па-мойму, нічога сабе верш атрымаўся,— сказаў ён.— Ты толькі прыгледзься ўважліва: прадапошняя страфа ў ім, відаць, лішняя...

У вершы была яшчэ адна нейкая страфа, дзе рыфмавалася «з золата літая — тая»... Я выкінуў яе, паслухаўшы Аркадзя Аляксандравіча.

Аркадзь Куляшоў радаваўся творчым поспехам сваіх малодшых калег. Менавіта ён прывёз мне з Масквы прыемную вестку аб тым, што некаторыя вядомыя паэты звярнулі там увагу на мае данбаскія вершы і перакладаюць іх на рускую мову. Аркадзь Аляксандравіч цікавіўся, ці ёсць у мяне новыя вершы. Ён хацеў узяць іх з сабою, бо неўзабаве павінен быў зноў ехаць у Маскву.

Аркадзь Куляшоў умеў падтрымаць аўтара ў часіну творчага расчаравання. У мяне марудна пісалася паэма «Землякі». Чым даўжэй я працаваў над ёю, тым болей расчароўваўся працаю. Закончаная, яна чамусьці таксама не задавальняла.

Я вырашыў, каб такі выдатны майстра паэмы, як Аркадзь Куляшоў, паглядзеў мой твор і вынес яму свой прысуд. Аркадзь Аляксандравіч прачытаў паэму, выказаў свае думкі аб ёй, даў нямала канкрэтных заўваг і параіў друкаваць яе. Але, відаць, па маім знешнім выглядзе адчуў маю збянтэжанасць, бо нетаропка падышоў да кніжнай паліцы, узяў з яе свой салідны аднатомнік у цёмна-

карычневай вокладцы і, доўга не думаючы, напісаў на ім: «Міколу Аўрамчыку — добраму знаўцу і выканаўцу паэтычнага слова — на шчыры ўспамін».

Мне, вядома, лесціць такі надпіс любімага паэта, хаця я разумею, што выдадзены ён авансам і болей дзеля таго, каб падтрымаць мяне ў часіну творчай разгубленасці.

Пасля вайны я неаднойчы прыходзіў да Аркадзя Куляшова са сваімі вершамі. А калі выйшаў з друку мой першы зборнік, я надпісаў яго Аркадзю Аляксандравічу, як аднаму з першых настаўнікаў і рэдактараў.

За трыццаць пяць гадоў працы ў нашых перыядычных літаратурных выданнях я не ведаў, здаецца, ні аднаго беларускага паэта, які з такой патрабавальнасцю, як Аркадзь Куляшоў, ставіўся б да слова. Можа, таму, што ён не спяшаўся здаваць у друк напісанае, пры друкаванні сваіх твораў паэт рэдка ўносіў у карэктуру папраўкі. Але затое калі ўжо выпраўляў які-небудзь радок або замяняў хоць адно слова, дык заўсёды рабіў гэта ўласнаручна, не перадавяраючы нікому з рэдакцыйных супрацоўнікаў і не дыктуючы па тэлефоне. Бывала, зробіць папраўку ды яшчэ потым, як пойдуць з машыны аркушы, абавязкова прасочыць, ці правільна друкуецца выпраўленае.

У першыя пасляваенныя гады, калі часопісы і без таго спазняліся, гэтая звычка паэта раздражняла тэхрэдаў і дзяжурных.

Аркадзь Куляшоў да самазабыцця любіў важдацца са словам, як гранільшчык, варочаючы і шліфуючы яго да тае пары, пакуль яно не ззяла і не адсвечвала з усіх бакоў разнастайнымі колерамі і адценнямі. За натуральнай прастатою і празрыстасцю куляшоўскіх радкоў нават дасвед-

чанаму цяжка разгледзець ювелірную працу выдатнага майстра.

Здаралася, я таксама не мог зразумець, чаго яшчэ хоча дамагчыся ад слова незадаволены зробленым паэт, які нават у невялічкім вершы, здавалася б, ужо дасягнуў немагчымага, усебакова і да канца абыграўшы кожную дэталь і кожны вобраз.

Аднойчы ў Каралішчавіцкім доме творчасці Аркадзь Куляшоў даў мне паглядзець збоку сваімі вачыма толькі што напісаную ім рэч, якая, як ён казаў, давалася яму з цяжкасцю і ў якой ён яшчэ не поўнасцю рэалізаваў усяе задумы. Гэта быў лірычны верш «Завея лісцяў у сняжынак пух». Я некалькі разоў уважліва перачытаў чысты машынапісны тэкст. Верш не мог не спадабацца: ён кранаў ажыўленай маляўнічасцю прыроды і падкупляў філасофскай афарыстычнасцю думкі. У дадатак мне вельмі імпанаваў яго паэтычны настрой, які атаясамліваўся з той парою года: за акном у паветры кружылася апошняе пажоўклае лісце і белыя матылі першых сняжынак.

Здавалася, «як быццам я... рэгуліроўшчык каруселі гэтай», нібыта «завея лісцяў у сняжынак пух перацвітае пад маім паглядам» — і ўжо не паэт, а «як быццам я камандую парадам, спатканнем дзвюх варожых завірух, змаганнем снегападу з лістападам!».

Я быў у захапленні ад верша і сказаў, што не разумею, чаго ў ім яшчэ хоча дамагчыся ад слова аўтар. Аркадзь Аляксандравіч незадаволена паморшчыўся і сказаў, што ён чакаў, ці не заўважу я, менавіта чаго яшчэ не хапае ў гэтай рэчы.

Вядома, адразу я не змог запомніць верш на памяць. Калі праз пару год ён з'явіўся ў «Полымі» сярод вялікай нізкі, я шмат разоў чытаў і пе-

рачытваў яго, марна намагаючыся ўстанавіць, што ж у ім перарабляў паэт. А ў тым, што ён яшчэ дапрацоўваў гэты верш, я цвёрда перакананы і нават ніколькі не сумняваюся.

Мне добра запомніўся перадваенны куляшоўскі зборнік «Мы жывём на граніцы», які рэдагаваў Міхась Лынькоў. Думаю, што не толькі я быў здзіўлены, калі пасля вайны паэт нанава перапісаў з гэтай кнігі паэму «Песня аб разведчыках», назваў яе «Песняй аб слаўным паходзе» і надрукаваў у «Беларусі».

Толькі сапраўдны мастак па загаду ўласнага сэрца здольны адважыцца на такі самаахвярны ўчынак. Дарэчы, другі наш вядомы паэт, які не вельмі любіў важдацца са словам і выслухоўваць заўвагі таварышаў, шпацыруючы са мной каралішчавіцкімі палямі і ўзлескамі, раўніва і недаўменна здзіўляўся ўголас, навошта Аркадзь Куляшоў займаецца непатрэбным перапісваннем. Няўжо яму няма чаго рабіць?

Відаць, у кожнага майстра свой шлях да ўдасканалення зробленага: у аднаго ён — бясконцы, а ў другога мае пэўныя межы.

Перад вайною я, як і некаторыя іншыя студэнты-філолагі, ведаў на памяць куляшоўскі верш «Чараўніца», пад якім у тым жа вышэйназваным зборніку паэта стаяла дата — 9.5.1937 г. У пасляваенным чатырохтомніку Аркадзя Куляшова ў гэтым вершы зусім апушчаны другая, трэцяя і восьмая строфы і крыху зменена дата напісання — 1937—1938 гг.

Калі таварышы па паэтычным цэху даручылі мне рэдагаваць «Дзень паэзіі» 1975 года, я адразу ж прыгадаў куляшоўскі верш «Вінтоўка», які ніколі не ўваходзіў ні ў адну кнігу паэта, і наважыўся змясціць яго ў гэтым зборніку. Я добра

памятаў, што адразу ж пасля векапомных верасnёўскіх дзён 1939 года верш «Вінтоўка» друкаваўся ў «Звяздзе» і ў «Полымі рэвалюцыі». Таму пайшоў у беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліятэкі, знайшоў патрэбныя выданні, зверыў абедзве публікацыі і перапісаў верш.

Па тэлефоне пазваніў Аркадзю Куляшову і сказаў, што хачу ўключыць у «Дзень паэзіі» яго забыты верш «Вінтоўка».

Паэт паслухаў мяне і пасля некаторай паўзы прамовіў:

— Па-мойму, гэта слабая рэч, стары (такі зварот ён часта ўжываў пры гаворцы).

Я пачаў даводзіць, якое значэнне мае юбілейны «Дзень паэзіі», прысвечаны трыццацігоддзю нашай перамогі над фашызмам.

Спаслаўся на тое, што члены рэдкалегіі намагаюцца зрабіць яго як мага цікавейшым і разнастайнейшым.

— Стары, дык у мяне няма гэтага верша,— разгублена апраўдваўся Аркадзь Куляшоў.

— У мяне ён ёсць,— не адставаў я.

— А дзе ты ўзяў яго?

Я сказаў, што расшукаў верш у кнігасховішчы і перапісаў.

— Ну дык прынось, паглядзім, што з гэтага выйдзе,— нарэшце здаўся паэт. Я прыйшоў да яго на кватэру. Аркадзь Аляксандравіч быў у настроі, расказваў пра сустрэчы ў Маскве з таварышамі і сябрамі. Днём раней ён вярнуўся адтуль з вечара, прысвечанага сямідзесяцігоддзю Міхаіла Ісакоўскага.

Калі я аддаў машынапісны тэкст верша, паэт прымусіў мяне перасесці ў крэсла да пісьмовага стала, з шуфляды якога дастаў ладны стос паперы, паклаў яго перада мной і сказаў:

— Паглядзі, чым я займаюся апошнім часам. Яшчэ трэба напісаць заключны раздзел.

«Хамуціус» — прачытаў я незнаёмае слова на тытульным аркушы першай старонкі.

Па меры таго як паглыбляўся ў чытанне, твор усё мацней прываблівав, уражваў свежасцю тэмы, захапляў маштабнасцю мыслення. Нічога падобнага даўно я не чытаў у нашай паэзіі.

Тады я засядзеўся ў Аркадзя Аляксандравіча. Ён шкадаваў, што не здолеў поўнасцю выкарыстаць у паэме ўсяго фактычнага матэрыялу. Расказваў цікавыя звесткі пра бацьку Н. К. Крупскай, які на Беларусі ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху ў арміі.

Між іншым, я зазначыў тады, што паэма «Хамуціус» хораша гучала б з тэатральных падмосткаў.

— Гэта ўжо не мая справа,— адказаў паэт.

«А іншы зрабіў бы з такой рэчы не толькі сцэнарый для кінафільма, але нават і лібрэта балета»,— падумаў я.

— Калі рэдкалегія «Дня паэзіі» хоча перадрукаваць гэтую даўнюю рэч, друкуйце яе вось у такім выглядзе,— сказаў Аркадзь Куляшоў, вяртаючы мне тэкст верша «Вінтоўка».

У ім крыж-накрыж былі перакрэслены тры апошнія страфы і ў радку «Мох на страсе, без хлеба ў курнай хаце» над закрэсленымі словамі «без хлеба» напісана было «галеча».

Шпацыруючы па каралішчавіцкіх лясных сцежках, адзін час я шмат распытваў у Аркадзя Куляшова пра яго юнацкіх сяброў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, якіх ніколі не бачыў, але паэзія якіх мне заўсёды падабалася.

Аднойчы ў часе такой гутаркі ён выказаў сумненне наконт таго, што Змітрок Астапенка загі-

нуў. Нават таямніча спаслаўся на нейкую асобу, якая ў цягніку нібыта апазнала ягонага сябра.

Другі раз, калі я прызнаўся, што «Эдэм» Змітрака Астапенкі выклікае ў мяне не меншае захапленне, чым «Сцяг брыгады», паэт нечакана спытаўся:

— А табе не здаецца, што яго паэма напісана пад уражаннем маёй?

Мне такое ніколі не прыходзіла ў галаву.

Аркадзь Куляшоў растлумачыў, што гэта падазрэнне ў яго ўзнікла даўно і не столькі на падставе тэматычнай пераклічкі твораў, колькі па чыста фармальнай прычыне: аўтарскія эпіграфы перад кожным раздзелам паэмы «Эдэм» вельмі нагадваюць яму загалоўныя радкі кожнага раздзела «Сцяга брыгады».

Неяк я расказаў Аркадзю Куляшову, што ў пачатку вайны мяне прызваў у армію Мсціслаўскі ваенкамат. Паэт пачаў цікавіцца, як выглядае там Дзявочая гара, ці захаваліся старыя прысады перад будынкам іхняга былога педтэхнікума, і шкадаваў, што ўсё не выберацца праведаць горад свайго юнацтва.

У выніку тых размоў я напісаў прысвечаны яму верш «Мсціслаў».

А праз нейкі год Аркадзь Куляшоў прагаварыўся, што працуе над невялікай рэччу пра сваіх юнацкіх сяброў. Я папрасіў, каб ён, калі закончыць яе, меў на ўвазе наш маладзёжны часопіс. Паэт паабяцаў і потым стрымаў сваё слова — «Маналог» друкаваўся ў «Маладосці».

У пачатку мая 1968 года ў мяне адбылася з Аркадзем Куляшовым цікавая размова. У нейкай меры яна пралівае святло на ўзнікненне некаторых задум яго твораў і падрыхтоўку працы над імі. Усхваляваны ёю, я заканспектаваў размову

адразу ж пасля таго, як яна адбылася. Гэтыя занатоўкі, мабыць, зацікавяць не толькі даследчыкаў творчасці паэта, але і яго чытачоў.

За месяца паўтара да тае гаворкі я сустракаўся з паэтам пасля яго хваробы. Ён расказваў тады, што перакладае паэму «Спеў аб Гаяваце», пытаўся, ці не маглі б мы надрукаваць яе ў «Маладосці». Вядома, такую вялізную рэч часопіс не мог змясціць па тэхнічных прычынах.

Мне было незразумела, чаму пасля сваёй «Новай кнігі» Аркадзь Куляшоў раптам узяўся за пераклад такога далёкага па часе твора, як паэма Генры Лангфелы. Але не стаў распытваць, бо ў паэта быў стомлены, хваравіты выгляд: Аркадзь Аляксандравіч ішоў атрымліваць пуцёўку ў санаторый.

І вось мы зноў сустрэліся. Аркадзь Куляшоў — вясёлы, па-святочнаму апрануты. Калі я спытаўся, як яму адпачывалася, ён, смеючыся, адказаў:

— Стары, я не адпачываў, я пісаў паэму.

Спачатку я падумаў, што ён жартуе. Але Аркадзь Куляшоў з сур'ёзным выглядам пачаў расказваць, як напружана працаваў амаль увесь год. Перакладаў «Спеў аб Гаяваце», а цяпер напісаў новую паэму. Называецца яна «Цунамі». У ёй каля чатырохсот радкоў.

Калі ён пераказаў яе змест, я зразумеў, што па філасофскай думцы і па подыху сучаснасці паэма звязана з яго «Новай кнігай».

Пачалася гаворка пра «Спеў аб Гаяваце». Я прызнаўся, што з маленства люблю паэму Генры Лангфелы. Аказалася, што і Аркадзь Куляшоў таксама любіць яе. Перакладаў ён паэму з падрадкоўніка, які зрабілі спецыяльна для яго.

Мне чамусьці ўяўлялася, што перакласці «Спеў аб Гаяваце» няцяжка. Па перакладу Івана

Буніна паэма здавалася мне трошкі вадзяністай. А Аркадзь Куляшоў кажа, што, наадварот, напісана яна вельмі густа. Іван Бунін перакладаў яе адвольна, дапісваючы па многа радкоў там, дзе не ўкладвалася думка і вобразы. Ён сачыў толькі за музычнасцю твора.

Аркадзь Аляксандравіч прачытаў на памяць страфу:

> Цеціва патрэбна луку,
> Як жанчына для мужчыны:
> Хоць яна яго згінае,
> Але ён кіруе ёю;
> Хоць яна яго і цягне,
> Ды за ім ідзе слухмяна:
> Сэнс жыцця іх — у адзінстве.

І прызнаўся, што вельмі доўга праваждаўся з ёю, пакуль здолеў перакласці. Аказваецца, ён узяўся за пераклад «Спеву аб Гаяваце» спецыяльна, каб акунуцца ў першабытны свет жыцця, які яму быў неабходны для таго, каб распачаць працу над паэмай «Цунамі».

— Гэта — мая даўняя задума,— сказаў паэт.— Але да таго часу, пакуль я не пабачыў акіяна, калі плыў у Амерыку, усё ніяк не мог у думках вобразна распрацаваць паэмы. А ў Нясвіжы напісаў яе адразу.

Ведаючы, што гэтак жа хутка Аркадзь Куляшоў напісаў і паэму «Толькі ўперад», я нагадаў, як улетку 1950 года мы з сем'ямі жылі ў Каралішчавічах, а ён адлучыўся на некалькі дзён у родныя мясціны і вярнуўся адтуль з гэтым творам.

— Ага, я тады напісаў там паэму за дзесяць дзён,— адказаў ён.

Я напомніў пра чырваназменаўскае інтэрв'ю, дзе ішла гаворка, што ён будзе пісаць паэму «Зорка Канікула», і пашкадаваў, што ён дарэмна змяніў добрую першапачатковую назву гэтай паэмы.

— Відаць, трэба будзе ў далейшым усё-такі назваць яе «Зоркай Канікулай» або хоць даць ёй такі падзагаловак,— пагадзіўся ён.

— Цяпер ужо не варта рабіць гэтага,— зазначыў я.— Прайшло шмат часу. Чытачы прызвычаіліся да назвы «Толькі ўперад».

Гераіню гэтай паэмы я добра памятаў яшчэ па юнацкіх вершах паэта. Таму не ўстрымаўся і пацікавіўся, як яна загінула.

— У сапраўднасці яна жывая,— адказаў Аркадзь Куляшоў.

Ён расказаў пра першую пасляваенную сустрэчу з Алесяй. З шафёрам Ільёй Мікалаевічам яны ездзілі ў Магілёў, каб дастаць цэглы на будаўніцтва сямігодкі ў родных мясцінах. Алеся паведаміла ў лісце, што ў пэўны час з Быхава яна пазвоніць яму ў Магілёў. А яны ў Магілёве хутка ўладкавалі ўсе справы і, маючы шмат вольнага часу, прыехалі ў Быхаў. Паэт вельмі шчыра і падрабязна расказваў пра тое, як у дамоўлены час убачыў на пошце старую, зломленую горам жанчыну. Спачатку ён нават разгубіўся — і выйшаў з памяшкання. Але потым яму стала няёмка. Ён вярнуўся назад і падышоў да жанчыны. Гэта была Алеся. Разам з ёю былі дзеці.

Машынай яны паехалі за Быхаў. Спыніліся ў маляўнічых мясцінах. У шафёра знайшоўся нейкі чыгунок, у якім засмажылі яечню.

Аркадзь Куляшоў прызнаўся, што фактычна тады Алеся памерла для яго і што ён збіраецца напісаць пра ўсё гэта яшчэ адну паэму, якую, можа, нават і назаве «Зоркай Канікулай».

Я пачаў адгаворваць, маўляў, атрымаецца не вельмі прыгожа: раскрыецца тайна паэмы «Толькі ўперад» і тым самым як бы парушыцца праў-

дзівасць гэтага твора. Ён пагадзіўся і сказаў, што, відаць, назаве новую рэч «Магілёўскім краем».

Прыхільнікі паэзіі Аркадзя Куляшова, мабыць, ужо здагадваюцца, што паэт меў на ўвазе свой будучы твор «Далёка ад акіяна», які пісаў на працягу трох наступных гадоў.

Некаторыя нашы літаратары лічылі Аркадзя Куляшова аднаасобнікам-хутаранцам.

Канечне, людзі, якія да вайны памяталі, як ён актыўна ўдзельнічаў у штодзённым літаратурным жыцці, на працягу пасляваеннага часу заўважылі, што паэт паступова адасабляецца ад пісьменніцкай арганізацыі.

Але хто ведае, ці напісаў бы Аркадзь Куляшоў гэтулькі выдатных вершаў і паэм, у якіх адлюстраваны найбольш значныя вехі сучаснай гісторыі нашага народа, калі б не сядзеў пустэльнікам, а мільгаў ва ўсіх навідавоку?

Другім здавалася, што ў Аркадзя Куляшова замкнёны характар. Прызнацца, і сам я думаў гэтак у пасляваенныя леты, цэлымі гадзінамі моўчкі праседжваючы побач з паэтам у альтанцы або гушкаючыся ў суседніх гамаках. А потым бянтэжыўся, калі чуў, як ён пачынае размову з сабакам:

— Джэк, будзь знаёмы з празаікам Імярэк. Ён напісаў аповесць Ікс. А вось гэта паэт Ігрэк, аўтар верша Зэт.

І называў самыя лепшыя творы аднаго і другога.

Пазней я пераканаўся, што паэт замыкаўся ў сабе толькі ў прысутнасці малазнаёмых людзей, дый замкнёнасць гэтая была адносная. З яе яго лёгка было вывесці — і ён рабіўся ажыўленым і гаваркім. А як заўважаў калегу на другім баку

вуліцы, пераходзіў да яго, распытваўся пра жыццё-быццё, расказваў, над чым працуе сам.

Тыя, хто быў незнаёмы з ім асабіста, паводле ягонай творчасці ўяўлялі Аркадзя Куляшова сур'ёзным, без пачуцця гумару. Хаця ў паэта сапраўды амаль што няма гумарыстычных вершаў, але сам ён любіў пасмяяцца і дасціпна пажартаваць. Бывала, не абыходзіўся без гэтага, калі званіў мне па тэлефоне наконт якой-небудзь важнай справы. Ведаючы, што я прыхільнік жартаў, і памятаючы мой розыгрыш аднаго нашага паэта наконт выкліку ў ваенкамат, Аркадзь Куляшоў, званячы мне па тэлефоне, часта пытаўся:

— Гэта таварыш Аўрамчык? Вас выклікаюць у ваенкамат.

Я пазнаваў яго па голасе і адказваў, што з ваенкамата так бы не гаварылі. Паэт смяяўся і адразу ж пераходзіў да якой-небудзь канкрэтнай гаворкі.

Многія ведаюць, якім аматарам гульні ў шахматы быў Аркадзь Куляшоў. Цэлымі гадзінамі ён любіў гутарыць з субяседнікам пра астраномію і космас.

Памятаю, як пасля запуску першага спадарожніка Зямлі ён у Каралішчавічах прапанаваў мне для «Маладосці» два вершы, у падтэксце якіх гучала касмічная тэма, і спытаўся, ці адчуваецца ў іх подых сучаснасці. Калі я адказаў станоўча і запэўніў, што вершы будуць апублікаваны, ён збянтэжыў мяне:

— Перадрукоўваць іх не варта. Яны ўжо друкаваліся ў свой час. Напісаў іх Змітрок Астапенка.

Мне зрабілася ніякавата. А ён, каб развеяць гэтую няёмкасць, параіў узяць вершы ў Мінск і пачытаць паэтам, што будуць наведваць рэдак-

цыю. Маўляў, ці здагадаюцца яны, чые гэта вершы?

Я так і зрабіў. У «Маладосці» чытаў наведвальнікам абодва вершы, пытаючыся, хто іх напісаў. І ўсе называлі самых розных нашых сучасных паэтаў, але нікому нават не прыйшло ў галаву, што аўтар іх — Змітрок Астапенка. Аркадзь Куляшоў быў задаволены гэтым розыгрышам.

Адзін час у Каралішчавіцкім доме творчасці ў сувязі з цякучасцю кадраў з абслугаю адбываліся смешнаватыя выпадкі. Паэт падахвоціў мяне супольна напісаць пра гэта гумарыстычны верш. Яго ў мяне, на жаль, не захавалася. Толькі памятаю, што там былі радкі: «Ды як далі лататы: падазроныя браты!»

Аркадзь Аляксандравіч завёўся тады, як хлапчук. Сам на сваёй машынцы размножыў верш у некалькіх экземплярах і даручыў, каб я распаўсюдзіў іх сярод абслугоўваючага персаналу. Супрацоўнікі Дома творчасці чыталі верш — і заходзіліся ад рогату, а Аркадзь Куляшоў толькі задаволена пасміхаўся.

*1976—1984*

## З СЫНОЎНЯЙ ПАВАГАЮ І ЛЮБОЎЮ

Аднойчы позняй вясною дырэктар Мядзельскай школы, заслужаны настаўнік рэспублікі Кастусь Каратай запрасіў нас: Васіля Быкава, Ніла Гілевіча і мяне на сустрэчу са старшакласнікамі.

Пасля сустрэчы, папалуднаваўшы і адпачыўшы, калі збіраліся вяртацца ў Мінск, раптам хтосьці прапанаваў: давайце наведаем Міхася Лынькова... Прапанову падтрымалі ўсе, хаця спачатку сумняваліся: а ці будзе Міхась Ціханавіч у такі час на сваёй дачы?

Але пад рукамі была аўтамашына — і доўга разважаць не давялося. Праўда, акрамя шафёра, мы былі ўпяцёх: з намі быў палымяны прыхільнік роднай літаратуры, няўрымслівы прапагандыст яе ў нарачанскім краі, малады настаўнік Сваткаўскай школы Мікола Пашкевіч.

Да Купы мы дабраліся з некаторымі прыгодамі: яму, як самаму маладому, трэба было або сядзіцца на калені да старэйшых, або лажыцца ў багажнік. Але паездка не была марнай.

Нас сустрэла Соф'я Захараўна. Яна рабіла ўборку, даводзіла ўсё да ладу. Толькі дзве-тры гадзіны таму назад яны прыехалі з Мінска... Соф'я Захараўна папрасіла прабачэння, што будзе займацца сваёй працай.

— Міхась Ціханавіч у сябе... Калі ласка, праходзьце.

Па вільготных, свежавымытых прыступках мы падняліся ў пакой на другім паверсе.

Прабачліва апраўдваючыся, спрабавалі тлумачыць, што, знаходзячыся паблізу, не маглі не наведаць яго, хоць, можа, адрываем ад працы.

Міхась Ціханавіч жартаўліва адказаў:

— З каляіны не выб'еце, бо яшчэ не паспеў увайсці ў яе.— І сур'ёзным тонам дадаў: — Трэба разбіраць паперы, хачу перагледзець даўнейшыя запісы.

За год ці два перад гэтым, ранняй вясной, у Нарачы загінула шмат вугроў. Зайшла гаворка пра гэта. Са шкадаваннем выказваліся розныя здагадкі. Магчыма, мінеральныя ўгнаенні, пазмываныя дажджамі з палёў, атруцілі вугра, а мо нейкі страшны мор загубіў гэтулькі рыбы...

Я цяпер не помню, менавіта хто і якім чынам пачаў размову пра вайну. Неўзабаве размова гэта ўвайшла ў пэўнае рэчышча, павольна паплыла, балюча адзываючыся ў нашых сэрцах.

Міхась Ціханавіч не спяшаючыся паказваў пажоўклыя даваенныя фотаздымкі... Хлапчук. Жанчына.

Сын і жонка пісьменніка.

Ён расказваў, як іх замардавалі фашысты.

Мы моўчкі слухалі яго, толькі зрэдку нясмела перапыняючы паасобнымі пытаннямі. Мне балюча было слухаць пісьменніка, бо прыгадвалася, як юнаком я неаднойчы бачыў Міхася Ціханавіча побач з хлапчуком-сынам на Савецкай вуліцы даваеннага Мінска.

Усе мы ведалі пра трагічную гісторыю сям'і Міхася Лынькова. Але з вуснаў самога я чуў гэты расказ упершыню, хаця на працягу пасляваенных гадоў часта слухаў ягоныя ўспаміны пра вайну. Асабліва каля распаленага ім вогнішча, да якога мы, маладыя, амаль штодзень улетку прыцягвалі вываратні, буралом і сухастой з непралазнага каралішчавіцкага гушчару.

Міхась Лынькоў рэагаваў на вайну абвострана. Помню, як амерыканцы пачалі ваенныя дзеянні ў Карэі...

Янка Брыль і Мікола Аўрамчык. Чэрвень, 1974 г.



БОЛЬШ НЕ НЯВОЛЬНІК З НУМАРАМ СТО ПЯЦЬ,
А ЧАЛАВЕК ТЫ — З ПРОЗВІШЧАМ І З ІМЕМ...
НЕ ТРЫ АРШЫНЫ, А ЛЮБАЯ ПЯДЗЬ
ЗЯМЛІ ТАБЕ НАЛЕЖЫЦЬ НА РАДЗІМЕ.

У каралішчавіцкім доме, у вялікім пакоі, справа, дзе была сталоўка, пісьменнік каля радыёпрыёмніка збіраў нас слухаць апошнія паведамленні. Ён развешваў геаграфічную карту і сцяжкамі адзначаў гарады, адбітыя ў амерыканцаў войскамі дэмакратычнай Карэі. Трэба было бачыць, якім сумным і маўклівым зрабіўся Міхась Ціханавіч, калі амерыканцам удалося пацясніць карэйскія дэмакратычныя сілы.

Мабыць, пасляваенныя захапленні Міхася Лынькова спачатку матацыклам, а потым фотаапаратам былі выкліканы яго імкненнем запоўніць дарэшты вольны ад службы і творчай працы час... Каб некалі было думаць і ўспамінаць пра цяжкое мінулае.

Ад гэтых захапленняў перападала і нашаму брату. Карыстаючыся дабратой Міхася Ціханавіча, мае смялейшыя аднагодкі так газавалі на яго ІЖы, што пасля, небаракі, некаторы раз вымушаны былі кіламетраў за пяць валачы на сабе цяжкі матацыкл.

Аднойчы з фотаапаратам у руках, без усмешкі на твары Міхась Ціханавіч сказаў:

— Уюнаш, грэшным дзелам, трэба запечатлець...

Я гляджу цяпер на крыху пажоўклыя, амаль трыццацігадовай даўнасці аматарскія здымкі, зробленыя ім. Міхась Ціханавіч не ставіў мяне на якое-небудзь узвышэнне, тым больш не прысядаў, каб сфатаграфаваць знізу. Але ў нейкай меры на гэтых фота адчуваюцца значна пазнейшыя наватарскія пошукі кінааператараў, якія здымалі чалавека ў незвычайных ракурсах, на фоне прыроды.

У кожнага з нас было штосьці сваё асабістае ў адносінах да Міхася Лынькова. З сыноўняй па-

вагаю і любасцю да Міхася Ціханавіча я ставіўся не таму, што не быў абыдзены яго ўвагай пры пераліку імёнаў у памінальніцах... Хаця ў маладжавым узросце адчуў аднойчы, што ён сам адносіцца да мяне не толькі па-бацькоўску, але і па-зямляцку.

У рэдакцыі шаноўнага выдання, у прысутнасці іншых пісьменнікаў Міхась Лынькоў пачаў хваліць мой верш аднаму паэту. Паэт пацвердзіў, што верш добры. Але Міхась Ціханавіч не задавальняўся:

— А я кажу: выдатны!..

Нават калі б гэты паэт назваў мой верш пасрэдным, дык я ад шчасця быў бы на сёмым небе!..

І, нягледзячы на гэта, я ніяк не адважваўся падараваць Міхасю Лынькову свой зборнік. Аднойчы надпісаў, але не асмеліўся ўручыць уласнаручна... Зайшоў у пад'езд дома, у якім жыў пісьменнік, і апусціў зборнік у паштовую скрынку.

Можа, таму, што змалку я пасябраваў з ёй, а ў раннім дзяцінстве яна прывеціла мяне, але назва з вялікай літары газеты, якую ён калісьці рэдагаваў на маёй Бабруйшчыне, мною заўсёды атаясамліваецца з яго асобай, з яго прозвішчам.

— Уюнашы, салаўя не кормяць баснямі,— зноў звярнуўся да нас Міхась Ціханавіч, памаўчаўшы пасля таго, як закончыў сваю трагічную споведзь.

Мы прызналіся, што добра паабедалі ў Мядзелі і не будзем залішне турбаваць яго...

— А мы толькі паглядзім, што за падарунак перадалі мне з-за мяжы,— адказаў ён і прынёс на стол спачатку бутэльку, спіральна абвітую вузкай каляровай стужкай, а потым — кілішкі і закусь.

Мы звярнулі ўвагу на кілішак з зеленаватага шкла. Ён быў з ручкай і меў форму куфля.

Міхась Ціханавіч заўважыў нашу цікаўнасць і растлумачыў:

— Кілішак Івана Дамінікавіча. Вярнуўшыся ў Мінск, я знайшоў яго на пажарышчы Купалавай хаты.

— Міхась Ціханавіч, у такім выпадку дазвольце нам усім па чарзе сімвалічна прычасціцца з яго,— сказаў я.

З Купалавага кілішка, які напаўняў і падаваў кожнаму з нас Міхась Ціханавіч, мы пакаштавалі іранскага каньяку.

А калі спахапіліся, што занадта заседзеліся, пачалі развітвацца.

Знешне заўсёды стрыманы ў пачуццях Васіль Быкаў не ўтрымаўся, парывіста абняў і пацалаваў Міхася Ціханавіча.

Мы з Нілам Гілевічам незаўважна пераглянуліся, зайздросцячы ў душы свайму таварышу, які, апярэдзіўшы нас, выказаў сыноўнюю павагу і любоў да Міхася Лынькова.

*1976*

## ТАКІ ЁН БЫЎ У ЖЫЦЦІ

Было гэта ўлетку 1938 года, у дзень майго першага прыходу ў Дом пісьменнікаў. Я сядзеў у кабінеце пачынаючага аўтара перад кансультантам па паэзіі Аркадзем Куляшовым, калі ў пакой імкліва ўвайшоў статны малады чалавек. Яго абветраны твар, выгаралыя на сонцы валасы, загарэлыя рукі, на якіх да локцяў закасаны рукавы белай кашулі,— нагадвалі колер спелага жыта.

Спыніўся ён каля маладжавага мужчыны, які сядзеў за суседнім сталом, і пачаў расказваць штосьці пра пісьменніцкі дом адпачынку ў Пухавічах, пра нейкія звычайныя, будзённыя справы. Гаварыў голасна, жэстыкулюючы, смеючыся. Мне ён здаўся жвавым, нейкім вельмі простым і вясёлым.

Праз пару дзён, калі пачаліся заняткі на курсах-канферэнцыі маладых, я ўжо ведаў, што гэта — паэт Пятро Глебка. Ён вёў у нас творчы семінар па перакладу. Заняткі былі не столькі тэарэтычныя, колькі практычныя. Праходзілі яны ажыўлена і цікава.

Цяпер, калі я вяртаюся ў думках да таго семінара, я ўсё больш і больш пачынаю разумець, што вельмі многім абавязаны Пятру Глебку за добрую творчую вывучку, якая была для мяне ўзорным, наглядным урокам у галіне перакладу. Не дзіўна, што некаторыя з маіх таварышаў, не будучы яшчэ прафесійнымі літаратарамі, неўзабаве досыць кваліфікавана перакладалі не толькі вершы Уладзіміра Маякоўскага, але, валодаючы замежнай мовай,— і п'есы Уільяма Шэкспіра.

Помню, як Пятро Глебка прынёс на семінар лермантаўскі «Парус» і запрасіў нас паспрабаваць

перакласці гэты верш. Спачатку ўсе насцярожана маўчалі. Потым, калі сам Пятро Фёдаравіч пачаў услых выказваць меркаванні адносна таго, як лепш перакласці першыя радкі, некаторыя пачынаючыя асмялелі, прапаноўвалі свае варыянты. Пасля многія так актывізаваліся, што наперабой, адзін перад адным, называлі радкі, аспрэчвалі мэтазгоднасць ужывання таго ці іншага слова.

Я, учарашні дзесяцікласнік, як жаўтаротае кураня, моўчкі здзіўлена наглядаў за ўсім гэтым. Калі спрэчкі разгараліся, Пятро Фёдаравіч асцярожна ўносіў карэктывы, супакойваючы няўрымслівых, але не навязваючы сваю думку.

Праз некаторы час «Парус», перакладзены калектыўна і паэтамі і празаікамі, быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва». Праўда, сярод яго перакладчыкаў не было толькі галоўнага — Пятра Глебкі. Гэта было ў натуры Пятра Фёдаравіча — не выстаўляць сябе напаказ.

Затое ў невялікім застоллі, сярод вядомых і паважаных людзей, я неаднойчы назіраў, як Пятро Глебка ніколі не даваў застацца ў цені малодшым па ўзросту, умеў трапна ахарактарызаваць кожнага з іх, прадаставіць яму слова.

Да вайны мы часта запрашалі Пятра Фёдаравіча да сябе, у педагагічны інстытут, на заняткі літаратурнага гуртка. Па нашай просьбе ён расказваў пра Паўлюка Труса, пра гісторыю напісання некаторых яго вершаў. Значна пазней сястра Паўлюка Труса прыгадвала мне, як яе брат хадзіў з Пятром Глебкам у Вялікую Усу, як яны разам прыходзілі адтуль у Нізок, касілі сенажаць, гулялі на вечарынках. І я думаў: чаму Пятро Фёдаравіч ніколі не расказваў пра гэта нам. Мабыць, лічыў гэта другарадным, неістотным, не хацеў засланяць сабой асобу сябра-паэта.

Пятро Глебка ўмеў вельмі добразычліва падтрымаць задуму пачаткоўца, мог трапна заўважыць і дакладна вызначыць пэўную схільнасць творчай індывідуальнасці. Помніцца, у студэнцкія гады ў мяне ўзнікла задума аднаго верша. Я пачаў пісаць яго, але адразу ж усумніўся ў неабходнасці прадаўжэння працы. Мне здалося, што гэтая задума не дае права на верш. Неяк пасля заняткаў літгуртка я нясмела звярнуўся за парадай да Пятра Фёдаравіча. Ён так пераканаўча абгрунтоўваў маю думку, з такім натхненнем развіваў яе глыбей, як быццам гэта была ўжо яго задума, якую ён аддаваў мне. Да поўначы хадзілі мы тады па вячэрнім Мінску. Ад шчасця я быў на сёмым небе.

Кампазіцыйны план верша для мяне заўсёды з'яўляўся галоўнай перадумовай вобразнага ўвасаблення задумы. Я быў здзіўлены тым, што Пятро Глебка на падставе толькі аднаго-двух маіх вершаў адчуў гэтую схільнасць і звярнуў на яе ўвагу ў адным са сваіх артыкулаў. Успамін пра гэта вельмі кранае мяне, бо, апрача Пятра Фёдаравіча Глебкі, ніводзін рэцэнзент маіх вершаў да сённяшняга дня не заўважыў такой маёй схільнасці.

Яму, прызнанаму майстру слова, можа, як нікому іншаму, быў уласцівы гаспадарскі клопат аб развіцці беларускай літаратуры. У маёй памяці паўстаюць пасляваенныя пасяджэнні секцыі паэзіі, якую ў свой час узначальваў Пятро Глебка. Гэтыя таварыскія, глыбока прынцыповыя абмеркаванні новых твораў і маладых аўтараў, і паэтаў старэйшага пакалення былі для нас сапраўднай школай паэтычнага майстэрства. І тон, і настрой на гэтых абмеркаваннях заўсёды задаваў Пятро Фёдаравіч.

У час шматлікіх паездак па краіне ў сувязі з ушанаваннем памяці Янкі Купалы, калі толькі здаралася якая-небудзь затрымка ці непаразуменне, Уладзіслава Францаўна з жалем гаварыла: «Ах, як тут не хапае Пятра Глебкі!.. Ён адразу выправіў бы становішча!» Такімі рысамі чалавечага характару Пятра Фёдаравіча надзяліла прырода. Пры ўсім жаданні іх нельга пераняць або пазычыць у каго-небудзь іншага.

Кажуць, што першае ўражанне ад сустрэчы з чалавекам можа быць памылковае. Шчыра скажу, што пазней Пятро Глебка ўжо ніколі не ўяўляўся такім, якім ён здаўся мне тады, у Доме пісьменнікаў. Можа, таму, што ў той час я глядзеў на яго юначымі вачыма. А можа, таму, што Пятру Фёдаравічу было тады ўсяго толькі трыццаць тры гады.

Не сказаў бы я цяпер, што Пятро Глебка быў такі ўжо жвавы, вясёлы... Наадварот, ён быў стрыманы, разважлівы, але заўсёды нейкі элегантны, дыпламатычны, далікатны. Такі ён здаваўся мне ў жыцці, такі ён застаўся ў маёй памяці.

*1975*

## ЛІСТ ПРЫЗНАННЯ

*Пімену Панчанку*

Дарагі дружа!

Як імкліва бяжыць час!.. Нават не верыцца, што мінула ўжо сорак гадоў з тае пары, калі вершы маладога настаўніка з суседняга раёна ўсё часцей і часцей паяўляліся на старонках нашых рэспубліканскіх газет і часопісаў. Мяне, дзесяцікласніка, яны і ашаламлялі і зачароўвалі... Я не ўтрымаўся — і напісаў табе, таму настаўніку, наіўнаваты вучнёўскі ліст. Ты адказаў добразычлівым сяброўскім лістом.

А праз год, сонечным асеннім днём, у інтэрнаце мінскага педінстытута нас пазнаёмілі Іван Грамовіч і Рыгор Няхай.

Помню, як мы ўдвух блукалі па студэнцкім скверы, шпацыравалі па тратуары пад каштанамі вуліцы імя 11 ліпеня, паблізу крытага Віленскага рынку.

Ты з захапленнем расказваў пра сасновыя бары лясной Кіраўшчыны. Прызнаўся, што ў вольны ад школьнае працы час, прылёгшы на траву, любіш углядацца ў блакітнае неба, па якім, як тапаліны пух, зрэдку праплываюць лёгкія аблачынкі.

Потым мы прыйшлі ў вестыбюль галоўнага корпуса Універсітэцкага гарадка. Побач з лесвіцай, што вяла на другі паверх, размяшчаўся кніжны кіёск. Ты купіў і надпісаў мне свой першы зборнік, які яшчэ пахнуў друкарскай фарбай. Я пасаромеўся прызнацца табе, што многія вершы ў ім ужо ведаю на памяць. Іх не трэба было завучваць, яны самі запаміналіся, западалі ў сэрца.

З такой шчырасцю, з такой вобразнай маляўнічасцю, гэтак па-беларуску пачыналі нямногія нашы паэты. Я думаю, што іхнія імёны можна пералічыць на пальцах адной рукі.

Непадалёк ад кніжнага кіёска вісела інстытуцкая літаратурная насценгазета. У ёй былі змешчаны нашы студэнцкія вершы. Помню, як ты прачытаў тады некаторыя з іх — і я адразу ж па выразу твару адчуў тваю разгубленасць... Хоць ты сумеўся і ніякіх заўваг не выказаў, але адчуванне ў мяне было даволі пэўнае.

Між іншым, пасля, працуючы з табой побач, я прывык па выразу твару беспамылкова ўгадваць тваё ўражанне ад чыіх-небудзь вершаў, якія ты чытаў у маёй прысутнасці.

Для мяне, дружа, асабліва дорага была заўсёды твая бескампрамісная думка пра паэзію, пра вершы сяброў.

Наогул, пра паэзію гаварыць навучыліся многія... На нашай памяці ўжо каго толькі не называлі паслядоўнікам Маякоўскага! Дзе тыя паслядоўнікі?.. Дзе іх вершы і паэмы?

А вось пра сапраўдны ўплыў вялікага савецкага паэта менавіта на тваю творчасць — пачынаючы ад актыўнай грамадзянскай пазіцыі агітацыйна-лірычнага верша і канчаючы змястоўнымі сэнсавымі рыфмамі — за выключэннем сяго-таго з крытыкаў у нас дома, ва ўсесаюзным друку не было сказана нічога.

Больш таго, многія аматары ўсесаюзнай паэзіі нават не падазраюць, што на Беларусі працуе паэт, у глыбока нацыянальнай творчасці якога, як ні ў каго з іншых савецкіх паэтаў, цікава спалучаецца разам гейнэўская іронія, гіпербалічная эмацыянальнасць Маякоўскага, святлоўскае ўменне змякчаць пафас добраю ўсмешкай.

У вайну ты расказваў, што, калі ў вока снайпера «чорны гад паўзе з кустоў», то «ўмомант вейкі, быццам абцугі», заціскаюць гадзюку...

Дык у снайпера ж — аптычны прыцэл! А ў цябе — толькі чуйны слых ды пільны зрок... Але сваім зрокам нават пры святле маланак ты выхопліваеш са змроку бюракратаў, кар'ерыстаў, прыстасаванцаў і дакладным словам, як трапнай куляй, ложыш іх напавал.

У жыцці добра адчуваць поплеч твой локаць, бо надзейна ведаеш, што ты, як герой аднайменнага верша, у наступленні за агульную справу, калі спатрэбіцца, ляжаш «на змяіныя скруткі дроту», каб праз яго, па тваёй спіне, прайшлі да мэты тыя, хто ідзе побач...

Я нярэдка звяртаўся да цябе за парадай, паказваў дзесяткі вершаў... Ты сур'ёзна і шчыра, нічога не ўтойваючы, гаварыў праўду ў вочы, тое, што думаеш, што адчуваеш... Гэтая рыса твайго характару мяне кранала і расчульвала...

Вядома, кожнага маладога заўсёды абрадуе і ўзрушыць падтрымка майстра, а тым больш калі пра першы зборнік вершаў пачаткоўца піша адзін з яго любімых паэтаў.

Даруй, што да гэтага часу я не выказаў табе бязмежную ўдзячнасць за словы тваёй спагадлівасці, падтрымкі і адабрэння.

Разумееш, часам неяк дзіўна бывае ў жыцці... Я ведаю, што ты сябра, але не забываю, што ты — паэт, перад паэзіяй якога гатоў маліцца...

Чаму?.. За што?

Па-першае, таму, што твая паэзія перад маімі юнацкімі вачыма зазіхцела, «як жэмчугам акроплены мурог». Потым увесь час само жыццё так шліфавала гэты жэмчуг, што ён зырка заіскрыўся ўсімі гранямі і адценнямі.

Па-другое, таму, што я змалку прычасціўся тым прыгожым пісьменствам, якому ўласціва грамадзянскасць...

А твая паэзія заўсёды была сучаснай, надзённай у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Мабыць, ад прыроды ў цябе аголеныя карэньчыкі нерваў, бо яны вельмі чуйна рэагуюць на ўсё навакольнае.

Хораша адчуваеш сябе побач з табой у жыцці, лёгка працавалася на чале з табой у «ЛіМе» і ў «Маладосці»... Праўда, толькі страшнавата было пісаць вершы... Але затое не адчуваў сябе падначаленым.

Сказаць табе вусна ўсё гэта я не здолеў бы... Таму пішу ліст, бо разумею, што чалавек не павінен саромецца гаварыць прыемнае людзям...

Сардэчна віншую цябе з тваім шасцідзесяцігоддзем!..

Зычу табе добрага здароўя!.. А новыя выдатныя вершы ты напішаш і без маіх пажаданняў...

Горача, па-сяброўску абдымаю цябе, дарагі дружа!

*Мікола Аўрамчык*

*1977*

## НАШЫ ВАНДРОЎКІ

Кожны раз, калі мой позірк затрымліваецца на высокай, празрыстай, а ўверсе — зеленаватай вазе, я ўспамінаю Івана... Яны з Ліляй прынеслі гэты падарунак на наша паслястудэнцкае наваселле. Крохкая шкляная рэч змяніла некалькі прытулкаў, не разбілася пры пераездах.

А Івана ўжо няма...

Мне ён запомніўся па дзвюх даваенных публікацыях. Як і ўсе пачаткоўцы, вершы якіх паяўляюцца ў газетах, я зацікаўлена звяртаў увагу на кожнае новае імя ў друку. Помню, яго першы верш быў падпісаны прозвішчам Мелеш.

Пасля вайны я спытаўся ў Івана, чаму ён змяніў апошнюю літару ў сваім прозвішчы?

Ён, усміхаючыся, адказаў:

— Пачынаючаму трэба разборчыва пісаць прозвішча пад сваім творам.

Пазнаёміліся мы ў першы пасляваенны год. Іван вучыўся тады ў аспірантуры і працаваў літсупрацоўнікам у «Полымі». А неўзабаве пакінуў рэдакцыю і стаў выкладчыкам універсітэта.

Я вучыўся ва універсітэце. Мы часта сустракаліся, хутка зблізіліся: лёгка і проста сыходзіліся пасля вайны, пачынаючыя, людзі аднаго ўзросту, былыя франтавікі.

Падоўгу сядзелі мы ў студэнцкім скверы, час ад часу пaглядваючы на магілу Героя Савецкага Саюза гвардыі палкоўніка Каргузалава. Каля яе цэлымі днямі нерухома прастойвала жанчына ў жалобным чорным адзенні.

Пасля мы даведаліся, што ў Саюз пісьменнікаў прыйшоў ліст, падпісаны Фадзеевым, з просьбай даглядаць гэту магілу.

Жыў я ў невялікім драўляным бараку, які стаяў паміж цяперашнім корпусам юрыдычнага факультэта і старым корпусам фізмата.

Жылі тут выкладчыкі, аспіранты і студэнты.

Іван час ад часу наведваў маю пустэльніцкую келлю. Каб трапіць у яе, трэба было спачатку прайсці праз вялікі пакой, у якім жыло дваццаць студэнтак.

Звычайна, калі мы з Іванам паяўляліся ў іх пакоі, яны гасцінна запрашалі:

— Іван Паўлавіч, пасядзіце крыху ў нас...

Высокі, стройны, ён на момант спыняўся і, азарыўшы ўсіх сваёй усмешкай, адказваў:

— Дзяўчаты, некалі...

Мы чыталі адзін аднаму свае творы. Помню, як ён чытаў апавяданні «Таварышы», «Перад навальніцай», «Павел прыехаў». Яны былі напісаны ў тонкіх вучнёўскіх сшытках. Мяне гэта крыху здзіўляла, таму што ў многіх з нас увайшло ў звычку пісаць творы на рэдакцыйных аркушах паперы.

Зрэдку мы заходзілі да яго на кватэру ў белым цагляным доме на вуліцы Клары Цэткін. Там жылі выкладчыкі універсітэта.

Да бабулі тулілася малая Людачка. Усе ажыўлена смяяліся, калі я пытаўся ў яе, колькі ёй год, а яна нязменна адказвала адно і тое ж:

— Два гады Мелеш...

Перад пераездам на новую кватэру па Ульянаўскай вуліцы Іван перабраў сваю бібліятэку і аддаў мне некаторыя кнігі. У асноўным гэта былі зборнікі вершаў савецкіх паэтаў, выдадзеныя ў гады вайны.

У тыя гады ў Мінск некалькі разоў прыязджаў Сяргей Антонаў, з якім Іван быў разам на Усесаюзнай нарадзе маладых. Мы блукалі па го-

радзе між затравянелых руінаў, нібы між дзікіх нагрувашчванняў камянёў у гарах.

Адначасова з працай над першымі раздзеламі рамана «Мінскі напрамак» Іван пісаў нарыс пра майго славутага земляка, двойчы Героя Савецкага Саюза, былога камандзіра танкавай брыгады Сцяпана Фёдаравіча Шутава. Наш агульны таварыш, дацэнт Аляксей Сідарэнка, афіцэр-танкіст Вялікай Айчыннай вайны, у нашым бараку дэталёва кансультаваў Івана наконт кіравання танкам, падрабязна расказваў пра танкавыя баі.

Пазней гэты барак перавезлі на біялагічную станцыю універсітэта на бераг Нарачы. А я напісаў пра яго верш «Відаць, прарэктар быў паэтам...». Калі мы выступалі разам на літаратурных вечарах у студэнтаў і я з каментарыямі чытаў гэты верш, Іван усміхаўся.

* * *

Напісаў я гэтыя радкі — і мяне раптам пацягнула, як магнітам, у наш Універсітэцкі гарадок. Чаму наш? Таму, што па гэтым адрасе я значыўся ў пасляваенных біяграфічных даведніках. Тут сталела, апаленая вайной, наша маладосць.

Спыніўся каля корпуса юрыдычнага факультэта і адразу ж успомніў, як непрыглядна выглядала гэтая будыніна з пустымі вачніцамі аконных праёмаў! Потым будаўнікі аднаўлялі корпус. А студэнты, аспіранты і выкладчыкі на насілках выносілі з яго бітую цэглу і вывозілі друз.

Іван таксама хадзіў тут з насілкамі...

На месцы барака дружна ўзняліся маладыя дрэвы. Над імі вымахалі ўгару тры клёны, што калісьці адгароджвалі барак ад батанічнага універсітэцкага саду. Крайні, бліжэйшы з іх, рос пад сцяной маёй пустэльніцкай келлі і разлапістай га-

лінай засланяў невялікае акенца. Галіну я адпілаваў нажоўкаю. Цяпер толькі па зацягнутай карою мецiне, якую ўзняў угару ствол, пазнаю клён.

У корпусе фізмата, які цудам ацалеў у вайну, змяшчалася адміністрацыя універсітэта, праходзілі заняткі. У яго вялікай зале на другім паверсе праходзіў літаратурны вечар. Іван у паношанай камсастаўскай гімнасцёрцы выразна, з інтанацыяй чытаў апавяданне «Пабыўка сяржанта». Пасля яго выступаў паэт-лірык, які чытаў аднатонна і спяшаючыся, верш за вершам. Слухачы не ўлаўлівалі заключных строф. І мы, каб як памагчы таварышу, тупатам ног адбівалі канцоўку кожнага верша. Студэнты пасля гэтага дружна апладзіравалі...

* * *

У першы пасляваенны год актывізаваліся паездкі пісьменнікаў па рэспубліцы. Прыгадваю хвалюючыя сустрэчы з працоўнымі і інтэлігенцыяй горада Баранавічы, асабліва са студэнтамі настаўніцкага інстытута. Апошняя сустрэча на ўсё жыццё запомнілася Івану. Ён і пазней неаднойчы ўспамінаў пра яе. Нас не адпускалі з трыбуны, завальвалі кветкамі і стосамі запісак.

Наогул, такіх кранаючых сустрэч з чытачамі, якія адбываліся ў першыя пасляваенныя гады, цяпер не бывае. Адчувалася, што людзі згаладаліся не толькі па хлебе, але і па родным слове.

* * *

У канцы мая 1957 года мы з Іванам ездзілі ў Ялту адкрываць помнік Максіму Багдановічу.

Сонечным ранкам прыляцелі ў Кіеў. Доўга гулялі па зялёным горадзе, на вуліцах якога цвілі каштаны.

Іван расказваў пра кіяўляніна Сямёна Гудзенку, з якім у даваенныя гады вучыўся ў Маскве ў інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, а пасля вайны быў на Усесаюзнай нарадзе маладых. З хваляваннем успамінаў сям'ю Чарняхоўскага, з якой пазнаёміўся ў Кіеве. Гэтае знаёмства, як ён прызнаўся, падахвочвала яго дапрацаваць «Мінскі напрамак», узмацніць у рамане вобраз славутага генерала.

Некалькі гадзін мы правялі ў гасцінным доме Васіля Казачэнкі. Ён надпісаў нам сваю аповесць «Сальвія». Па-мойму, гэта адна з цікавейшых кніг Васіля Казачэнкі.

Усе тыя дні — і ў Кіеве, і ў Ялце — Іван аж свяціўся. У яго быў сонечны, прыўзняты настрой. Спачатку пaціху, нясмела, а потым, адчуўшы, што і мне падабаецца песня (яна незадоўга перад гэтым з'явілася), ён безупынку спяваў «Падмаскоўныя вечары». У тыя дні, у першы і ў апошні раз, я чуў, як ён спявае. У яго быў прыемны голас.

Літфонд папрасіў нас выканаць два даручэнні. Івану трэба было знайсці дом, у якім памёр Максім Багдановіч, паглядзець, у якім ён стане. Мелася на мэце ўзбудзіць хадайніцтва аб адкрыцці на ім мемарыяльнай дошкі. А я павінен быў адшукаць магілу паэта, параіцца з інжынерам наконт яе добраўпарадкавання.

Я доўга хадзіў па Аўцкіх могілках, пакуль нарэшце ў непралазным гушчары пры развілцы дзвюх утравянелых сцежак убачыў добра знаёмую па фотаздымку ў даваенным акадэмічным двухтомніку паэта надмагільную пліту.

Цяпер я кожную восень наведваю магілу паэта, якую засланілі вялізныя надмагільныя помнікі. Спрабаваў пасеяць на ёй васількі. Але яны чамусьці не ўзышлі...

А наогул, мабыць, даўным-даўно пара беларусам перавезці астанкі свайго вялікага паэта на родную зямлю і пахаваць іх побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Даведаўшыся ад гарадскіх улад, што помнік Максіму Багдановічу ўстаноўлены ў Місхоры, на тэрыторыі санаторыя «Беларусь», мы з Іванам накіраваліся туды.

Помнік адкрывалі па-святочнаму. На ўрачыстасць прыехалі тры дэлегацыі. Мы з Іванам — ад нашага Саюза пісьменнікаў, Ніна Барысаўна Ватацы — ад Міністэрства культуры БССР. Ад сімферопальскіх пісьменнікаў прыехалі Міхаіл Міхалёў і Мусій Багуцкі, з Кіева — Багдан Чалы і Яўген Краўчанка. На адкрыцці помніка прысутнічалі таксама члены ялцінскага літаратурнага аб'яднання.

На трох мовах — рускай, украінскай і беларускай — гучалі выступленні, сімвалізуючы дружбу трох братніх народаў.

Іван пранікнёна гаварыў пра Максіма Багдановіча, пра яго творчасць, у якой адлюстраваны спрадвечныя думы і мары беларускага народа.

Пасля мітынгу да падножжа помніка мы ўсклалі вянок з надпісам: «Выдатнаму паэту Максіму Багдановічу ад пісьменнікаў Беларусі». Пра гэтую ўрачыстасць «Курортная газета» надрукавала рэпартаж з фотаздымкам помніка паэту.

У тыя дні мы з Іванам не думалі, што з цягам часу нам абодвум па стане здароўя давядзецца штогод адпачываць толькі тут: яму часцей за ўсё ў гэтым санаторыі, а мне ў пісьменніцкім Доме творчасці ў Ялце.

Цяпер я адпачываю ў ім кожную восень. Успамінаю, як Іван часамі наведваў мяне тут, прыязджаючы з Місхора. Прагульваючыся штодня па

Ялце каля мора, у некаторых мясцінах лаўлю сябе на думцы, што яны мне нагадваюць пра яго. Праходзячы па вуліцы Франкліна Рузвельта, заўсёды прыпыняюся насупраць Марскога вакзала, перад «Паўднёвай» гасцініцай. У ёй мы з ім жылі ўсе тыя дні. Праходжу па ўзбярэжнай каля рэстарана «Сочы» — і ўспамінаю, што на яго верандзе мы кожны раз вячэралі. З мора павяваў салёны вецер. У порце стаялі марскія караблі, а Іван, усміхаючыся, дэкламаваў:

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.

Я ведаў Івана трыццаць год. На маёй кніжнай паліцы, як вехі нашага сяброўства, стаяць ягоныя першыя зборнікі і салідныя раманы са шчырымі, часам жартаўлівымі надпісамі. Пераглядаю іх, пачынаючы з пажоўклага ад часу «У завіруху», з прыпіскаю: «... у дні, калі гэтае дзіця (зборнік) адгукнулася першым «ау!» і ўключаючы славуты раман, з надпісам: «як знак даўняга, шчырага сяброўства»,— і прыгадваецца многае...

Сярод маіх таварышаў і аднагодкаў, якія да самазабыцця былі адданы літаратуры, ніводзін не выявіў, як ён, такой цвёрдай настойлівасці ў дасягненні мэты.

Помню, як Іван пакінуў спачатку службу ў рэдакцыі, а потым аспірантуру і выкладчыцкую працу. І, нарэшце, пайшоў з пасады, якую цяпер наперабой занялі б многія калегі-літаратары... Дарэчы, яшчэ на маёй памяці з гэтай пасады некаторыя ішлі ў літаратуру зялёнай вуліцай...

А ён пайшоў іншым шляхам.

Не думаю, што толькі з адным са мною Іван па-сяброўску раіўся адносна сваёй службовай па-

сады і тады, на парозе сталасці, і пазней, за некалькі год да смерці, калі прывёз мяне ў лес на Случчыну. Праўда, у апошнім выпадку ён, прызнаны майстра, нічым не рызыкаваў. А на пачатку творчага шляху яму трэба было рызыкаваць, дый яшчэ як рызыкаваць!

Шлях, на які ён ступіў, пасля «Гарачага жніўня» абяцаў быць услані ружамі. Але пасля першай кнігі «Мінскі напрамак» некаторыя паспяшаліся ўсыпаць яго калючкамі. Калі Іван пайшоў да аднаго з выдаўцоў, каб высветліць абставіны, той, за сталом, дэманстратыўна адвярнуўшыся спіной і разглядаючы на сцяне геаграфічную карту, раўнадушна прамармытаў:

— Я не збіраюся выдаваць ваш раман!..

Гэтыя словы глыбока ранілі Іванаву душу, бо яна была чулая, як у кожнага таленту.

Аднойчы ў «Маладосці» яму выказалі шэраг заўваг па яго апавяданні, якое і ў мяне выклікала незадавальненне. Іван пацікавіўся маёй думкай. Я па-сяброўску выказаў сваё ўражанне. Можа, на паўгода наступіла пахаладанне ў нашых адносінах. Затое штосьці наіўнавата-дзіцячаеназіралася ў ім тады, калі ён ужо ў каторы раз хацеў паслухаць станоўчае выказванне пра свой твор чалавека, якога асабліва паважаў, чыёй думкай вельмі даражыў.

Аднойчы Мустай Карым і як чытач, і як пісьменнік, і як член Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР вельмі доўга расказваў мне пра сваё ўражанне аб абодвух раманах Мележа. Ад першай кнігі ён быў проста ў захапленні. А пра другую выказваў цікавыя заўвагі. Я тады падрабязна пераказаў усё гэта Івану. Дык ён і пазней неаднойчы пытаўся ў мяне, ці ўсё я пераказаў, ці не забыўся чаго-небудзь...

У жыцці Іван здаваўся сумнаватым. Відаць, ішло гэта не столькі ад характару, колькі ад хвароб. Але я не помню, каб ён жаліўся. Праўда, можа, у гэтым выяўляўся характар былых франтавікоў. І толькі аднойчы бачыў я на яго вачах слёзы. Яны былі выкліканы дрэнным перакладам ягонай кнігі, рукапіс якой ён атрымаў у той дзень і, разгублены, не ведаў, што з ім рабіць...

Пра сваю хваробу Іван не любіў гаварыць. Калі мы доўга не бачыліся і пры сустрэчы я пытаўся пра яго здароўе, ён адказваў заўсёды адно і тое ж:

— Ведаеш, кепска сябе пачуваю...

У апошнія дні жыцця, вярнуўшыся з Крыма, ён пазваніў мне на працу. Я спытаўся, як ён сябе адчувае. Іван сказаў, што яму трэба класціся ў больніцу. Я пачаў адгаворваць, супакойваючы, што пасля адпачынку на поўдні навошта тая больніца... Ён сказаў, што ў яго высокі ціск.

— Я ніяк не магу дазваніцца Адамчыку. Скажы яму, няхай не турбуецца... Усё, што ён выслаў, я атрымаў...

Вячаслаў Адамчык працаваў тады ў «Маладосці» намеснікам галоўнага рэдактара.

Пасля гэтага яшчэ два дні ўзапар Іван званіў мне ў рэдакцыю. Цікавіўся, ці перадаў я Адамчыку ягоную просьбу. Гаварыў пра нязначныя, будзённыя справы... Нават пакеплівау, што я заняў крэсла свайго шэфа...

Я ў сваю чаргу жартаваў, што ён за час адпачынку на поўдні пераблытаў у памяці ўсе рэдакцыйныя тэлефоны...

А на трэці дзень да мяне ўвайшоў учарнелы з твару Вячаслаў Адамчык і збянтэжана спытаўся, ці чуў я, што памёр Мележ...

— А я толькі думаў, Мікалай Якаўлевіч, што мы з вамі заўтра сходзім да яго ў больніцу...

Аказваецца, Іван два дні званіў мне з больніцы... Жартаваў, а не сказаў, адкуль ён звоніць...

* * *

У сваіх раманах Мележ нанова адкрыў для мяне Палессе і палешукоў, паглыбіў і пашырыў уяўленне пра гэту зямлю.

Помню, як уразіла першая паездка на Палессе, у якую ўзяў мяне з сабою Іван. Як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР ён ехаў на справаздачу да сваіх выбаршчыкаў у Жыткавіцкі раён.

Прыехалі мы ў вёску Ленін, дзе былі гасцямі дырэктара саўгаса Уладзіміра Мікалаевіча Гаршкалепа.

Раніцой хадзілі па наваколлі. Яно нагадвала нечым дрымотныя мясціны суседняга Лунінецкага раёна, які неаднойчы даводзілася мне праязджаць цягнікам з поўначы на поўдзень і з усходу на захад.

Нахадзіўшыся ўволю, селі на бярвеннях на беразе Случы. Проста на нас, падняўшы падалы спадніц, уброд пераходзілі рэчку жанчыны з граблямі на плячах. Пасля на грузавіках яны паехалі зграбаць сена на асушаных балотах ля Лані.

Дырэктар павёз нас туды на сваім «казле».

Алешнік паабапал шашы стаяў у вадзе. Асфальт у многіх мясцінах быў заслан тоўстым пластом збожжа. Яно праветрывалася і высушвалася пад сонцам. Як хатнія гусі, на шашы шпацыравалі цыбатыя буслы. Яны падпускалі блізка да сябе нашага «казла», уздымаліся проста над яго ветравым шклом і спакойна апускаліся на асфальт ззаду аўтамашыны.

Мне ўспомнілася раптам, як адзін наш вядомы празаік дакараў у друку маладога аўтара за няведанне жыцця: у апавяданні таго бусел шпа-

цыраваў па мурагу непадалёк ад дарогі, па якой ішлі людзі. Маўляў, бусел ніколі не падпусціць блізка людзей...

Я, смеючыся, расказаў пра гэта Івану. Ён адказаў, што цяпер абставіны мяняюць звычкі не толькі ў людзей, але і ў птахаў.

Звярнуўшы з шашы, мы далёка паглыбіліся ў гушчар па раз'езджанай лясной дарозе. Спачатку над намі, ледзь не састрыгаючы вершаліны дрэў, на брыючым палёце імкліва праносіліся самалёты. А потым, калі выехалі на асушаныя лугі, нас доўгі час суправаджала адзінокая чапля. Цень ад яе павольна плыў па траве навокала нашага «казла». Я паказаў цень Івану. Ён глянуў праз шкло машыны не на цень, а ўгару, на чаплю — і нічога не адказаў. Я толькі адчуваў, як ён час ад часу кідае позірк у мой бок, задаволены, што мяне ўсё нязвычна ўражвае ў палескай старане.

Увечары ў саўгасным клубе Іван даваў справаздачу сваім выбаршчыкам. Расказваў пра апошнюю сесію Вярхоўнага Савета. Падрабязна спыняўся на кожным пытанні, якое там заслухоўвалася. Выбаршчыкі выказвалі свае меркаванні, прапановы і просьбы. Потым Іван расказаў пра мяне. А я чытаў вершы.

Назаўтра ўвесь дзень мы вандравалі па раёне. Надвячоркам спыніліся ў раённай гасцініцы. Райцэнтр не ўваходзіў у Іванаву выбарчую акругу. Але райком партыі загадзя ўпрасіў Мележа правесці ў Жыткавічах літаратурны вечар.

У раённы Дом культуры, што непадалёк ад чыгуначнага вакзала, набілася многа народу: моладзі, службоўцаў, інтэлігенцыі. Мне даводзілася неаднойчы выступаць з Іванам на літаратурных вечарах. Як правіла, на іх ён трымаўся даволі стрымана. А тут адбывалася штосьці невераґод-

нае. Іван быў у настроі. Гэтакім прамоўцам я ніколі яго не бачыў. Ён гаварыў пра вобразы палескіх жанчын у нашай літаратуры. Параўноўваў іх з жаночымі вобразамі ў творах Талстога і Шолахава. Шчыра расказваў пра тое, як працаваў над раманам «Людзі на балоце». Нават прызнаўся, што гэта з ім было такое, як з Валодзькам, якога «на мяккай раллі між кусцікаў бульбы... узлаваная маці моцна і гучна пляскала... па голых паружавелых палавінках»...

Зала была як наэлектрызаваная.

Гадоў праз дзесяць я зноў наведаў гэтыя мясціны. Рэдактар раённай газеты прызнаўся мне, што яны былі ўражаны тым выступленнем Мележа.

Я падумаў: шкада, што такія выступленні не стэнаграфуюцца ці не запісваюцца на магнітафонную стужку! Які б гэта быў матэрыял для чытача!

Назаўтра па дарозе, якая пралягала дзе праз сасновыя бары, дзе праз гушчары алешніку, дзе міма лазовых зараснікаў над завадзямі і старыцамі, мы ехалі ў Тураў. Каля вёскі Чэрнічы паром перавёз нашу машыну праз Прыпяць.

У Тураве зайшлі да старшыні пасялковага Савета. Потым увесь дзень блукалі па старажытным гарадку. Каля рачной прыстані аглядалі Красную плошчу, здзіўленыя гэтай назвай. З яе пераходзілі на гару замчышча, якое акружаюць старыцы з векавымі вербамі над мурожнымі берагамі. Стоячы на замчышчы, дзе расла бульба і ў гарачым пяску купаліся куры, мы любаваліся далечынёй воднай прасторы звілістай Прыпяці.

Вечарам у гарадскім Доме культуры адбыўся вялікі літаратурны вечар. Іван выступаў на ім больш стрымана. Не было ўжо ўчарашняга ўздыму. Адчувалася стомленасць.

Апоўначы вярталіся ў жыткавіцкую гасцініцу. Разбудзілі паромшчыка. Яго будан на пароме пахнуў духмяным сенам. Санліва перашэптваліся хвалі Прыпяці.

Вярнуўшыся з гэтай паездкі ў Мінск, я напісаў верш «А помніш ты, як на Палессі...».

Калі прачытаў яго Івану, ён трохі здзівіўся:

— Цікава!.. Як быццам сфатаграфаваў усё, што бачыў навокала...— Потым нясмела папрасіў: — А можа, здымі гэтую страфу пра жанчын?.. А?..

Я адмовіўся...

Тады ён пажартаваў:

— Дык ты ж зманіў... Мы сядзелі на бярвенні каля Случы, а ты напісаў — на беразе Лані...

— Ты ў рамане з Алексічаў зрабіў Алешнікі — і то я маўчу...

Бывала, Іван пазвоніць па тэлефоне:

— Ну вось, нарэшце ты ўжо дома, Міклуха Маклай (так жартаўліва ён называў мяне за мае частыя паездкі па краіне). Як ты глядзіш на тое, каб з'ездзіць на Палессе?..

— Як заўсёды!.. Станоўча! — бадзёра адказваў я, таксама з іроніяй у голасе.

— Не адлучайся... На тым тыдні, відаць, паедзем,— па-сяброўску папярэджваў ён, заканчваючы працяглую размову.

І ў якіх бы раёнах Палесся мы ні бывалі, кожны раз нязменна заязджалі ў родныя мясціны. Але перш чым трапіць туды, Іван ніколі не абмінаў адно месца, якое хоць і было ў баку ад нашай дарогі, але да якога ён ставіўся з нейкай асаблівай любасцю і замілаваннем.

Кожны раз, калі мы пад'язджалі да Калінкавіч, я заўважаў, як святлее ягоны твар. І замест таго каб з Калінкавіч ехаць карацейшай дарогай,

ён рабіў кругаля. Мінаў паваротку на Хойнікі, за якіх-небудзь шэсць кіламетраў ад яе пераязджаў мост праз раку і міма аўтастанцыі выязджаў на плошчу Леніна ў Мазыры. На ёй, каля школы, у якой калісьці вучылася Вера Харужая, пакідаў машыну і вёў мяне да Прыпяці. Некалькі хвілін стаяў моўчкі, аглядаючы на супрацьлеглым беразе пясчаныя пляжы з кустамі лазы.

— Недалёка, на Прыпяці, ёсць знаёмы... Запрашае пажыць у яго тыдзень-другі... А я і на дзень ніяк не выберуся...— аднойчы прызнаўся ён.

Потым вёў мяне па Савецкай вуліцы, між старых двухпавярховых дамоў, першыя паверхі якіх — з цэглы, а другія — драўляныя з прыгожай разьбой пад дахам і на вокнах. Заводзіў на крыты рынак і вадзіў паміж сталамі, заваленымі садавінай і гароднінай. Пасля ўзбіраліся на гару. Паказваючы рукой на Мазыр, які адсюль увесь відзён як на далоні, з узгоркамі і ярамі, ён задаволена пытаўся:

— Ну, як?!

Ягоны твар свяціўся ўсмешкаю.

Толькі пасля гэтага мы вярталіся па шашы назад да хойніцкай павароткі і ўжо накіроўваліся да ягоных родных мясцін. Там Іван паўтараў адзін і той жа рытуал. Спачатку мы прыязджалі ў Глінішчы. Спыняліся каля калгаснай канторы. Іван па некалькі гадзін прастойваў з землякамі, распытваючыся ў іх пра жыццё-быццё, пра ўраджай. Параўноўваў, як з гэтым справа ў тых гаспадарках, адкуль мы едзем... Цікавіўся ў старшыні, што чуваць пра будаўніцтва школы. Потым мы ехалі за вёску, дзе па калена выраслі травы на асушаным балоце, каля страшнага «вока». Гэта сюды ў роспачы прыбегла калісьці прыбітая горам Хадоська, збіраючыся налажыць на сябе рукі.

— Не высыхае? — спытаўся Іван.

— Не,— адказаў старшыня.— Часам як не ўпільнуеш якую жывёліну, дык потым рады не дасі... Гуртам ледзь-ледзь выцягнем...

Пасля мы выязджалі на вясковую вуліцу, спыняючыся перад яго бацькоўскай хатай. Аднойчы зайшлі ў яе. Нас запрасілі за стол. Краем вока я назіраў, як Іван хвалюецца... Ён разгублена падзякаваў за запрашэнне і, аднекваючыся, выйшаў на двор.

Ад хаты мы пад'язджалі да могілак. Моўчкі спыняліся над дзвюма магіламі — ягонай дванаццацігадовай сястры і маці. І пасля гэтага, міма Алексічаў, ехалі ў Каранеўку. Першы раз, калі ўз'ехалі на грэблю, што злучае Алексічы з Каранеўкай, Іван зазначыў:

— Вось тая грэбля, якую будавалі куранёўцы.

* * *

І вось я зноў у Глінішчах. Толькі ўжо без Івана. Ад старой калгаснай канторы паварочваю ў завулак. Цяпер тут узвышаецца трохпавярховая школа імя Івана Мележа. Непадалёк ад яе — Дом культуры, а крыху далей — новае двухпавярховае праўленне калгаса «Ленінскі шлях». Усе тры будынкі з белай сілікатнай цэглы.

З нейкім душэўным трапятаннем уваходжу ў школу. Тут пануе цішыня. Ідуць заняткі. На калідоры няма нікога. Заходжу ў настаўніцкую і, вітаючыся, знаёмлюся з адзіным чалавекам, які толькі што перагортваў за сталом нейкія паперы.

— Бондар, Васіль Андрэевіч,— адказвае ён і прызнаецца: — А я вас адразу ж пазнаў... Вы з Іванам Паўлавічам заходзілі аднойчы ў маю хату...

І, трошкі збянтэжыўшыся, удакладняе:

— У бацькоўскую хату Івана Паўлавіча... Мы — сваякі... Мой дзед па маці і Іванаў бацька — родныя браты...

Узрадаваны, я прызнаўся, што наважыў аб'ехаць мясціны, па якіх вазіў мяне Іван. Хачу зноў пабачыць людзей, з якімі тады сустракаліся...

Васіль Андрэевіч паказаў мемарыяльны пакой Івана Мележа ў школе. На сценах вісяць фотаздымкі, на паліцах расстаўлены кнігі... З хваляваннем я надпісаў сваё «Выбранае», на гэты раз ужо не сябру, а бібліятэцы ягонага музея... І зрабіў запіс у кнізе наведвальнікаў...

— А як бы з'ездзіць у Каранеўку? — спытаўся ў завуча.

— Гэта мы зараз...— адказаў Васіль Андрэевіч.— Толькі на легкавушцы туды не праедзеце...

Ён спачатку пазваніў старшыні калгаса, а потым сам пайшоў да яго... Вярнуўся разгублены.

— Давядзецца пачакаць... «Казла» няма пад рукамі... Ёсць дэзінфекцыйная аўтамашына... Дык на ёй жа нязручна ехаць...

— Чаму?.. Паеду, Васіль Андрэевіч...

Гадоў дзесяць таму назад Іван вазіў мяне па глыбінных палескіх мясцінах на райвыканкомаўскім «казле». У дрымучым лесе, сярод сыпучага пяску нечакана сапсавалася машына. Мы не ведалі, што рабіць. Паявіўся лесавоз з бярвеннем. Я спыніў яго і папрасіў шафёра вывезці нас куды-небудзь з гэтай глушы. Іван, разгублены, не разумеў, як мы паедзем. Я ўгаварыў яго сесці ў кабіну, а сам залез на бярвенні. Шафёр даў мне падаслаць ватоўку, каб я не запэцкаўся смалой. Праз кожныя два-тры кіламетры Іван спыняў лесавоз, вылазіў з кабіны і вінавата пытаўся, як я сябе адчуваю. Смеючыся, я сказаў яму:

— Не турбуйся. Калі буду падаць з бярвення, пастукаю кулаком па кабіне...

На калгаснай дэзінфекцыйнай машыне мы паехалі ў Каранеўку. Ехалі праз Алексічы. Тры гады Іван хадзіў сюды ў школу. У вайну немцы дарэшты спалілі вёску. Знішчылі жыхароў.

Звычайна, калі мы з Іванам прыязджалі ў гэтыя мясціны, ён ні разу не вёз мяне праз Алексічы. Абмінаў іх па дарозе ўзбалоткам, як калісьці Васіль, вяртаючыся з Юравіч з-пад арышту. Відаць, не хацеў вярэдзіць успамінамі шматлікія даўнія раны. Дастаткова было іх пры ўспамінах у Каранеўцы, якая са сваімі жыхарамі зведала такі ж лёс, як і Алексічы.

Вясковая вуліца з лужынамі і гразкімі выбоінамі... Я зразумеў, чаму Іван заўсёды вазіў мяне сюды толькі ў канцы ліпеня або ў пачатку жніўня.

А калі за Алексічамі ўз'ехалі на грэблю, машына злёгку забуксавала.

— Бачыце, што нарабілі, разявы?..— сказаў шафёр.— Капалі канавы і торф выкідалі не на балота, а на грэблю... Цяпер, як пройдзе дождж, не праехаць...

Каранеўка — невялікая вёска, двароў сорак пяць. Спыняліся мы з Іванам заўсёды ў ягонай сваячкі Настассі Трафімаўны, настаўніцы мясцовай пачатковай школы. Яе муж, Уладзімір Антонавіч, працаваў ветэрынарным фельчарам. У іх гасціннай хаце мы адпачывалі з дарогі, палуднавалі. На гэтай сядзібе стаяла калісьці хата Іванавай бабулі па маці. Іван расказваў, як часам праз якую-небудзь нязначную крыўду ў бацькоўскім доме ён, малы хлапчук, бег сюды да бабулі за шэсць кіламетраў. Гаспадары гэтай хаты цяпер пераехалі ў Хойнікі, а тут жыве сястра гаспадыні.

Я зноў агледзеў сядзібу з векавымі дрэвамі на агародзе. Аднойчы мы гулялі ў засені іх і Іван прамовіў:

— Мы, брат, пастарэлі ўжо... А гэтыя дрэвы, як помню, і тады былі такія ж самыя...

Шафёр калгаснай машыны таксама нейкі далёкі сваяк Мележа. Калі ён сказаў пра гэта, я пажартаваў:

— О, дык Мележы тут глыбока ўкараніліся!..

Ён сказаў, што на другім канцы вёскі жыве саячка Мележа, з якой нібыта спісаны вобраз Ганны...

Калі вярталіся ў Глінішчы, я папрасіў шафёра пад'ехаць да могілак... Адчыніў веснічкі агароджы, прайшоў да дзвюх знаёмых магіл і, разгублены, спыніўся... Побач з імі паявілася трэцяя. На ўсіх — свежыя кветкі і новыя вянкі...

— Тыдзень таму назад памёр Павел Фёдаравіч, бацька Івана Паўлавіча. Жыў у Ленінградзе, у дачкі. Прасіў пахаваць яго ў Глінішчах...— растлумачыў Васіль Андрэевіч. І здзівіўся: — Як гэта вы адразу ўсё пазнаяце тут?..

— Дык мяне ж не раз і не два прывозіў сюды Іван... Вось зараз пазнаю і вашу хату, Васіль Андрэевіч... Вунь яна, з левага боку вуліцы.

Мы зайшлі ў хату. У ёй тры пакоі і кухня. Старая хата Іванавых бацькоў згарэла ў вайну. А гэтую яны пабудавалі пасля...

— Прабачце, што я сам за гаспадыню... Яна пасе кароў... Сягоння наша чарга...— апраўдваўся Васіль Андрэевіч, запрашаючы мяне да стала.— Возьмем па каліву лекавага зелля... Івана Паўлавіча памянём...

— Дык гэта і сапраўды лекі,— адказаў я, прыгледзеўшыся да пляшкі, у якой плавала наструганае карэнне.

— Корань жэньшэня,— растлумачыў Васіль Андрэевіч.— Я ж на Далёкім Усходзе інстытут канчаў. Да гэтага часу не парываю сувязі з Прыморскім краем...

Вяртаўся я з Глінішчаў знаёмай дарогай. Па ёй Шабета вёз калісьці на фурманцы арыштаванага Васіля. Ганна ехала на кірмаш з бацькам і мачыхай...

* * *

Стрыманы і негаваркі, Іван, здавалася б, павінен быў адчуваць сябе ў такіх паездках лепш самнасам, чым у прысутнасці пабочных людзей. А ён, наадварот, не выязджаў адзін нават тады, калі аднаму яму было б, відаць, зручней.

Аднойчы ён пазваніў мне па тэлефоне і запрасіў паехаць на Палессе. Я згадзіўся. Але, калі даведаўся, што яго будуць вылучаць там кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, збянтэжыўся: што я там буду рабіць? Я ж не давераная асоба, якая прадстаўляе выбаршчыкам кандыдата ў дэпутаты. Іван пачаў угаворваць, спасылаючыся на тое, што афіцыйная давераная асоба ёсць на месцы, а ён запрашае мяне як інтымную даверанаю асобу...

Прыехалі мы ў Петрыкаў. Зайшлі ў райком, пазнаёміліся.

Вылучэнне Івана кандыдатам у дэпутаты прайшло хораша.

Перад вячэрай я заўважыў нейкую разгубленасць сярод кіраўнікоў раёна. Улавіўшы зручны момант, калі Іван паводдаль быў заняты гаворкай, да мяне падышла сакратар райкома партыі, у мінулым настаўніца:

— Мікалай Якаўлевіч, мы не ведаем, што нам рабіць?..

— А ў чым справа? — не зразумеў я.

— Іван Паўлавіч такі заслужаны, вядомы чалавек... Нас папярэдзілі, што ён хворы пасля франтавога ранення, а хацелася б павячэраць разам...

— А-а, вось што!..— усміхнуўся я і супакоіў:
— Ён ваш пачэсны госць!.. Дык вы і паводзьце сябе як гаспадары!

Забягаючы наперад, скажу, што ў далейшым у раённых кіраўнікоў тут складіся шчырыя, таварыскія адносіны са сваім дэпутатам. Пазней Іван вазіў мяне па гаспадарках гэтага, як я жартаваў, прапахлага мятай, раёна (нямала саўгасаў у ім занята вырошчваннем мяты)...

Назаўтра хлебаробы калгаса імя Леніна вылучылі Івана кандыдатам у дэпутаты. Старшыня Уладзімір Іосіфавіч Кулак падрыхтаваў пад дубамі на беразе Пцічы абед з рыбацкай юшкай...

Спачатку Іван быў у захапленні ад прозвішча старшыні калгаса. Дружалюбна пацвельваў:

— Савецкі кулак! Калгасны гаспадар!..

Потым неяк задумаўся, спахмурнеў. Аказалася, раней дэпутатам тут быў сам старшыня.

І трэба было бачыць збоку, як два гэтыя палешукі, няёмка адчуваючы сябе адзін перад адным, імкнуліся паразумецца...

* * *

Я прыехаў у Петрыкаў уначы. І не заплюшчыў вачэй у гасцініцы. Устаў з ложка, як толькі развіднела. Выйшаў на ганак. Агледзеўся. Усё здалося такім знаёмым... Колькі разоў мы з Іванам спыняліся ў гэтай гасцініцы, на другім паверсе! Проста з ганка пратаптанай сцяжынай ішлі ў суседні двухпавярховы дом — райком партыі. Ён у цяністым яблыневым садзе, які акружаюць даўнія акацыі. Зайсці б як калісьці, пагутарыць са

знаёмымі людзьмі!.. А можа, ніхто з іх цяпер не працуе тут?

Да дзевяці гадзін праблукаў па гарадку. Пайшоў у рэдакцыю. Толькі падышоў да ганка, як чую, ззаду аклікае жанчына:

— Добрай раніцы! Я пазнала вас здалёку...

Гэта намеснік рэдактара раённай газеты Эся Барысаўна Шыфман. Яна была даверанай асобай Івана Мележа, калі яго вылучалі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

— Вы не ўяўляеце, як я хвалявалася тады! А Іван Паўлавіч аказаўся такім простым чалавекам!.. Як сардэчна і шчыра дзякаваў ён мне за тое выступленне!

Ад яе я даведаўся, што са знаёмых сакратароў райкома партыі па-ранейшаму працуе толькі адзін Савянок. Мне захацелася яго наведаць.

Я заўважыў, што ў Івана Мележа было нейкае асаблівае стаўленне да яго. Можа, Іван сімпатызаваў яму, што Савянок ягоны зямляк, з аднаго раёна. А можа, малады чалавек выклікаў у Івана ўспаміны пра юнацкую працу ў райкоме камсамола.

На калідоры ў райкоме мітусіліся людзі ў рабочым адзенні. Яны сабраліся ў ад'езд — капаць бульбу.

Я зайшоў да Савянка. Пасядзелі, пагаварылі. Сцяпан Васільевіч успамінаў пра Івана Мележа з нейкай асаблівай цеплынёй і спагадаю. Я заўважыў у ягоных валасах сівізну...

Развітваючыся, я папрасіў прабачэння за тое, што адарваў некалькі хвілін дарагога часу.

Прыйшоў на кручу. Пастаяў пад клёнамі каля помніка дзеду Талашу. Міма яго родных Навасёлкаў мы з Іванам калісьці не раз праязджалі на быстраходным катэры.

Пятрусь Броўка і Мікола Аўрамчык. 1977 г.



НА ДОСВІТКУ УСТАВАУ ПЯТРУСЬ УСЦІНАВІЧ,
ШТО ЖЫУ НАВОДШЫБЕ ЗАУЖДЫ,
ІШОУ ДА АЗЯРЦА ЛЯСНОГА З ЦІНАЮ,
ЗНІКАУ НЯВЕДАМА КУДЫ.

Праз вулачку, якая спускаецца ўніз па яры, перабраўся на другую кручу, дзе ўзвышаецца Дом культуры, у якім Івана вылучалі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

Пасядзеў на лаве пад старымі таполямі. Угледзеўся ўдалячынь... І толькі цяпер зразумеў, чаму менавіта сюды Іван прыходзіў са мной кожны раз. Абедзве гэтыя кручы, з вулачкай, што раздзяляе іх, у мініяцюры нагадваюць Мазыр.

Я пабрыў на прыстань і купіў білет на першы цеплаход.

На маё здзіўленне, ім аказаўся «Янка Купала».

Па Прыпяці плавае цеплаход ■ гэтым дарагім нам імем.

Пазнаёміўся з капітанам і механікам. Яны запрасілі да сябе ў рулявую рубку.

Абодва яны — капітан Валеры Паўлавіч Прусакоў і механік Аляксандр Данілавіч Кацура — слаўныя хлопцы, палескія старажылы. Калі я неабачліва заікнуўся, што берагі Прыпяці больш аднастайныя, чым Сожа ці Бярэзіны, яны абодва гатовы былі выкінуць мяне за борт. Я вярнуў іх прыхільнасць, пахваліўшы дарашэвіцкі парк...

Абодва яны ўлюбёныя ў сваю Прыпяць так, як Іван быў улюбёны ў сваё Палессе.

З-за павароту ракі, рассякаючы хвалі, насустрач нам выплыў гэтакі ж самы цеплаход, як і наш.

Размінаючыся, яны прывіталі адзін аднаго гудкамі. На борце сустрэчнага я прачытаў: «Якуб Колас».

І мне ўявілася раптам, як да іх далучаецца трэці — «Іван Мележ».

*1978*

## ПАМЯЦІ СЯБРОЎ

Кожны раз, калі я спыняюся ў Саюзе пісьменнікаў перад мемарыяльнай дошкай, на якой залатымі літарамі высечаны імёны тых, чые сэрцы згарэлі ў пажары ваеннага ліхалецця, мне здаецца, быццам бы перада мной не калонка знаёмых прозвішчаў, а шарэнга выстраеных людзей. І ўсе ў цывільнай вопратцы. Толькі адзін Іван Шапавалаў вылучаецца сярод іх сваёй вайсковай выпраўкай. Мне чамусьці ён прыгадваецца то ў цёмна-сіняй лётнай форме, то ў зялёнай фуражцы пагранічніка...

Ажываюць успаміны...

Затаіўшы дыханне, я сачу за вяснушкаватымі рукамі Рыгора Мурашкі, які гартае вучнёўскі сшытак з маім апавяданнем.

То ўспамінаю высокую танклявую постаць Аркадзя Гейнэ. Пераступаючы з нагі на нагу, ні адзін з нас доўга не адважваецца першым увайсці ў кабінет маладога аўтара да Аркадзя Куляшова.

Паўстае ў памяці дзявочае аблічча Валодзі Рагуцкага, які на перапынку чытае мне свае новыя вершы.

Бачу перад сабой прыгожы чарнабровы твар Генадзя Шведзіка, стол якога стаіць насупраць майго ў рэдакцыі «Піянера Беларусі».

Зноў позірк затрымліваецца спачатку на адным, а пасля на другім прозвішчы, якія асабліва блізкія і дарагія майму сэрцу.

Аляксей... Мікола...

Нейкімі нязвычнымі і занадта афіцыйнымі выглядаюць у такім напісанні іх імёны.

Лёшам Коршакам і Колем Сурначовым назаўсёды засталіся для мяне гэтыя юнакі.

Пасівелі ўжо нашы аднагодкі. А Коршак і Сурначоў, якія ляжаць у братніх магілах, навекі засталіся маладымі ў сваіх вершах і ў нашай памяці.

Цяпер нават не верыцца, што да выдання іх паэтычных зборнікаў многія з гэтых вершаў у лепшым выпадку публікаваліся толькі ў адным экземпляры: Коршака — у студэнцкай, а Сурначова — у салдацкай насценгазетах.

Для Сурначова гэта было вынікам ваенных абставін. А натура Коршака не дазваляла яму абіваць парогі рэдакцый. Гэты сціплы юнак саромеўся паказваць свае вершы блізкім сябрам. І хоць у інстытуце ён быў рэдактарам рукапіснага літаратурнага часопіса, вершы для насценгазеты ў яго самога даводзілася вырываць сілком.

Звычайна Аляксей хадзіў на перапынках па калідоры, трымаючы рукі ў кішэнях свайго карычневага пінжака, шырока расхінуўшы крыссе. Калі я ўспамінаю гэтую звычку Коршака, ён мне чамусьці здаецца птахам-подлеткам, які прабуе свае крылы перад узлётам.

Сваёй начытанасцю і эрудыцыяй Аляксей вылучаўся сярод усіх нас. Ён амаль ніколі не рыхтаваўся да экзаменаў, хоць вучыўся добра. Затое кожны дзень яго можна было сустрэць у кнігарні. Гадзінамі ён праседжваў у бібліятэцы.

Коршака трапна характарызуе адна з яго паштовак, якая цудам уцалела ў маёй вёсцы сярод пажоўклых кніг і канспектаў. У час вясновай сесіі на першым курсе мы павінны былі здаваць экзамен па гісторыі. На падрыхтоўку мелі некалькі вольных дзён. Я паехаў дадому. Неўзабаве Аляксей прыслаў мне гэтую паштоўку.

«Я на цябе злуюся за тое, што ты мне не пакінуў С. Е. (Сяргея Ясеніна.— М. А.), каб перапі-

сацъ. Я паперы добрай дастаў і чарніла падшукаў. Чорт пабяры! Усё прапала. Глядзі ж, напамінаю табе гэтай адкрыткай: цягні мне С. Е. усё, што маеш яго, інакш прыб'ю.

Учора прачытаў два зборнікі В. Казлоўскага... Як ты думаеш! Мудрагельства у яго не так ужо і многа. Выйшаў Байран, але ў продаж не паступіў яшчэ, толькі ў Ленінскай бібліятэцы ёсць. Выйшла Садоўскага «Я вижу»...

Як з гісторыяй? Вучыш, мабыць! А я не браўся. Усё. Не забудзь С. Е. Чуеш?!»

На Студэнцкай вуліцы не засталося і следу ад баракаў, дзе мы жылі ў часе вучобы. Але ў глыбіні двара па вуліцы Энгельса ўцалеў чырвоны цагляны будынак, у якім на другім паверсе, у вялікім пакоі справа, сярод дваццаці студэнтаў-другакурснікаў жыў Аляксей.

Яго бацька, калгасны млынар, часта прысылаў сыну пасылкі. Студэнты з усяго інтэрната прыходзілі пакаштаваць свежаніны. Аляксей не любіў, калі ў яго пыталі дазволу на гэта:

— Хіба вы не ведаеце, каторая мая тумбачка?

Таму звычайна кожны наведвальнік аблюбоўваў па свайму густу кавалак, ад якога адразаў тоўстую скварку. Дзверцы ў Аляксеевай тумбачцы ніколі не зачыняліся. Як плашкі, старчма сталі ў ёй кавалкі сала.

За сцяной гэтага пакоя жылі студэнткі кансерваторыі. Калі хлопцы збіраліся на гулянку і надзявалі пад пінжакі, паўзверх маек, беласнежныя накрухмаленыя манішкі, Аляксей жартаваў:

— Дзяўчаты, гляньце, як нашы лыцары, ідучы ў паход, прыкрываюць свае грудзі латамі!..

Студэнткі рагаталі.

У вершы «Паранены», які датаваны 1942 годам, А. Коршак пісаў:

Я б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,
Красаваў, як май...

Для Аляксея гэта былі не пустыя словы.

Наш інстытуцкі сябра і аднакурснік В. Чумакоў, які быў афіцэрам падраздзялення, дзе ваяваў А. Коршак, расказвае, што Аляксей заўсёды рваўся ў разведку. Ва Усходняй Прусіі ў разведцы яго накрыў варожы мінамёт.

Пасля вайны спатрэбіўся Аляксееў партрэт для кнігі «Мы іх не забудзем». Мне балюча было разразаць наш адзіны студэнцкі фотаздымак. Цяпер з гэтага фота на кожнага чытача Аляксеевых вершаў глядзіць светлымі наіўнаватымі вачыма дзевятнаццацігадовы юнак.

У бацькоў захаваўся яго рукапісны зборнік «Пялёсткі». Мы ўключылі ў яго вершы ваеннага часу. Калі кнігу здавалі ў набор, я не ўтрымаўся, каб не дадаць да яе назвы слова «апаленыя», бо вайна апаліла і сэрца гэтага юнака.

Высокі Коршак і сярэдняга росту Сурначоў ■ выгляду былі не падобны адзін на аднаго. Мікола быў старэйшы за Аляксея на тры гады і больш разважлівы. Якраз тады М. Сурначоў надрукаваў у «Полымі рэвалюцыі» нізку вершаў «Барвовая зара» з эпіграфам з А. Суркова «Вот и кончилось детство, Коля».

Калі я прыгадваю гэты эпіграф, перада мной, як вобраз таго наіўнага дзяцінства, паўстае даўняе Міколава фота, з якога паглядае малады хлапец з люлькай у зубах, у кепцы з доўгім брылём. Мабыць, гэты фотаздымак зроблены ў гады вучобы ў тэхнікуме. Мала хто ведае, што Мікола Сурначоў у свой час скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і працаваў у аддзеле сельскай гаспадаркі

Рагачоўскай газеты. Улетку 1939 года ён, студэнт Гомельскага педінстытута, быў выкліканы ў Мінск на канферэнцыю маладых пісьменнікаў. Увосень Мікола пераведуся ў наш інстытут і адначасова пачаў працаваць у рэдакцыях — у «Звяздзе», у «Чырвонай змене».

І ў Коршака і ў Сурначова было штосьці агульнае ў характарах. Адзін і другі былі стрыманыя ў пачуццях і з выгляду нехлямяжыя. На фізкультуры Аляксей не мог кінуць на патрэбную адлегласць гранату. Некаторыя кпілі з яго... Здаецца, менавіта гэтых насмешнікаў меў на ўвазе А. Коршак у адным з вершаў ваеннай пары:

> Усім гэтым гладзенькім, глянцавым,
> Я кіну ім покліч жывы:
> — А вось яно! От яно! Гляньце вы!
> Бачыце вы?!

А ў нашым запасным палку Сурначова дакаралі, што не навучыўся як след хадзіць страявым крокам...

Калі спатрэбілася, адзін з гэтых юнакоў шпурнуў сваё сэрца, як гранату, з Капыльшчыны ва Усходнюю Прусію, а другі ад казахстанскіх стэпаў прайшоў пераможным крокам да самага Берліна.

Вось што піша ў лісце з Узбекістана баявы сябра Міколы, афіцэр запасу Васіль Сямёнавіч Капычэнка:

«Я вельмі рад, што ваш сябра і мой аднапалчанін Мікола Сурначоў быў таленавітым маладым паэтам. Рад і таму, што мне давялося правесці з ім шмат баявых дзён і начэй, дзяліць усе нягоды баявога паходу.

Атрымаў ад вас усё, што вы мне паслалі...

Мікола Сурначоў у любых выпадках застаўся б у маёй памяці паэтам, калі б нават ён чытаў

мне вершы, не маючы да іх ніякіх адносін. І вось чаму.

Ён любіў жыццё, як Беларусь.

Ён чытаў вершы на беларускай мове так, што я зразумеў мову гэтага народа і палюбіў яе.

І вось зараз перада мной яго вершы... Я маю магчымасць праз семнаццаць гадоў чуць яго словы...

Мікола прыйшоў у наш армейскі знішчальны супрацьтанкавы артылерыйскі полк у 1944 годзе.

Вось бывае ж так: увойдзе чалавек у душу, размесціцца ў ёй, і калі ўспомніш пра яго, здаецца, што ён там знаходзіўся раней, чым ты зразумеў, што такое душа.

...Сумку палявую кірзавую, якая, не ведаю, як магла ўмяшчаць у сабе гэтулькі шмат усяго, я ўбачыў у яго тады, калі нас перакінулі ў Польшчу, пад г. Лукаў. Убачыў таму, што ў гэты час мы сталі з ім вельмі блізкімі. Мікола быў камандзірам узвода ўпраўлення батарэі. Я быў начальнікам разведкі дывізіёна...

І вось тады, уначы, пры газоўцы ў польскай хаце Мікола пазнаёміў мяне з тым, што ляжала ў яго палявой сумцы. Гэта была непаўторна цікавая ноч. У тую ноч ён даказаў мне, чаму ён абраў шлях паэта...

А хутка пасля ночы Міколу заўважылі лётчыкі, танкісты, артылерысты і пехацінцы. У кастрычніку ці лістападзе 1944 года камандаванне фронту рашыла правесці сустрэчу лётчыкаў, якія шэфствавалі над намі, з афіцэрамі нашай танкавай арміі. І як заўсёды бывае, пасля афіцыйнай часткі пачаліся тосты... Калі б вы бачылі, як гэты сціплы сарамлівы хлопец у «чэрчылеўскім» шынялі прачытаў верш на беларускай мове! Цяпер я перакананы, што верш быў яго...

З Міколам мы прывязвалі баявыя парадкі ўсяго дывізіёна, арганізоўвалі аб'яднанае назіранне і засечку цэляў па імітаваных успышках...

...Чатырнаццатага студзеня 1945 года наша танкавая армія ўвайшла ў прарыў, семнаццатага студзеня мы ўзялі Варшаву, дзевятнаццатага — Лодзь, і дваццаць дзевятага студзеня ўварваліся ў Памеранію. У пачатку лютага падышлі да важнага стратэгічнага пункта г. Пірытц. Вораг сцягнуў штрафныя часці, завязаліся жорсткія баі, у адным з якіх Мікола быў паранены ў нагу. Вярнуўся ён са шпіталя, калі мы пасля захопу плацдарма на Одэры адышлі на адпачынак.

У другой палове красавіка наша армія зноў увайшла ў прарыў. Артылерыйская калона ўначы ішла за танкавай. Паколькі армія адарвалася ад свайго фронту на 150—200 кіламетраў, громячы тылы і камунікацыі немцаў, патрабавалася выключная дакладнасць руху па маршруту. Але першая аўтамашына адарвалася ад танкавай калоны, у выніку танкі звярнулі направа, а артылерысты, не ўдакладніўшы маршрут, паехалі прама... Наткнуліся на засаду. Немцы прапусцілі пяць машын, пачалі біць «фаустамі», завязаўся бой. Немцы адступілі, пяць аўтамашын, якія праскочылі праз засаду, невядома дзе. Даведацца, што з імі здарылася, даручылі мне раніцай наступнага дня. Як рашыць гэту задачу? Ехаць проста на разведмашыне, гэта значыць нічога не даведацца і напэўна трапіць у лапы ворагу. І выйсце знойдзена: ёсць легкавая машына, захопленая ў немцаў з іх апазнавальнымі знакамі і афарбоўкай.

Праехаўшы два-тры кіламетры, бачу, стаяць машыны на ўскраі вёскі. Пад'язджаю.

Перада мной адкрылася карціна начнога няроўнага бою жменькі храбрацоў, якімі каманда-

ваў Мікола. Забітыя немцы і нашы, машыны спалены. Падыходжу да крайняй хаты, ля якой пад коўдрай стогне паранены парторг дывізіёна, зямляк-іркуцянін Федзя Захараў. Расплюшчвае вочы, пазнае, просіць вады. Выпіўшы некалькі глыткоў, заплюшчвае вочы і на маё пытанне, як усё адбылося, дзе Мікола, не адказвае, памёр...

Пачуўшы і пераканаўшыся, што размаўляюць рускія, са склепа, размешчанага побач з хатай, вылез салдат, які расказаў мне пра ўсё. Праскочыўшы засаду і не даехаўшы да наступнай вёскі трыста — чатырыста метраў, калона спынілася. Насустрач, лязгаючы гусеніцамі, ішоў танк, ці «СУ», а ззаду пачалі аб'язджаць бронетранспарцёры. Адзін з нашых салдат падышоў да транспарцёра і, не падазраваючы, што гэта фашысты, спытаў, куды яны едуць і з якой часці.

Вось тут і пачалося. Але вельмі мала было нашых. Ворагі іх адолелі. Мікола біўся як сапраўдны герой. Пазнаць яго я мог па светла-карычневых ботах, якія былі адзінымі ў палку. А сумкі так і не знайшоў, хоць патраціў шмат часу.

Вось так закончыў свой слаўны жыццёвы шлях ваш сябра, мой таварыш Мікола Сурначоў...

Прашу вас, пакланіцеся мемарыяльнай дошцы, на якой напісана яго імя!

> Ўспамяніце ж вы, з якімі
> Мы не бачымся гадамі,
> Нас хоць снамі залатымі
> Ўспамяніце...—

пісаў М. Сурначоў у адным са сваіх вершаў.

Залатымі снамі я часта ўспамінаю сваіх абодвух сяброў.

А сёння захацелася ўспамянуць іх словам.

*1964*

## СУСТРЭЧЫ

Чэрвеньскай ноччу сорак першага года мы з Міколам Сурначовым пакідалі Мінск. Ледзьве здолелі перабегчы Савецкую вуліцу, якая ў цэнтры горада нагадвала глыбокую вогненную раку. З трэскам гарэлі з сярэдзіны трох- і чатырохпавярховыя камяніцы, нібы драўляныя домікі.

Мы прайшлі міма Універсітэцкага гарадка і цераз чыгунку, па прываказальным віядуку рушылі ў бок Студэнцкай вуліцы. Трывожную цішыню парушалі свісткі цягнікоў, цемру прарэзвалі водбліскі паравозных топак.

На Студэнцкай, у інтэрнаце, не было ні душы. Я адчыніў пакой, выцягнуў з-пад ложка чамадан і ўзяў у кішэні пашпарт, студэнцкі білет і заліковую кніжку. Крыху падумаўшы, невядома дзеля чаго, захапіў альбом з фотаздымкамі, паклаў да яго пару кашуляў і, абгарнуўшы ўсё гэта тонкай коўдрай, перавязаў чамаданнымі рамянямі.

Цераз пераезд, міма Чэрвеньскага рынку, мы выйшлі вуліцай за горад, на Магілёўскую шашу.

На пагорку, дзе цяпер стаяць карпусы велазавода, пачынаўся пералесак, перад якім была будка дарожнага майстра. Мы выцягнулі са студні вады, напіліся і селі перадыхнуць. З пагорка журботным позіркам глядзелі на горад свайго юнацтва. Над ім высока шугала барвовае полымя.

З горкай іроніяй ціха прамовіліся радкі Суркова: «Вот и кончилось детство, Коля», якія Сурначоў узяў эпіграфам да нізкі вершаў «Барвовая зара», што былі надрукаваны зімой у «Полымі рэвалюцыі».

Не паспелі мы адысціся ад горада, як развіднела і над шашой з'явіліся нямецкія самалёты. На

абочынах валяліся разбітыя фурманкі, ляжалі забітыя людзі.

Як і іншыя ўцекачы-выгнаннікі, мы пачалі пятляць па жыце, паводдаль ад шашы. Балюча было глядзець, як варожыя самалёты кружыліся над Красным урочышчам, дзе быў ваенны гарадок, і скідвалі бомбы. Некаторыя зніжаліся над шашой, вышуквалі сабе здабычу.

Сурначоў са шкадаваннем глядзеў на вытаптанае жыта і, прыцмокваючы, паўтараў:

— Сцябліны, як чараціны!.. Які быў ураджай!.. Як на пагібель...

Ён адрываў сцябло, заціскаў у зубах і, штосьці абдумваючы, маўчаў.

Усцяж шашы мы ішлі далей.

Надвячоркам Сурначоў раптам прачытаў мне верш «У стоптаным жыце», які цяпер увайшоў у анталогію беларускай паэзіі і перакладзены на рускую мову А. Твардоўскім. Гэты верш пазней друкаваўся ў нашай палкавой насценгазеце.

Злева ад шашы была вялікая вёска. Мы прайшлі вуліцай да сярэдзіны яе і папрасіліся на начлег. Гаспадары хаты, спачуваючы людской бядзе, далі нам прытулак. Мы адразу ж заснулі.

Раніцай, адмовіўшыся ад снедання і выпіўшы толькі па шклянцы малака, мы наважыліся ісці ў Пухавіцкі ваенкамат. Я зразумеў, што ўзятыя з сабой рэчы мне болей не патрэбны. Вырашыў усё гэта пакінуць у гаспадароў.

Маладзейшая гаспадыня, відаць, разумеючы, што ў вайну мужчына-гаспадар не будзе сядзець дома, параіла запісаць іх адрас так: Рудзеншчына, вёска Матарова, Крайко Надзея.

У гады майго блукання па свеце згубіўся гэты запіс. Але ці то ад нашага веку матораў, ці то пад уплывам думак пра родны край і надзеі на вяр-

танне — запомнілася назва вёскі, прозвішча і імя гаспадыні.

Праўда, адразу ж пасля вайны, калі людзі не знаходзілі сваіх родных і блізкіх, мне было не да пакінутых рэчаў, а тым больш да такой дробязі, як фотаздымкі.

Але калі наша выдавецтва пачало рыхтаваць кнігу «Мы іх не забудзем», для яе неабходны былі фотаздымкі пісьменнікаў, якія не вярнуліся з вайны. Сябры пераканалі мяне, што варта ўсё-такі з'ездзіць у тую вёску, дзе я пакінуў альбом. А раптам што-небудзь з фотаздымкаў уцалела...

Вясновай раніцай я прыехаў цягніком на невялікі паўстанак, з якога трэба было пешкі дабірацца да вёскі. Ісці давялося каля дзесяці кіламетраў.

На скрыжаванні дарогі з вясковай вуліцай стаялі дзве жанчыны.

Я павітаўся з імі.

— Скажыце, калі ласка, дзе тут хата Крайко Надзеі?..

Адна з жанчын здзіўлена паглядзела на мяне.

— А што такое?.. Я Крайко Надзея...

— Прабачце... Я адзін з тых студэнтаў, што ў першыя дні вайны спыняліся на начлег у вашай хаце.

— А, помню, помню... Ну, дык хадземце ў хату. Вашы рэчы ўцалелі. А ці застаўся жывы ваш сябар?..

Я сказаў, што ён загінуў пад Берлінам.

У хаце, за гасцінным сталом, хвалюючыся, разглядаў я фотаздымкі ў сваім альбоме. Перада мной зноў паўставалі знаёмыя аблічча студэнтаў-аднакурснікаў, сяброў-пісьменнікаў, былых аднакласнікаў — лейтэнантаў з кубарамі на пятліцах, сувязістаў, лётчыкаў, артылерыстаў...

Я разумею, як рызыкоўна і небяспечна было ў вайну трымаць у хаце такія здымкі. Але ў Ганны Георгіеўны, старэйшай гаспадыні хаты, свой сын быў з такімі ж лейтэнанцкімі кубарамі...

Яна расказала, як схавала ўсе гэтыя фотаздымкі ў самавар і закапала яго ў зямлю. Некаторыя з іх пажоўклі ад вільгаці.

— Толькі шкада, што пласцінка не ўцалела... Паліцаі парвалі яе...

Да вайны ў кінатэатры «Чырвоная зорка» перад пачаткам сеанса можна было запісаць свой голас на гнуткую патэфонную пласцінку. Мы з Аляксеем Коршакам аднойчы зрабілі такі запіс. Гэтая пласцінка і захоўвалася ў маім альбоме.

Так незнаёмыя людзі зберагалі ў час вайны многія дарагія для мяне фотаздымкі, некаторыя з якіх спатрэбіліся пры выданні кнігі «Мы іх не забудзем».

Мінула больш за дваццаць гадоў з таго часу. Мне захацелася зноў наведаць гэтую вёску.

З аўтастанцыі, што на ўскраіне Мінска, загарадны аўтобус, пасля некалькіх прыпынкаў, давёз мяне на месца за паўгадзіны. Ажно не верыцца, што мы з Сурначовым дабіраліся сюды ледзь не цэлыя суткі.

Вёска Матарова... Аказваецца, жыхар яе, вясковы актывіст Хведар Трапашка ў трыццатыя гады перапісваўся з М. Горкім. У гісторыка-краязнаўчым музеі мясцовай сярэдняй школы захоўваюцца лісты вялікага рускага пісьменніка.

Гаспадары, якіх я хацеў наведаць, у першыя пасляваенныя гады пераехалі ў Рудзенск.

Праз некалькі дзён я знайшоў там іх домік, у якім мы прасядзелі за сталом некалькі гадзін.

Гаспадар, Мікалай Міхайлавіч, вясёлы, дасціпны чалавек. Мы адразу ж знайшлі з ім агульную

мову. Некалі, у юнацтве, ён быў аграномам непадалёк ад маіх родных мясцін. Я распытваю пра яго маці, Ганну Георгіеўну. Яна памерла тры гады таму назад. З вялікай удзячнасцю да яе я надпісаў Надзеі і Мікалаю Крайко толькі што выдадзены зборнік «Крывёю сэрца», у якім змешчана некалькі фотаздымкаў з тых, што зберагла Ганна Георгіеўна. Некаторыя з іх друкаваліся ў часопісах і кнігах. З фотаздымкаў зроблены партрэты, што цяпер вісяць на сценах у нашым Доме пісьменнікаў.

*1968*

## ПАЭТ І ЧАЙКА

Прозвішча Рагуцкага запала мне ў памяць яшчэ з дзесяцігодкі. Яго вершы з'явіліся тады ў «Чырвонай змене» і час ад часу друкаваліся на старонках «Літаратуры і мастацтва» і «Полымя рэвалюцыі».

Калі я паступіў у Мінскі педагагічны інстытут, я не ведаў, што ў ім вучыцца Уладзімір Рагуцкі.

У кастрычніцкім нумары «Полымя рэвалюцыі» быў змешчаны яго верш «Хвоя».

Аляксей Коршак хадзіў па інстытуцкім калідоры і на памяць чытаў уголас радкі гэтага верша.

Нехта са старшакурснікаў пахваліўся, што гэты верш напісаў іх студэнт, і паказаў нам Рагуцкага, чарнявага хлопца з мілым дзявочым абліччам.

Праз нейкі месяц «Полымя рэвалюцыі» на адным развароце надрукавала побач яго і мой вершы. Мы былі імяніннікамі... Хтосьці тады і пазнаёміў мяне з Рагуцкім.

Як-ніяк ён быў усё-такі трэцякурснік, дый па ўзросту старэйшы за мяне на тры гады. Таму я звычайна неяк нясмела падыходзіў да яго на перапынках. А Уладзімір таксама быў сарамлівы і заўсёды ветлівы... У дадатак, як і большасць старшакурснікаў, ён ужо сур'ёзна рыхтаваўся да самастойнай працы ў жыцці, не сланяўся без справы і не бурапеніў, як мы, першакурснікі.

Мы зрэдку сустракаліся на калідорах, чыталі адзін аднаму свае вершы.

Відаць, любоў да літаратуры, асабліва да паэзіі, яму прышчапіў яго настаўнік, вядомы беларускі паэт Янка Журба, які вучыў Рагуцкага ў

Пашкаве, на Магілёўшчыне. Уладзімір неаднойчы расказваў мне пра свайго настаўніка.

Памятаю, як я ўпершыню ўбачыў Журбу, калі ён прынёс у рэдакцыю газеты «Піянер Беларусі» новыя вершы. Пры размове з ім я ўспомніў пра Рагуцкага. Трэба было бачыць, як засвяціўся радасцю твар Журбы, як з гонарам ён сказаў тады:

— О, дык гэта ж мой вучань!.. Я цяпер уважліва сачу за яго вершамі...

Пасля заканчэння інстытута Уладзімір да прызыву ў армію працаваў у рэдакцыі газеты «Камунар Магілёўшчыны». Ён здаў у выдавецтва зборнік сваіх вершаў. Рукапіс гэтага зборніка загінуў.

Больш я не сустракаўся з Рагуцкім. Помню толькі, што ўлетку 1940 года ў «Літаратуры і мастацтве» прачытаў два яго вершы. Адзін з іх, пра чайку, заканчваўся радкамі:

> Чайка мора дужае збудзіла,
> А сама загінула ў імгле,—
> Каб зрабіцца хваляй белакрылай
> І спачыць на каменнай скале.

Як гэтая чайка, і сам паэт загінуў у імгле вайны.

У апошні год вучобы Уладзімір падараваў мне фотаздымак і некалькі сваіх вершаў, што былі перапісаны на старонках з вучнёўскага сшытка. Вершы, на жаль, не захаваліся. А фотаздымак уцалеў. Ён змяшчаўся ў кнігах «Мы іх не забудзем» і «Крывёю сэрца». З гэтага фотаздымка зроблен партрэт, які вісіць у Доме пісьменнікаў.

*1970*

## МІХАСЬ ЛІСОЎСКІ

Калі мяне ўпершыню пазнаёмілі з Міхасём Лісоўскім, я быў прыемна здзіўлены, пазнаўшы ў ім аднаго з тых двух маладых хлопцаў-студэнтаў, якія некалі, гадоў дваццаць таму назад, кватаравалі ў маіх суседзяў.

Як цяпер бачу перад сабой яго характэрны твар, усмешку з хітрынкай, засяроджаны, праніклівы позірк. Гэты позірк неяк учэпіста схопліваў рысы людзей, трапна і дасціпна раскрываў іх характары.

Назаўсёды запомніліся мне некаторыя яго сяброўскія шаржы на маладых паэтаў.

Яршысты Анатоль Сербантовіч, як кураня, што вылупліваецца з яйка. З коцікаў вярбовай галінкі, якая расце з чарнільніцы, праглядваюць рысы твару Веры Вярбы...

Умельства трапна схопліваць рысы людзей, раскрываючы іх характары, здзіўляла не толькі ў сяброўскіх шаржах Міхася Лісоўскага, але і ў вусных характарыстыках і азначэннях, якія ён даваў пісьменнікам на падставе свайго беглага назірання або пасля чытання іх твораў.

Бывала, за працай у майстэрні Міхась неаднойчы выказваў гэта, як бы правяраючы лішні раз свае думкі і назіранні.

Як зараз бачу перад сабой яго жанравую сцэнку «Літаратурная хата»...

Напрацаваўшыся ўволю, у чаканні сядзяць за сталом Янка Брыль, Максім Лужанін і Кандрат Крапіва, якім Піліп Пестрак нясе чыгунок бульбы. І наколькі ўсё гэта наша, беларускае, у побыце хаты: і людзі гэтыя, і рупны гаспадар, у якога ў руках паруе чыгунок бульбы, і ступа, і печ...

Ва ўсім гэтым ёсць думка аб сувязі літаратуры з жыццём народа.

Між іншым, працу ў гэтым напрамку Міхась хацеў прадоўжыць. Аднойчы ён мне паказваў эскіз вялікага накіда і горача расказваў пра сваю задуму: зрабіць пра пісьменнікаў шырокае жанравае палатно.

Ён удакладняў, пытаючыся, як лепей назваць такую рэч — «З глыбінь народных», «З крыніц жыватворчых»...

У майстэрні Міхась быў як утрапёны. Працаваў ён да самазабыцця. Прызнаюся, што менавіта ён даў мне па-сапраўднаму адчуць і зразумець, якая пакутліва-цяжкая праца мастака.

Я назіраў, як гадзін за пяць-шэсць узапар стамляўся ўжо нават той, хто пазіраваў, а Міхась, захапіўшыся, усё працягваў працу.

Як быццам ён спяшаўся зрабіць як мага больш, прадчуваючы, што яму суджана нядоўга займацца любімай справай.

*1976*

# ПЯСНЯР МУЖНАГА ЗМАГАННЯ

Летась мы адзначалі дваццацігоддзе нашай перамогі над фашызмам. А ў нашым уяўленні паранейшаму застаецца маладым адзін з легендарных герояў ваеннай пары, вядомы татарскі паэт Муса Джаліль. Можа, таму і не верыцца, што цяпер споўнілася б шэсцьдзесят гадоў гэтаму бясстрашнаму чалавеку і палымянаму песняру.

Гісторыя не ведала яшчэ паэта, чые творы з такой імгненнай хуткасцю абляцелі б увесь свет. У 1953 годзе мы ўпершыню прачыталі ў друку некалькі вершаў з «Маабіцкага сшытка» Мусы Джаліля. А неўзабаве гэты сшытак чыталі на сваёй мове ўкраінцы і англічане, узбекі і палякі, латышы і французы, грузіны і немцы, малдаване і кітайцы.

Але не адразу імя татарскага паэта стала вядомым усяму свету. Некалькі гадоў радзіма нічога не ведала пра лёс свайго сына. Старшы палітрук Муса Джаліль прапаў без вестак на Волхаўскім фронце, дзе загінулі гераічнай смерцю многія байцы нашай арміі, дзе часова прапаў без вестак яе генерал, які, баючыся адказнасці за гэтае паражэнне, здрадніцкім учынкам зганьбіў і зняславіў жывых і мёртвых сваіх былых салдат і афіцэраў. Многія з тых, што пасля ўваскрэслі з мёртвых, звычайна не хочуць на людзях называць уголас прозвішча свайго былога генерала. Але затое, мабыць, многія з іх у думках шкадуюць, чаму не ў іх падраздзяленні быў старшым палітруком Муса Джаліль.

Увесну 1945 года прыйшлі на радзіму першыя весткі пра Джаліля. Пры штурме Берліна савецкія салдаты знайшлі ў Маабіцкай турме выдраны

з нейкай кнігі ліст з запісам паэта. Гэты ліст быў адасланы ў Маскву. З запісу стала вядома, што цяжкапаранены Джаліль трапіў у палон, змагаўся ў няволі з фашыстамі і быў кінуты ў турму, дзе чакаў смяротнага прысуду.

У першыя пасляваенныя гады ў Саюз пісьменнікаў Татарыі адзін за адным былі перасланы два невялічкія самаробныя блакноты з вершамі паэта. Першы блакнот перадаў былы ваеннапалонны, што вярнуўся на радзіму, а другі — пераслаў бельгійскі антыфашыст Андрэ Цімерманс, які сядзеў разам з Джалілем у камеры Маабіцкай турмы.

Можа, і не даведаліся б мы пра лёс Джаліля, калі б не яго вершы:

> Быццам з казкі клубок чароўны,
> Песні — на ўсім шляху ў жыцці...
> Ідзіце па следу да самай апошняй,
> Калі пажадаеце мяне знайсці!

Паступова разматваўся гэты клубок песень і разблытвалася спляценне дарог, на якіх паэт доўга пакутаваў удалечыні ад радзімы. Людзі, якія хацелі адшукаць М. Джаліля і даведацца пра яго лёс, прыйшлі па слядах паэта не толькі да яго самай апошняй песні, але і да апошніх дзён яго жыцця.

На этапных дарогах тых, хто ўлетку 1942 года прапаў без вестак на Волхаўскім фронце, часовымі прыпынкамі былі наспех зробленыя пад адкрытым небам загародкі на ўскраінах зруйнаванага Ноўгарада, густа аблытаныя калючым дротам аракчэеўскія казармы Мядзведзя і кавалерыйскія стайні Пскова. Напэўна, і іх не абмінула пакутная дарога Мусы Джаліля. Праўда, у сваіх вершах ён не называе лагераў. Але калі я чытаю верш «Да Дзвіны», у якім паэту хочацца павярнуць назад рачную плынь, каб яна аднесла яго прах на

радзіму, дык перада мной зноў паўстаюць свінцовыя хвалі гэтай ракі, што коцяцца з роднага краю, прыгадваецца пакручастая дарога перад страшным лагерам смерці сярод сыпучага пяску, дзе, як свежазарубцаваныя шрамы, цягнуцца даўжэзныя насыпы равоў з дзесяткамі тысяч пахаваных ваеннапалонных.

Мне чамусьці здаецца, што менавіта ў Дзвінскім лагеры Муса Джаліль напісаў свой верш.

Жорстка з мяне пасмяяўся лёс:
Смерць абышла — міма чорт пранёс.
Апошні міг — і стрэлу няма!
Здрадзіў пісталет,—

са шкадаваннем прызнаецца паэт Радзіме, якая страціла свайго сына. У няволі аб ёй былі ўсе думы і мары. Ён просіць у Радзімы прабачэння то за тое, што «не загінуў смерцю салдата ў гарачым баі», то за тое, што ў змаганні паспеў знішчыць не тысячу, а ўсяго толькі сотню катаў.

Не толькі таго, хто пакутаваў у няволі на чужыне, сумуючы па родным краі, але і кожнага да глыбіні душы кране сваёй шчырасцю і задушэўнасцю размова паэта з птушкай, якая спявае нявольнікам, седзячы на лагернай агароджы. Калі і паклікаць цябе, невядомая птушка, кажа паэт, ты не заляціш па добрай волі да нас. І не залятай! Як мы ў крыві згараем тут, ты бачыш раніцой. Але спявай нам, спявай, хаця б цераз агароджу. Нават і гэта для нас радасць... Ды толькі скажы, ці не ў апошні раз ты прылятаеш да мяне? Калі гэта так, дык ляці на Радзіму...

Па песні ранняй і па крылах-стрэлах
Цябе пазнаюць лёгка людзі там
І скажуць:
«Нават перад смерцю пеў ён,
І песню гэтую паслаў ён нам».

«Маабіцкі сшытак» Мусы Джаліля быў яго апошняй песняй, якая гучыць сёння як песня мужнасці і змагання. Вершы гэтага сшытка надзвычай разнастайныя па сваёй тэматыцы, жанрах і стылю.

У няволі паэт смяяўся з бяссілля смерці, заставаўся верным сынам сваёй Радзімы і не стаў на калені перад катамі. Вось як апісвае ён дзень фашысцкага суда над сваімі сябрамі:

Сонца захавалася ў аблокі:
Не да твару сонцу ганьбы суд.

І не росамі трава абмылася,
А слязамі горкімі зямлі...

Холадна. Начамі на дарозе
Адчуваем цеплыню зямлі.

За сыноў маці-зямля ў трывозе,
Дыша цяжка, грэе мазалі.

Не бядуй, зямля,— не задрыжым мы,
Покуль на сабе ты носіш нас...

Людзі, якія сустракалі Мусу Джаліля ў канцэнтрацыйных лагерах Прыбалтыкі і Польшчы, у турмах фашысцкай Германіі, расказваюць, што паэт сапраўды не задрыжаў перад катамі, пакуль яго насіла зямля. У жніўні 1944 года за агітацыю і актыўны ўдзел у антыфашысцкай арганізацыі ён быў пакараны смерцю.

Так загінуў малавядомы старшы палітрук Савецкай Арміі і нарадзіўся вядомы ўсяму свету Герой Савецкага Саюза, першы з лаўрэатаў Ленінскай прэміі Муса Джаліль.

Спраўдзіліся прарочыя словы паэта:

Песняй у народзе жыццё прагучала,
Смерць будзе песняй змагання
гучаць.

*1966*

## ПЕРШАЯ ЛЮБОЎ

> Я мстил за Пушкина под Перекопом,
> Я Пушкина через Урал пронес,
> Я с Пушкиным шатался по окопам,
> Покрытый вшами,
>                                 голоден и бос!
> И сердце колотилось безотчетно,
> И вольный пламень ■ сердце закипал,
> И в свисте пуль,
>                                 за песней пулеметной —
> Я вдохновенно Пушкина читал...
>
> *Эдуард Багрыцкі*

Мне ўспамінаюцца гэтыя радкі, калі я думаю пра Лермантава. Пры чым тут Пушкін?.. Не таму, што Лермантаў у літаратуры пачаўся з Пушкіна... Не. Таму, што да мяне ён прыйшоў менавіта дзякуючы Пушкіну, прыйшоў своеасаблівым шляхам.

За Лермантава я ■ «кацюшай» жорстка помсціў ворагам, праўда, не пад Перакопам, а на Волхаве. У цяжкі час я пранёс Лермантава цераз Урал, бадзяўся з ім па свеце. Лермантаў быў разам са мной у фашысцкай няволі на чужыне, дзе ад аднаго ўсведамлення гэтага мацней білася маё сэрца, у якім «вольный пламень закипал».

Лермантаў!..

Я не першы і не апошні з пашанай станаўлюся перад ім на калені. Не адзін я, а тысячы людзей улюбёны ў яго паэзію. І кожны з іх любіць яе па-свойму.

Я раскажу толькі пра свае сустрэчы ■ паэзіяй Лермантава. Раскажу пра тое, як любоў да Лермантава затлела ў маім сэрцы і як яна ў хвіліны роспачы балюча смылела ў маёй душы, а ў часіны радасці разгаралася зыркім полымем.

Некалі мясцовая пані пашкадавала вясковую дзяўчыну, бацька якой, качагар панскага бровара, стаў алкаголікам, і ўзяла яе наймічкай у маёнтак. Дзяўчына, якая перад тым дзве зімы вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, з зайздрасцю паглядала на кнігі ў руках панскіх дзяцей. Аднойчы да яе трапіла кніга, якую, як казалі, напісаў дзед Наталлі Аляксандраўны. Дзяўчына не раз бачыла Наталлю Аляксандраўну — гаспадыню суседняга маёнтка ў Вавулічах. Наймічка лічыла, што кнігі пішуць нейкія незвычайныя людзі. І таму яна была ўражана, што такую дзіўную кнігу напісаў дзед суседняй пані.

Так мая будучая маці пазнаёмілася з творамі Пушкіна.

Вядома, што пры такіх абставінах дзяўчына не магла не прачытаць пра гібель Пушкіна і верш Лермантава «Смерць паэта». Мабыць, тады на ўсё жыццё прычасцілася яна іх паэзіяй, бо пазней, незаўважна для сябе, прычашчала ёю з маленства і мяне. У душы я ганаруся тым, што не ўсемагутны бог, а два гэтыя апосталы паэзіі ахрысцілі ў сваю веру ўражлівую вясковую дзяўчыну ў змрочную пару яе маладосці.

Значыць, паэтычнае слова мацнейшае за святую малітву. Маці засталася абыякавай да рэлігіі, хоць побач, у суседняй вёсцы, стаяла прыгожая, вядомая ў наваколлі, цагляная царква, пабудаваная на сродкі той жа ўнучкі Пушкіна Наталлі Аляксандраўны і яе мужа.

Мяне, народжанага зусім у іншы час, гэтая царква не магла ўжо, вядома, нічым прывабіць. Хоць бабуля аднойчы і звадзіла туды ўнука прычасціцца, але святы айцец Сяргей (дарэчы, таксама Пушкін і, як казалі, нібыта далёкі нашчадак Аляксандра Сяргеевіча) не здолеў мяне прыча-

сціць рэлігіяй так, як маці прычасціла паэзіяй вялікага рускага генія.

Помню, пасярод нашай прасторнай хаты паліцца бляшаная печка. Манатонна паскрыпвае калаўрот, на якім маці прадзе кудзелю. Мы, малыя, сама што раздурэліся на падлозе.

Раптам маці спыняе самапрадку і кажа:

— Супакойцеся... Не абпячыцеся аб печку. Чуеце, што робіцца на дварэ...— І яна расказвае, як там бура то вые, як звер, то плача, як дзіця, то стукае ў акно, як запозлены падарожнік...

Мы сціхаем і прыслухоўваемся. Чуваць, як у печцы час ад часу страляюць дровы, а на дварэ сапраўды хтосьці то вые, як звер, то плача, як дзіця. Здаецца, што запозлены падарожнік нясмела стукае ў шыбу. Я ўглядаюся ў акно, але нічога не магу разглядзець, бо на шыбах мароз намаляваў дзівосныя дрэвы і кусты. Гэта было акно ў нейкі казачны свет.

Маці вельмі складна расказвала казкі. То пра зялёны дуб, каля якога на залатым ланцугу ўдзень і ўночы ходзіць вучоны кот, а побач блукае лясун і на галлі сядзіць русалка. То пра князя, што сустрэў сваю смерць, наступіўшы на конскі чэрап, з якога выпаўзла змяя. То пра мужыка, які, даведаўшыся ад дзяцей, што іх сеці «прыцягнулі мерцвяка», пайшоў і адпіхнуў вяслом у раку тапельца. То пра тры гордыя пальмы, што раслі над крыніцай у пустыні і былі ссечаны і спалены жорсткімі людзьмі з вандроўнага каравана.

Колькі таямнічасці і загадкавасці было ў гэтых казках!..

Затаіўшы дыханне, слухаў я казку пра тое, як родная маці выганяе з дому сына, які згубіў зброю і ўцёк з бітвы, не адпомсціўшы ворагам за смерць бацькі і двух братоў.

У пачатковай школе настаўніца павяла нас аднойчы на станцыю слухаць радыё. Тады яно было ў нас вялікай навіной. Разявіўшы ад здзіўлення раты, доўга слухалі мы ў зале невыразны, хрыплы голас, што скрозь шум і трэск даносіўся з нейкай чорнай талеркі, якая стаяла бокам на насценнай палічцы.

Калі вярталіся дадому, сябра завёў мяне на пошту.

На століку, перад драцяной агароджай, ляжала некалькі кніг.

— Ну што, хлопцы, купляць кнігі прыйшлі? — з усмешкай запытаўся нізкі дзядзька ў акулярах.— Выбірайце...

Я ўзяў тонкую кніжачку і пачаў чытаць там, дзе разгарнулася:

И наконец удар кинжала
Пресек несчастного позор...
И мать поутру увидала...
И хладно отвернула взор.
И труп, от праведных изгнаний,
Никто к кладбищу не отнес,
И кровь с его глубокой раны
Лизал рыча домашний пес...

Я адразу ж пазнаў у гэтым вершы казку, якую часта расказвала маці.

Пазней, чытаючы «Зімовы вечар», уступ да «Руслана і Людмілы», «Песню пра вешчага Алега», «Тапельца» Пушкіна і «Тры пальмы» Лермантава, я са здзіўленнем пазнаваў у іх складныя матчыны «казкі». Для мяне яны былі першымі «казкамі», пачутымі ў жыцці.

Так у маленстве з навакольнага таямнічага свету Пушкін і Лермантаў, як два незнаёмыя вандроўнікі, настойліва стукалі ў акно і ў маё сэрца.

Але здарылася так, што я спачатку пазнаёміўся па-сапраўднаму з Лермантавым. За пятнаццаць капеек я купіў тады на пошце невялікую кніжачку і ляцеў дадому, як на крылах, не адчуваючы пад сабой ног. Час ад часу разгортваў, засопшыся, кнігу і чытаў то адзін, то другі верш:

Тучки небесные, вечные странники!
Степью лазурною, цепью жемчужною
Мчитесь вы...

Я быў зачараваны гэтай прыгажосцю... Задзіраў угару галаву, узіраўся ў неба і здзіўляўся, што мне яно ніколі не здавалася «стэпам блакітным», а хмаркі, якія праплывалі па ім, ніколі не нагадвалі «жамчужны ланцуг».

Усё лета я не расставаўся з гэтай кніжкай, і многія вершы з яе ведаў ужо на памяць. За дзень набегаўшыся на пашы за каровай, стомлены, лажыўся ў пасцель і ўспамінаў блізкія мне радкі:

Горные вершины
Спят во тьме ночной;
Тихие долины
Полны свежей мглой;
Не пылит дорога,
Не дрожат листы...
Подожди немного,
Отдохнешь и ты.

Помню, як моцна забілася маё сэрца, калі ў сямігодцы ў руках Людачкі, якая сядзела перада мной на парце, я ўбачыў тоўстую кнігу «Сочинения Лермонтова, том первый». На некалькі дзён я выпрасіў у аднакласніцы кнігу, і пасля таго, як вярнуў яе Людачцы, дзяўчына прынесла мне яшчэ і другі том.

Тады ўпершыню прачытаў я амаль усяго Лермантава. Захапляўся «Ашык-Керыбам», не мог адарвацца ад «Бэлы» і «Тамані». «Вадзім» зрабіў

на мяне наймацнейшае ўражанне з усяго прачытанага ў сямігодцы. Але асабліва палюбіліся вершы і паэмы Лермантава. У вершах «Дары Церака», «Марская царэўна», «Паветраны карабель» я пазнаў яшчэ некаторыя матчыны «казкі».

Вечарамі пры цьмяным святле газоўкі перапісаў я з таго двухтомніка многія вершы, запоўніўшы імі некалькі вучнёўскіх сшыткаў.

Неяк раз мы паехалі на кані ў горад. Бацька застаўся на ўскраіне пытляваць пшаніцу, а маці ўзяла мяне з сабой. Апынуліся мы з ёй у нейкай цеснай, цёмнай кватэры.

— Нам сказалі, што вы прадаеце Поўныя зборы твораў Пушкіна і Лермантава,— спыталася маці ў гаспадыні.

— Прадаю,— адказала тая, недаверліва агледзела нас з ног да галавы, пайшла некуды ў бакоўку і вынесла адтуль вялікую тоўстую кнігу.

— Вось Поўны збор твораў Лермантава выдання Сыціна і ёсць яшчэ такі ж Пушкін.

— І колькі вы просіце за іх?

— Па два пуды мукі за кожную кнігу.

У тыя гады ўсё ацэньвалася не грашыма, а мукой. Маці задумалася. Мабыць, прыкідвала ў думках, на колькі хопіць для нас тых чатырох пудоў мукі. Потым яна неахвотна працягнула жанчыне кнігу і няўпэўнена сказала, што мы зойдзем пазней.

«Ці не засыта запрасіла яна за таго Сыціна»,— думаў я, калі мы ехалі ўвечары дадому.

Над лесам у туманнай смузе плыў месяц. Мне чамусьці ўспомніўся лермантаўскі верш:

Посреди небесных тел
    Лик луны туманный.
Как он кругл и как он бел.
    Точно блин с сметаной.

Кажду ночь она в лучах
Путь проходит млечный,
Видно, там на небесах
Масленица вечно!

Пазней, у юнацтве я здзіўляўся, чаму маці не дадумалася тады зайсці ў кнігарню і купіць там гэтыя кнігі. Відаць, і ў думках яна не дапускала нават, што ў тагачаснай кнігарні маглі быць Поўныя зборы твораў Пушкіна і Лермантава, якіх яе сын «праходзіў» тады ў школе як дваранскіх пісьменнікаў. Тым больш што пад вокнамі нашай сямігодкі, на цвінтары перад царквой, у якой айцец Сяргей служыў малебны, сярод магіл знакамітых паноў ляжала пліта, дзе было высечана: «Наталля Аляксандраўна Пушкіна, па мужу...» і напісана прозвішча мясцовага памешчыка.

У апраўданне сваёй любві да Лермантава я нясмела паўтараў тады сам сабе радкі аднаго з савецкіх паэтаў: «Из юнкеров я Лермонтова лишь любил».

Гэта маленькае лірычнае адступленне ці, лепш сказаць, мая споведзь перад часам, які выпраўляе промахі гісторыі. У маіх родных мясцінах людзі пазабывалі прозвішчы навакольных памешчыкаў. Даўным-даўно ніхто не ходзіць маліцца ў царкву, з якой скінуты крыжы. А на цвінтары не засталося ніякіх слядоў ад памешчыцкіх магіл. І толькі перад вокнамі школы, цяпер ужо не сямігодкі, а дзесяцігодкі, непадалёк ад бальніцы, беражна захоўваецца абнесеная агароджай сціплая магіла Наталлі Аляксандраўны Пушкінай, унучкі вялікага рускага паэта.

Я не спыняўся б тут на такім недарэчным вывучэнні літаратуры ў тагачаснай школе, калі б яно не абакрала духоўна на ўсё жыццё некаторых маіх аднагодкаў, якім «мечты поэзии, создания искус-

ства восторгом сладостным... ум не шевелят...». Можа, таму і палюбіў я так Лермантава, што мне пашчаслівілася пазнаёміцца з ім яшчэ да таго, як мы «прайшлі» ў школе творчасць «дваранскіх» пісьменнікаў.

Хаця я пасябраваў з Лермантавым задоўга да знаёмства са сваімі нацыянальнымі паэтамі, я перакананы, што толькі дзякуючы яму вельмі рана ўспрыняў блізка да сэрца творчасць Максіма Багдановіча.

У юнацтве мяне захапляла натуральнасць і незвычайная разнастайнасць лермантаўскіх вобразаў:

Луна катится в зимних облаках,
Как щит варяжский или сыр голландский,

іх гукавая і зрокавая дакладнасць:

Заскрипели
Полозья по сугробам, как резец
По мрамору...

Спачатку мяне, беларуса, бянтэжыў дзіўнаваты зварот вялікага рускага паэта да Расіі, якую ён называў «нямытай». Толькі пасля таго, як я многа разоў перачытаў яго творы, лісты і артыкулы пра ягонае жыццё, я зразумеў глыбокі сэнс шчырага лермантаўскага прызнання:

Люблю отчизну я, но странною любовью!

За абуджэнне ў маёй душы пачуцця сыноўняй вернасці радзіме я перш за ўсё абавязаны Лермантаву, у прыватнасці горскай легендзе «Уцякач».

Яшчэ ў маленстве Лермантаў пазнаёміў мяне з маляўнічымі краявідамі Расіі. Упершыню я адчуў гэта ўлетку 1941 года, пехатой ідучы па яе цэнтральных абласцях. У тую суровую пару не раз успаміналіся лермантаўскія радкі аб радзіме:

...я люблю — за что, не знаю сам —
Ее степей холодное молчанье,
Ее лесов безбрежных колыханье,
Разливы рек ее, подобные морям;
Проселочным путем люблю скакать в телеге
И, взором медленным пронзая ночи тень,
Встречать по сторонам, вздыхая о ночлеге,
Дрожащие огни печальных деревень;
Люблю дымок спаленной жнивы,
В степи ночующий обоз
И на холме средь желтой нивы
Чету белеющих берез.

Калі ад сумных вестак і ад ветру затуманьваліся слязьмі вочы, гэтай «четой белеющих берез» здавалася кожнае дрэва на Арлоўшчыне ці ў вёсках Тамбоўшчыны.

Фашысцкія зграі рваліся да Масквы. Мы адыходзілі на ўсход па дарогах Пензеншчыны, набліжаючыся да лермантаўскіх мясцін. Аднойчы ў другой палове дня з галавы калоны, якая расцягнулася на маршы, імгненна перадаўся па радах вокліч: «Лермантава! Лермантава!»

Як па камандзе, адразу ж выпроствалі плечы і выцягвалі шыі стомленыя паходам былыя беларускія студэнты, трымаючы раўненне на рускае сяло, дахі якога відаць былі ў нізіне, воддаль ад шляху. Не адзін я тады шкадаваў у душы, што дарога пралягла міма гэтай свяшчэннай мясціны.

Прайшоўшы яшчэ кіламетраў дванаццаць, мы спыніліся ў вёсцы на прывал. Я даведаўся, што тут застанемся начаваць, і папрасіў свайго малодшага камандзіра дазволіць мне збегаць у Лермантава. Ён далажыў пра гэта камандзіру дывізіёна. Цяпер я ўяўляю, якой незвычайнай і дзёрзкай была па тым часе мая просьба.

Мяне выклікаў камандзір дывізіёна. Калі я ўвайшоў у хату, ён устаў з-за стала (прафесійная звычка былога дырэктара сярэдняй школы: мы ве-

далі, што наш камандзір да пачатку вайны працаваў дырэктарам школы ў Арле і выкладаў гісторыю).

— Дык ты, Аўрамчык, хочаш збегаць у Лермантава?..

Я разгубіўся і не памятаю, што адказаў яму.

— Ты беларус...— ужо не пытаючыся, а сцвярджаючы, паціху прамовіў ён і, адвярнуўшы твар, паглядзеў у акно.

Я заўважыў, што вочы яго павільгатнелі.

Журботнымі вачыма на мяне глядзела цяпер сама Расія.

— А што, калі цябе затрымаюць?.. Палічаць дэзерцірам... Дый для мяне будуць непрыемнасці..— зноў парушыў цяжкое маўчанне камандзір.

Пальцы яго левай рукі нервова барабанілі па стале. Раптам ён падняў руку, глянуў на гадзіннік і спачатку неяк няўпэўнена сказаў: «Пазнавата», а потым больш рашуча:

— Ну што ж, ідзі!.. Толькі будзь асцярожны...

Я зайшоў у хату, дзе мы прыпыніліся, з рэчавага мяшка ўзяў у кішэню адзіны мой дакумент — студэнцкую залiковую кніжку і не пайшоў, а пабег назад бальшаком, па якім нядаўна прайшла наша калона.

Бег, нідзе не спыняючыся, аж да самага павароту дарогі на Лермантава. Толькі тут прыпыніўся, каб перавесці дух. І адразу ж успомнілася, з даўно вычытанага, што некалі на гэтым павароце дарогі тарханаўскія сяляне знялі з воза труну, запаяную ў цяжкую свінцовую скрыню, і адсюль неслі на руках у сяло астанкі Лермантава.

Вось ён, дарагі майму сэрцу куток радзімы, дзе прайшло маленства любімага паэта. Сюды ён прыязджаў у госці да бабулі. Тут яго магіла.

Паабапал маленькай рачулкі, якая перад плацінай разлілася ў вялікую сажалку, цягнуцца дзве вясковыя вуліцы. На пагорку за сялом — стары парк і ў ім высокі дом з мезанінам і балконам на калонах. Мімаволі прыгадваюцца словы паэта:

...высокий барский дом
И сад с разрушенной теплицей;
Зеленой сетью трав подернут спящий пруд,
А за прудом село дымится — и встают
Вдали туманы над полями.

Падыходжу да будынка. На ганку сядзіць стары. Я вітаюся і пытаю, як зайсці ў музей.

— Позна ўжо, сынок... Музей зачынены...

Стары з нейкай цікаўнасцю аглядае мяне ▪ ног да галавы. Відаць, у яго выклікаў спачуванне разгублены выраз майго твару і выгляд салдата ў зашмальцаванай кавалерыйскай куртцы.

— Адкуль ты ідзеш, сынок?

Я называю вёску, у якой мы спыніліся.

— Ажно адтуль ішоў, каб толькі паглядзець музей?! — здзіўляецца ён і пасля некаторага роздуму дастае ключ, нерашуча адмыкае дзверы.

— Зайдзі, сынок... Толькі доўга не бався...

Я нясмела перaступаю парог. Спачатку мне ўсё здаецца, што дзесьці тут за сцяной працуе ў гэты час гаспадар. Потым я, нарэшце, смялею, адчуўшы сябе адзіным наведвальнікам гэтага дома, у якім ад усяго павявае веліччу і вечнасцю.

Мне могуць пазайздросціць многія. Відаць, рэдка каму ў жыцці пашчаслівілася так, як мне, быць адзін на адзін сярод дарагіх сэрцу рэліквій.

П'яны ад шчасця, я забыў нават, што ў музеях забаронена кратаць рукамі экспанаты, і не толькі аглядаю з усіх бакоў карціны, намаляваныя Лермантавым, і фотакопіі яго твораў, але і прабую навобмацак рэчы, да якіх некалі дакранаўся паэт.

З вялікай сталовай, абсталяванай мэбляй з карэльскай бярозы, дзе ў прасценках размешчаны партрэты Лермантава і яго родных, я пераходжу ва ўтульны гасцінны пакой са шклянымі дзвярыма на веранду. Усё ў ім расказвае пра жыццё паэта ў Пецярбургу. Тут ужо мяккая лакіраваная мэбля з пазалочанай аздобай і блакітнай абіўкай.

Побач з гасцінным пакоем невялікая спальня, у якой партрэты і карціны, намаляваныя Лермантавым, нагадваюць пра яго высылку на Каўказ. Значнае месца тут адведзена экспазіцыі «Барадзіно». Сярод карцін, гравюр і літаграфій з адлюстраваннем Масквы, Барадзінскай бітвы, асобных эпізодаў вайны 1812 года і яе герояў — словы Лермантава:

Уж постоим мы головою
За родину свою!

Мне здаецца, што Лермантаў толькі нядаўна пакінуў гэты пакой, каб стаць побач з абаронцамі Масквы.

Мы долго молча отступали,
Досадно было, боя ждали...

І я адчуваю сябе ніякавата. Мы ж і цяпер усё яшчэ адыходзім на ўсход...

Думка пра старога, які сядзіць на ганку, прымушае мяне спахапіцца: ён жа прасіў, каб я асабліва доўга не затрымліваўся... І я хутчэй пераходжу ў другі пакой, дзе прадаўжаецца расказ аб знаходжанні паэта ў Пецярбургу, а потым — у былы класны пакой з экспазіцыяй «Дуэль і смерць Лермантава».

Спяшаючыся, падымаюся па лесвіцы ў мезанін, дзе размешчаны яшчэ два невялікія пакоі Лермантава і два пакоі Арсеневай. Ужо зусім наспех аглядаю іх і подбегам вяртаюся на ганак.

— Не спяшайся...— кажа стары.— Вярніся яшчэ і добра агледзь усё...

Пазней не раз, бывала, я з удзячнасцю прыгадваў іх абодвух — камандзіра дывізіёна і старога вартаўніка музея — двух простых і чулых рускіх людзей, якія, як быццам бы прадчуваючы, што мяне чакае жахлівае выпрабаванне на чужыне, хацелі паказаць мне гэтую святыню, каб я нідзе не забываў яе і заўсёды бачыў перад вачыма сваю Радзіму.

Я зноў уваходжу ў дом. Паспешліва абыходжу залы ўнізе і ўважліва аглядаю пакоі ў мезаніне.

Больш за ўсё затрымліваюся ў кабінеце паэта. Вокны адсюль выходзяць у парк. У гэтым пакоі захоўваюцца асабістыя рэчы Лермантава і яго родных. Падоўгу разглядаю аўтографы вершаў, напісаных у Тарханах. З хваляваннем стаю перад шкляной шафай з юнкерскім мундзірам Лермантава, пісталетамі і шаблямі. Аглядаю шкатулку з арэхавага дрэва, у якой Лермантаў захоўваў свае дакументы. Перад пляцоўкай з выхадам на лесвіцу заўважаю на стале высокі стос вялікіх карычневых паштовак з партрэтам Лермантава. Відаць, паштоўкі прадаюцца на ўспамін наведвальнікам музея... Але няма прадаўца, дый у мяне ў кішэнях пуста.

Пасля кароткага роздуму бяру адну паштоўку, згінаю яе ў дзве столкі і кладу ў заліковую кніжку. Я не думаў тады, выходзячы з музея, што мне давядзецца на чужыне насіць каля свайго сэрца гэтую дарагую рэліквію як маленькую часцінку далёкай Радзімы.

Абыходжу стары парк, які зарос акацыямі і бэзам. Мала ў ім засталося стогадовых дрэў. Але замест іх выраслі маладыя клёны і вязы. А вось і даўняя ліпавая алея. Мабыць, гэта тая самая алея,

пад ценем якой любіў гуляць Лермантаў. Пад маімі нагамі шамаціць жоўтае лісце.

> В аллею темную вхожу я: сквозь кусты
> Глядит вечерний луч, и желтые листы
> Шумят под робкими шагами...

Усё гэтак жа, як у часы Лермантава, над сажалкай шумяць «прыбярэжныя вербы».

Каля самага берага расце волат-дуб, пасаджаны некалі паэтам.

У сярэдзіне сяла побач з царквой знаходзіцца капліца, а пад ёй склеп сям'і Арсеневых. Тут пахаваны Лермантаў. Над капліцай шуміць вячысты дуб. Нечая клапатлівая рука пасадзіла яго, выконваючы жаданне Лермантава:

> Надо мной чтоб вечно зеленея,
> Темный дуб склонялся и шумел.

Капліца зачынена. У ёй не закончаны падрыхтоўчыя работы да стагоддзя з дня смерці Лермантава.

Як вялікую культурную падзею збіраўся адзначыць савецкі народ гэтую дату. Урад прыняў спецыяльную пастанову аб увекавечанні памяці Лермантава, аб збудаванні яму помнікаў у Маскве і Ленінградзе. Быў адліты лермантаўскі юбілейны медаль, выпушчана серыя паштовых марак, падрыхтавана юбілейнае выданне кніг. Але за месяц да гэтай даты гітлераўскія зграі напалі на нашу краіну.

Перад тым як пакінуць гэтыя мясціны, я яшчэ раз акідваю позіркам сажалку, сяло, парк, дом-музей...

> И странная тоска теснит уж грудь мою...

Адсюль я панёс Лермантава за Урал.

У Какчатаве, дзе размясцілася наша часць, я дастаў два тамы яго вершаў і паэм. Кожны дзень пасля вучэбных заняткаў у стэпе накідваўся ў казарме на гэтыя кнігі, як сасмяглы падарожнік накідваецца на ваду. Але надыходзіла раніца, і зноў не радавалі ні свежыя навіны, ні выгляд бяскрайніх стэпаў вакол litарадка. З аднаго боку яго маркотна шапоча над замерзлым возерам чарот, а з другога — над сопкай.

> ...стоит одиноко
> На голой вершине сосна
> И дремлет, качаясь, и снегом сыпучим
> Одета как ризой она.

Толькі мне здавалася, што гэтай сасне сніцца не «прыгожая пальма», якая расце «ў пустыні далёкай, у тым краі, дзе сонца ўсход», а наш гаманлівы беларускі бор.

У казахстанскіх стэпах, ад Какчатава да Акмолінска, я не раз прыгадваў родныя сасновыя бары. Але да іх трэба было прайсці нялёгкі шлях. Я не падазраваў нават, што для мяне ён будзе намнога даўжэйшы і пакутлівейшы, чым для іншых маіх землякоў, і што на працягу ўсяго яго са мной нязменна будзе ісці побач Лермантаў.

Мая дарога ў Беларусь пралягла праз Маскву. Пад Масквой толькі што былі разгромлены фашысцкія зграі. Увесь свет захапляўся гераізмам савецкіх войск. На вуліцах горада стаялі яшчэ супрацьтанкавыя «яжы». Тады я не ведаў, што героі-панфілаўцы, якія сваімі целамі перагарадзілі фашысцкім танкам шлях да Масквы, спявалі лермантаўскае «Барадзіно».

Наўрад ці гучалі ў тую пару так па-сучаснаму яшчэ чые-небудзь словы з тваіх вялікіх песняроў, Радзіма, як гучалі радкі Лермантава, якія былі на вуснах многіх тваіх разнамоўных сыноў:

Москва, Москва!.. люблю тебя, как сын,
Как русский,— сильно, пламенно и нежно!
Люблю священный блеск твоих седин
И этот Кремль зубчатый, безмятежный.
Напрасно думал чудный властелин
С тобой, столетним русским великаном,
Померяться главою и обманом
Тебя низвергнуть. Тщетно поражал
Тебя пришлец: ты вздрогнул — он упал!
Вселенная замолкла... Величавый,
Один ты жив, наследник нашей славы.

Масква благаславіла мяне ў бой за Беларусь. Масква ўручыла мне новую грозную зброю.

Калі мы, вызваляючы ад фашысцкай нечысці рускія вёскі, апынуліся каля Селішча, за якім раскінуліся «вдали лесистые равнины... и Волхов за лесом шумел», я не мог не думаць пра Лермантава і пра сваю Беларусь: у Селішчы служыў паэт у лейб-гвардыі Гродзенскім палку. Казармы ў Селішчы былі разбураны, а дом, у якім жыў Лермантаў, знішчаны.

«За Лермантава!», «За Беларусь!» — паўтараў я тады сам сабе, падвешваючы да «кацюшы» снарад за снарадам. І ў гуле снарадаў, услед за грозным голасам «кацюшы» натхнёна чытаў Лермантава.

І пасля ўсяго гэтага дваццацідвухгадоваму юнаку апынуцца ў фашысцкім палоне! Ды яшчэ дзе б вы думалі... У Ноўгарадзе?! У горадзе, які з маленства быў для мяне ўвасабленнем непакорлівасці і рускай вольнасці. У горадзе, які сустракаў, як пераможцу, Аляксандра Неўскага пасля разгрому нямецкіх псоў-рыцараў.

Я знаў, што Ноўгарад наведваў Лермантаў. Як быццам бы толькі што былі сказаны ім словы:

Приветствую тебя, воинственных славян
Святая колыбель!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... где вольности одной
Служил тот колокол на башне вечевой,
Который отзвонил ее уничтоженье
И сколько гордых душ увлек в свое паденье!..
— Скажи мне, Новгород, ужель их больше нет?
Ужели Волхов твой не Волхов прежних лет?

Балюча было глядзець на гэты бязлюдны, дарэшты зруйнаваны горад, на яго старадаўні Крэмль, у варотах якога стаяла фашысцкая ахова. Сэрца аблівалася гарачай крывёй. На шашы за горадам сялянкі, усхліпваючы, выцiралі слёзы, калі гітлераўцы прыстрэльвалі знясіленых палонных.

То хацелася крычаць на ўвесь голас:

Паденье одного бойца
Не может погубить мой край:
И так уж он у ног чужих,
Забыв победы дней былых!..
Новогородцы! обо мне
Не плачьте...

То раптам як заклінанне вусны шапталі:

Краснея догорает день
В тумане. Пусть он никогда
Не озарит лучом своим
Густой новогодский дым...

І тады, як страшны папрок нам, успрымаліся словы Лермантава:

Сыны снегов, сыны славян,
Зачем вы мужеством упали?

Аднойчы да глыбіні душы ўзрушыў мяне сваёй натуральнасцю і праўдападобнасцю адзін лермантаўскі вобраз, якому ніколі да гэтага я не аддаваў належнай увагі. На ўзбочыне дарогі ляжала змяя, на якой сярэбраным адлівам блішчала луска, як блішчыць «разбитый меч», оставленный бойцом, в густой траве на поле роковом».

Нідзе я не адчуваў так побач з сабой Лермантава, як у няволі, на чужыне. У гэтых абставінах асабліва абвострана ў чалавека пачуццё да бацькаўшчыны, ад якой ён сілком адарваны. Усе яго думы цяпер толькі пра яе, далёкую і непаўторна прыгожую. Не раз, гледзячы на купку чорных ад сажы, нязграбных, пакручастых хваінак, што раслі непадалёк ад шахцёрскага лагера ў Руры, я з журбой прыгадваў гонкія сосны роднага краю. Непрызвычаены да чужой гнілой зімы з волкім снегам і дажджом, я ў душы мроіў аб нашых маразах і завеях, паўтараючы ўслед за Лермантавым:

> Прекрасны вы, поля земли родной,
> Еще прекрасней ваши непогоды...

Мне чамусьці ўяўлялася, як там прагнай гайнёю бягуць ваўкі «на место битвы роковой», дзе чорны груган ужо чысціць крыважэрную дзюбу аб жорсткія сукі дрэва.

У памяці ажывала родная Беларусь, яе зімовыя пейзажы... Я адчуваў, як там блукаюць па загуменні галодныя ваўкі і ў простым і ў пераносным сэнсе слова.

> Зима. Из глубины снегов
> Встают чернея пни дерев,
> Как призраки, склонясь челом
> Над замерзающим Днепром.
> Глядится тусклый день в стекло
> Прозрачных льдин — и занесло
> Овраги снегом.

Родны край паўставаў перада мной не толькі таму, што ў гэтых радках я пазнаваў знаёмыя з маленства краявіды... Ажывала ў памяці Беларусь і таму, што ў змрочнае падзямелле Рура, за тысячы кіламетраў далятала да нас водгулле яе

гераічных спраў. Нават там, на чужыне, было вядома, як грозна апчаціліся яе дрымучыя лясы, з-за якіх «огнем горя, выходит красная заря». Да нас даносіліся чуткі, што ў беларускіх барах

> Отчизны верные сыны
> Еще надеждою полны.

Я ведаў, што яны пакінулі родныя вёскі і гарады,

> Чтоб не промчалися их дни
> Под самовластием чужим,
> Чтоб не склоняться вечно в прах,
> Чтоб тени предков, из земли
> Восстав, с упреком на устах
> Тревожить сон их не пришли!..

Зайздросцячы ім, я са шкадаваннем мог толькі сказаць сам сабе:

> Дай поклониться мне Днепру...
> Там я родился — там умру!

Дух гордасці і мяцежнай непакорлівасці, якім прасякнута лермантаўская паэзія, асабліва блізкая чалавеку ў няволі.

Сустракаючы здраднікаў, што страцілі ўсялякае пачуццё чалавечай годнасці, прыгадваліся словы вялікага паэта:

> ...с рабским униженьем,
> Прикрыв мундиром сердце подлеца,—
> Искать чинов, мирясь с людским презреньем,
> И поклоняться немцам до конца...

Каб толькі як-небудзь апраўдаць сваю здраду, гэтыя нелюдзі распаўсюджвалі чуткі пра тое, што бацькаўшчына жорстка пакарае сваіх сыноў, якія трапілі ў палон. Часам пасля гэтага ў душу

закрадваліся сумненні і разгубленасць. Тады побач з'яўляўся Лермантаў, ужо зусім інакшы:

> Гляжу на будущность с боязнью,
> Гляжу на прошлое с тоской
> И, как преступник перед казнью,
> Ищу кругом души родной.

Але ў цёмным штрэку малады канагон быў адзін на адзін з канём, які нават не разумеў на чужой мове воклічаў «тпру» і «но». Адзінокага юнака апаноўвала роспач:

> И скушно и грустно! — и некому руку подать
> В минуту душевной невзгоды...
> Желанья... что пользы напрасно и вечно желать?
> А годы проходят — все лучшие годы!

Надыходзіла нейкае незразумелае здранцвенне. Усё было абыякава. Прытупіліся ўсялякія пачуцці. Мне здавалася, што ніхто не перадаў так трапна, як Лермантаў, гэты стан чалавечай душы:

> Есть время — леденеет быстрый ум;
> Есть сумерки души, когда предмет
> Желаний мрачен: усыпленье дум;
> Меж радостью и горем полусвет;
> Душа сама собою стеснена,
> Жизнь ненавистна, но и смерть страшна...

Потым марудна праяснялася думка, імкліва ўздымалася паводка пачуццяў. Здаецца, апраўдваўся б немаведама перад кім:

> Меня могила не страшит.
> Там, говорят, страданье спит
> В холодной вечной тишине,
> Но с жизнью жаль расстаться мне;
> Я молод — молод,— знал ли ты,
> Что значит молодость, мечты?

І тут ужо напрошвалася само сабою:

> И если б не ждал я счастливого дня,
> Давно не дышала бы грудь у меня!

А паводка пачуццяў цераз край захліствала душу. Хацелася «дерзко бросить... в глаза» кожнаму сустрэчнаму гітлераўцу лермантаўскі «железный стих, облитый горечью и злостью»:

Но знай, что жизни мне не жаль,
А жаль, лишь то, что час мой бил,
Покуда я не отомстил;
Что не могу поднять меча.
Что на руках моих, сплеча
Омытых кровью до локтей
Злодеев родины моей,
Ни капли крови нет твоей!..

Калі беларускага юнака, які праз лермантаўскія пераклады некалі ўпершыню пазнаёміўся з «Горнымі вяршынямі» Гётэ і «Сасной» Гейнэ, на радзіме гэтых паэтаў ад імя «вялікай Германіі» бязлітасна лупцавалі іх суайчыннікі — штайгеры і канваіры, пад смех самаздаволеных нямецкіх бюргераў, ён, абражаны і пакрыўджаны, не мог не прыгадаць сабе радкі Лермантава, у якіх паэт як быццам бы звяртаўся да нямецкага народа:

Мне хочется сказать великому народу:
Ты жалкий и пустой народ!
Ты жалок потому, что Вера, Слава, Гений,
Все, все великое, священное земли,
С насмешкой глупою ребяческих сомнений
Тобой растоптано в пыли.
Из Славы сделал ты игрушку лицемерья,
Из вольности — орудье палача...

Як у дажджавой кроплі пад промнямі сонца адлюстроўваецца ўсімі фарбамі вясёлкі навакольны свет, так у шматграннай паэзіі Лермантава адлюстроўваліся на чужыне настрой і пачуцці нявольніка. Яна пранікла ва ўсе таямніцы душы, абуджала думкі, падтрымлівала веру, жывіла мары.

Верш «Малітва» найлепш ахарактарызаваў бы ўсю цудадзейную сілу лермантаўскай паэзіі ў няволі. Нездарма я не раз паўтараў сам сабе гэты верш, як набожны шэпча святую малітву.

Паэзія Лермантава сваімі разнастайнымі адценнямі асвятляла самыя розныя падзеі, характарызавала з'явы, давала адказ на хвалюючыя пытанні.

Калі на Захадзе марудзілі з адкрыццём другога фронту, успамінаўся з горкай іроніяй радок:

> Союзники собирались потаенно.

Калі адчувалася, як у хадзе падзей спее на зямлі помста фашызму, прыгадваліся словы:

> Меж тем летят за годом годы,
> Готовят мщение народы,
> И пятый год уж настает...

На працягу чатырох гадоў вайны, праз усе нягоды і выпрабаванні я пранёс партрэт Лермантава, які ўзяў у доме-музеі. Да яго ніколі не дакранулася на чужыне ніводная брудная рука. Ён захоўваўся ў сумцы ад савецкага процівагаза, паднятай на ланцугу пад столь шахцёрскай раздзявальні. Часам я перакладаў яго ў кішэню спяцоўкі і ў змрочным штрэку пры цьмяным святле шахцёркі разглядаў знаёмыя рысы дарагога твару.

> Среди волнений жизни трудной,
> Как талисман таинственный и чудный,

я захоўваў гэты партрэт. Я не веру ў прымхі, і, вядома, гэты «талисман таинственный и чудный» не прынёс мне ўдачы ў няволі. Але ў нейкай ступені ён сапраўды надзяляў мяне цудадзейнай сілай, напамінаючы аб далёкай Радзіме. З ім я адчуваў

сябе ўладаром невычэрпнага багацця, якое нават у нявольніка не мог адабраць вораг і якім заўсёды можна было шчодра дзяліцца з таварышамі і аднадумцамі.

Я гляджу цяпер на гэтую карычневую гравюру з партрэта работы Гарбунова. Яна пажоўкла не столькі ад часу, колькі ад салёнай вільгаці рурскага падзямелля і цёплай пары шахцёрскай раздзявальні...

Мабыць, не адзін я сярод шматлікіх гарачых прыхільнікаў Лермантава з хваляваннем і замілаваннем успамінаю першае пасляваеннае выданне Поўнага збору яго твораў у кардоннай вокладцы зялёнага колеру. Пазней былі іншыя, значна прыгажэйшыя выданні. Але мне чамусьці запала ў памяць менавіта першае пасляваеннае выданне. Яго зялёная вокладка і рамка па краях яе нагадваюць мне колер сасновых бароў роднага краю і тое акно, з якога я ў маленстве ўпершыню глянуў у свет лермантаўскай паэзіі.

А на светлым карэньчыку цёмна-зялёнае акенца, падзеленае залатымі радкамі слоў на пяць шыбін, як быццам бы напамінае пра пяць доўгіх гадоў вайны, якія адарвалі мяне ад гэтага роднага краю, але не здолелі адлучыць ад Лермантава.

Пасля затхлага падзямелля няволі, трапіўшы на Каўказ, я асабліва адчуў, як вольна дыхаюць лёгкія свежым горным паветрам і як загойваюцца раны сэрца. Як скрозь прызму глядзеў я на прыроду Каўказа праз вершы Лермантава, і мне зразумелы быў прыўзняты настрой паэта:

Вдали я видел сквозь туман
В снегах, горящих, как алмаз,
Седой незыблемый Кавказ
И было сердцу моему
Легко, не знаю почему.

Кожны раз, бываючы на Каўказе, я наведваў знаёмыя да драбніц лермантаўскія мясціны. Часта сядзеў каля помніка паэту ў Пяцігорску, любуючыся далёкім горным ланцугом, над якім пануе двухгаловая аснежаная вяршыня Эльбруса. Падоўгу прастойваў у журбе перад помнікам на месцы дуэлі паэта. Узбіраўся на вяршыню Машука і слухаў легенды пра Лермантава, якія расказвала стогадовая бабуля, што збірала зёлкі і паказвала ўнізе на могільніку месца, дзе спачатку быў пахаваны паэт.

У такія дні я звычайна зноў і зноў перачытваў творы Лермантава — і кожны раз успрымаў іх тут зусім па-інакшаму, пазнаючы ўсё новыя і новыя сцяжыны, па якіх некалі хадзіў паэт і яго героі. То паміж Машуком і Бештау, сярод сівога камення і вінаграднікаў, шукаў позіркам рэшткі аула Бастунджы, то спыняўся перад галерэяй каля кісла-сернай крыніцы, дзе некалі княжна Мэры падняла і падала Грушніцкаму ўпушчаную ім шклянку.

Мабыць, нідзе на свеце не адчуеш так усю чароўнасць паэзіі Лермантава, як на Каўказе.

Не ведаю, як каму, а мне, калі я толькі ўбачу, як хмарка затрымліваецца на горнай вяршыні ці як мільгне ветразь у марской сінечы, адразу ж успамінаюцца радкі:

> Ночевала тучка золотая
> На груди утеса-великана...
>
> Белеет парус одинокий
> В тумане моря голубом...

Кажуць, мілей усяго, хто любіць каго.

Лермантаў — мая першая любоў. А першая любоў запамінаецца на ўсё жыццё.

*1964*

## ЯК «МАЛЫ КАБЗАР» ПАЗНАЁМІЎ МЯНЕ З КАБЗАРОМ ВЯЛІКІМ

Яшчэ некалі ў школе мой сябар-аднакласнік з суседняй вёскі падараваў мне кнігу.

Пасярод белай вокладкі вялікімі вішнёвымі літарамі былі напісаны два словы: «Малий Кобзар».

Прызнацца, спачатку нават нейкай дзіўнаватай і незразумелай здалася мне гэтая назва. Толькі пасля, прачытаўшы радкі:

На розпутті кобзар сидить
Та на кобзі грае...
Грае кобзар, виспівуе,
Вимовля словами,—

я напалову зразумеў назву кнігі, бо пра сівога гусляра да гэтага чытаў ужо ў Янкі Купалы, і сляпых лірнікаў сам зрэдку сустракаў па вёсках. Ну, а слова «малий» я разумеў па-свойму: значыць, або — нізкі ростам, або — не сівы кабзар, а проста хлапчук.

Я цяпер не ведаю, як трапіла ў беларускую вёску на Бабруйшчыне гэта ўкраінская кніга. Толькі дагэтуль помню, як моцна ўразіла яна мяне, абудзіўшы хлапечую цікаўнасць.

Хай сабе я не мог уцяміць сэнсу некаторых слоў, але многае ў гэтай кнізе хвалявала і захапляла.

Помню, як я прачытаў верш «Вечар»:

Садок вишневый коло хати,
Хрущі над вишнями гудуть,
Плугатарі з плугамі йдуть,
Співають ідучи дівчата,
А матері вечерять ждуть.
Сім'я вечеря коло хати;
Вечірня зіронька встае;
Дочка вечерять подае...

А мати хоче научати,
Так соловейко не дае.
Поклала мати коло хати
Маленькіх діточок своіх,
Сама заснула коло іх,
Затихло все... Тільки дівчата
Та соловейко не затих.

Усё ў ім было настолькі знаёмае і блізкае мне, што здавалася, быццам гэта хтосьці так хораша і маляўніча апісаў вясновы надвячорак у маёй роднай вёсцы.

І калі я чытаў:

Зацвіла в долині
Червона калина;
Ніби засміялась
Дівчина-дитина,

Породила мати сина
В зеленій діброві;
Дала йому карі очі
І чорнії брови...
До схід сонця воду брала,
В барвінку купала,
До півночі колихала,
До світа співала,—

дык гэтыя радкі былі вельмі падобныя да тых песень, якія спявалі вечарамі нашы дзяўчаты.

Да гэтага я чытаў вершы рускіх і беларускіх паэтаў пра цяжкае жыццё свайго народа пад прыгнётам рускага цара і польскіх паноў.

Але я ніколі не чытаў вершаў, у якіх з такім болем і горыччу паказвалася б гаротнае жыццё абяздоленых людзей, узнаўляліся жахлівыя малюнкі паншчыны:

Чорніше чорноі землі
Блукають людзі, повсихали

Сади зелені: погнили
Біленькі хати, повалялись;
Стави бур'яном поросли.
Село неначе погоріло,
Неначе люди подуріли,—
Німі на панщину ідуть
І діточок своїх ведуть.

Або:

А онде під тином
Опухла дитина — голоднее мре,
А мати пшеницю на панщині жне.

Да глыбіні душы кранала бескарыслівая, самаадданая любоў Шаўчэнкі да свайго краю. Паэт пісаў, што яму, які «ў няволі вырас між чужымі і, неаплаканы сваімі ў няволі, плачучы», памрэ і забярэ ўсё з сабою, усё роўна, ці будзе ён жыць на Украіне ці не, ці хто згадае ці забудзе яго ў сне на чужыне, але толькі яму не ўсё роўна:

Як Україну злії люди
Присплять, лікаві, і в огні
Її, окрадену, збудять...

Я, здаецца, не сустракаў яшчэ раней больш простых і шчырых радкоў, у якіх ■ такой пяшчотай і спагадай паэт звяртаецца, як да матулі, да сваёй бацькаўшчыны:

Україно, Україно!
Сердце мое, ненько!
Як згадаю твою долю,
Заплаче серденько!

Усё гэта абуджала цікаўнасць да суседняга краю, выклікала любоў да братняга народа і нейкае асаблівае замілаванне да пявучай украінскай мовы.

Помню, як цэлымі гадзінамі, схіліўшыся над гэтай кнігай, я няўмела, па-вучнёўску спрабавала перакладаць на родную мову: «Заповіт», «Мені однаково», «Хатину в гаї», «Берестецьке поле»...

Паэзія Тараса Шаўчэнкі, як шырокая паўнаводная плынь Дняпра, якая поіць землі трох славянскіх народаў, ніколі не мялее і не перасыхае.

У часіны радасці і гора я неаднойчы прыпадаў да гэтай плыні. І дзе б ні піў з яе — толькі розныя краявіды адлюстроўваліся ў яе глыбінях: на Смаленшчыне — сцены высокіх жытоў, на роднай Магілёўшчыне — стромкія сасновыя бары, на Кіеўшчыне — белыя хаты з вішнёвымі садамі, і толькі розныя мовы чуліся навакол, але ўсюды яна адразу ж праганяла смагу.

Мінула шмат гадоў. Над зямлёй пранёсся страшэнны ўраган вайны, у якім загінула нямала блізкіх і дарагіх людзей.

І вось у маіх руках — зноў тая кніга, якую некалі падараваў мне школьны сябар. Прыхаваная добрымі людзьмі, яна ўцалела ў гады ваеннага ліхалецця.

Я гляджу на пагрызеныя краі яе вокладкі, разглядаю на яе старонках ружаватыя вадзяністыя падцёкі...

Вось так і даўнюю дружбу нашых народаў спрабавалі падгрызаць усялякія пацукі, але яна, непарушная, палітая крывёю сыноў і дачок радзімы, вытрымала ўсе выпрабаванні.

Я бяру з кніжнай паліцы вялізны аднатомны «Кабзар», на супервокладцы якога малюнак — Тарас Шаўчэнка з непакрытай галавой імкліва крочыць па беразе Дняпра насустрач ветру.

Вось так некалі, яшчэ ў школьныя гады, «Малы Кабзар» на Беларусі пазнаёміў мяне з вялікім Кабзаром Украіны. І з тае пары я назаўсёды пасябраваў з украінскай паэзіяй, палюбіў мілагучную мову братняга народа.

*1964*

## ПРА СЯБЕ

За дваццаць кіламетраў ад Бабруйска па шашы на Жлобін непадалёк ад чыгункі раскінуліся мае родныя Плёсы. Цяпер толькі асушаныя балоты ды куп'істыя тарфянішчы, што звілістай паласой цягнуцца каля вёскі, маюць нейкае дачыненне да яе паэтычнай назвы.

Навакол няма ні азёр, ні рачулак.

Між іншым, невыпадкова Пімен Панчанка, якому пасля педкурсаў прапанавалі ў Плёсах пасаду настаўніка, аддаў перавагу больш глухім, але затое маляўнічым, лясістым мясцінам суседняга Кіраўскага раёна.

Нарадзіўся я ў сялянскай сям'і 14 студзеня 1920 года.

У Плёсах прайшлі мае дзіцячыя гады, тут я скончыў пачатковую школу.

З маленства запаў мне ў памяць дзень, калі аднекуль здалёк вярнулася дадому па-святочнаму апранутая маці. Яна прывезла шмат кніг, брашур, плакатаў і партрэтаў.

Пазней я даведаўся, што маці прыехала тады дадому з II Усебеларускага з'езда жанчын-сялянак, які праходзіў у Мінску ў сакавіку 1926 года.

Кнігі былі пастаяннымі спадарожнікамі ў жыцці маці, нягледзячы на тое, што яна не скончыла нават і царкоўнапрыходскай школы. Калі мне было шэсць гадоў, маці навучыла мяне чытаць. Першым апавяданнем, якое я прачытаў і якое ўразіла мяне, было «Зимовье на Студеной» Д. Маміна-Сібірака.

Але тады мяне больш вабілі не кнігі, а самаробныя самапалы ды буслянкі на стогадовых ясакарах і ліпах у былым панскім садзе.

Аднойчы з двума сябрамі мы надумалі залезці ў вятрак, які пуставаў за вёскай на выгане. Дзверы ў ім былі наглуха забіты, бо сям'я млынара выехала ў Сібір.

Жэрдкай мы ўдвух падсадзілі свайго сябра ўгару, той праз ніжняе акно пранік у вятрак і апусціў уніз крыло. Па адным мы садзіліся на крыло, а сябра падымаў яго ўгару і спыняў у гарызантальным становішчы. Па крыле мы залезлі ў шапку ветрака. Там, на драўлянай перакладзіне тормаза, замест грузу віселі нейкія медныя дэталі ад машын, бронзавыя галоўкі і алюмініевыя кольцы артылерыйскіх снарадаў.

Грудзьмі я налёг на перакладзіну і стаў адбіваць адно з такіх кольцаў. Перакладзіна ад дрыжання саскочыла, і я цераз яе нырнуў уніз.

Не забіўся я толькі таму, што, падаючы, тройчы стукнуўся аб бэлькі, якія замарудзілі падзенне.

Услед за мной па лесвіцы зляцелі ўніз і мае сябры. Яны выбілі дзверы, прынеслі ў шапцы балотнай вады і пачалі адліваць мяне.

Так мае сябры ўжо тады ўздымаліся ўгару і апускаліся ўніз, каб пры небяспецы ратаваць таварыша.

Пазней, між іншым, адзін з іх трапіў у авіяцыю, а другі прысвяціў сябе медыцыне.

Пасля пачатковай школы я тры гады хадзіў у Цялушскую сямігодку, за шэсць кіламетраў ад нашай вёскі.

Да вучобы асаблівай схільнасці не выяўляў. Нязменна любіў толькі адну геаграфію.

Але выкладчыца беларускай літаратуры Алена Лаўрэнаўна Меляшкевіч па-сапраўднаму абудзіла ў маёй душы цікавасць да свайго прадмета.

Дзякуючы ёй горача палюбіў я апавяданні і аповесці Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага, вершы

Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. У сямігодцы і сам пачаў пісаць.

Маці мая на працы знявечыла руку і пасля доўгі час была паштальёнам. Я разносіў за яе пісьмы і газеты, потым сам працаваў паштальёнам і тэлефаністам на пошце.

Паўгода правучыўся ў Бабруйску ў восьмым класе 4-й сярэдняй школы.

Праз год у Цялушы адкрыўся восьмы клас — і я паступіў туды.

Гурткі мастацкай самадзейнасці нашай школы часта выступалі тады з канцэртамі ў навакольных калгасах.

Увосень 1936 года нас запрасілі на вечар у Бабруйскі дом Чырвонай Арміі. Грамадскасць горада шырока адзначала трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа.

На гэтым вечары я ўпершыню ўбачыў жывых пісьменнікаў — Якуба Коласа і Платона Галавача, які выступаў з дакладам аб жыцці і творчасці народнага паэта.

Хвалюючыся, прачытаў я з трыбуны свой наіўны верш, прысвечаны Якубу Коласу.

Пасля вучобы ў восьмым і дзевятым класах я два леты працаваў вагаўшчыком у трактарных брыгадах Малеўскага і Бортніцкага сельскіх Саветаў.

Ніколі да гэтага нішто не выклікала яшчэ ў маёй юнацкай душы такога паэтычнага настрою, як рамантычнае жыццё трактарыстаў, начная малацьба і ворыва.

Пазней успамінамі аб гэтай пары былі навеяны вершы «Адлёт жураўлёў», «Вясна», «Першае ворыва», «Вось яны, прывольныя прасторы».

У дзесяцігодцы я запаўняў сваімі вершамі школьную насценгазету. У канцы 1937 года яны

пачалі друкавацца на старонках бабруйскага «Камуніста», а ў пачатку наступнага года — з'явіліся ў часопісе «Полымя рэвалюцыі».

Назаўсёды ўдзячны я Кузьме Чорнаму, Аркадзю Куляшову і Рыгору Мурашку за іх вельмі падрабязныя і змястоўныя пісьмовыя адказы на мае вучнёўскія апавяданні і вершы.

Улетку 1938 года пасля заканчэння сярэдняй школы мяне выклікалі ў Мінск на рэспубліканскія курсы маладых аўтараў. На ўсё жыццё запомнілася вучоба на гэтых курсах, цікавыя творчыя сустрэчы з вядомымі рускімі і беларускімі пісьменнікамі, прагляд і абмеркаванне спектакляў.

Восенню я паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і адначасова пачаў працаваць у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі».

У педагагічным інстытуце тады вучыліся Іван Грамовіч, Рыгор Бярозкін, Мікола Лупсякоў, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Рагуцкі, мае сябры-аднакурснікі Аляксей Коршак, Алесь Астапенка, Мікола Сурначоў, які пазней перавёўся да нас з Гомеля. Здаваць экзамены прыязджалі студэнты-завочнікі Пімен Панчанка, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла.

У інстытуце выдаваўся літаратурны часопіс «Наша творчасць». На вечары да нас прыходзілі вядомыя беларускія пісьменнікі.

Адзін з такіх вечароў асабліва добра запомніўся мне.

У пачатку красавіка 1939 года ў госці да студэнтаў прыйшлі Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў і Эдзі Агняцвет.

У прэзідыум вечара запрасілі і нас, літгурткоўцаў з педінстытута, КІЖа і медінстытута.

Міхась Лынькоў ад імя пісьменнікаў прывітаў студэнтаў. Ён коратка расказаў аб задачах, якія паставіў XVIII з'езд партыі перад работнікамі літаратуры па камуністычнаму выхаванню.

Покуль нехта з выкладчыкаў інстытута расказваў аб творчасці літгурткоўцаў, Якуб Колас праглядаў студэнцкі літаратурны часопіс.

Заўважыўшы, што паэт прачытаў надрукаваны там мой верш «Адлёт жураўлёў» і паказаў яго Янку Купалу, я страшэнна расхваляваўся.

А тут якраз аб'явілі, што чытаць свае вершы будуць пачаткоўцы, і першаму слова далі мне.

Я канчаткова разгубіўся, нясмела выйшаў на трыбуну, па ўсіх кішэнях шукаў свае рукапісы і, як на злосць, не знаходзіў іх... У першых радах залы пачалі смяяцца. Нарэшце я сумеўся і, хвалюючыся, прачытаў на памяць «Адлёт жураўлёў» і яшчэ нейкі верш. Воплескі студэнтаў крыху зглалзілі непрыемнае ўражанне...

З чытаннем сваіх твораў выступалі многія літгурткоўцы.

Асабліва цёпла сустрэлі студэнты выступленне гасцей. Янка Купала чытаў верш «А мы сабе сеем і сеем» і ўрывак з паэмы «Тарасова доля», а Якуб Колас — вершы «XVIII з'езду» і «Прывітанне Маскве». Потым Якуб Колас выказаў сваё ўражанне аб творчасці літгурткоўцаў, падрабязна разглядзеў мой верш «Адлёт жураўлёў» і ў кнізе запісаў пакінуў вельмі пахвальны водгук аб ім.

Гэта і акрыліла мяне, дзевятнаццацігадовага юнака, і прымусіла больш цвяроза глянуць на сваю паэтычную працу. Бо я і мае сябры пісалі тады шмат, стараючыся адзін перад адным, пісалі, не заўсёды ўсведамляючы, што пішам, як пішам і дзеля чаго пішам.

Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс.

Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва.

Тады Сурначоў і напісаў першапачатковы варыянт верша «У стоптаным жыце», які пачынаўся радкамі: «Ляжыць ён забіты у стоптаным жыце...»

З Асіповіч Сурначоў паехаў цягніком у Магілёў, намерваючыся адтуль завітаць да сваіх бацькоў.

На Бабруйск цягнікі ўжо не ішлі. А мне ж таксама хацелася зайсці ў родную вёску. Я пайшоў пехатою, але каля Ясеня даведаўся, што фашысты захапілі Бабруйск.

Лясамі дабраўся да Магілёва, а адтуль паехаў у Мсціслаў, дзе жыў мой сябра-аднакурснік.

З Мсціслаўля ў радах аднаго з запасных палкоў мы пайшлі на ўсход.

На Смаленшчыне я зноў сустрэўся з М. Сурначовым. Разам з ім у вучэбным узводзе тапографаў-вылічальнікаў мы прайшлі пехатой на ўсход усю еўрапейскую тэрыторыю СССР, жылі ў лагерах ля Тамбова, з тэадалітам і сталёвай лентай вымяралі казахстанскі стэп вакол Какчэтава і Акмолінска (цяпер Цалінаград). Удвух выпускалі палкавую насценгазету, дзе змяшчалі свае вершы, разам балюча перажывалі ростань з родным краем, зямлю якога таптаў ненавісны вораг.

У пачатку 1942 года нас, студэнтаў з незакончанай вышэйшай адукацыяй, тэрмінова адклікалі

ў Маскву. Там мы і разлучыліся з Сурначовым, бо трапілі ў розныя часці.

Я з «кацюшай» апынуўся на паўночным захадзе. Гвардыі радавым ваяваў на Волхаўскім фронце.

У канцы чэрвеня 1942 года пры акружэнні каля Мяснога Бору трапіў у фашысцкі палон. Быў вывезены ў Рур на каменнавугальную шахту горада Марль, які знаходзіцца на поўнач ад Эсена.

Кожны дзень на дасвецці з лагера да шахты канваіры прыганялі вялікую калону палонных, абвітую гірляндай шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі кайлом білі штайгеры і іх памочнікі.

Ад стандартнага рацыёну — невялічкай пайкі хлеба-сурагату і двух літраў незапраўленай баланды са шпінату або сушанай бручкі — мы ледзьве перастаўлялі ногі.

Кожны месяц з лагера вывозілі трыццаць — сорак хворых туберкулёзам.

Калі б не малады, юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў бы ў гэтым пекле.

Успаміны аб ім і цяпер не даюць мне спакою. Пад уражаннем іх напісаны вершы «Глюкаўф!», «Я знаю рай ваш залаты», «Ключы жураўліныя», «Сустрэча былых канагонаў», «Хлеб твой».

Знясіленага, хворага малярыяй, мяне пазней вывезлі ў шахцёрскі шталаг у горад Хемер...

Толькі ў канцы красавіка 1945 года я быў вызвалены англічанамі і перавезены ў размяшчэнне савецкіх войск.

З паўночнай Германіі наш батальён прыйшоў у Беласток. Адтуль мы паехалі на Украіну. Я ад-

наўляў Данбас, працаваў на ўскраіне Данецка сталяром у Рутчанкоўскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У выніку ўсяго гэтага і была напісана нізка вершаў «Легенда аб залатой зямлі».

Увесну 1946 года я вярнуўся ў Мінск і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1949 годзе.

Адначасова з вучобай працаваў у рэдакцыях «Чырвонай змены», «Літаратуры і мастацтва», «Полымя».

А з дня арганізацыі часопіса «Маладосць» працую ў ім.

Кажуць, што біяграфія паэта — у яго вершах. Мабыць, кароткая ў мяне біяграфія, бо вершаў напісаў я вельмі мала.

Дваццаць гадоў рэдакцыйнай працы, звязанай з літаратурнай кансультацыяй, прайшлі для мяне ў цеснай сувязі з паэтычнай моладдзю.

Разам з ёй і сам я вучыўся, з ёй перажываў яе расчараванні, радаваўся яе поспехам. Таму часамі здаецца, што я на дваццаць гадоў маладзей свайго ўзросту.

*1962*

## ЗМЕСТ

*Р. Барадулін.* Замілаванасць . . . . . . . . . . . 5

### ВЕРШЫ

*** Мая Бабруйшчына зялёная... . . . . . . . . . . 17
Адлёт жураўлёў . . . . . . . . . . . . . . . 20
У шпіталі . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Галубы . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
У доме Лермантава . . . . . . . . . . . . . 25
Курскі салавей . . . . . . . . . . . . . . 26
Уначы перад наступленнем . . . . . . . . . . 27
*** Расхрыстаныя насцеж вокны, брамы... . . . . 28
Балада аб матросах . . . . . . . . . . . . . 29
У той дзень . . . . . . . . . . . . . . . 31
Прыдарожны гушчар . . . . . . . . . . . . . 33
*** Я ўпершыню сустрэў франтавіка... . . . . . . 34
Балада аб вызваленым паэце . . . . . . . . . 35
*** Калі для кулі стану я мішэнню... . . . . . . 37
*** Бывала, ў халепу і сцюжу... . . . . . . . . 38
Салдацкая сляза . . . . . . . . . . . . . . 40
Над Эльбай . . . . . . . . . . . . . . . . 41
*** Каб гэтакага лёсу вы не мелі... . . . . . . . 42
Думы ў капальні . . . . . . . . . . . . . . 43
*** Сёння побач на нарах памёр мой сусед... . . . 44

Трое . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 45
Я знаю рай ваш залаты . . . . . . . . . . . . . 46
Ключы жураўліныя . . . . . . . . . . . . . . . 48
Сустрэча былых канагонаў . . . . . . . . . . . 50
Глюкаўф! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Анкета . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 55
Хлеб твой . . . . . . . . . . . . . . . . . . 57
*** Не ведаць бы, як юнаком... . . . . . . . . 59
Акраец . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 60
*** Калі нас па чужыне гнаў канвой... . . . . . 62
Легенда аб залатой зямлі . . . . . . . . . . . 63
Данбас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 65
*** Як вулкан непатухлы, высокі... . . . . . . 67
Над магілай краснадонцаў . . . . . . . . . . . 68
*** Уручыў мне не абы там хто... . . . . . . . 69
Радасць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 70
Беларуская сасна . . . . . . . . . . . . . . . 71
Шахцёрка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
Сустрэча з маткамі краснадонцаў . . . . . . . . 73
*** Вось яны, прывольныя прасторы!.. . . . . . 74
*** — Дзень добры, Мінск!.. . . . . . . . . . . 76
*** Не трывожся гэтак, маці, аба мне... . . . . 78
*** Адкуль бы ні вярнуўся ў горад родны... . . 79
Домік I з'езда РСДРП . . . . . . . . . . . . . 80
Універсітэцкі гарадок . . . . . . . . . . . . . 82
Майстар . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 84
Ода Каралішчавічам . . . . . . . . . . . . . . 86
*** Як вясны чаканай эстафету... . . . . . . . 89
У доме Якуба Коласа . . . . . . . . . . . . . 90
*** Відаць, прараэктар быў паэтам... . . . . . . 91
Студэнцкая быль . . . . . . . . . . . . . . . 93
Мсціслаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95
Святлане . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98
Памяці Міколы Сурначова . . . . . . . . . . . 100
Вянкі Янку Купалу . . . . . . . . . . . . . . 102
Плёсы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 104
Дарогі майго краю . . . . . . . . . . . . . . 106
*** Ля шляху, што вядзе іх... . . . . . . . . . 108
Агледзіны . . . . . . . . . . . . . . . . . . 110
*** Таварыш маёр запасу... . . . . . . . . . . 112

Песня пра Мікалая Гастэлу . . . . . . . . . . 114
Вясна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 115
*** Калі запеў ты некалі ў гаі... . . . . . . . . 116
Першае ворыва . . . . . . . . . . . . . . . . 118
Паўночны завулак . . . . . . . . . . . . . . 119
Дзядзька Максім . . . . . . . . . . . . . . . 121
*** А помніш ты, як на Палессі... . . . . . . . 123
Памяці Аляксея Коршака . . . . . . . . . . . 125
Роднае . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 126
*** Ты ж знаеш, як паэзію — у прозе... . . . . . . 128
Ірыне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 129
«Полымю» . . . . . . . . . . . . . . . . . . 130
*** Ад Глуска да Краснага Берага... . . . . . . . 131
Масква . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 132
Мы нарадзіліся пасля Кастрычніка . . . . . . . 134
Словы паэта . . . . . . . . . . . . . . . . 136
Наташы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 138
*** З варагаў водны шлях вялікі ў грэкі... . . . . . 140
На цеплаходзе «Янка Купала» . . . . . . . . . 141
*** У калгасе «Шчара»... . . . . . . . . . . . 143
Дарожны надпіс каля Радашковіч . . . . . . . . 144
*** Раскінуліся дзве палескіх вёскі... . . . . . . 145
*** Недалёка ад горада Ліды... . . . . . . . . . 146
Вяртанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 148
Ліст да маці . . . . . . . . . . . . . . . . 150
Паэтам «Маладосці» . . . . . . . . . . . . . 152
Знаёмства . . . . . . . . . . . . . . . . . 154
*** Там, дзе ў Ленінскі праспект плыве... . . . . . 156
Вяснушкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 158
*** Не паспеў я прыехаць у родную вёску... . . . . 160
Крапіўніца . . . . . . . . . . . . . . . . . 162
Зноў у дарогу . . . . . . . . . . . . . . . . 163
Кіславодску . . . . . . . . . . . . . . . . . 167
*** Шмат хто рот на мой край разяўляў... . . . . . 169
Салігорск . . . . . . . . . . . . . . . . . 170
*** Як толькі пасядуць пад вамі ў зямлі... . . . . . 171
Родныя сосны . . . . . . . . . . . . . . . . 172
*** Закончылася змена... . . . . . . . . . . . . 174
*** Як здаваў першы дзень спяцоўку... . . . . . . 176
*** Мне гасцінна уступае кут... . . . . . . . . . 177

*** Ад нараднай да лямпавой... 179
*** Блізкія мне над капрамі зоры... 181
*** Новых сябраў маіх сям'я... 182
Балада пра юнгу 184
Ленінграду 186
Раніца 188
Пасланцы Індыі 190
*** Абавязкова ўбачыць неабходна... 191
Ноч у Ташкенце 192
Галасаванне на караблі 194
*** Даўно ўжо астраномы дасканала... 196
Краявіды Запаляр'я 198
Прайграны бой 200
*** На ўдарнай будоўлі вірыць танцпляцоўка... 202
Рабінавая ноч 203
*** Палі, гароды і сады даюць дарункі... 204
Дрэва дружбы 205
*** Ты, калі ласка, зноўку апрані... 207
Навагодняя ноч у бальніцы 208
*** Як у надвор'е — неба яснасць... 210
На магіле Максіма Багдановіча 212
Новая зорка 213
У Судзейскім завулку 214
*** Ліхтар. Узмор'е. Кіпарысы... 216
*** Так, як праз нябачны перавал... 217
*** З'явілася ў аэрапорце... 218
*** На вуліцах новага Мінска... 219
*** Ты помніш?.. 220
*** Перада мной, зямля народа комі... 222
Швачкам Сыктыўкара 224
*** Дзякуй, Пяцігорск, табе... 225
*** Як напалілі комі лазню... 227
*** Транзітны зал... 228
Памяці Яраслава Смелякова 229
Кіргізскім сябрам 230
Сустрэча з Даўжэнкам 231
*** У пералеску восеньскім... 232
*** Пад Новы год... 233
*** Мужчыны не клянуцца ў дружбе... 235
*** У курортным горадзе паўднёвым... 236

Маленне . . . 238
Ліст Ялцінскаму гарвыканкому . . . 240
*** Сказаць бы модніцы-дзяўчыне... . . . 242
Зоны адчужэння . . . 243
*** У соснах — санітарны дзень... . . . 244
*** Прабач, што я не маю сілы... . . . 245
*** Вякі пустуе ў Крыме горным... . . . 246
*** Не трацячы лішняе хвілі... . . . 247
*** Салаўі піянерскага лагера... . . . 248
*** Дружба несла на крыллі... . . . 249
*** З акон самалёта... . . . 250
*** Неяк раз у застоллі вясёлым... . . . 251
*** Пара дзіўных падарожных... . . . 252
*** Авец мінуўшы гурт за гуртам... . . . 253
*** Калі мы выступалі на Таймыры... . . . 254
*** Люблю з табой размову весці... . . . 255
*** Над плошчай Скарына прадрог... . . . 256
Радовішча . . . 257
*** Калі памру, не плачце... . . . 258

## ПАЭМЫ

Землякі . . . 261
Волхаўская споведзь . . . 286

## УСПАМІНЫ

Старонкі памяці . . . 329
З сыноўняй павагаю і любоўю . . . 351
Такі ён быў у жыцці . . . 356
Ліст прызнання . . . 360
Нашы вандроўкі . . . 364
Памяці сяброў . . . 386
Сустрэчы . . . 394
Паэт і чайка . . . 399
Міхась Лісоўскі . . . 401
Пясняр мужнага змагання . . . 403
Першая любоў . . . 407
Як «Малы кабзар» пазнаёміў мяне з Кабзаром вялікім 431
Пра сябе . . . 435

**Аўрамчык М.**

A93 Анкета: Выбр. вершы, паэмы, успаміны; /Прадм. Р. Барадуліна; Маст. П. Калінін.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 447 с., [9] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00827-4.

Аврамчик Н. Я. Анкета: Избран. стихи, поэмы, воспоминания.

У кнігу выбраных твораў увайшлі вершы са зборнікаў «Пярэдні край», «Шляхамі дружбы», «Ключы жураўліныя», «Сустрэча былых канагонаў», «Універсітэцкі гарадок», «Агледзіны», «Радовішча», успаміны.

У зборніку чытач знойдзе вершы пра родны Мінск, пра Данбас, пра Рур. Аўтар славіць працу рабочых, прыгажосць роднай прыроды і вернасць юнацкага кахання.

А $\frac{4702120202-132}{М\ 302(03)-90}$ 109—90 **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

**АВРАМЧИК Николай Яковлевич**

**АНКЕТА**

Избранные
стихи, поэмы, воспоминания

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**АЎРАМЧЫК Мікалай Якаўлевіч**

**АНКЕТА**

Выбраныя
вершы, паэмы, успаміны

Рэдактар Г. В. Ролiч. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Маслоўская.

ІБ № 3484

Здадзена ў набор 13.11.89. Падп. да друку 05.05.90. Фармат 70×100[1]/[32]. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,2+0,73 укл. Ум. фарб.-адб. 22,42. Ул.-выд. арк. 16,74. Тыраж 3400 экз. Зак. 3064. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.